Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР.**

**У НУМАРЫ:**



**10** **(56)**

**Кастрычнік.**

**1957.**

Год выдання V.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

**Максім ЛУЖАНІН**

# ЗВАРОТ МАЛАДОСЦІ

Мал. А. Кашкурэвіча.



**1**

На расхрыстаных вуліцах вецер скуголіць,
У руінах старожка стаіць цішыня,
І шкляныя лісты на срабрыстай таполі,
Як з вянка на крыжы:
Дакрануўся —
звіняць!

Хутка ў гуле мядзяным народзіцца поўнач,
Але вежны гадзіннік расстрэлян даўно,
І замест цыферблатаў зялёная поўня
Праз чатыры акны углядаецца ў ноч.

Вось якая сустрэча
Нам пала на плечы!
Я па чэрвеньскіх зорах
Пазнаў цябе, горад:
Ты без шыб і без вокан,
Як волат бязвокі,
Я — ў засохшай крыві
І амаль што сівы.

Як-жа быць нам з табою? І што гэта стала:
Ступіш крок — уздымаецца пошчак наўкол.
Тут-жа людзі жылі, я іх ведаў, бывала
Толькі выйдзеш — і сябра дастанеш рукой.

Я патрапіў калісь, невялічкі блазніца,
Проста ў світачцы, з пашы, у шум камяніц...



Першы горад зямлі беларускай, сталіца,
Маладзейшы з усіх напланетных сталіц.

Мне здалося, малы, я паменшаў ад тлуму,
І хадзіў, і залікі здаваў, як у сне,
Ашаломлены рухам, разгублены думаў,
Што на свеце не знойдзецца дзіва дзіўней.

На той час ты асвойтаўся з першым заводам,
Падвучыўся будоўлі, стараўся святла.
Не шкадуючы шчасця, з вялікім паходам,
Нам давала краіна і з намі расла.

Тут раптоўна мне вусны прарэзала слова,
Быццам рынула сонца з-за гор...
І ў адказ
Абазваўся мой горад ласкаваю мовай,
Што ад маці, праз маці закладзена ў нас.

Падружыў я з ускраін рабочай сям'ёю,
Дзе ліхтарняй свяціў цягнікам пераезд.
...Белы кубак півоні, наліты расою,
Дом, па самыя вокны атулены ў бэз.

Паязныя брыгады вяртаюцца...
Зранку
Смачна пахне блінцом залінейны раён.
Нечакана ўзляціць, адчыняючы брамку,
Мілы сіні паркальчык, каханне маё!

А мы сталі студэнтамі — ўсе маладыя! —
На маёўку пад свята за горад ідзём...
Але вось ён!
Ляжыць, датляваючы ў дыме,
Жменя друзу і попелу, бедны мой дом.

Цішыня, цішыня!
Нават месяц на небе
Нерухома застыў, нібы ўзбіўся на штык,
І маўчком кругламорды нямецкі фельдфебель
Ад мяне за паўкрока стаўляе пасты.



2

Шмат на свеце краін — так і жыў-бы
ў прыгожых! —
Каля мора, між вечназялёных раслін,
Але ўсходзіцца вецер, ударыць па пожнях,
Прывядзе жураваў, кіне пах журавін.



Зашуміць ураджай па шашы на трохтонцы,
Клікнуць змену гудкі, паўставаўшы да дня,
І Радзіма —
у песнях, у клопаце, ў сонцы —
Твар утрэ даланёй...
Вось тады не суняць

Вечнай прагі да працы, аб шчасці трывогі.
Дзе-б ні быў, у якім-бы прасторы ні йшоў, —
Без слупоў верставых, не пытаўшы дарогі,
Мае сэрца заўсёды трапляе дамоў.

Вольны, светлы мой горад!
І ты пад навалай?
Я па родных завулках блукаю крадком,
Мусіш дбаць ты, каб варта мяне не пазнала,
Не дагнала знянацку штыком ці агнём.

Не! Я веру, я чую — ніколі не будзе,
Каб на гэткай зямлі гаравалі рабы:
Ёсць у зрэнках святло — не пахіляцца людзі,
Ёсць у глебе карэнне — не злягуць дубы!

Калі-б нават і шыі заціснулі ў ёрмы,
І шырокія персні скрывавіў прыгон, —
Волі дух узляціць, чалавек непакорны
Разагне ланцугі.
Распрастаецца ён,

Вырве зброю ў фашыста і схопіць абедуч,
З акрываўленым сцягам паўзбуджвае ўсіх,
Парасхлоствае вокны, разнасцежыць дзверы,
І ўзарвецца паўстанне з муроў гарадскіх.

Так вядзе праз жыццё нас высокая гордасць
За народ і радзіму, цябе і сябе.
Я шчаслівы і сёння сказаць табе, горад,
Што ты самым дзіўнейшым застаўся й цяпер.



Не з пажоўклай застаўкі, адкрытай у кнізе
Старадаўніх паданняў, віруецца кроў, —
Гэта зноў паднялася вада на Нямізе,
Дол укрыўся снапамі варожых галоў.

Мы з народам знітаваны гэтакай верай,
Што не зрушыцца мужнасць ніколі, нідзе:
Ні крывавымі жахамі фельджандармерый,
Ні ў засценках эсэс, ні ў катоўнях эсдэ. *

* Фельджандармерыя, СС і СД — паліцэйска-карныя ўстановы нямецкіх фашыстаў.



Мы над зоркай адной, самай яснай між зорак,
Уздымаем, гадуем, баронім наш дзень,
І з яго неўміручы кастрычніцкі золак
Пасылае зямлі пяцікрылы прамень.

3

Горад знае, як быць: месяц тоіцца ў хмарах,
Цемра скрадвае рухі, а вецер сляды
Замятае пяском на бязлюдных бульварах,
Ды, зглушаючы мову, гудуць правады.

І пакуль партызана дапытвае следчы,
Пакуль крышацца зубы, суставы рыпяць,
Непрыкметна з'яўляецца новы разведчык
Крок у крок з цішынёю...
А людзі не спяць!

Адчуваюць яны: недзе поблізу, нехта,
Не звычайны знаёмы, а блізкі і свой,
Уварваўшыся ў ноч, як зялёны пражэктар,
Адбірае ў насланцаў няпэўны спакой.

Ён падходзіць да вокан, хаваецца ў браме,
І, пачуўшы абцаса нямецкага грук,
Клён яго ахінае густымі лістамі,
Моўчкі туліць і цень адкідае на брук.

А разведчык употай заходзіць у хату,
Штосьці шэпча на вуха, праз некалькі слоў,
Ацяпліўшы надзеяй пакой небагаты,
Цісне рукі, знікаючы ў цёмначы зноў.



...Тут рыхтуецца зброя.
Пад нізкай страхою
Лічаць дыскі, у скрынкі закладваюць тол,
Правяраюць запалы гранат перад боем,
Цвёрдым рухам патрон дасылаюць у ствол.

Куля мусіць патрапіць. Суровая справа
Проста ў ворага кулі скіроўвае лёт,
Не дазволена ёй, ёй не дадзена права
Міма сэрца ляцець — трэба біць навылёт.

...Тут —
замкнёны ўваход, акяніцы на просвах,
За дрывамі прыхованы лаз у падвал,
І, здаецца, папера дыміць на адозвах,
Бо друкар на нянавісці іх адбіваў.



Дыктаваў іх народ, набірала падполле,
Падпісала ўсеісная партыя ў друк;
Быццам промні світання, праз цемру няволі
Падхапілі, панеслі іх тысячы рук.

...Тут —
пры цьмяным святле, на памятай тканіне
Спее ў сонцы калоссе, лісты шалясцяць,
Шар зямны, а над ім засталося дзяўчыне
Вышыць молат і серп...
Хутка ўзвеецца сцяг!

Блізка ранак. Разведчыку стала работы:
Ён ступаў па лязе, ён пабыў пад лязом,
А даложыць:
забойцы не ўседзяць у дотах.
Гэты горад — паўстання жывы гарнізон!

4

Вось што я зразумеў каля сцен Сталінграда,
На халоднай, салёнай прыволжскай зямлі,
З галавою, прабітай асколкам снарада,
У салдацкім набракшым крывёй шынялі.

Нада мной нахілілася маці...
І дзіўна!
Стала дыхаць лягчэй, з воч сагнала смугу.
Можа, я праз хвіліну памру за Радзіму,
Але, гэтак памёршы, не жыць не магу.

Бо я мушу:
стаць песняй, якую на ўзлессі
Запяюць партызаны, прымаючы бой,
Ветрам быць пры агні, гартам стаць у жалезе
І гаючай жывіцай для долі людской.



Бо я мушу:
ракою па свеце разліцца,
Зашумець на гасцінцы, як дуб вартавы,
Віхрам біць, пяруном з паднябесся агніцца,
Жыць і жыць, покуль вораг мой будзе жывы,

Калі ў сэрцы радзіма — усюды радзіма:
Пры кавадле, за хмарай, на росным лугу.
У пакутах радзіла, у сонцы расціла,
Як-бы шмат ні зрабіў, — ты прад ёю ў даўгу.

Розных моў і краёў — нас было там багата,
Хто ўсё гэта адчуў — стаў не сябар, а брат.
І вось, колькі ляжала ў тым стэпе салдатаў,
Кожны ўстаў і падняў да пляча аўтамат.

— За Радзіму!

5

Салдацкаю цеснай сям'ёю
Цераз тысячы злых і знясіленых мін,
Вынішчаючы котлішчы ворага з боем,
На ліпнёвым цямку падышлі мы пад Мінск.

Як-жа там? Нецярплівасць нам стукае ў крокі.
Пакрысе, з магілёўскай, з маскоўскай шашы,
Ён паказваў аблічча, смутны, а высокі...
Што з вачыма? Чаму-ж гэта ў горле пяршыць?



Дзе ўсё добрае наша? Хіба яго сышчаш
У забойцы, што думаў набрацца навек.
Асцярожна ступай па сухім папялішчы,
Бо пад ім
друг твой — дом і твой друг — чалавек.

Што пажар не ўхапіў, падкасіла бамбёжка,
Валіць голыя сцены уласны цяжар.
І платы, скрозь платы з недапаленых ложкаў,
А за імі ячмень...
Значыць, ёсць гаспадар!

Абкружылі байцоў, пазбягаліся людзі.
Дружа, слёзы змахні і камяк праглыні,
Не шукай, што было, лепш памарым, што будзе:
Рукі просяць работы,
Хочуць легчы ў муры камяні.

Мы адразу пайшлі планаваць магістралі,
Значыць новыя плошчы, цягнуць правады,
Каб не жмурыць вачэй пры газніцах,
і далей
Класці трубы, каб горад напіўся вады.

6

Многа ран мы яшчэ перавязвалі разам,
Горка падала ў жвір па братах і па сёстрах
сляза...



Я дакончыў вайну.
На чарзе ёсць другі абавязак:
Пра арала і меч, пра свой час расказаць.

Блізка, блізка яно, найпярвейшае слова,
У паветры лунае, чакаючы форм,
На варштатах снуецца тугою асновай
І з капальняў рудою ідзе на прастор.

Каб празрыстым было,
дам святла яму нашай прыроды,
Напаю пачуццём, каб ласкавым было,
Каб спявала,
ўлію яму спеўную сілу народа
І дыханне народа ўдыхну.
Каб жыло.

Трэба смеласць, а гарт у рабоце дадасца,
У шуканнях палай, не цурайся цяжкое хады.
Гэта слова здабыўшы, мы вернем юнацтва
Назаўжды.

Падгадуем палі, набудуем заводаў Радзіме,
Мора ў стэпы нальём, спраўдзім клопат
старэйшых майстроў:
Свет, як сад малады, дзе ўсе будуць сваімі,
Прыме нас у надзейнае кола сяброў.

Нас пабольшала ў думцы, у кроку і ў сіле,
Вырываюцца людзі з павуччых красён.
Цёплы дождж — калі ласка!
А атамны гром Хірасімы —
На галовы злачынцаў.
Павернем — і ўсё!

## 7

Палыскуецца Мінск у вясновым убранні.
Беласценны, вялікай сталіцы радня.
Пра каханне пяюць муляры з рыштаванняў...
— Гэта ты, маладосць мая?
— Так, гэта я.



Маладзее Дзвіной падпяразаны Віцебск,
Магілёў і Дняпро падужэлі ўдвая,
Гомель глянуў у Сож і адбіўся ў блакіце...
— Гэта ты, маладосць мая?
— Так, гэта я.

З аўдыторый і цэхаў, з палеткаў цалінных
Безбярэжны юнацкі грыміць акіян.
Поле ўзняць з баразны, цэлы горад — з цагліны!
— Гэта ты, маладосць мая?
— Так, гэта я.



Як займаецца ранак!
Як чырвань наўкола яснее!
Можа што не схаплю, задзівіўшыся вокам слабым,
А жывое адчую, душою жывой зразумею
І татахканнем сэрца з'еднаюся з ім.

У чатыры бакі далягляд распасцёр падарожжы,
Подых плоднае сталасці носіць асенняя даль.
Нам рабіць ды рабіць,
бо за нас
рук ніхто не прыложыць, —
Нам багата чуваць,
Нам бясконца далёка відаць.

Чэрвень 1944—ліпень 1957 г.



Якуб ЕРМАЛОВІЧ

# НАПЯРЭДАДНІ

**Апавяданне**

Мал. А. Паслядовіч.

Даўнавата Ёзка з дому, гадоў з пяток, але адразу пазнаў сваю хату. Убачыў і абрадаваўся. Нечым матчыным дыхнула ад усяго роднага, і на душу прыйшло незразумелае ўстрывожанне.

Вось скромленая бярэзіна, на якую ўсцягнута старое кола; тут на доўгія гады абаснаваліся буслы. Бярэзіна сваім расахатым ґаллём гэтак разраслася, што накрыла сабой амаль увесь двор, і на ёй было, ад лішкаў святла і сонца, можа мільёны зялёных шышачак.

А пра хату няма чаго і гаварыць. Каб не бярэзіна, дык стаяла-б яна ўбогай калекай. Саламяны дах даўно згніў, з поўначы пакрыўся пляшамі барадавак з зялёнага моху, а з поўдня паплёт быў увесь наверсе, чорны, нібы ён ніколі не быў пад саломай. Адзінае вакенца на вуліцу, квадратнае, з чатырох шыбак, амаль уехала ў зямлю і разам з вуглом пахілілася ў бок.

Ёзка прасунуў у круглую дзірку варот руку, намацаў і адкруціў закрутку, і вароты так заскрыпелі сваім дубовым воратам, нібы іх нехта балюча кальнуў. Асаблівасцю іх было тое, што былі яны зроблены без адзінага цвічка, усе вузлы ў іх былі сасверджаны і замацаваны дубовымі колікамі.

У хаце была адна бабка Юстына, ужо глухаватая. У дужым і высокім матросе яна ніяк не магла пазнаць свайго ўнука, якога некалі калыхала, біла трапкачом, калі дурэў.

— Бабуля, дык гэта я, Ёзка, дамоў прыехаў. Я цяпер у матросах, на караблі па моры плаваю, бабуля. Гэта мне адзежу такую далі.

Нарэшце Юстына агоўталася, стала глядзець Ёзку ў вочы, падняўшы свой твар, увесь у зморшчынах, і ў яе вачах засвяціліся спагадлівыя агеньчыкі.

— Дзіцятка маё, сынок мой родны, унучак... Па вочках толькі прызнала... Які-ж ты вырас, дубок мой зялёненькі. Якім-жа ветрыкам цябе прынясло,— прычытвала ў радасці бабуля, не ведаючы, як выказаць сваё захапленне.— Дай-жа я цябе пацалую.

Дужа нагнуўшыся і абняўшы худы стан бабулі, Ёзка адчуў на сваёй шчацэ сухія яе вусны і ў сваю чаргу моцна пацалаваў бабулю ў мяккую шчаку.

Увечары сабралася ўся сям'я — хто з паствы, хто са жніва, хто з сенажаці. Прышлі суседзі, родныя і знаёмыя. Радасць была вялікая, і ўсе нібы чакалі ад Ёзкі нечага незвычайнага.

Запалілі лучыніну, уткнуўшы яе ў шчыліну сцяны недалёка ад стала. Па столі, якая ўся ўкурала, забегалі прусы,некаторыя запякалі ад святла далоў.

Аніс, ёзкаў бацька, паспеў надзець з тонкага беленага палатна кашулю з каўнярцамі. Бараду, ужо з сівізной, ён расчасаў, валасы крыху загнуў у бок і сеў на лаўцы каля стала.

Ёзка сеў за стол, на лаўцы ад вуліцы.

— Цара, значыцца, скінулі,— гаварыў Аніс.— Розуму не прылажу: як гэта было да яго прыступіцца? Цара ды скінуць! Гэта-ж той самы бог, у малітвах памінаецца. Хто гэта можа смеласці набрацца?

— Ты, тата, думаеш, што гэта адзін чалавек зрабіў? Рэволюцыя скінула,— паясніў Ёзка.

— Я разумею, што не адзін. Ты мне не кажы, равалюцыя то равалюцыя,— Аніс у вымаўленні гэтага слова ясна выдзяляў «ра»,— але-ж нехта і першы падышоў? Нехта-ж знайшоўся такі рызыкоўны!

— Тут, тата, усе выступалі: рабочыя, салдаты, мы, матросы. «Далоў цара!» — усюды крычалі. Акружылі палац, варту. Каторых перабілі, каторых забралі. Цара самога там не было, ён быў у ваеннай стаўцы, во тут, недалёка ад нас, у Магілёве, кіраваў вайной. У палацы былі міністры і Радзянка, галава думы, што дапамагала думаць цару, як не дапусціць рэволюцыю.

— Дык, кажаш, самога цара не было?— здзівіўся Аніс.

— Не было,— адказаў Ёзка.

— Гм, не было... — запярэчыў Аніс. — Дык, выходзіць, і скідаць не было каго? Дык тады яго і не скінулі, — зрабіў вывад Аніс, неяк з дакорам глянуўшы на Ёзку, быццам у яго ранейшая радасць была дарэмнай.— Дык тады яно і застанецца ўсё, як было? Дзе яго скінулі? Хто яго скідаў? — незаросшыя скулы шчок у Аніса зрабіліся дужа чырвонымі.

Ёзка ўсміхнуўся. На яго поўных белых шчоках стаялі дзве ямачкі.

— Пачакай, тата, — Ёзка правёў сваёй рукой, на якой быў наколаты чорны якар, у бок бацькі.— Гэта-ж не тое, што стаяла вось тут на стале гэтая конаўка,— Ёзка падняў за вушка цяжкую медную конаўку,— і яе ўзялі ды скінулі. Уладу адабралі ў цара. Яго самога злавілі ў Пскове, і ён падпісаў паперу, што ад царскага прастолу адмаўляецца.

— Дык ён, значыцца, уцякаў? У Пскоў, кажаш, уцякаў? — вальней трохі загаварыў Аніс, якому, відаць, спадабалася, што цар уцякаў.

— Хто? Цар?..— перапытаў Ёзка.

— Ну, мы-ж пра яго, значыцца, тутака мяркуем,—пачаў устаўляць жарты ў сваю гаворку Аніс.

— Дзе ўцякаў? Каб-жа ўцякаў. З Магілёва ён выехаў у Пскоў, а адтуль — рукой падаць да Петраграда. Вось тут ён і думаў ударыць па нас. Царыца сама была ў Петраградзе і ўсё распякала яго сваімі тэлеграмамі.

— Дык ён яшчэ, значыцца, агрызаўся, гаркаў тым часам, гаворыш?— Аніс зусім смела выказваў цяпер свае думкі.

Тут умяшаўся сусед Сцяпан, чалавек гадоў пад сорак, увесь плоскі, як здаравенны пляскач, якім такі выбіваюць.

— Яно, дзівача, ніхто, мусіць, сам не здасца.— Сцяпан стаяў, ногі яго былі шырока расстаўлены.

— Прысядзь, сусед,— паціснуўся на лаўцы Аніс.

Саламея, жонка Аніса, нізкая, прысадзістая жанчына, абламала на лучыне вугаль, які пачынаў ужо закручвацца ўгору і ўбок, як бараноў рог, і ў хаце зрабілася святлей. Відаць стала, што барада ў Сцяпана была вельмі рэдкая, там-сям раскідана па валаску, кожны з якіх лажыўся ў той бок, у які яму было зручней.

— Павёў я анодысь на начлег,— пачаў звонкім голасам Сцяпан.— Пякнуў хлопец мой нешта во на лаўку і, як забіў яго хто, не разбудзіць, хоць рэж яго. Абуўся я, узяў за повад свайго сівалезага і павёўся позіркам услед за канапасамі. Ноч была ціхая, неба навісла, вось-вось, здаецца, закапае дождждык. Спутаў я каня, падняўся і чую — спіна нешта забалела. Яно каб конь добры, а то што мой сівалезы: больш папіхаеш, чым ён цягне. Ды і не парой задзірванела зямля тая, хоць ты яе ўгрызні. Ужо мешыва трэба было пачынаць, а я ару. Вось яно ў нас і выходзіць: куды ні кінь — усюды клін. І аром не парой, і сеем не парой. І не ведаем мы быццам нічога. А з-за чаго? Стаў гэтак во і слухаю сваю спіну. Бачу, хлопцы агонь ужо расклалі і паселі. А хто дык і ўлёгся. Абвёў я вачыма хлапчанят, аж і Аўтух галаву падняў, удваіх, дзівача, мы тут сталыя. Прылёг я каля яго на локаць. Кідаем слова па слову, пакуль сон возьме, аж нехта шам-шам к агню. Чалавек, бачым. Прывітаўся, у світцы, у штанах белых, як мы во тут, у шапцы старой — кардон відаць з казырка. Не стары яшчэ, роўны такі ў плячах, гаворка не наская. «А во,— кажа,— іду з Крупак. Але куды ноччу цягнуцца? Бачу — агонь. Прылягу, думаю, на якую гадзінку і ўранні зноў сваёй дарогай». «Задрамі сабе,— кажам,— каля нас, дзівача». Торбачка ў яго, і нешта ў ёй завязана, можа там хунты паўтары хлеба, ці можа і скварка якая. Разгаварыліся, што чуць у вас, што ў нас. Цара, кажа, скінулі, свабода пачалася. «А ў вас што?» — пытаецца. Ну і ў нас тое самае, кажам. «А як з зямлёй, з лесам, папасамі? Не сякуць лес, каму трэба? Ці, можа, у вас хапае там зямлі?» У нас дык пан усё праглынуў, во тут, пад бокам, Славінскі — можа чулі? Лес падковай з трох бакоў, старына такая. Тут табе і ягады, і грыбы, і звер, і птушка, і палена якое, і дравіна — ўсё яго... такое займішча. А наша — толькі вось гэты беражок з аднаго боку, як ні ідзі, дык у балота ўвапрэшся. Ды якое, па праўдзе сказаць, і балота, дзівача. Каб хоць асака расла, ці кругляк які. Адзін багуннік ды твань чорная. Скаціну недзе папасвіць. Паехаў тут у нас адзін чалавек, кажу, у лес, зваліў хвойку і цярэбіць. Ну, а ляснік як з зямлі вырас. За тапор у Андрэя. А Андрэй яму:«Не, брат, цара няма — і законаў тых няма, заўтра і цябе і пана твайго не будзе». Не паспеў скінуць тое палена на загуменні, як сам пан ляціць. Бах-бах! — з дубальтоўкі ў Андрэя. Як і не было чалавека. «Не трэба было сячы,— кажа гэты, што каля агню з намі.— Нічога не трэба: ні зямлі, ні лесу чапаць. Закон будзе. Мужыкам будуць прадаваць — лес, зямлю». Прадаваць?— кажу. Ну, а як, прыкладна, грошай у каго няма,— пытаю. Дзе ўзяць нашаму брату іх, калі ніхто нам не дае грошай гэтых самых? «Каму банк пазычыць, а каму сам пан у доўг дасць»,— адказвае. Глянуў я неяк на яго бокам і бачу — адзін лапаць сляпы, а другі відучы. Не свае, дзівача, лапці. Мяне на лапцях не правядзеш. Я і хацеў яму сказаць, але не, думаю, не трэба. Каб ён нашу старану трымаў, тады ўсё

можна было-б гаварыць. У пятым годзе дземакраты таксама хадзілі, дык яны-ж былі за нас, за народ.

— Эсэр ці меншавік,— паясніў Ёзка.— Гэтай швалі хапае ўсюды. Пераапранаюцца і цягаюцца, гады. Рабочыя іх у каршэнь гоняць...

— Я, дзівача, каб яно што... Але адкуль нам ведаць? — адказаў Сцяпан.

Ёзка звярнуўся чамусьці да бацькі:

— Славінскі Андрэя забіў?

— Забіў, сынок, забіў. На месцы ўлажыў. Мы і гаварылі тады: вось вам слабода якая прышла.

Ёзка ўстаў з-за стала і выйшаў на хату. Высокі, шырокаплечы (матроска рабіла яго яшчэ больш шырокім у плячах), ён быў амаль пад столь.

Ёзка стаў паціху кратацца па хаце.

— А лес трэба. Хату трэба, тата, ставіць.

Ён стукнуў кулаком па сцяне каля вушака. Палена бубнела, як луб.

— Дык ён забіў Андрэя і сам дома? — вярнуўся Ёзка да перапыненай размовы пра Славінскага, маёнтак якога быў за тры вярсты.

— Дома, сынок. А дзе яго сабакі дзелі? Ехаў пазаўчора аднекуль. Цугам, на шасцерыку. І сучка, воўчае мяса, белая ў каламажцы з ім сядзіць.

— І ніхто яму нічога не зрабіў?

— Не зрабіў, кажаш... Яшчэ казакі, хваліўся, прыедуць.

Ляпнула ў сенцах закрутка, і ў дзвярах хаты паказаўся Паўла. Ён быў у салдацкай непадпяразанай гімнасцёрцы, у гэткіх-жа рудых штанах, але босы і з голай стрыжанай галавой.

Скрыўлена задраўшы галаву, нібы шыя яго ў адзін бок была прыцягнута, Паўла глядзеў у вочы Ёзку і трос абедзвюма рукамі яго вялікую руку. Ён шчыра чакаў ад Ёзкі гаворкі, не хаваючы на сваім добрым твары ніводнай рыскі.

— Збіраемся, кажаш? — першым загаварыў Ёзка, іначай-бы гаворка не пачалася, бо яго сябра меў за звычай перш паслухаць, што другія скажуць.

— Збіраемся,— адказаў Паўла, пазіраючы ў вочы Ёзку.

— Што рабіць думаеш?

— Рабіць? Можа падкажаш, што рабіць будзем? Недзе-ж нешта людзі робяць. Вунь і сёння недзе нешта гарыць,— Паўла паказаў на глухую сцяну хаты, у бок поўначы.

— Гарыць? Можа канапасы груд падпалілі, — заўважыў, быццам нічога не разумеючы, Сцяпан.

— Не грудам, брат, пахне. Праўда, далёка, але нешта вялікае, па небе відаць, як палыхае.

— І праўда гарэла,— дадаў Аніс.— Я выходзіў уночы на двор, дык во гэтак,— Аніс паказаў рукой у бок усходу, на качарэжнік.

— Яно, дзівача, мусіць, калі загарэлася, дык не скора патухне,— заключыў Сцяпан, павёўшы свой погляд па ўсёй хаце і спыніўшы чамусьці на качарэжніку, у бок якога надоечы паказваў рукой Аніс.

— Скончыцца, дзядзька Сцяпан, калі не будзем сядзець склаўшы рукі,— сказаў Ёзка.

— А як у вас там было? Як ваяваў? Ці бачыў хаця жывога немца?— звярнуўся ён да Паўла.

— А не кажы, брат, ваявалі. Якціскanулі, дык на сто вёрст фронт былі прарвалі. Мы былі аж у самым Луцку. Гарадок так невялікі, але астрог далёка відаць. Мусіць, наўмысля на кургане паставілі, каб страшней было людзям. Яны ўсё смяяліся з нас. Як звечарэе, дык галовы павытыкаюць з акопаў і давай: «Лусь, лусь...» Мы ім далі «лусь». Пакідалі свае і кацялкі, і шапкі бляшаныя. Але што-ж будзеш рабіць,— тут Паўла ўздыхнуў і стаў рабіць цыгарку.— Прышлі мы ў Луцк, глядзь на сябе, а ў нас ні патрона, ні кавалка бінту, ні санітара, каб рану перавязаць .«Дзе наш бацька-цар?» — сталі крычаць салдаты. Ну, а немец пранюхаў, што мы тут адны, падцягнуў свае тылавыя часці з запасу і давай лупіць. Ды ўсё наперад забягае, усё забягае, каб не пусціць нас адступаць. Было, брат, кашы, гаварыць цяжка. Потым, можа так праз год, чуем — цара далоў. Так табе, дурань дурны, і трэба, галавешцы абгарэлай. Салдаты шагам марш кругом! — і куды каторы. Пойдзем паноў сваіх і валаснoе начальства латашыць, кажуць. Праўда, хапалі, расстрэльвалі, але дзе ты ўтрымаеш, калі абруч лопнуў і ва ўсе клёпкі свістаць пачало. Было і вінтоўкі пакідалі, але пагаварылі, пагаварылі паміж сабой,— нас было чалавек сем, землякоў,— дай возьмем, хоць смялей у лесе будзе, а можа дзе і якога звера ўдасца падстрэліць. Так што і трохлінейку сваю прынёс. А ты нічога не прывез?

Ёзка абвёў позіркам людзей, што былі ў хаце, выцягнуў з-пад лаўкі свой сундучок і дастаў адтуль рэвальвер, чорны, з ладным дулам і вялікай мушкай, з жоўтымі патрончыкамі ў барабане.

— Два гэткіх,— паясніў Ёзка, і на яго твары можна было ўгадаць затоеную задаволенасць.



Усе маўчалі, але пільна пазіралі на рэвальвер, бо адчувалі, што было ў ім нешта забароненае, але і неабходнае, без чаго нельга, вельмі цяжка абыйсціся чалавеку зараз, у складаных грамадскіх падзеях.

— Ты чуў? — звярнуўся Ёзка да Паўла.

— Не, не чуў. А што? — у сваю чаргу запытаў Паўла, скрыўлена трымаючы галаву і выпускаючы дым праз вышэйшы бок роту.

— Не чуў, што Славінскі Андрэя забіў?

— А-а, гэта — ведаю.

Паўла раз пацягнуў дым з цыгаркі, у другі раз пацягнуў на поўны рот і кінуў, як-бы са злосці, яшчэ вялікі недакурак аб мост.

— Колькі ў яго дзяцей, мама? — пасля некаторага маўчання запытаў Ёзка ў мацеры.

— Сёмае, сынок, у каляды нарадзілася,— адказала Саламея, якая сядзела склаўшы рукі ля прыпечка, без хусткі, у адным чапцы.

Змяніў гаворку Паўла.

— Дык хваліся: назусім ці паедзеш? — запытаў ён у Ёзкі.

— А Паўла Міхалкаў як: назусім ці толькі анучы перасушыць? — стаў жартаваць Ёзка з Паўла.

— Не, Паўла Міхалкаў лепш вунь у тым Галым балоце згніе, чым у салдаты вернецца,— і, скрывіўшы галаву, зноў уставіўся вачыма на Ёзку.— Я не смяюся. Як ты?

— Бачыш, у мяне не так трохі, як у цябе. Я, можна сказаць, і на службе і не на службе. Ты-ж ведаеш, што я працаваў на заводзе малатабойцам. Як пачалася вайна і рабочых пабралі, мяне перавялі ў кацельню. Толькі я там стаў трохі кумэкаць, мяне, бач, у матросы. Я і там быў каля машын. Яшчэ на заводзе я быў бальшэвіком. Вось ужо хутка пяць год, як я бальшэвік.

У Аніса, ёзкавага бацькі, галава матнулася ўгору. Ён разявіў рот, і клінаватая барада яго з сівізной стала яшчэ даўжэйшая.

— Сынок,— сказаў ён неяк прыглушана,— няўжо праўда?

— Чаму ты гэтак здзівіўся, тата? — усміхнуўся Ёзка, і на яго шчоках зноў стаялі дзве прыгожыя ямачкі.

— Што ты гэта кажаш: «здзівіўся». Ты — бальшэвік?

На гэты раз Аніс аж прыгнуўся над сталом, і стала відаць яго загарэлая, уся на барознах шыя, пакрытая рэдкімі валасамі.

— Бальшэвік, тата. І Леніна самога бачыў.

Ёзку пыталі, і ён расказваў, хто такія бальшэвікі і чаму яны завуцца бальшэвікамі, што сярод іх ёсць зусім невялікія, нават ніжэйшыя ростам за Паўла.

— Ты, дзівача, Ёзачка, не гневайся: які ён, Ленін? — запытаў Сцяпан, дужа выцягнуўшы ўперад сваю бараду з рэдкімі валасамі.

— Ленін?— перапытаў Ёзка, і белы яго поўны твар быццам асвяціўся сонцам.— Было гэта ўвечары. Усе ведалі, што прыедзе Ленін. Да гэтага ён быў за мяжою. Карабельнае начальства не пускала, але я быў членам матроскага камітэта, і нас чалавек з пяць вырвалася. Пачалася ўжо вясна, але ў Петраградзе заўсёды сыра, і мы былі ў бушлатах. На вакзале хоць па галовах хадзі, усё запруджана людзьмі. Як толькі стаў Ленін выходзіць з вагона, рабочыя яго на рукі і панеслі цераз увесь перон, вакзал, у свой бок, уссадзілі на салдацкі бранявік, машыну такую, што куля не прабівае, і ён быў перада мной, як на далоні. Лысы, каржакаваты такі чалавек. Кепку пакамечаную спачатку ў

руцэ трымаў, потым у кішэню ў паліто ўтаптаў. Але як выцягнуў руку, як гаварыў, усе замерлі. Голас трохі ціхі, і язык трошкі прыцiскае, як гаворыць, але вялікі аратар. Я ніколі такога не чуў.

— А пра што ён гаварыў, сынок? — запытаўся Аніс.

— Рэволюцыя толькі пачалася, сказаў ён. Без рабочых і сялян яе некаму закончыць. А закончыць яе трэба абавязкова, іначай народная кроў прападзе ні за што, хаця цара і няма. Фабрыкі — рабочым, зямля — сялянам,— вось што сказаў Ленін,— заключыў Ёзка.— А дамоў я не ўцёк. Мяне наш большэвіцкі камітэт паслаў. Дапамажы, кажа, сваім землякам. Цераз карабельнага доктара дасталі паперу мне, што я хворы і еду на пабыўку. Камітэт гэта зрабіў. Уладу ад цара захапілі ў свае рукі буржуі. Яны гоняць людзей на фронт, і не хочуць ніякіх парадкаў мяняць. Многа рабочых у Петраградзе расстралялі на вуліцы, сярод белага дня, з кулямётаў і вінтовак. Рабочыя дэманстрацыю наладзілі, выйшлі на вуліцу з песнямі, з флагамі, патрабавалі спыніць вайну, ну, і, словам, адмяніць увесь стары рэжым. Леніна шукаюць, сышчыкі, як сабакі, усюды шныпараць.

— Як-жа яно будзе!— з нейкім піскам сказаў Аніс.— Можа зноў усё задам наперад, як конь наравісты, павернецца?

— Задам наперад, тата? — усміхнуўся Ёзка.— Не, мусіць. Бачыце, кожную ноч неба чырвонае? І нам трэба запусціць у неба такую ракету, каб усе ўбачылі, што і ў нас пачалося. Усяго паліць не будзем, а адно што-небудзь, пуню якую... Усё яно будзе наша.

— Ён абору пад жыта падрыхтаваў. Жаць пачалі, але снапы яшчэ ў полі. Можна яе шухнуць,— шэптам падказаў Паўла.

— Абору... — сказаў Аніс, і ў яго на руцэ, якая ляжала на стале, закраталіся шурпатыя пальцы.— Я-ж яе крыў. Цэлы месяц пяць чалавек нас сядзелі на ёй. Новая, шулле цаглянае...

— Агню будзе многа,— ужо з ухмылкай дадаў Паўла.

— Утворам свой камітэт. Жыта падзелім. А яго жывога не выпусціць, каб і духу не засталося.

— Добра, хлопцы... Яно, дзівача, кажы і так і гэтак. Калі пачалося, дык павінна і скончыцца. Але-ж у яго недзе сын у Варшаве, можа ў тваіх гадах, Ёзка, а можа трошкі старэйшы,— умяшаўся ў гаворку Сцяпан, каб мужчыны чаго-небудзь не ўпусцілі, у чым-небудзь не памыліліся, каб пасля не каяцца, што пагарачыліся.

— Гэта Казік? Я помню яго. Дык ён у Варшаве?

— У Варшаве. Навукі нейкія, казалі, там праходзіць,— адказаў Ёзку бацька.

— Дармо, — махнуў рукой Ёзка. — Тут клас на клас пайшоў. Б'юць яны нашага брата? Б'юць. Ну і з імі няма чаго чыкацца. Мы тут расправімся, а ў Варшаве — другія.

— Яна, мусіць, як абложны дождж, усюды дастане, усё пераможа, гэтая равалюцыя,— выказаў сваю думку Аніс.

Не заўважылі, як скончылася ноч і на дворы пачало бялець. Калі маці сцяліла Ёзку, ён запытаў у яе:

— Як Марына жыве?

Марына — гэта ёзкава малодшая сястра. Яна гады ўжо са тры была замужам у суседняй вёсцы Журавы.

— Ён-жа прышоў,— амаль шэптам сказала Саламея сыну пра мужа Марыны.— Гэтак, як і Паўла, хаваецца. Казала Марына, Паўла да яго

ходзіць і ўсё нешта шэпчуць. Крычы, я казала Марыне, сварыся на яго, каб яны хаця красці не пайшлі.

Ёзка ўсміхнуўся.

— Не пойдуць, мама. Што яны, злодзеі ці што? Яны, можа, пра другое што шэпчуць.

— Крый божа, хаця-б чаго яны не зрабілі. Ты-ж во дык усё расказаў. А яны нікому нічога не кажуць. Хто іх ведае, пра што яны шэпчуць.

Сцяліла маці Ёзку пасцель на лаўцы, пад самымі абразамі. Пад бок — старую бацькаву світку, пад галаву — зношаны кажушок, складзены ў некалькі рэдзей. Накрыцца дала новую дзяругу, яшчэ добра нявыбеленую, трохі калючую.

Ёзка падлез пад яе і адчуў нейкую прыемную задаволенасць. Яму было зразумела, пра што шапталіся хлопцы. А засынаючы, ён зразумеў глыбокі сэнс бацькавых слоў: «Як абложны дождж, усюды дастане гэтая равалюцыя»...



Пятрусь МАКАЛЬ

# РАЗМОВА З ДЗЯРЖАВАЙ



Хай будзе хоць кропелькай чыстаю ў моры
І песня,
З якою спяшаюся я.
Адзначан славутым салютам «Аўроры»
Твой дзень нараджэння,
Дзяржава мая.
Сціскалі цябе
Абручамі блакады,
Глушылі цябе
Кананадай гармат.
Не нянькі,
А выбухі бомб і снарадаў
Гушкалі калыску тваю,
Ленінград.
Гулі над юнацтвам тваім
Навальніцы,
Не знаючы стомы ні ноччу, ні днём.
З усіх кантынентаў зямных
Чужаніцы
Хрысцілі цябе скрыжаваным агнём.
Ты помніш —
Стаяць у цябе прад вачыма —
Пустыя пакоі райкомаў,
Адкуль
Пайшлі ўсе таварышы
Не ў адпачынак —
Насустрач віхуры бязлітасных куль.
Туды,
Дзе ў снягах
За гарбамі пагоркаў
Калела юнацтва тваё ў шынялі.

Адны толькі хіба армейскія зоркі
Яго сагравалі тады на зямлі;
Туды,
Дзе кашулі сябры разрывалі,
Каб перавязаць імі
Раны байцоў,
Дзе ў жорсткім адзенні салдат паміралі
Дваццатыя вёсны тваіх пасланцоў.
І можа таму ў гэткім свеце дзівосным
Сягоння бушуе вясна на зямлі,
Што ў ёй зелянеюць бясконцыя вёсны,
Якія калісь расцвісці не змаглі.
Цяпер уладарна і неба і поле
Бяру ў сваю песню сардэчную я.
Стаў днём нараджэння свабоды і волі
Твой дзень нараджэння,
Дзяржава мая.
Мне славіць і славіць
Кастрычніка справы,
Людскога народнага шчасця зару
За тое хаця-б,
Што я зараз з дзяржавай,
Як з роднай матуляй сваёй,
Гавару,
Што ўнук я славутых матросаў «Аўроры»,
Што свет ад навалы ўратоўваю я.
Дык будзь-жа хоць кропляю чыстаю ў моры,
Будзь голасам звонкім у велічным хоры,
Сардэчная, шчырая песня мая!

# ЧАЛАВЕК



У цяжкую хвіліну вучэбнага бою
Халоднае поле — яго пасцель.
Салдат разаслаць не паспеў пад сабою
У скатку згорнутую шынель.
Ён, лежачы, моўчкі і мокне і стыне
Пад свіст ветравы,
Пад звон дажджавы.
Хутчэй яго цела жыццё пакіне,
Чым ён гэты ўзгорак — рубеж баявы.
Прамоклая ліпне да плеч гімнасцёрка.
Ногі і рукі ў глебу ўраслі.

Здалёку паглянеш, і ўбачыш:
На ўзгорку
Цямнее зялёны грудок зямлі...
Салдату-ж адсюль відно за поўсвета.
Ён ані на міг не змыкае павек,
Нікому нябачны і не прыкметны,
Мацнейшы за ўсіх на зямлі чалавек.

## У ПОЛІ



Прасейвае ваду, як сіта, неба.
Нібыта рошчына, набракла глеба.
Размыты ўсе сцяжынкі і дарогі.
Амаль не па калена гразнуць ногі.
Хай стома хіліць,
Хай цяжкі паход—
Па рыжай гаці, па зямлі дрыготнай, —
Мы не брыдзем па аднаму ўразброд,
Плячо к плячу ідзем калонай ротнай.
Глядзіць на нас маўкліва дзот стары.
Яму, нямому, суджана тут мокнуць.
Калісь мае старэйшыя сябры
Прымусілі яго навек замоўкнуць.
Нялёгка нам...
А як было для іх
Ісці па гэтым полі ў горкім дыме?
Свінцом пякучым секлі кулі тых,
Хто не спяшаўся кланяцца прад імі.
Тут не адзін баец навек заграз.
І мо' таму тут грунт цвярдзей сягоння,
І мо' таму малоціць зараз нас
Не град свінца,
А толькі дождж сцюдзёны.

## ВАРТАВЫ



Дзесьці ў клубе зайграў гармонік —
Сыпнуў рэха звонкае ў сасоннік.
Маладзік і той пусціўся ў скокі,
Па баках расштурхвае аблокі.
Ў парушэнне воінскіх статутаў

Музыка плыве сваім маршрутам:
Перайшла твайго паста граніцу—
Паспрабуй, прымусь яе спыніцца.
Ну, а далей узяла напрамак
У душу да вартавога прама.
І, здаецца,
Галасы наўкола:
«Што-ж ты стаў, як скованы, Мікола?
І чаму-ж у круг не хочаш выйсці?
Ты-ж быў гэткім скакуном калісьці».
Сціхла ўсё.
І быццам ты ля клуба
З той, што больш за ўсіх на свеце люба.
Халадком павеяла з надрэчча —
Пінжаком сваім накрыў ёй плечы
І памкнуўся ўжо абняць рукою,
Ды далонь... адчула холад зброі.
І ў адзіны момант летуценні
Зніклі, як падманлівыя цені,
Ты дарма, спакуслівы гармонік,
Звонкім рэхам скалыхнуў сасоннік.
Тут не знойдзеш зараз хлопца-хвата,
Тут — жалезны крок і гарт салдата.



Аркадзь ЧАРНЫШЭВІЧ

# ЗАСЦЕНАК СТЫЧЫНЫ

Мал. Ф. Бараноўскага.

## 1

Недалёка ад мястэчка, дзе я пачаў вучыцца ў школе (гэта было ў 1922 годзе), знаходзілася невялікая вёска Стычыны. Не ведаю чаму, але стычынцы называлі сваю вёску засценкам. Можа таму, што ўсе яны былі з шляхты: розныя Стычынскія, Мысліцкія, Бранавіцкія і іншыя бедакі з радавітымі прозвішчамі.

Засценак стаяў у баку ад дарогі і віднеўся здалёк. Правільней, віднеўся не сам засценак, а вялікі бярозавы гай, што рос каля яго.

Размясціўся засценак у прыгожай мясцовасці. Яго абкружалі маляўнічыя ваколіцы, а сам ён выглядаў прыгнечана і сумна, як адзінокі жабрак. Вузкая крывая вуліца ўпіралася ў невялікую раку, на абодвух берагах якой раслі старыя пахілыя вербы. За ракой ляжаў вялікі луг, які належаў пану Булгаку.

Прыгожа тут было вясной і летам, калі квітнелі лясы, а лугі пакрываліся травой і духмянымі кветкамі. Тут пачыналася сапраўднае Палессе. Векавечны бор стаяў за лугам, і здавалася, што ў дні навальніц у Стычыны даносіцца яго глухі, маркотны шум.

А ў засценку адвечная гразь, трухлявыя касавокія хаткі, упрытык да іх крывыя ад старасці хлеўчукі, адрынкі, зрэдку гуменцы. У дварах непралазнае балота, гнойныя лужы і смурод ад свінарнікаў. Малазямелле спрадвеку было бядой стычынцаў. А па сутнасці, зямлі хапала, толькі ляжала яна некранутымі аблогамі жоўтага пяску, на якім нават сівец не хацеў расці. Ні ралля, ні паша... Хапала і балота, але і яно было нялюдскае: купіны, парослыя кустамі алешніку, а між іх—рудая каламутная вада, пакрытая тлустымі сінімі плямамі, нібы нехта выліў туды газу ці дзёгаць.

Хлеба ў стычынцаў хапала толькі да каляд,—гэта ў лепшыя гады,— а ў горшыя ўжо сярод піліпаўкі хоць бяры ды разам з ваўкамі вый. Адно было «багацце» ў стычынцаў — рыба, і яны ганарыліся ёю. Рэдка хто ездзіў да іх у госці, негасцінныя яны былі людзі, а калі і здаралася

чалавеку даехаць да якога-небудзь стычынскага сваяка, то яго сустракалі надзвычай «калючым» пытаннем: «Што, можа рыбы прывезлі?». У гэтыя словы стычынцы ўкладалі ўсю сваю недарэчную мудрасць. Яны лічылі, што ў іх хаваецца бездань разумнай іроніі, процьма насмешкі і зняваг. Бо, вядома, якая можа быць рыба ў палявой Случчыне!

Палявік-случанін усміхаўся, пачуўшы такое пытанне. Ён то ведаў цану стычынскай рыбе. Самі яны ўжывалі толькі дробязь, а лепшую прадавалі. Кожны дзень можна было ўбачыць стычынца, які ў зрэбных нагавіцах, у суконнай світцы, летам босы, а зімой у лапцях, крочыў да мястэчка, трымаючы ў руках кошык з рыбай. За выручаныя грошы куплялі хлеб. Улетку, калі ў засеках не было ні зярняці збожжа, ні пылінкі мукі, выратоўвалі ракі. Вадзілася іх шмат у безназоўнай стычынскай рэчцы. Вечарам стычынец запрагаў худую каняку ў старую каламажку, клаў дзіравы палукаш і ехаў да ракі. Вяртаўся раніцай з возам ракаў. У галодныя летнія дні яны замянялі хлеб і сала. Рэшта ішла на продаж.

І вось, нягледзячы на такое гаротнае жыццё, стычынцы мелі свой шляхецкі гонар, і трымалі яго на вышыні. Звярталіся адзін да аднаго толькі на «вы», і часам ужывалі слова «пане». «Ну як, пане Статкевіч, ці многа сёння выхапілі з ракі?» «Дзе вы бачылі, пане Прылуцкі! Выводзіцца рыба, апусцела рака». «Так, так, пане Статкевіч, выводзіцца...»

Любімай прымаўкай кожнага стычынца было: «Барані божа!» Яны ўсе ўжывалі яе калі трэба і калі не трэба. «Барані божа, каб я да мужыка з паклонам пайшоў». Мова стычынцаў адрознівалася ад мовы сялян з акаляючых вёсак. Не таму, што яны ўжывалі нейкія іншыя словы, а таму, што вымаўлялі іх інакш, працягла, у нос, мяняючы іншы раз націск: «Ого! Пакланісе, дык хамула надзьмецце і нос задзярэ так, што і качаргой не дастанеш!»

І ўсё-ж такі, нягледзячы на гонар, кланяцца даводзілася. Поруч са Стычынамі кілометры за паўтара знаходзілася вялікая вёска Лістападаўка. Засцянковая зямля межавалася з вясковай. На гэтай аснове між засценкам і вёскай узнікалі крывавыя бойкі. Варта было стычынцу ўбачыць, што лістападаўскае жарабё перайшло мяжу, як ён ужо без духу імчаўся у засценак і галасіў: «Хамаўё на нашы палеткі палезла-а!» Звычайна палеткам быў рэдкі хмызнячок, аднак гэта не мяняла справы. Стычынцы хто з кіем, хто з калом імчаліся на поле. Здаралася, асабліва ў буднія дні, што на месцы злачынства, акрамя прыблуднай жывёліны, нікога не было. Тады стычынцы, накрычаўшыся ўволю, разыходзіліся па сваіх справах.

Але крыўдней за ўсё было тое, што лістападаўцы жылі лепш за стычынцаў. І зямля аднолькавая, і балота тое-ж самае, а жывуць лепш! Справа была ў тым, што ў Лістападаўцы ў кожнай хаце—калі не шавец, то ў дуду ігрэц: музыка, стэльмах ці бондар, кравец ці сталяр, каваль або рымар. А каторы ніхто, то ён за зіму да чорта ў лазу прыдзе, але заробак знойдзе. А шляхціц-стычынец надзвычай высока трымаў свой гонар самастойнага гаспадара. «Барані божа! Хіба я беззямельнік ці парабак! Ого!» Паняволі панясеш у кузню плуг, калі ён у зямлю не лезе, або хамут, калі ён разлезся так, што лямец ля клешчаў не трымаецца, або цэбар, калі ў ім дно выгніла. Жанкі, вядома, лаяліся: «Рукі, як граблі, сам затычкі не зробіш... Увапхнуў грошы, як кату пад

хвост». Але хто ў Стычынах лічыўся з жанчынай або прыслухоўваўся да яе слоў!

Яшчэ адну бяду мелі стычынцы: ніхто так не верыў у бога і чорта, як яны. Царкву наведвалі кожную нядзелю, пільнаваліся пастоў. А паспрабавалі-б вы засвістаць на іх вуліцы! На вас-бы накінуўся ўвесь засценак! «Барані божа! Ідзі ў поле, ці ў балота ды чарцей склікай! От хамула!» Яны, бачыце, лічылі, што свістаць могуць толькі мужыкі. Шляхецкая прыстойнасць не дазваляла гэтага. А чарцей стычынцам даводзілася бачыць на кожным кроку. То ў адрыне сядзеў на таку, падпяразаны перавяслам, як сноп, то ў хаце ноччу вылез з падпечка ды давай лявоніху скакаць, то ў свінушніку верхам на свінні сядзеў ды шчаціну з хрыбта скуб, а свіння, вядома, вішчэла, як недарэзаная. Адным словам, хапала чарцей усюды...

У Мысліцкага была рабая нявестка, узятая з другога засценка. Працавітая і маўклівая жанчына, яна не бачыла жыцця праз лапцюжнага і скупога стычынскага «пана» — свайго свёкра, а муж быў няўдалы, дробненькі, запалоханы з маленства чалавечак. Аднойчы яна засталася дома адна з малым дзіцём. Вечарам легла спаць, а дзіцё паклала не ў калыску, а пры сабе. Ноччу, калі забалеў бок, яна, каб не турбаваць малое, сама пералегла да сцяны. Толькі пачала засынаць, калі чуе— нехта цягне ад яе дзіцё. Зірнула, аж гэта ён, нячыстая сіла, рагаты, а вочы, як вугаль, схапіў дзіцё за ногі і валачэ да сябе. Жанчына, вядома, не дае, а ён усё цягне. Тады яна злаўчылася і саданула яму нагой у зубы. Ён паляцеў на дол, ледзь устаў і кажа дзікім голасам: «От, зараза рабая, усе зубы вытаўкла». Сплюнуў і, крэкчучы, палез пад печ.

Дзівіліся стычынцы з чорта: «Глядзі ты, і ён ведае, што ў Мысліцкага нявестка рабая!» Аднак з таго часу пачалі яе паважаць. І не толькі стычынцы, але і сам свёкар. Паспрабуй яе крануць, калі яна з самім чортам управілася! Ніхто, аднак, не ведаў, што гэта была своеасаблівая хітрасць забітай жанчыны, якая навечна адважылася даць сабе мянушку, абы пазбавіцца ад яшчэ горшай зняваги: пабояў, голаду і няўдзячнасці за сваю працу...

Вось якія былі стычынцы. Яны так выхоўвалі і дзяцей. Шляхецкі гонар! Бедны вясковец—не чалавек, сябраваць з ім нельга, а параднікца, барані божа! Без бога ні да парога, але і чорта баяцца трэба.

У пачатку дваццатых гадоў, калі ўсюды ў Беларусі пачалі пакрысе сціраца саслоўныя ўмоўнасці і парушылася вера ў забабоны, у Стычынах усё засталося па-старому.

## 2

Ад нашай вёскі да мястэчка было каля дваццаці вёрст. Сумна жылося мне, адзінаццацігадоваму хлапчуку, далёка ад дому, ад родных, у чужой хаце. Да слёз сумаваў па маці, па таварышах, па вясковых гульнях, якія значна адрозніваліся ад местачковых.

Бацька прывозіў мне харчаванне раз у два-тры тыдні. Ён бачыў, якой тугой палаюць мае вочы, калі ён ад'язджае дамоў, і хоць суровы ён быў чалавек, але мабыць разумеў маё становішча. Аднойчы ў глыбокую восень ён ад'ехаў ад маёй кватэры, потым азірнуўся, убачыў, што я стаю і з глыбокім сумам гляджу яму ўслед, і спыніў каня.

— Бяжы сюды!—гукнуў ён мяне.

Я стрымгалоў кінуўся да яго.

— А ты, Васіль, у Стычыны схадзі да цёткі Аўдолі. Там перабудзеш нядзелю, а ў панядзелак прыдзеш назад. От і весялей табе будзе.

Я ўнурыўся, бо не чакаў гэтага. Я меркаваў, што бацька вырашыў на нейкі дзень забраць мяне дамоў. І бацька зразумеў маю думку.

— Ты-ж у цёткі Аўдолі госцем будзеш,—пацешыў ён мяне і цмокнуў на каня.

Я ў той-жа дзень забыў бацькаву прапанову, але калі надыйшла субота, успомніў. Вельмі-ж сумна і адзінока адчуваў я сябе ў выхадныя дні. На кватэры адзін, няма з кім перакінуцца словам.

Стычыны я ведаў. Ад мястэчка да іх было тры вярсты. І цётку Аўдолю ведаў. Нават бачыў яе не адзін раз. Цікавая была гэта цётка. Нізкая, хударлявая, з дробнымі, але ласкавымі вачамі. Голас яе быў грубы, уладарны, хада размашыстая, як у салдата, і смешна было глядзець, калі яна сваімі кароткімі ножкамі адмервае шырачэзныя крокі. Цётка Аўдоля даводзілася майму бацьку стрыечнай сястрой. У Стычыны яна папала па няшчасцю. Перастаркам засталася ў дзявоцтве і пайшла за першага, хто трапіўся. А трапіўся Кастусь Шамятовіч, стычынец, які сватаўся мо' да ста дзевак і толькі адна—мая цётка — пайшла за яго.

Не ведаю, які быў дзядзька Кастусь малады, бо памятаю яго пажылым ужо мужчынам гадоў пад пяцьдзесят. Высачэзны, няскладны, як сталюга, ён за ўсё жыццё не быў нідзе далей свайго поля, царквы, гумна і кузні. Твар яго быў адметны. Нос лапцем, вочы косыя. На тым месцы, дзе ў людзей бываюць вусы, у яго расло тры пакручастыя валаскі, пад ніжняй губой—чатыры. Затое на барадзе з правага боку вырасла барадаўка велічынёй з арэх, а на ёй — цэлы кусцік чорных валаскоў. Мне кожны раз здавалася, што барадаўка вельмі нагадвае купіну сярод балота, а валаскі—лазовы куст. Аб дзядзькавай няскладнасці можна меркаваць хоць-бы па тым, што нават стычынцы празвалі яго вярблюдам. У мяне заўсёды ўзнікала думка, што дзядзька Кастусь жыве толькі для таго, каб плясці лапці і насіць іх. І сапраўды, ён плёў іх па-майстэрску, хутка і моцна. А калі аднойчы пры мне ён збіраўся ў царкву і абуў боты, у якіх яшчэ вянчаўся, то цётка Аўдоля зірнула на яго доўгія ногі, на якіх боты выглядалі, як чаравікі, і сказала:

— Абуй, Костусь, лапці. Табе боты, як свінні ярмо.

Я быў згодзен з цёткай Аўдоляй. Дзядзька Кастусь таксама, бо, усміхнуўшыся, адразу пачаў пераабувацца.

Наогул, Кастусь Шамятовіч быў чалавек добрай душы. Ён ні з кім не лаяўся, нікому не зрабіў благога, і жонка для яго была найвышэйшым начальствам. Таму не дзіва, што ў хаце яна была не толькі гаспадыняй, але і гаспадаром. Куплю-продаж, усе дзелавыя аперацыі яна праводзіла сама. У млын, у ваўначоску, у мястэчка ці горад ездзіла сама. «Яго там абкрадуць або ашукаюць,—гаварыла яна.—Мой Костусь дурны, як шула». Гэта, бязумоўна, была няпраўда. Кастусь Шамятовіч быў проста стычынец з галавы да пятак і адрозніваўся ад іншых стычынцаў хіба толькі тым, што меў стрэльбу, якая засталася яму ад бацькі. Сам ён, вядома, не зрабіў-бы выдаткаў на такі набытак ды і цётка Аўдоля не дазволіла-б. Ці ўпаляваў ён за сваё жыццё хоць якога-небудзь зайца, не ведаю, але, збіраючыся па грыбы, браў з сабой і стрэльбу.

Аб цётцы Аўдолі ў мяне засталіся самыя лепшыя ўспаміны, хоць вельмі прыемнымі іх назваць нельга. Калі мне было гадоў пяць, я захапляўся бацькавым партабакам. Ён быў зроблены з бярозы-чачоткі, такі прыгожы і гладзенькі, што я сядзеў за сталом і то адчыняў яго, то зачыняў. У маленстве я не ведаў цацак і гульняў. З малых гадоў я ўжо быў свінапас у бацькавай гаспадарцы, таму кожная прыгожая рэч прыводзіла мяне ў захапленне. Я мог любавацца ёю без канца... Што яшчэ любіў я ў маленстве? Любіў стукаць і каб моцна гучала. Бывала, маці нясе свінням вядро запаранай мякіны, а я іду поруч і стукаю кійком па яе старым кажушку, у якім яна заўсёды карміла свіней і даіла карову. Стукаю і радуюся: гучыць! А чаму і не гучаць таму кажушку, калі ён столькі бачыў на сваім вяку, што аж здубянеў і стаў падобны на бляху...

Справа з партабаком скончылася тым, што старэйшы мой брат Сцёпа знячэўку штурхнуў мяне, і я тытунём засыпаў сабе вочы. Страшэнны лямант падняўся ў хаце. Я галасіў мацней за ўсіх. І было чаго! Вочы мае пякло, як агнём, я заплюшчыў іх і не бачыў белага свету. Маці заламала рукі.

— А божа-ж мой! Аслепне-жа хлопец!

І вось у гэтую хвіліну ў хату ўвайшоў не хто іншы, як цётка Аўдоля. Яна ехала ў Слуцк і спынілася на нейкую гадзіну ў нас, каб даць адпачынак каню. Даведаўшыся, у чым справа, яна, не распранаючыся, падышла да мяне, узяла маю галаву ў свае рукі і... вылізала мне спачатку адно вока, потым другое! Якую-ж палёгку я адчуў адразу!

— Ну што, як цяпер?

— Яшчэ крышачку пячэ, цётачка.

— Пячэ цётачка!—перадражніла мяне цётка Аўдоля сваім грубым голасам.—Не цётачка пячэ, а тытунь. Давай сюды вочы!

Яна прарабіла гэтую аперацыю яшчэ раз, і я аж засмяяўся скрозь слёзы.

— От дзеці,—сказала цётка Аўдоля,—нядаўна-ж роў, як парсюк у плоце, а цяпер ужо смяецца.

— Падзякуй цётцы,—сказала мне маці.

Я з ахвотай выканаў яе загад.

— Скачы здароў,—сказала мне цётка Аўдоля і пачала распранацца.

У той час была піліпаўка, але на полудзень у нас паставілі зашкварануюю здорам капусту. Бацька мой зірнуў на цётку Аўдолю і, усміхаючыся, запытаў:

— Ты, можа, скаромнага не будзеш есці, Аўдоля, напэўна-ж посціш, то мо' табе гуркоў з расолам прынесці?

Цётка коса зірнула на бацьку і адказала:

— Дурны ты, Андрэй, як і мой Костусь. Ён думае, што калі я не даю ў пост скаромнага, дык вельмі я святая. Паняволі будзеш пасціць, калі ў кубле пуста. Я так размяркоўваю: лепш у піліпаўку пасціць, чым у пятроўку. У пятроўку сенакос ды жніво, вось ад піліпаўкі і застанецца нейкі кавалак сала. Памятаеш прымаўку: не любіць каса ні світкі, ні паяса, і кажа брусок: дай сала кусок.—І, уздыхнуўшы, дадала:—Ох і ўпек-жа мяне бацька ў гэтыя Стычыны, ох і ўпёк...

Мой бацька непрыкметна ўсміхнуўся: ён ведаў гэтую вечную скаргу цёткі Аўдолі. Ведаў і тое, што ніхто яе не ўпякаў у Стычыны, а сама яна пайшла за Кастуся Шамятовіча.

Дык вось да гэтай цёткі Аўдолі я і пайшоў у суботу ў госці.

### 3

Па́ дарозе ў Стычыны маю галаву напаўнялі розныя благія думкі, бо хоць і быў я яшчэ хлапчук, але пра стычынцаў чуў многа. Я баяўся, што стычынскія хлапчукі зловяць мяне на вуліцы і адлупяць. Такія дзікуны могуць! А ў панядзелак я спазнюся на заняткі, бо хто мяне там разбудзіць ды адправіць. А галоўнае, я баяўся дзядзькі Кастуся, які ў гадзіну гаворыць па адным слове, нібы канец гэтага слова хаваецца ў яго ў жываце. Акрамя таго, я сароміўся Ганулі і Марылі — дарослых дачок цёткі Аўдолі, якія прыходзіліся мне нейкімі сёстрамі. Потым мне пачало здавацца, што ў Стычынах усе жаночыя імёны канчаюцца на «ля». «Там, акрамя Аўдолі, Марылі і Ганулі, павінны быць яшчэ Тэкля, Настуля, Габрыеля, Анэля, Адэля»,—думаў я. І нават гэта мяне палохала. Адным словам, страхаў у мяне было шмат, і ўсе яны аказаліся дарэмнымі. Стрэлі мяне так ветліва, што я не чакаў.

На стычынскай вуліцы я спаткаў Сяргея Малюшыцкага—вучня трэцяй групы, якога ведаў па мястэчку, але ніяк не мог падумаць, што ён са Стычын. Сяргей вельмі ўзрадаваўся, калі ўбачыў мяне, а я ўзрадаваўся яшчэ больш, калі даведаўся, што Сяргей з іншымі стычынскімі хлапчукамі і дзяўчынкамі ўшасцёх кожны дзень ходзяць у местачковую школу і што ў панядзелак я таксама з імі пайду. Сяргей мяне давёў да цётчынай хаты, і тут мы дамовіліся, што заўтра раніцай ён прыдзе да мяне.

Настрой мой значна ўзняўся, але цётчыну хату я адчыніў не вельмі смела. І не паспеў я зачыніць за сабою дзверы і сказаць дзень добры, як мяне падхапілі Ганулл і Марыля і зацалавалі, як зусім-зусім маленькага хлапчука...

Калі нарэшце яны выпусцілі мяне, бо сам я не адважыўся вырывацца, я прывітаўся з цёткай Аўдоляй і па звычаю, ад якога было нельга адступіць у Стычынах, пацалаваў ёй руку, а яна плюснула мяне ў лоб. Падышла чарга да дзядзькі Кастуся, але мне так не хацелася цалаваць яго велізарную ручышчу, што я накіраваўся да яго вельмі нерашуча. Дабрэйшы стычынец! Няўжо ён здагадаўся, аб чым я думаю? Мабыць, здагадаўся, бо сам падышоў да мяне, абхапіў рукамі за плечы і прытуліўся вуснамі да маёй стрыжанай галавы.

Афіцыйная частка, самая горшая і цяжэйшая для хлапчукоў майго ўзросту, прайшла, аднак я ўсёроўна адчуваў сябе вельмі няёмка. І тут зноў прышоў да мяне на выручку дзядзька Кастусь.

— Распранайся, Васіль... На печ лезь... Асклеў за дарогу,—па-стычынску, вельмі марудна сказаў ён.—Аўдоля! Кубак малака дай яму...

На печ я не палез, але кубак малака з'еў са смакам і ўжо праз гадзіну адчуваў сябе, як дома. Я нават пакінуў сароміцца і чужой дзяўчыны, якую Ганулл і Марыля клікалі Гэляй. Ужо потым я даведаўся, што яна дачка таго самага Мысліцкага, у якога ёсць рабая нявестка, што чорту зубы выбіла.

Хутка мяне зацікавіла дзядзькава стрэльба—вялізная куркавая ламачына, што вісела ў мыцельніку на тоўстым драўляным кручку. Дзядзька Кастусь заўважыў мой цікаўны позірк і растлумачыў, што чапаць яе нельга, бо яшчэ «смальне», але заўтра можна схадзіць на зайцоў. Вядома не мне аднаму, а з ім разам. А зайцоў на руні, як авец!

На вячэру цётка Аўдоля зварыла бульбы, стаўкла яе, і мы елі гэтыя камякі з гуркамі, сушанымі ўюнамі і кіслым малаком. Потым на стол паставілі жытнюю зацірку з малаком. Тут я адчуў сябе сапраўды,

як дома ў святочны вечар... Мястэчка не хацелася ўспамінаць. Нялёгка мне там жылося. Раніцай з'ясі кавалак сухога хлеба, на дзень гаспадыня зварыць нейкага крупніку або бульбянай поліўкі, а вечарам абы як.

Ноччу, калі я прачнуўся і ўспомніў, што начую ў цёткі Аўдолі, мяне агарнула замілаванне, і я заснуў так моцна, што прачнуўся, калі ўжо было гатова снеданне.

А на снеданне цётка насмажыла свежай рыбы, напякла аладак з цёртай бульбы—еж, хоць распаражыся! Дзядзька Қастусь сам падкладаў мне большыя кавалкі рыбы, сам мачаў аладкі ў смятану і клаў іх на мой сподак.

— Якая там у мястэчку яда!—гудзеў ён, як чмель.—А ў нас цяпер малака хоць заліся!

Цікава, як можна было заліцца малаком ад адной каровы! Але, відаць, даілася яна лепш, бо зарэчны луг пана Булгака савецкая ўлада аддала стычынцам і лістападаўцам. Дзялілі яго з вялікай сваркай, але на гэты раз абышлося без бойкі.

На зайцоў нам з дзядзькам схадзіць не давялося. Да мяне прышоў Сяргей Малюшыцкі, і я сышоў з хаты да вечара.

Дзе мы не былі ў той слаўны дзень з Сяргеем Малюшыцкім! Мы аблазілі ўсе ваколіцы. Прайшлі па рэчцы аж да азярка, дзе яна бярэ пачатак, каб потым павольна дакаціцца да Случы. Потым мы накіраваліся да Ірва—вялікага бору, які атрымаў сваю назву ад сапраўднага ірва—старадаўняга збудавання, выкапанага некалькі соцень гадоў таму назад. На дне яго, зусім сухім, раслі таўшчэзныя высокія сосны. Земляны вал, які ішоў паралельна рову, таксама быў высокі, мабыць карэнні дрэў, што аплялі вал уздоўж і ўпоперак, захавалі яго ад разбурэння.

Потым наведалі могілкі, дзе рос тысячагадовы дуплянасты дуб. Злазілі і ў дупло. Яно пачыналася ад зямлі і падымалася ўгару болей чым на два метры. У ім магло змясціцца не менш пяці такіх, як мы, хлапчукоў.

У той дзень я канчаткова здружыўся з Сяргеем Малюшыцкім. Я проста палюбіў яго. Ён быў старэйшы за мяне на адзін год і вышэйшы ростам, але гэта не мяняла справы. Прыгожы сяргееў твар, пакраплены рабаціннем, быў заўсёды прыветлівы, але вочы паблісквалі задзірыста, і толькі кірпаты носік сведчыў, што Сяргей нікога не пакрыўдзіць дарэмна. Ён мне шмат аб чым расказваў, бо ведаў безліч стычынскіх небыліц, у якія глыбока верыў, і паміж іншым паведаміў, што род Малюшыцкіх паходзіць з Польшчы, што там ёсць цэлая вёска і завецца яна Малюшыцы. Я тады не прыдаваў гэтаму значэння, толькі потым зразумеў, якую атруту ўлівалі стычынцы ў свядомасць сваіх дзяцей адносна іх шляхецкага паходжання.

Да цёткі я вярнуўся расчырванелы і бадзёры, як ніколі. Мяне папракнулі, што не з'явіўся на полудзень, і гэтага было даволі, каб я раптам да смерці захацеў есці.

Помню, калі я падсунуўся да стала і нагнуўся над міскай бульбы, то забыў аб усім на свеце. У гэты час дзядзька Қастусь сказаў цётцы Аўдолі:

— А няхай-бы ён... у нас і жыў. Бачыш, вушы, як шкло... А тут недалёка... Нашы стычынскія ходзяць... Вунь і Сяргей Малюшынчык.

Цётка Аўдоля здзіўлена зірнула на свайго маўклівага мужа. Яна прывыкла думаць, што ён не можа прыдумаць нічога разумнага, і заў-

сёды рабіла так, як сама лічыла патрэбным. І раптам гэтае «шула» выказвае свае думкі! Яна перавяла позірк на мяне і рашуча сказала дзядзьку:

— Я гэта без цябе ведаю! Знайшоўся разумны! А што на гэта скажа Андрэй!

— Барані божа! Хіба Андрэй дурны!.. А Васіль і пойдзе і прыдзе, як дадому...

— І пойдзе і прыдзе,—перадражніла цётка Аўдоля.—Галоўка, як макаўка. У яго-ж там пасцель ёсць, куфэрак. Хіба ён на сабе прынясе! Трэба паехаць ды забраць. А Андрэю неяк перакажам,—дадала яна, падумаўшы.

— То можа-б я... з'ездзіў заўтра,—нясмела прапанаваў дзядзька Кастусь.

— Ты? — пагардліва запытала цётка Аўдоля. — Ты і пагубіш усё, і конь ад цябе ўцячэ! Не, я сама паеду, хоць і часу няма.

Дзядзька Кастусь уздыхнуў і звярнуўся да мяне:

— Ну, то будзеш жыць у нас, Васіль?

— Буду, дзядзечка,—з радасцю выдыхнуў я.

Вечарам да Ганулі і Марылі зноў прышла Мысліцкая Гэля. І сёння яна не была для мяне чужой. Ёсць людзі, якія пасля першай сустрэчы здаюцца роднымі і блізкімі, нібы ты іх ведаеш, нібы заўсёды іх ведаў. Такой была і Гэля. Заўсёды вясёлая, жвавая, як яшчарка, прыгожая, як лялька, яна не магла ўседзець на адным месцы. Яна прыгожа спявала, прыдумвала цікавыя гульні, забаўлялася мной, як маленькім, і я, прызнацца, крыўдзіўся на яе за гэта. Як не падобна была яна на маіх сясцёр! Ганула невялікая, як і цётка Аўдоля, з такімі-ж маленькімі вачамі, а на твары вяснушак, як маку. Яна іх выводзіла нейкай маззю. Яны, праўда, сыходзілі, але замест сябе пакідалі нейкія бледнапунсовыя плямкі, і ад гэтага твар рабіўся яшчэ больш непрыгожым. Марыля была вышэйшага росту. У Стычынах яе лічылі прыгожай. Аднак прыгажосць яе вызначалася чыста стычынскай асаблівасцю: посная была гэтая прыгажосць. Вочы прыгожыя, але сумныя, як у святых на абразах. Тонкія, бяскроўныя губы. Твар хударлявы, без ніякіх прыкмет дзявочай паўнаты. А Гэля! Стройная, як таполя, з мілым позіркам вялікіх блакітных вачэй. Яна глядзела так, нібы здзіўлялася, што вы ёсць на свеце. Не, яна была не стычынская. Я гэта зразумеў адразу, калі яна запытала ў мяне:

— Дык будзеш стычынцам, Васілёк?

— Буду,—рашуча адказаў я.

Яна засмяялася.

— Ох і дурненькі-ж ты! Не трэба быць стычынцам! Чуеш, не трэба!

— Ты-ж і сама стычынская,—адказаў я.

Дзядзька Кастусь зарагатаў. Ён палічыў мой адказ вельмі разумным. Гэля прамаўчала.

І вось з таго часу я пачаў жыць у Стычынах.

## 4

Акрамя Сяргея, я хутка пазнаёміўся і з іншымі стычынскімі хлопцамі, у першую чаргу з тымі, каторыя хадзілі з намі ў школу. З іх вылучаўся Мікола Вайніловіч — дужы хлапец, ростам, як і Сяргей, але шырэйшы ў плячах. У твары яго было нешта жаночае. Сінія вочы з белымі вейкамі, бровы таксама белыя, ледзь прыкметныя, як быццам

іх зусім няма, тонкі нос, прыгожыя падпухлыя губы, раздвоеная барада. І голас яго быў тонкі не па-дзіцячы, а па-жаночы. Ён мне не падабаўся. Не любіў яго і Сяргей. Усю дарогу ён не даваў нам спакою, вечна балбатаў, смяяўся без дай прычыны, лез дужацца або дурэць, адчуваючы, што ён дужэйшы за нас. У кішэнях яго заўсёды былі самаробныя пісталецікі з патронаў. З іх нават можна было страляць, насыпаўшы ў патрон пораху або серкі з запалак. Ён часта страляў і ганарыўся гэтым. У часе гульняў яму хацелася быць першым, камандаваць намі, хоць гэта яму рэдка ўдавалася. Вылучаўся ён ад усіх нас і сваім адзеннем. Мы насілі саматканыя світкі і штаны, на ім усё было крамнае. І не дзіва: бацька Міколы быў самы багаты гаспадар у Стычынах.

Поўнай процілегласцю Міколе быў Павел Стычынскі, ціхі хлапчук, кучаравы і прыгожы. Мне здавалася, што ён заўсёды нечым ці некім запалоханы. Ён і гаварыў ціха, амаль шэптам, нібы баяўся, каб яго не пачулі. Ён быў настолькі бяскрыўдны і бездапаможны, што з ахвотай адклікаўся, калі мы яго клікалі баранчыкам. Мы так празвалі яго за кучаравыя валасы. Больш, чым усім нам, яму назаляў Мікола Вайніловіч. І ён прасіўся ўмольным голасам:

— Не лезь ты да мяне, Мікола... Ну нашто я табе?..

У такіх выпадках мы з Сяргеем заўсёды бралі Паўла пад сваю апеку. Вайніловіч хоць быў і дужэйшы за кожнага з нас, але ўдвух мы яго лёгка перамагалі.

Ніколі не забуду адной суботняй раніцы, калі я і Мікола Вайніловіч з'явіліся ў школу крыху ў незвычайным выглядзе. У тую раніцу бель агарнула ўвесь сусвет. Ноччу выпаў першы сняжок, і зіма пачалася. Мароз шчыпаў за вушы, і сонца ўзыходзіла хоць яркае, але халоднае. Бярозы і вольхі, якія мы прывыклі бачыць голымі, непрыгожымі і панурымі, былі абсыпаны інеем, які іскрыўся ў першых праменнях узыходзячага сонца. Асабліва прыгожымі былі сосны, купчастыя, як стажкі сена. Здалёк яны нагадвалі белыя воблачкі. Вастраверхія елкі імкнуліся ўгару, нібы хацелі пракалоць блакітнае неба. Раптоўная змена пораў года ўплывае нават на дарослых, а для нас, дзяцей, гэта была надзвычайная радасць. Мы смяяліся, жартавалі, штурхаліся, але і гэтага было мала. Хацелася зрабіць нешта асаблівае, ну хоць крычаць, колькі ёсць сілы, і мы, вядома, крычалі:

— Э-гэ-эй!

— А-а-а!

— Зі-ыма-а!

Адзін Павел Стычынскі ішоў моўчкі ззаду і не падзяляў нашага захаплення. Сваімі вялікімі вачамі ён сумна і абыякава наглядаў за нашымі забаўкамі і раз-по-разу ўздрыгваў, нібы ад холаду. Мястэчка было ўжо блізка, і мы пацішэлі. Мне зрабілася шкада Паўліка. Здалося, што ён нядаўна плакаў.

— Пагрэемся, Паўлік,—прапанаваў я.—Давай прабяжым вунь да таго слупа.

— Мне не холадна, Васіль...

Мая прапанова вельмі спадабалася Міколе Вайніловічу. Ён мігам апынуўся каля Паўліка і пачаў яго тармашыць.

— Давай падужаемся, ну! Эх ты, баранчык!

— Не чапай мяне, Мікола...

— Не бойся, баранчык. Я-ж табе не айчым!

Незразумелае зло пачало ўскіпаць у маёй душы.

— Не лезь, Мікола...—усхліпнуў Паўлік.

— Ага! Значыць, табе сёння на абаранкі папала!
— Мікола... Ну, не лезь...
— А здорава б'ецца твой айчым!.. Дужы, як бык!
— Які айчым? — запытаў я, адчуваючы, што шалею ад злосці.
— Не ведаеш!—Мікола зарагатаў.—Яго айчым лупіць кожны дзень...

Мікола не скончыў. У адно імгненне я зразумеў усё: і сумныя паўлікавы вочы, і яго вечна перапалоханы выгляд. У тое-ж імгненне я кінуўся да Міколы і схапіў яго за грудзі. Мы сашчапіліся, як два пеўні. Ён па-каршучынаму правёў пазногцямі па маёй шчацэ. Я адчуў, што яна пачала гарэць, і садануў яму кулаком у нос.

У тую раніцу я ўпершыню ўзлаваўся на Сяргея. Ён не кінуўся мне на падмогу, а пачаў нас раздымаць і ўгаворваць. Не, я не паслухаў-бы яго, я згодзен быў біцца хоць да вечара, але пачуў усхліпванне Паўліка. Можа і паўлікавы слёзы не кранулі-б мяне, але тут адбылося нешта незвычайнае. Сяргеева сястра Надзя, непрыкметная дзяўчынка, на якую я ніколі не звяртаў увагі, да якой ніколі не сказаў ні слова, бо лічыў яе не вартай гэтага, дзяўчынка, у якой на твары вечна былі струпкі, калі не на губах, то каля вушэй або пад носам,—вось гэтая нікчэмная дзяўчынка кінулася да нас.

— Ах вы, ваякі няшчасныя! — крыкнула яна і ўляпіла адну аплявуху Міколе, другую мне. Гэта было так нечакана, што бойка наша адразу разладзілася. Мы стаялі і недаўменна паглядалі на гэтую нікчэмную дзяўчынку.

— Вытры нос,—загадала яна Міколе.— А на тваёй шчацэ чатыры пісягі, іх не абатрэш,—сказала яна мне.

Вось у тую раніцу мы і прышлі ў школу з адмецінамі, за што абодва адседзелі па дзве гадзіны пасля ўрокаў.

Пасля той раніцы я адчуў, што з усіх стычынскіх сяброў самы блізкі для мяне — Паўлік Стычынскі, самы ненавісны — Мікола Вайніловіч. З Сяргеем мы па-ранейшаму сябравалі, але да яго я прыкметна астыў.

— Чаму ты не дапамог мне надаваць яму як след?— запытаў я Сяргея таго-ж самага дня.
— Ты яшчэ не ведаеш Міколу, Васіль.
— Ведаю, што ён свіння.
— Яшчэ якая! Крані яго, дык наскардзіцца брату (у Сяргея бацькі не было, ён жыў са старэйшым братам), а брат адлупцуе, як айчым Паўліка.
— Няўжо твой брат паслухае яго?
— Не яго, Васіль. Ён паскардзіцца свайму бацьку, а той — майму брату...
— Дык што?
— Ну ведаеш... Ён-жа ў нас самы багаты. Вінаваты мы яму... Ды і хто ў Стычынах яму не вінаваты. Думаеш, твайму дзядзьку не скажа?
— Дзядзька мяне не кране.
— Дзядзька не кране, а цётка трапкачоў дасць.

Я засмяяўся. Аднак Сяргей часткова меў рацыю. Калі я прышоў вечарам дадому, то атрымаў строгую вымову ад цёткі Аўдолі. Раззлаваны дзядзька моўчкі хадзіў па хаце. Прызнацца, гэта мяне хвалявала больш, чым цётчына ўшчуванне. Мне не хацелася страціць дзядзькаву прыязнасць. Але як-жа я ўзрадаваўся, калі ён загаварыў:

— Кінь, Аўдоля... Ты паглядзі на яго шчаку. Як бараной праехаў. Барані божа, скардзіцца! Нос!.. Чорт не возьме яго нос!
— А ты яму пяцьдзесят рублёў аддаў?

— Вялікая бяда... Аддасі.

— Добра табе: аддасі. Ты аддай!

— Ну і аддам... От рыбы злаўлю...

— Ды зайца застрэліш,— пажартавала цётка Аўдоля і засмяялася. З таго часу я яшчэ больш палюбіў дзядзьку Кастуся.

У той памятны для мяне год я знайшоў яшчэ аднаго таварыша. Звалі яго Антось Бойка. Быў ён з вёскі Лістападаўкі і вучыўся ў адной групе са мной. Пасябравалі мы ў той дзень, калі я адседзеў дзве гадзіны пасля ўрокаў.

— От бачыш,— тлумачыў мне Антось.— Ты яму па-чалавечаму саднуў пад нос кулаком і ўсё. А ён па-свінячаму, дзярэ кіпцюрамі па твары. Свіння. Ды яшчэ са скаргай пабег у настаўніцкую. Але і яму папала. Я яго даўно не люблю.

Лістападаўскія вучні, як і стычынскія, кожны дзень хадзілі дамоў. Нават па адной дарозе, толькі лістападаўская дарога зварочвала ўправа за вярсту да Стычын. Ішла яна ўздоўж ручая, які мы звычайна пераходзілі ўброд.

Пакуль я не жыў у Стычынах, лістападаўскія і стычынскія вучні ніколі не сустракаліся ў дарозе. Наадварот, калі стычынцы бачылі, што лістападаўцы блізка, то назнарок адставалі, каб не дагнаць іх, або хаваліся ў лесе, калі тыя іх даганялі. Той дзень быў першы, калі стычынцы і лістападаўцы ішлі дадому разам. Адбылося гэта так: стычынцы чакалі мяне і Вайніловіча, а Антось Бойка ўгаварыў лістападаўцаў пачакаць мяне. З таго часу дзеці двух варожых вёсак пачалі разам хадзіць у мястэчка і з мястэчка.

Калі я расказаў Антосю пра Надзю, ён быў вельмі задаволены.

— От бачыш, гэта малайчына! Ужо каму-б, калі не дзяўчыне, драпнуць па твары, бо гэта іх мода, а яна не. Пляснула аднаму ды другому і справа з канцом.

Антось кожную размову пачынаў са слоў: «От бачыш»...

— От бачыш,— захапляўся ён.— Якая адважная дзяўчына. Ну, малайчына дый годзе!

Пасля таго дня мы з ім селі на адну лаўку, і з кожным днём наша сяброўства мацнела. Антось мне падабаўся. Крышку сутулы, ён глядзеў з-пад ілба з недавер'ем і падазронасцю, але гэта толькі здавалася з першага позірку. Увогуле, ён быў просты і шчыры хлопец. Бывала, калі мы ішлі са школы, Антось да самага броду пацяшаў нас рознымі выдумкамі. Надзя страшэнна захаплялася ім, ён у сваю чаргу вельмі паважаў яе.

Аднойчы, ужо за бродам, калі Стычыны былі блізка, Сяргей задуменна прамовіў:

— Ну і Антось! Што за ладны хлопец! Проста не верыцца, што ён мужык.

Мяне гэта не толькі кранула, але і абурыла да глыбіні душы. Я мог сказаць шмат чаго непатрэбнага і страціць надоўга добрага сябра, але і тут Надзя апярэдзіла мяне.

— А што, мужык не чалавек? — злосна запытала яна.

— Я-ж не кажу, што ён не чалавек...—паспрабаваў апраўдацца Сяргей.

— Дурань ты, вось і ўсё! А ён лепшы за вас усіх! Лепшы, лепшы! Я быў удзячны Надзі, хоць, згодна яе слоў, і сам належаў да тых усіх.

— Как гэта лепшы?— запытаў Вайніловіч, які ў часе гутаркі любіў сказаць некаторае слова інакш, чым мы.

— А за цябе ў сто разоў лепшы! Не, у тысячу разоў!

Я не раз прапаноўваў Антосю схадзіць да маёй цёткі, але ён рашуча адхіляў такія прапановы.

— От бачыш, які ты дурны, Васіль. Яны-ж закаранелая шляхта! Чуў, што казаў Сяргей? З Польшчы паходзіць... І ходзім разам і вучымся разам, а прыдзі да іх, дык і адлупяць. Гэты самы Вайніловіч...

— А каб яны да вас прыйшлі, таксама адлупілі-б?

— Што ты! Мы-ж не шляхта. Давай лепш да мяне сходзім. У мяне бацька бондар, а брат каваль. Ды я і сам сёе-тое ўмею! Сходзім Васіль, га?

Не ведаю чаму, але я ўхіляўся ад гэтага. Няўжо стычынскі ўплыў крануў і мяне?

5

Што яшчэ помню я з тых часоў? Помню Гэлю Мысліцкую, і гэты светлы ўспамін ніколі не згасне ў маёй памяці. Яна кожны вечар прыходзіла да маіх сясцёр з прасніцай. Збіраліся і іншыя дзяўчаты. У доўгія зімовыя вечары, калі на двары трашчыць мароз або круціць завея, яны пралі кужаль ці воўну і спявалі сумныя дзявочыя песні, у якіх, дарэчы, не было нічога шляхецкага. Мо' таму ў Стычынах яны і гучалі яшчэ сумней і безнадзейней. Хлопцы збіраліся пазней. Яны рэзаліся ў карты, звычайна ў воза або ў казла, бесперапынна курылі смярдзючы тытунь, расказвалі байкі, па-шляхецку прыстойна жартавалі з дзяўчатамі, але жарты гэтыя былі зусім не смешныя.

Калі ў дзяўчат было напрадзена па дзве ручайкі (без двух ручаек дадому нельга было паказацца), пачыналіся гульні. Таксама шляхецкія — фанты. Суддзёй заўсёды абіралі Яся Вячэру — багацейшага стычынскага жаніха, якому пераваліла за сорак. Тлусты, як япрук, гэты аблыселы мужчына мог ганарыцца хіба толькі жыватом і раскошнымі шляхецкімі вусамі. Усё астатняе ў яго постаці і твары было мізэрным і непрыкметным. Ногі тонкія і крывыя, як клешні ў рака, плечы вузкія і пакатыя, як у жанчыны, доўгія, як у малпы, рукі і чырвоная шыя, уся ў зморшчках. У сям'і ён меў толькі маці, у гаспадарцы — валоку зямлі, пару коней з жарабём, тры каровы з цялушкай, статак свіней і авец. Усю яго хатнюю гаспадарку вяла служанка — шаснаццацігадовая дзяўчынасірата, якая засталася ў Стычынах з часоў бежанства. Кінулі яе, праязджаючы па вёсцы, нейкія «добрыя людзі», і пачала яна сваё сірочае жыццё спачатку жабрачкай, потым, калі крыху падрасла, парабчанкай. Яна і цяпер у маёй памяці ў задрыпаным ірваным андараку, парудзелай ад старасці суконнай світцы, з нейкай анучай на галаве і босая. Я ніколі не бачыў, каб яна стаяла. Вось, сагнуўшыся, яна бяжыць ад калодзежа з вёдрамі ў руках, якія ледзь не шоргаюцца днамі аб мёрзлую зямлю. Мне здавалася, што гэтыя вёдры адарвуць яе пасінелыя ад холаду рукі. То імчыцца ад склепа з кашамі бульбы, то нясе з гумна рэзгіны сена, то высякае каля калодзежа абледзянелае карыта. А ў вачах яе — туга, безнадзейнасць і поўная абыякавасць да ўсяго, што ёсць на свеце. Не, яна ніколі не стаяла! Ужо нашто стычынцы чэрствыя па сваёй прыродзе людзі, а і тыя казалі, што Палагея залатая работніца і што старая Вячэрыха з Ясем залішне ездзяць на яе гарбу. Аднак казалі без папроку Вячэрам і без спагады Палагеі — проста выказвалі свае думкі.

Як ні кажы, а пан Вячэра гаспадар у Стычынах, а жаніх — то першы. У Вайніловіча яшчэ жаніхоў не было.

І вось першы стычынскі жаніх заўсёды ліпнуў да Гэлі. Скрывіўшы твар у лагодную ўсмешку, ён падсоўваўся да яе бліжэй і пачынаў жартаваць. Я, каб мог, знішчыў-бы яго ў такія хвіліны. Я ненавідзеў і яго твар, і постаць, і голас, і ідыёцкую ўсмешку, усяго яго, ад пачатку да канца.

— Ого! Панна Гэля ўжо трэцюю ручайку прадзе!

— Адсуньцеся! — рэзка адказвала яна.

— Чаму такая няласкавая, панна Гэля? Нейкая муха ўкусіла...

— Я не панна. А вы, дзядзька, не замінайце прасці. Да цёткі Аўдолі ідзіце, вунь, бачыце, дзядзька Костусь ужо спіць.

Ужо нашто былі тупыя стычынцы да жартаў, а і то заліваліся ад рогату. Ясь моршчыў кацiны твар і адсоўваўся.

Не, яна была не стычынская, мілая Гэля. Яна і гаварыла і жартавала інакш. І голас яе быў інакшы. Як любіў я ў той час яе прыгожы, кранаючы за сэрца голас!

З усіх стычынскіх дзяўчат я не забыў толькі яе. І не дзіва. Яна авалодала ўсёй маёй дзіцячай істотай, усімі думкамі і марамі. Мяне агортвала радасць, калі я ўспамінаў яе твар, або яе лёгкая постаць паўставала ў маім уяўленні. Я рос на вачах, калі яна гаварыла са мной, і чырванеў да кончыкаў вушэй ад сораму і невядомага пачуцця, якое



хвалявала маю кроў. Калі яна краналася мяне, мне хацелася схапіць яе прыгожыя, такія дужыя ручкі і цалаваць іх без канца... І я, вядома, не мог захаваць сваіх пачуццяў. Сёстры заўважылі іх і часта жартавалі:

— Ажэнім мы цябе, Васіль, у Стычынах. Сапраўдным стычынцам будзеш. Толькі дзяўчыну харошую шукай,— пачынала Марыля.

Я, вядома, чырванеў да вушэй.

— А чаго шукаць!—дадавала Гануля.—Хіба Гэля не харошая? Пойдзеш, Гэля?

— За Васіля?— пыталася Гэля.— Хоць сёння! Давай пажэнімся, Васілёк!

Яна абхоплівала мяне рукамі і пачынала тармашыць. Выходзіць, і яна нада мной жартавала... А я магу прызнацца—дзівак!—я сам думаў пра гэта... Вось што каштавала мне, хлапчуку, жыццё ў Стычынах!

Помню яшчэ зімовы адвячорак у нядзелю. Я прышоў з рэчкі і засеў вучыць урокі. Зімовае сонца заходзіла. Яго апошнія праменні пырснулі ў вокны і афарбавалі ў золата шыбы, размаляваныя марознымі ўзорамі. І ў нашай хаце стала прыгожа і ўрачыста, як у царкве. Не ведаю, можа ад гэтага, а можа ад чаго іншага, але я сядзеў, агорнуты небывалай радасцю і цеплынёй. Жыццё здавалася мне незвычайна прыгожым і непаўторна дзівосным. Я глядзеў на залатыя ўзоры, але бачыў не іх, а поўночныя ільды і трапічныя лясы, цудоўныя гарады і невядомыя краіны. Мне здавалася, што ўсе людзі такія-ж шчаслівыя, як я, і няма на свеце ні слёз, ні гора...

А ў той адвячорак наш сусед Стафан Залускі выняў з пятлі Палагею— вячэраву парабчанку. Ён ішоў у адрыну па сена, убачыў вячэрава адчыненае гумно і рашыў зайсці папрастарэкаваць з багатым суседам. Яму здалося, што Вячэра сам у гумне. Зайшоў, а там Палагея ў пятлі...

— Толькі сунулася,—расказваў ён.— Нагамі дрыгае... Ну, у мяне нож заўсёды пры сабе. Паласнуў вяроўку... Аджыве, я думаю...

Я ледзь не абамлеў, пачуўшы гэта. Цэлую ноч я не спаў. Мяне паліў жар, я трызніў, крычаў, памыкаўся некуды бегчы. За мною ганяліся мерцвякі з петлямі на шыях. Цётка Аўдоля і дзядзька Кастусь стаялі пры маім ложку да дня. Толькі раніцай я супакоіўся. У той дзень, вядома, у школу не пайшоў.

А па вёсцы пайшлі гутаркі, здагадкі. Што ўвагнала Палагею ў пятлю? Усе сышліся на адным: неймаверная работа і здзек. Замардавалі дзяўчыну. Кожны дзень, як конь у тапчаку, ідзе і ідзе, і не было канца гэтай хадзе... Ні адпачынку, ні ласкавага слова.

Палагея аджыла і на трэці дзень пачала гаварыць. І тады ўведалі ўсё: не работа давяла яе да самагубства, а сам Ясь Вячэра. Я тады не зусім ведаў, у чым справа, але разумеў: з дзяўчынай адбылося нешта такое агіднае і крыўднае, што яна не захацела жыць на свеце.

У той дзень, калі Палагея загаварыла, дзядзька Кастусь прышоў з вёскі, як ашалелы. У яго раптам з'явілася мова, ён не знаходзіў месца, мераў хату шырокімі крокамі і гаварыў без канца, ні да кога не звяртаючыся.

— От табе і Вячэра... Гаспадар... Сукін сын і шэльма... Барані божа! Дзяўчыну ў пятлю ўвагнаць. Барані божа! І так усю кроў... высмактаў... Чаго яшчэ захацеў...

— Костусь, — прасіла цётка Аўдоля, — ты-б хоць пры хлопцу маўчаў.

—Няхай ведае хлопец... Якія шэльмы... Хіба я не бачу! Тут-бы і жалезны не вытрымаў... А ён... Гад... А Мысліцкі кажа: «От, гадаўка, у пятлю палезла... Хіба зліняла!.. Ніякі чорт яе не ўзяў. Хамаўка. Не

абы з кім, а з Вячэрам»... Я кажу: «Ён сам горш хама... Ён павук... Барані божа! Ён і падобны на павука»... А Мысліцкі можа дачку...

Абурэнню дзядзькі Кастуся не было канца. Ён то прысаджваўся ля стала, то ўсхопліваўся з месца і не мог супакоіцца. Я не ўсё разумеў з яго гутаркі. «А пры чым тут Гэля?»—падумаў я, калі ён сказаў пра Мысліцкага дачку.

— Костусь, ты можа выпіў сёння?— з трывогай запытала цётка Аўдоля.

— Горш... Я сабе рады не магу даць... У Стычынах яшчэ гэтага не было, каб на сябе рукі накласці... Я от пайду і скіўіцы на бок звярну таму павуку...

Гэтыя словы здаліся цётцы Аўдолі смешнымі. Яна то ведала, які ваяка яе Костусь, аднак вырашыла звясці гутарку ў другі бок.

— Кінь ты, Костусь. Павук ды павук. Цябе самога ў засценку вярблюдам завуць.

— Няхай завуць... Я чуў, што вярблюд лепш, чым конь... На ім ездзяць, стрыгуць, як авечку, і дояць, як карову. А павук! Барані божа! Калі павук са столі ў вядро ўпадзе... то ты бяжыш на двор ваду выліваць... і вядро палошчаш. А барані божа, карова... павука з вадой вып'е, то яе ўздуне, як гару...і яна здохнуць можа...

Вось які быў дзядзька Кастусь. І самае светлае, што ў мяне засталося ад Стычын, гэта ён. Яго прастата, шчырасць і праўдзівасць.

І ніколі не забуду я стычынскага вяселля. Яно адбылося перад самай масляніцай. Мысліцкі аддаваў Гэлю за Вячэру Яся. Помню, яна восемнаццацігадовая, у белым плацці, з вянкем на прыгожай галоўцы, сядзіць, як заклёваная галубка, і баіцца ўзняць вочы... І я бачу, што яна плакала, што ёй і цяпер хочацца плакаць. Ёй хочацца плакаць — гэтай весялушцы і гарэзе!.. Я яшчэ мала разумеў тады, але мяне агарнуў неймаверны жаль, калі я параўнаваў яе з ім. Ён з кацінай мордай, лысы, у пустых савіных вачах, акрамя самазадавальнення, нічога няма. Мне проста стала горка, калі я ўспомніў яе ў тыя вечары, як яна прыходзіла да нас. Сэрца маё заныла. Я выйшаў у сенцы, прытуліўся да куфра ў цёмным кутку і заплакаў.

Спаткаў я яе ўжо вясной. Цямнела на двары. Яна ішла з поля, трымаючы ў руках сахор. Я не пазнаў яе. Твар схуднеў, а вочы сталі вялікімі і глыбокімі. На галаве белая хуста, андарак зрэбны і старая вылінялая кофта. Яна была і падобна і не падобна на Палагею. Падобна па адзенню, а па вачах не. У вачах яе гарэла ўпартасць.

Гэля сама спыніла мяне.

— Хутка скончыцца вучэнне, Васілёк?

— Хутка... Гэля,—не ведаю чаму, але мне хацелася назваць яе цёцяй.

— І ты паедзеш са Стычын?

— Паеду дамоў.

— Добра табе...

Я не разумеў яе слоў.

— Ну як, прывык у Стычынах?

— Прывык, нічога.

— А я ніяк не магу прывыкнуць.

— Дык ты-ж увесь час тут жывеш! — здзіўлена прамовіў я.

— А от прывыкнуць не магу...

Я ішоў да цёткі Аўдолі і разважаў так: вядома, як-жа яна прывыкне, калі яе Ясь Вячэра замест Палагеі ўзяў. Тую прагнаў, як толькі на ногі ўстала, а гэтую ўзяў...

## 6

Вясной, калі скончылася вучэнне, я развітаўся са Стычынамі на многа гадоў. Мой дзядзька, матчын родны брат, забраў мяне ў Слуцк, дзе я скончыў сямігодку і паступіў у педтэхнікум.

Лета 1929 года я праводзіў на вакацыях у роднай вёсцы. Было нейкае свята, і мой брат Сцёпа прапанаваў мне з'ездзіць у мястэчка.

— Сёння там кірмаш,— сказаў ён.—Людзей будзе шмат. А на адваротным шляху ў Стычыны заедзем. Там вечарынка, ды заадно і з цёткай Аўдоляй пабачышся. Пытала яна пра цябе.

Я з радасцю згадзіўся.

Прыемна ехаць па старой, даўно вядомай дарозе і наглядаць, якія змены адбыліся на ёй за той доўгі час, калі ты яе не бачыў. Але цяпер яна мне здавалася чужой і незнаёмай. Раней звычайны прасёлак, яна цяпер была абкапана канавамі. На кожным бродзе мост. Там, дзе раней ляжалі хмызнячкі або жаўцеў голы пясок, раслі стройнымі радамі ўдалыя маладыя сасонкі.

Я адразу пачаў распытваць Сцёпу пра Стычыны. Ён усміхнуўся і адказаў:

— Сам пабачыш. Адно скажу: Стычыны цяпер і тыя і не тыя. Робіцца там нешта, не зразумееш што...

— Не разумею, Сцёпа.

— Не разумееш? Я, прызнацца, і сам не вельмі разумею. Бываю там рэдка, толькі чуткамі карыстаюся.

— Ну дык і раскажы, што чуў.

Брат раптам ажывіўся і прадаўжаў.

— Ламаніна там нейкая ідзе... І што цікава, Васіль, што ламаніну ў Стычынах распачалі жанчыны. Дзіўна, праўда? Ні адна вёска не была такая цёмная, закасцянелая ў забабонах і прымхах, як Стычыны... Тамжа жанчына наогул не лічылася за чалавека... Я-ж памятаю! Пакуль дзяўчына, дык паненка, а як папала стычынскаму пану ў зубы, дык з яе толькі што вяровак не ўе...

— А цётка Аўдоля!

— Яна не стычынская родам, прытым нутро ў яе, я табе скажу! Яна адразу асядлала свайго вярблюда, гэтага сугная.

Я пакрыўдзіўся за дзядзьку Кастуся.

— Пачакай, Сцёпа! Ты яшчэ не ведаеш дзядзьку...

— Маўчы лепш. Ведаю. Які быў, такі і ёсць. Лапці пляце. Ужо можа мільён пар сплёў, а сам боты пачаў насіць. Ды не ў тым справа. Дык вось, ламаніну ў Стычынах распачалі жанчыны. І распачалі яе неяк смешна. Ты-ж ведаў Гэльку Мысліцкую, яна пры табе за Яся Вячэру замуж пайшла.

— Ведаю, Сцёпа. Яе аддалі сілай.

— Зноў-жа не ў тым справа. Я, напрыклад, не ведаю ні адной стычынскай дзяўчыны, каб яе не сілай выпхалі з бацькавай хаты... Справа ў тым, што Гэля ўжо год назад, як кінула свайго Яся.

— Развялася?

— Ды не. Проста кінула і ўсё. Бацька яе не прыняў. Думаеш, заплакала? І не падумала. Цяпер у Мінску працуе.

Тут Сцёпа нешта ўспомніў і заліўся такім доўгім смехам, што я думаў, ён не супакоіцца да мястэчка.

— Ты здурнеў, Сцёпа?

— Ды не, Васіль...—праз смех адказаў Сцёпа.—Мне смешна, што гэтых «вяльможных паноў» Мысліцкага і Вячэру проста бог пакараў. Барані божа!—ён зноў засмяяўся.—Памятаеш Рабую, тую, што чорту зубы выбіла,— праз смех расказаў ён.— Ну дык і яна адшыла свайго плюгавага Сымона ды яшчэ ў суд падала, каб гаспадарку раздзяліць. Стары Мысліцкі аж самлеў. «Такая была ціхая кабета і раптам чортам стала». У іх ва ўсім чорт вінават, а што самі сапраўдныя чэрці, то яны гэтага не ведаюць. А Палагею помніш? Вячэраву служанку, тую, што вешалася?

— Помню, Сцёпа. Да смерці гэтага не забуду...

— Ну дык у яе ад Яся сын ёсць. Ужо мабыць пяць ці шэсць гадоў, ладны хлапчук. Жанчына за гэты час пабыла сярод людзей, паразумнела і падала на Вячэру ў суд на аліменты. І прысудзілі за ўсе гады. Трэцюю частку. Барані божа! Гаспадарка лясне! Ясь на каленях перад ёю поўзаў, прасіў, каб ішла да яго за жонку, замест Гэлі. Старая яго маці памерла ўжо. «Хадзі да мяне, Палагеячка, паняю будзеш». Але яна, мабыць, не забыла вячэравых пірагоў. Адмовілася. Вось што робіцца ў Стычынах, Васіль!

— Нічога дзіўнага не бачу, Сцёпа. Іначай і быць не магло.

Я расказаў брату пра Гэлю, пра Палагею, пра дзядзьку Кастуся, пра ўсё, што засталося ў маёй памяці ад тых часоў, калі я жыў у Стычынах. Сцёпа задумаўся.

— Цікава, Васіль... І ўсё-такі цікавей за ўсё тое, што старое ў іх ламацца пачало не з таго боку.

— Як гэта не з таго?

— У іх перш за ўсё пачалі ламацца сем'і.

— Законамерна. А для Стычын ў асаблівасці.

— Законамерна! — паўтарыў брат з недавер'ем. — У нас, напрыклад, ды і ўсюды ў наваколлі сяляне пра калектывы думаюць. У нас культура! Комсамол у нас! Мы з кулакамі змагаемся, з папамі. У нас калі вечарынка, то і спектакль, без гарэлкі, без боек. А ў іх не! Барані божа, каб комуна! Царква ў іх закон, Вайніловіч найбольшы аўтарытэт. Калі пазбавілі яго правоў, як кулака, то стычынцы ўсім засценкам прыгавор напісалі, каб вярнуць Вайніловічу правы.

— У Стычынах і гэта магчыма,— адказаў я.

— Толькі ў Стычынах і магчыма,— дадаў Сцёпа.

Там часам мы выехалі на стычынскія палі, і я здалёк убачыў бярозавы гай, што абкружаў засценак. Уласна, мяне зацікавіў не гай, а палетак жыта, які ляжаў абапал дарогі. Высокае, тоўстае, як чарот, з буйным калоссем, жыта пачало ўжо наліваща і зусім не было падобна на тое жыта, якое я бачыў тут некалькі гадоў назад.

— На жыта глядзіш ды дзівішся,— сказаў Сцёпа.— А тут нічога дзіўнага няма. З таго часу, як ім аддалі панскую сенажаць, яны ўзнялі зямлю. Жывёлы гадуюць шмат, угнаення хапае, ды яшчэ мінеральнае купляюць. Усе аблогі і хмызнякі ўзаралі.

— А гэта не новае для стычынцаў? — запытаў я.

Брат не адказаў і адвярнуўся. «Што, маўляў, ты ведаеш, гарадскі хлопец».

У гэты час мы пераехалі мосцік на тым ручайку, які мы калісь пераходзілі ўброд. Сэрца маё затрапяталася, калі я ўбачыў паваротку на Лістападаўку. Я адразу ўспомніў і Сяргея, і Паўліка, і Антося Бойку, і Надзею. Захацелася хутчэй іх пабачыць.

У мястэчка мы прыехалі ў самы разгар кірмашу. Я адразу накіраваўся да клуба, дзе, як сказаў брат, збіраецца моладзь. Першым, каго я ўбачыў, быў той, аб кім не думаў: Мікола Вайніловіч. Ён вырас, пасталеў, але і твар яго і голас засталіся тымі-ж, жаночымі. На ім была скураная шапка, дыяганалевыя галіфэ і гімнасцёрка, хромавыя боты.

— Здрастуйце! Как я рад вас відзець!—запішчаў ён і пацíснуў руку так, каб паказаць, што ён і цяпер дужэйшы за мяне. Гэта яму, аднак, не ўдалося.

— Займаецесь спортам?

— Іншы раз.

— Я таксама уўлекаюсь. Ну, пойдзем, я вас пазнакомлю з Сяргеям.

— Мы з ім знаёмы,— усміхнуўся я.

— Он цяпер вас не пазнает.

Аднак Сяргей мяне пазнаў. Мы абодва былі рады сустрэчы, і размова ў нас пачалася жывая і цікавая для абодвух. Вайніловіч адразу адстаў ад нас.

— У Стычыны абавязкова заедзеш, Васіль!

— Аб тым яшчэ дома думаў.

— Там аб усім пагутарым.

У гэты момант я непадалёку ўбачыў надзвычай прыгожую дзяўчыну, высокую, стройную, у твары якой было нешта да болю знаёмае мне. Каля яе чортам пакручваўся Вайніловіч.

— Што гэта за дзяўчына, Сяргей?

— Не пазнаў?

— Прызнацца, не.

— Дзівак-жа ты. Гэта наша Надзя. Ну пабачым, ці пазнае яна цябе.

Мы накіраваліся да Надзі, але яна ўбачыла нас і, адмахнуўшыся ад Вайніловіча, ішла насустрач.

— А мне пра цябе Мікола сказаў, — паведаміла яна, паціскаючы мне руку.— Ну як жывеш, Васіль?

— Як бачыш, Надзя. Мяне яшчэ пазнаць можна, а цябе не.

— Сапраўды не пазнаў?

— Сапраўды.

Вайніловіч, заклаўшы рукі ў кішэні, стаяў збоку і трымаў у роце папяросу.

— А помніш, Надзя, як ты разняла нас з Вайніловічам?

— Помню!— прастадушна адказала дзяўчына.

— Ест а чом разгаварываць, — чырванеючы, сказаў Вайніловіч. — То было дзетство.

— А цяпер-бы адважылася на такое, Надзя? — запытаў я, заўважыўшы, што Вайніловічу не падабаецца такая гутарка.

— Гледзячы за што?— адказала Надзя і зірнула на Міколу. Ён пачырванеў і адвярнуўся, потым дастаў з кішэні папяросы «Шэдэўр» і падсунуў мне раскрыты пачак.

— Курыце, пажалуста.

Нельга было адмовіцца. Закурылі.

— Дзе Паўлік?— пацікавіўся я.

— Паўлік далёка. Добраахвотнікам у армію пайшоў. На Далёкім Усходзе служыць,— растлумачыў мне Сяргей.

Гэтая гутарка таксама была не да спадобы Вайніловічу. Ён усякімі спосабамі намагаўся звярнуць увагу на сваю асобу і павярнуць гутарку на іншую тэму.

— Как там у вас у горадзе?— звярнуўся ён да мяне.— Наверна інцірэсна? І ваабшчэ...

Я паціснуў плячыма. Што можна было адказаць на такое недарэчнае пытанне.

— А з Антосем сустракаешся, Сяргей?

— А як-жа! Ды ён тут, хадзем пашукаем.

— І я з вамі,— рашуча сказала Надзя і пакінула Вайніловіча, які выгінаўся каля яе на розныя манеры.

— Зачэм цібе талкацца на базары!— спрабаваў ён спыніць дзяўчыну.

— Інцірэсна пасматрэць людзей,— адказала яна яму ў тон.

— Як табе падабаецца гэты ферт?— запытаў Сяргей, калі мы адышлі далей.

— Інцірэсны кавалер. Так, Надзя?

Дзяўчына скрывілася і ледзь не паказала мне язык.

— Мабыць, атрымаў і другую аплявуху?

— Ідзі ты, Васіль!

— І не адну?

Надзя сцвярджальна кіўнула і ўсміхнулася. Мне, вядома, хацелася і далей гаварыць у такім-жа тоне, але Сяргей перарваў нашу размову.

— Ты заўважыў, Васіль, як ён з сябе вайсковага корчыць?

— Не падобны ён на вайсковага.

— А ён думае, што падобны. У армію яго не ўзялі, як сына лішэнца дык ён сабе вайсковую форму справіў. На маю думку, у яго і зброя ёсць, толькі ён цяпер асцярожны. Наогул, незразумелы ён мне. Сямігодку разам канчалі, а што з яго выйшла. Барані божа!— як кажуць нашы стычынцы. Адным словам, Антось табе раскажа лепш, чым я.

— Антось бывае ў Стычынах?

— Часцей, чым трэба,— адказаў Сяргей, зірнуўшы на сястру.

— Глядзі, Сяргей!— папярэдзіла яна.

— Добра, не буду... Мы да лістападаўцаў ходзім, яны да нас. У іх цікавей, хата-чытальня ёсць, комсамол. Ізноў-жа табе пра гэта раскажа Антось.

Тут я заўважыў, што Надзя раптам знікла, і азірнуўся.

— Не хвалюйся,— сказаў Сяргей.— Яна Антося ўбачыла і пайшла да яго. Цяпер нам нечага валачыцца ў гэтым натоўпе, хадзем лепш пасядзім каля клуба. Надзя прыдзе з Антосем.

Пакуль мы ішлі да клуба і шукалі свабоднага месца, Сяргей прадаўжаў расказваць:

— Бяда мне з ёю...

— З кім?

— З Надзяй, з кім-жа больш... Між двух агнёў і яна, і я. Вайніловіч ёй спакою не дае, сватоў засылае, сам валочыцца. Але яна малайчына, і я яе ў гэтым падтрымліваю. А брат наш, ён-жа гаспадар у хаце, а ў Стычынах-жа ведаеш, што такое гаспадар? І цар, і бог... Каб яна, гаспадарка гэтая, прахам пайшла, то я толькі засмяяўся-б. Брат наш спіць і бачыць, каб Надзю за Вайніловіча аддаць... А тут Антось. Ты чуў, як Надзя мяне папярэджвала, павінен сам здагадацца. Антось кажа, што калі не аддасць брат Надзю, дык ён яе ў любы час сам забярэ. Мне, кажа, не трэба пасаг.

— Малайчына! А Надзя?

— А Надзя! Яна сёння за яго гатова пайсці! І, прызнацца, даўно яна была-б антосевай, каб не ўпартасць. «Я сваю долю вазьму і ўсё, — кажа.— Не на голым месцы нам з Антосем гаспадарку наладжваць».

Жаночая ўпартасць, Васіль, цвёрдая, як камень. Колькі яе Антось угаворваў: «Я сваю долю табе аддам», — не хоча! «Я, — кажа, — вазьму сваю...» — Вось што значыць гаспадарка, Васіль... Эх! Пачало ў нас ламацца, ды не так, як у людзей... Дагары нагамі...

— Ну, а ты! Чаго-ж ты глядзіш?

— Што я адзін значу на такі засценак! Здаецца, каб сілу меў, перавярнуў-бы ўсё ды паставіў з галавы на ногі.

— Чаму-ж не паспрабаваць?

— Эх, Васіль! Шляхецтва гэтае і бацькоў нашых атруціла, і ў нас атруты ўліло... Ты не думай, — дадаў ён, заўважыўшы мой запытальны позірк.— Я не пра сябе кажу, але ў моладзі нашай калі дыхне іншы раз гэтым шляхецтвам, дык хоць нос затыкай... Каб адзін такі Вайніловіч, лёгка было-б яму рады даць, дык за ім-жа большасць цягнецца... Ды што там большасць, амаль усе...

Стаяў спякотны летні дзень. Сонца хоць і пераваліла за поўдзень, але пякло неміласэрна. Мы з Сяргеем выбралі лаўку ў цяні старых клёнаў і не паспелі закурыць, як убачылі Надзю і Антося.

Я не пазнаў-бы свайго лепшага сябра школьных гадоў. Антось выглядаў, як сапраўдны мужчына. Позірк яго стаў мужны і адкрыты, плечы крутыя, здаровыя мужчынскія грудзі. Я ледзь не войкнуў, калі ён узяў маю руку ў сваю.

— Ну, брат, у цябе і ручкі,— сказаў я мімаволі.

— Кавальскія, Васіль,— растлумачыў ён.

З якім захапленнем глядзела на яго Надзя! Прызнаюся: я пазайздросціў Антосю.

Пасля звычайных у такіх выпадках запытанняў, размова перайшла на Стычыны і Лістападаўку.

— Пабудзеш у Стычынах, Васіль, і адразу да мяне,— ён гаварыў такім тонам, нібы справа аб гэтым даўно вырашана.— У Стычынах ты нічога новага не ўбачыш, акрамя хлявоў. Хлявы там, праўда, новыя. А хаты ды ў хатах усё па-старому. Ды не, у цёткі тваёй новая хата. Яна адступіла ад стычынскіх законаў. Стычынцам, праўда, інакш і нельга было. Яны прывыклі да сваіх халупак і сядзяць у іх, як мядзведзі ў берлагах, а скаціны нагадавалі столькі, што хлявы разлазяцца, як старая світка на шырокіх плячах... І яшчэ там убачыш Сяргея Малюшыцкага, яго род паходзіць...

Сяргей з дакорам зірнуў на яго.

— Не любіш, не буду... Убачыш там Сяргея Малюшыцкага, які сноўдаецца між новых хлявоў і старых хат і не ведае, як даць рады Вайніловічу. Як ты яго завеш, Сяргей?

— Ферт.

— Не ведае, як паставіць ферта на сваё месца. Так, Сяргей?

— Паспрабаваў-бы ты...

— Паспрабуем, Сяргей. А ты, Васіль, чуў пра Палагею?

— Чуў.

— І пра Гэлю, і пра Рабую таксама?

— Мне брат расказаў.

— Ну дык от гэта і ёсць усё новае, што адбылося ў Стычынах. Ды і яно, па праўдзе кажучы, устарэла. У нас, у Лістападаўцы, не тое! У нас ёсць што паказаць... О чорт, — вылаяўся ён, — вунь ферт ідзе.

— Пойдзем, Антось, — сказала Надзя, беручы яго за руку.

— Пойдзем. Не магу я на яго глядзець. Сёння пабачымся ў Стычынах, Васіль, а заўтра ў нас.

Яны пайшлі. Вайніловіч спыніўся і паглядзеў ім услед ненавідзячым позіркам.

## 7

Мы прыехалі ў Стычыны адвячоркам. «Антось меў рацыю!»—думаў я, акідаючы вачыма засценак. Тая-ж самая вузенькая, крывая, як літара С, вуліца, тыя-ж касавокія халупкі... А хлявы! Хлявы былі новыя, з тоўстай смаловай сасны. Сям-там новыя платы і парканы. Гэта стычынцы выкарысталі ад будаўніцтва рэшткі лесу, каб мацней выгарадзіцца ад суседзяў.

Калі мы пад'ехалі да цётчынага двара, мне ўспомнілася прымаўка: глядзіць, як баран на новыя вароты. Я так глядзеў на цётчыну хату і не пазнаваў двара, іменна як баран новых варот. Хата сапраўды была ладная, прасторная пяцісценка. Бярвенні гладка абчасаныя, тоўстыя, як шулы. Страха хоць і саламяная, але прыгожая, з застрэшкамі на франтонах. І вокны не па-стычынску шырокія. На двары каля плота ляжала сціртa акоранага бярвення, падрыхтаванага, мабыць, на хлявы.

На вуліцы было поўна моладзі. Спацыравалі парамі і па адным. Вайніловіч ішоў на чале цэлага гурта незнаёмых мне хлопцаў. Ён памахваў тонкім вытачаным кійком, перакідаючы яго з рукі ў руку. Такія-ж кійкі былі і ў яго сяброў. Ён ганарыста кіўнуў мне: маўляў, ведай нашых!

І хлопцы, і дзяўчаты, стракатa разадзетыя па апошняму слову тагачаснай моды, якой, па сутнасці, не існавала, у большасці выпадкаў цікавіліся толькі ўласнымі асобамі. Тут былі франты ў галіфэ і ботах, як Вайніловіч, былі і такія, што панюхалі горада. Яны фарсілі штанамі навыпуск і да бляску начышчанымі чаравікамі. Моладзі набралася шмат, пераважна шляхецкай, якая з'ехалася з розных засценкаў і хутароў да сваіх стычынскіх родзічаў. Былі тут лістападаўцы і местачкоўцы. Гэтыя і трымаліся асобна. Дрэнна ўсё-такі адчуваць сябе не дома.

Каля рэчкі, на прасторнай пляцоўцы, утрамбаванай нагамі ад папярэдніх вечарынак і вяселляў, ішлі танцы. Іграў «аркестр» — дзве скрыпкі і кларнет, ім падтакваў турэцкі бубен. Музыка так сабе, не вельмі ўдалая, але ўсё-такі па-шляхецку, капела, а не мужыцкі гармонік.

Цётка Аўдоля значна пастарэла, стала яшчэ танчэйшай і меншай, хоць голас яе, прызнацца, пагрубеў. Я прытуліў яе да сябе, а яна ўсхліпвала і ўсё прыгаворвала басам:

— Далібог гэта не ты, Васіль... Не, не ты... Той Васіль быў маленькі, а гэта-ж мужчына...

Дзядзька Кастусь амаль не змяніўся. Ён толькі пасівеў, але трымаўся проста, як слуп. Мы абняліся і расцалаваліся. Я быў рады бачыць гэтага чалавека, які і сярод стычынцаў лічыўся своеасаблівым. Ён расчуліўся да таго, што некаторы час не мог вымавіць слова.

— От бачыш, хата новая... Ледзьве ўлезлі... А другі канец яшчэ пусты... Хлявы трэба... Бярвенне ёсць, але сіла мая ўжо не тая... Наймаць трэба цесляроў. Усё трэба... цяжка...

Потым у хату ўбегла Ганулята з малым на руках. Яна чатыры гады назад выйшла замуж за Міхала, сына Стафана Залускага, таго самага, што вырataваў Палагею. Ён быў суседам маёй цёткі. Міхала я амаль

не помніў, у мой час ён быў вельмі непрыкметны і нерашучы. Калі ён увайшоў у хату ўслед за Гануляй, то я адразу здагадаўся, што не ён жаніўся на Ганулі, а яна на ім. Так яно і было. Гэта здзейсніла цётка Аўдоля. Замуціла ваду Марыля. Яна пайшла замуж раней старэйшай сястры і прытым на багаты і далёкі хутар. Ганулял ў такім выпадку магла застацца дзеўкай. Тут за справу і ўзялася цётка Аўдоля. Яна дала зразумець старому Залускаму, што калі яго Міхал жэніцца на Ганулі, то з цягам часу стане ўладаром двух гаспадарак. На вечна-ж будзе жыць яе Костусь, ды і яна сама. На яе прыманку клюнула! Згулялі вяселле, і зажылі, трэба сказаць, шчасліва. Ганулял хоць і непрыгожая і з вяснушкамі, але мела матчын характар. Яна не дала сябе ў крыўду і хутка прыбрала да рук не толькі мужа і гаспадарку, але і самога свёкра. Той аж цешыўся з нявесткі, а з унукамі няньчыўся не горш сапраўднай нянькі.

— Ну зірні на майго малога, Васіль, ну зірні!—прасіла мяне Ганулял пасля прывітання.—Бачыш, які маладзец! І назвалі мы яго, як цябе, Васілём. Ну, Васілёк, ну, пасмейся дзядзьку! Эх ты, жулік! А гэта ўжо другі ў мяне,—прадаўжала яна.—Першага мы Змітром назвалі. Ён дома з дзедам застаўся.

Малы Васілёк сапраўды быў малайчына. Ён не засмяяўся, але заплакаў, аднак праз гэта не стаў горшы. Ганулял адразу сунула яго ў рукі Міхалу са словамі: «На, забаўляй», а сама імгненна апынулася каля печы.

Пакуль мы разважалі так, як маглі, з маўклівым дзядзькам і сарамлівым Міхалам, жанчыны ў мыцельніку рабілі сваю справу.

Дзядзька Кастусь сядзеў каля стала і шчасліва ўсміхаўся. Відаць было, што яму шмат аб чым хочацца сказаць, шмат пра што распытаць, але ён не ведаў, адкуль пачаць размову, ды і слоў у яго была абмежаваная колькасць.

Міхал трымаў на руках сына і нічым больш не цікавіўся. Ён быў вельмі задаволены, калі дзіцё пхала яму ў рот свой кулачок. Ён з замілаваннем цалаваў гэты кулачок і гойдаў дзіцё на руках.

— Дай яго мне, Міхал,—нарэшце прамовіў дзядзька Кастусь.

— Не, тата, ён у вас зараве...

Гэта былі першыя словы, якія я пачуў ад Міхала ў той вечар. Дзядзька Кастусь пакрыўдзіўся.

— Барані божа! Чаго-ж ён будзе раўці?

— Ён такі... абы ў чужыя рукі, дык раве, як вол.

Мой брат Сцёпа пазяхаў ад суму, але тут ажывіўся.

— Якія-ж чужыя? Дзедавы-ж! Хіба я яму не дзед? — сказаў дзядзька.

— Дзед то дзед, але...

Тут дзядзька Кастусь звярнуўся да мяне.

— А вырас ты, Васіль... ну вырас дый годзе... А я от... у мяне ўжо ўнукі... Дзед! Барані божа!

— Які ты дзед! — адазвалася з мыцельніку цётка Аўдоля. — Ні вусоў, ні барады, як чорт малады.

Смяяцца, вядома, было нельга, хоць было і смешна.

— Ідзі ты, Аўдоля... Я хоць не здзяцінеў яшчэ... а ты, як малая... Скора ў лялькі гуляць пачнеш.

Адказ удалы, нічога не скажаш, нават Сцёпа быў задаволены.

— Дык от, састарыўся я, Васіль... Паясніцу ломіць... Асабліва над бярвеннем гэтым... Цяжка... А бывала, мяне і чорт не браў...

— Вы яшчэ выглядаеце добра, дзядзька Костусь,— сказаў я.



— Дзе там добра... От сагнуся скора... Пажыў-бы ты ў нас, Васіль...

— Я не супраць, дзядзька Костусь. Застануся на некалькі дзён...

— Ото добра...— узрадаваўся дзядзька.—Ото добра!.. Чуеш, Аўдоля?

Можа-б і доўга ішла ў нас размова ў такім напрамку і выглядзе, каб на стале не з'явілася яешня, кілбаса, мёд, смажаная рыба, усё тое, што неабходна ва ўрачыстай бяседзе. А бяседа, безумоўна, была ўрачыстая. Пасля першай чаркі гутарка наша ажывілася. Міхал асмеліўся да таго, што пачаў распытваць мяне пра горад. Пасля першага запытання, я адразу ўспомніў Вайніловіча.

— Ну, як там у горадзе? — запытаў Міхал. — Ну от так — і бяседы бываюць, і вяселлі, і вечарынкі?

— Вядома.

— Ну, і гарэлку п'юць, і ўсё?

— І ўсё,— адказаў я.

Мой Сцёпа пацíху фыркнуў. Аднак Міхал не звярнуў на гэта ўвагі. Ён гаварыў па-стычынску, працяжна і ў нос.

— Ну і на стале таксама... і яешня, і рыба... Ну і мёд?

— Ды не!—ледзь стрымліваючы смех, адказаў за мяне Сцёпа.— У горадзе, швагер, апалонікаў ды жаб ядуць, а п'юць толькі алей... А на закуску конская нага.

Міхал вытарашчыў вочы.

— Як гэта нага?— здзівіўся ён.

— Звычайная конская нага! Бывае, што і з падковай. У каго зубы добрыя, то ўгрызе...

Усе зарагаталі. Мацней за ўсіх—дзядзька Кастусь.

— Ну, Сцёпа... У цябе і язык... як брытва!— з захапленнем сказаў ён.

— Дурны-ж ты, мой Міхалка, як бот, — выціраючы слёзы ад смеху, прамовіла Ганула.

— Чаму-ж... Я з шваграм пагаварыць хацеў... Пра горад і ўсё...

— Пачакай, Міхал... дай ты мне з Васілём... Ты лепш дай мне... Бо ты пра абы што... — настойліва прасіў дзядзька Кастусь.

— Олелечкі! А ты ўжо нешта разумнае скажаш! Вы з Міхалам абое рабое,— зазначыла цётка Аўдоля.

— Ну, ты, Аўдоля...—неяк асабліва па-стычынску абурыўся дзядзька.

Нарэшце мы вылезлі з-за стала. Ганула заспяшала дадому і пацягнула за сабой Міхала, якому вельмі хацелася пабыць з намі. Дзядзька Кастусь абапёрся локцямі на стол і пачаў задаваць мне пытанні.

— Ну дык што там чуваць на свеце? Вайніловіч вунь кажа: вайна скора... Усяму свету канцы будуць...

— Мабыць чакае вайны ваш Вайніловіч?

— А ліхоцце яго ведае... Можа і чакае... Ну, а як там у горадзе пра вайну? Таксама гавораць?

— Не, дзядзька, не гавораць.

— Не гавораць... Значыць Вайніловіч не з горада прывёз такую чутку. Недзе тут выкапаў... А ты, Васіль, пра калікціў, пра калікціў раскажы... Бо ў нас тут такое плявузгаюць...

— Напэўна Вайніловіч?

— Язык у яго спраўны...

— Што-ж ён гаворыць пра калектыў?

— Няхай яму зарве... Ён так кажа, што аж валасы дыбам.. Ён кажа, што і есці разам, з аднаго катла, як свінні з карыта... І спаць разам пад адной коўдрай... як свінні ў берлагу... Цясней, значыць... Так, кажа, у старыя часы людзі жылі, як голыя хадзілі... Камуна, значыць... Праўда ці не?

— Ды не, дзядзька. Гэта кулацкія выдумкі. Справа ў тым, што такім, як Вайніловіч, у калгасах месца не будзе.

— А яму і не трэба! У яго свая гаспадарка, барані божа!

— Не будзе ў яго сваёй гаспадаркі.

— Не будзе?! — здзівіўся дзядзька. — А дзе-ж яна дзенецца?

У гэты момант у хату ўляцеў Міхал без шапкі і з сіняком пад вокам.

— Лістападаўцы стычынцаў б'юць! — крыкнуў ён, як вар'ят.

Сцёпа ўжо быў на вуліцы. Я ўслед за ім ірвануўся з-за стала.

— Стрэльбу вазьмі, Васіль!—крыкнуў мне наўздагон дзядзька Кастусь. Я з нянавісцю бліснуў на яго вачыма. «Стары вярблюд!»— ледзь не вырвалася ў мяне.

Я рынуўся ў дзверы і паімчаўся з усёй сілы на пляцоўку для танцаў. Адтуль нёсся крык, лямант і іншыя нечалавечыя гукі, якія не паддаюцца апісанню. Насустрач мне беглі жанкі і дзяўчаты, а ззаду нехта даганяў гулкімі цяжкімі крокамі. Потым я спаткаў галоўнага музыканта. Сівы дзядок, ён трухам клыпаў па вуліцы, трымаючы ў адной руцэ расчынены футляр, у другой—скрыпку і смык. Няшчасны стары, мабыць, атрымаў

па карку, бо ўвесь час аглядаўся. Яго апярэдзіў барабаншчык з бубнам за плячамі. Ён скакаў, як заяц, а бубен грукаўся аб яго плечы і глуха стагнаў: ббум, ббум, ббум....

На пляцоўцы рабілася нешта незразумелае. Натоўп, як шматгаловае жывое стварэнне, кідаўся ва ўсе бакі, уздымаў рукі, сыпаў удары, роў, вішчаў і захлёбваўся ў звярынай злосці. Нельга было зразумець, хто каго б'е.

— Бі, хлопцы! У сківіцы! Бі хаму-улаў! — ламантаваў высокі пранозлівы голас Вайніловіча.

Я спрабаваў супакоіць гэты п'яны, азвярэлы натоўп, але мой голас тануў сярод ляманту і крыку. Толькі тады я заўважыў, што некалькі дзяўчат і жанчын трымаюць Надзю, а яна ірвецца і не можа вырвацца, і плача, і крычыць ад жалю і адчаю. Я хацеў падыйсці да яе, як раптам над самым маім вухам нібы разарвалася граната, і сноп агню пырснуў угару. Што стала з натоўпам! Ён рассыпаўся за адну хвіліну. Ваякі кінуліся ў прыбярэжныя кусты, у двары, у цёмныя куткі. У гэты момант я пачуў голас дзядзькі Кастуся.

— Я-ж табе казаў: бяры стрэльбу!

Ён стаяў поруч, дзіўны стычынец. На пляцоўцы засталося каля дзесятка лістападаўцаў. Сярод іх я ўбачыў Антося і Сяргея. Надзя кінулася да іх, за ёю і я.

— Хлопчыкі!.. Родныя!.. Вы жывыя!.. — яна абхапіла абодвух і бесперапынна паўтарала: — Хадзем... Хутчэй адсюль хадзем... Хутчэй, хлопчыкі...

— Нікуды мы не пойдзем, Надзя,— сказаў Антось, беражліва адхіляючы яе ад сябе.— Абмажашся. Яны мяне раскрывянілі. Але мы жывыя! І будзем жыць!

— Дай мне хустачку, Васіль, — папрасіў Сяргей. — Нехта нажом мне руку распароў.

— Нож быў у Вайніловіча, дзядзька! Доўгі такі! Я бачыў! — пачуўся голас хлапчука, які знаходзіўся недзе блізка, але баяўся паказацца.

— Гэта ты, Пятрусь?

— Я, дзядзька.

— То ідзі бліжэй, чаго там хаваешся! — гукнуў Сяргей і растлумачыў мне: — Сын тае рабое, помніш? Добры мы ім прыклад даем...

На пляцоўку пакрысе пачалі збірацца людзі. Прышлі самыя цікаўныя, жанчыны. Яны стаялі гуртам і гаварылі шэптам. Потым з'явіліся мужчыны. Яны стаялі асобна і маўчалі. Моладзі пакуль не было.

— Во, прышлі на вечарынку! — зазначыў нехта з лістападаўцаў, выціраючы на твары кроў і пот.

— І пагулялі ў шляхты! — дадаў другі.— Але біцца то яны не ўмеюць. Саміх сябе малацілі.

— Бо мы гуртам стаялі, адзін да аднаго, плячо к плячу,— растлумачыў Антось.— А нож, Сяргей, Вайніловіч не на цябе рыхтаваў, а на мяне. Ды не толькі нож! Тут і стрэльба была. Цікава, хто гэта страляў?

— Тут ты памыляешся, Антось,— сказаў я.— Страляў мудры стычынец, мой дзядзька, і не ў каго-небудзь, а проста ў неба.

Тымчасам па адным нясмела пачала з'яўляцца моладзь. Дзяўчаты абураліся ўголас, лаялі сваіх кавалераў, а тыя стаялі моўчкі, нібы набралі ў раты вады. Спалоханыя музыкі не з'явіліся зусім.

— Мы з табою, Васіль, хацелі пагаварыць,— сказаў Антось.— Пагаворым заўтра, а сёння ты і сам сёе-тое ўбачыў.

— Дамоў, хлопцы! Няхай шляхта адна гуляе! — гукнуў нехта з лістападаўцаў.

— Супакойся, Ракоп! — папярэдзіў яго Антось.— Нікуды мы адсюль не пойдзем. Дзе твой гармонік?

— У Сяргея.

— Схадзі, Сяргей, прынясі ракопаў гармонік. Або пашлі каго-небудзь. Вечарынка не скончылася!

Сяргей адышоў у бок, гукнуў Петрусю, і той паімчаўся па вуліцы, як на крыллях. Хутка ён вярнуўся з гармонікам у руках.

— Іграй, Ракоп!— загадаў Антось.— Весялей, хлопцы. Вечарынка толькі пачынаецца. Сяргей! На нагах яшчэ стаіш? Не забілі да смерці? Не трэба згінацца. Вось калі прыйшла пара даць месца твайму ферту! Дамо?

— Дамо, Антось!

— Каб ты нават сказаў, што не, то я не вярнуся са Стычын, пакуль твайму ферту рады не дам! Ты танцуеш, Васіль?

— Вядома.

— Бяры Надзю. Мне з Сяргеем памыцца трэба.

Хутка акрыляючая полька ірванулася з-пад ракопавых пальцаў і цудоўнымі пералівамі разнеслася ў начной цішы над растрывожанымі Стычынамі, над сонным бярозавым гаем, над зарэчнымі прасторнымі лугамі, залітымі халоднай расой.

— Ббум, ббум, ббум,— пачуў я стогны бубна ў самым канцы стычынскай вуліцы. Гэта барабаншчык, пачуўшы музыку, спяшаўся выконваць свае абавязкі.

Вечарынка прадаўжалася.

* * *

На гэтым я мог-бы скончыць свае ўспаміны. Мне толькі хочацца дадаць, што ў Стычынах мне давялося пабыць потым толькі праз дваццаць гадоў. Вядома, я іх не пазнаў. Ды гэта ўжо і былі не Стычыны, а калгас «Чырвоная зорка». У час вайны фашысты спалілі і Стычыны і Лістападаўку. Пасля вызвалення стычынцы і лістападаўцы выбралі новае месца і пабудаваліся разам. Антось Бойка — старшыня калгаса. У яго з Надзяй пяцёра дзяцей. Старэйшыя сыны партызанілі разам з бацькам. Сяргей працуе бухгалтарам у сваім калгасе. Ён на фронце страціў нагу. Павел Стычынскі служыць у арміі. Ён падпалкоўнік ужо. Ні Вайніловічаў ні Вячэры ў Стычынах няма.

Цётка Аўдоля памёрла за год да майго прыезду. Дзядзька Кастусь белы, як голуб, але ўсё яшчэ не сагнуўся. Ён жыве пры дочцы Ганулі...



Генадзі БУРАЎКІН

# КАСТРЫЧНІК



Над Нявой грымела «Аўрора»...
А у нас было ўсё прасцей:
Суха лязнулі ноччу затворы,
Факел бліснуў ля панскіх сцен.

Трэснуў стрэл у цішы халоднай,
Стаў на царскі партрэт абцас.
Палахліва святы угоднік
З чорнай сценкі глядзеў на нас.

Сэрцы бабак старых абміралі,
Калі гэтай-жа ноччу ўсе
Мы сваёю рукой адмяралі
З панскіх гоняў сабе пакрысе.

Сцяг гарэў над нашай гурбою,
Грэлі цвёрдыя пальцы куркі.
І ў сасонніку за гарою
Цела пана шукалі ваўкі...

А далёка ад нас на Зімні
Наступалі нашы браты,
Загаралася неба Украіны...
І займаўся дзень залаты.



Раман САБАЛЕНКА

# ПАД ЧЫРВОНЫМ СЦЯГАМ

### Апавяданне

Мал. І. Раманоўскага.

Усе ў Круплянах ведаюць Арцёма Швайку. Хоць чалавек ён і не гаваркі, аднак-жа яго любяць паслухаць і старыя і малыя. Чалавек пражыў такое жыццё, што яго і за дзень не перакажаш. Больш semідзесяці год жыве на свеце Арцём. Вунь ён ідзе па круплянскай вуліцы. Шырокі ў плячах, мажны, і калі ступае па зямлі, дык яна, здаецца, крышку ўгінаецца пад ім. Чалавек моцнай касці, мужнага цела, жалезнага характару, ён як-бы рукой адмахваецца ад старасці, кажучы ёй: «Ты пачакай яшчэ, мне багата чаго трэба зрабіць, мне яшчэ трэба пакрасавацца на свеце». І гэта сапраўды так. Арцёму багата чаго трэба на свеце.

Некалькі дзён таму назад у раённым цэнтры на дошцы аб'яў дома культуры, у райкоме камсамола на вялікіх белых аркушах паперы было напісана аб тым, што ў нядзелю адбудзецца сустрэча моладзі з былым чырвонагвардзейцам Арцёмам Швайкам. Арцём глядзіць на гэтую абвестку, і яму робіцца крышку страшнавата, што гэта ён там будзе казаць, аднак-жа недзе ў глыбіні душы гарыць і агеньчык радасці: гэта-ж яму, былому спрадвечнаму парабку, такая павага, такі гонар.

Усе гэтыя дні не было спакою Арцёму. Ён думаў, перадумваў, перабіраў у памяці пражытае жыццё. Яно яму здавалася звычайным, нават трошкі будзённым. Але-ж чаго ім цікавяцца людзі? Можа яно не зусім звычайнае, мо' вартае таго, каб быць прыкладам?

Арцём просіць нявестку (старое яго даўно ўжо няма на свеце, фашысты яе жыўцом спалілі; сына Макара таксама няма — ён загінуў на фронце ў часе Вялікай Айчыннай вайны, і цяпер Арцём дажывае веку з нявесткай і двума ўнукамі):

— Мар'я, ты мне дай апрануць што-небудзь спраўнейшае.

— Мо' ты ў сваты надумаўся, тата? — жартуе нявестка.

— Важней, чым у сваты,— адказвае стары.— Хіба ты не чула, што камсамольцы мяне просяць, каб я ім расказаў пра сваё жыццё.

— Дык што вы будзеце расказваць? Хіба вы які агітатар? — з любасцю пытае Мар'я.

— Бачыш, на старасці год у агітатары падаўся,— усміхаецца Арцём, аж торгаюцца расчасаныя з гэтага выпадку сівыя, пушыстыя вусы.

Мар'я адчыняе скрыню, якая стаіць у кутку хаты, і дастае арцёмаў святочны гарнітур, на якім прымацаваны ордэн Чырвонага Сцяга і медаль «Партызану Айчыннай вайны». Арцём апранае гарнітур, глядзіцца ў люстэрка, натапырвае яшчэ больш вусы. Нявестка збоку глядзіць на старога і радасна ўсміхаецца. Яна любіць свёкра сапраўды дочкынай любоўю. Бо, каб мо' не ён, дык ці жывая была-б яна з дзецьмі. Перад тым, як немцы рабілі аблаву ў Круплянах, свёкар прышоў з лесу і забраў яе з малымі. Старая не захацела ісці, пабаялася кінуць гаспадарку. Гэтак і загінула. Праз усе гэтыя гады, пакуль выраслі дзеці, Арцём быў ёй за роднага бацьку, а дзецям — самым клапатлівым дзедам. Мар'я нават баіцца падумаць, што калі-небудзь не стане на свеце гэтага ёй самага роднага чалавека. Таму яна стараецца заўсёды ўгаворваць яго, каб ён цяжка не рабіў, не ўдаваўся ў вельмі вялікі клопат. Не-не, дый скажа яна старому:

— Вы-б, тата, пасядзелі дома, адпачылі-б. Хіба нам больш за ўсіх трэба? Хопіць і таго, што я зараблю.

— Я табе от што скажу, маладзіца. Нядошлы той чалавек, які баіцца работы. Ад яе людзі не старэюць, а маладзеюць, а я яшчэ хачу пакрасавацца на свеце,— адкажа Арцём і пойдзе з касою ці з сякераю. Гэтак за дзень напрацуецца, што дзве нормы выганіць, а ўвечары прыдзе стомлены і абавязкова скажа нявестцы:

— Я, маладзічка, не прывык на ласкавым хлебе сядзець. Ад яго, кажуць, зубы вывальваюцца, а я хачу сваімі зубамі свой хлеб есці.

Мар'я з ахвотай прыбірала старога. Ёй і самой хацелася паслухаць, што ён там будзе гаварыць. Толькі от няёмка быць ёй у кампаніі з моладдзю. Яна-ж не маладзёнка якая. Свае дзеці камсамольцамі пасталі.

— Вы-б калі, тата, і дома расказалі,— просіць Мар'я.

— Ат, што там расказваць, ты-ж усё ведаеш.

— Нічога не ведаю, і дзеці не ведаюць.

Тым часам пачуўся лёгкі стук у шыбу вулічнага акна, і стары пазнаў вацікаў голас:

— Дзеду Арцём, не баўцеся доўга. Мы ўжо ўсе сабраліся.

Сакратар райкома камсамола Вацік Каленік і надумаў правесці гэтую сустрэчу са старым, таму і непакоіўся.

Перад тым, як выйсці з хаты, Арцём чагосьці бавіўся, нібы ён нешта забыў, нечага нехапала. А Арцёму і сапраўды нехапала. Таму ён і папрасіў Мар'ю:

— Ты дастань там у скрыні.

— Што дастаць, тата?

— Хіба ты не ведаеш што — самае дарагое маё.

Мар'я пакапалася на дне скрыні між сувояў палатна, дастала нешта загорнутае ў белы паркаль і падала старому. Ён узяў пад паху і выйшаў на вуліцу.

Вечарэла. Сіняватыя змрокі слаліся па зямлі, засцілаючы далягляд. У паветры стаяла тая перадасенняя сцішнасць цёплага вечара, калі толькі ласкава і санліва шапоча на дрэвах лісце, а ад зямлі, нагрэтай за дзень шчодрым сонцам, падымаецца парнасць і як-бы ўсяго цябе агортвае мяккай гаючай цеплынёй.

Вацік стаяў ля брамкі двара, чакаючы Арцёма.

— Куды мы пойдзем? — спытаў Арцём.

— У дом культуры, там ужо сабраліся.

— Дзівак ты, хто-ж гэта ў клубе ўседзіць такім вечарам. Ідзі, заві ўсіх на луг да рэчкі.

Вацiку не прышло ў галаву, што сапраўды няма чаго парыцца ў клубе. Ён прывык праводзіць усё ў доме культуры, сядзець за сталом з чырвоным абрусам, гэта як-бы значней і салідней. А тут на табе — дзед Арцём заве на рэчку... Мусіць, старому ўспомніліся колішнія начлегі — з вогнішчамі, з казкамі.

— Вы пачакайце, дзеду, а я збегаю ды пазаву,— з ахвотай згадзіўся на прапанову старога Вацік.

— Ідзі, а я памалу патупаю пад стары дуб.

Арцём выйшаў на сцяжынку, якая віецца між альшэўніку, што падступае да самых круплянскіх хат. Змярканне нібы сцелецца пад ногі. Далягляд пасінеў, адно ў далечыні, як жывое срэбра, пераліваецца рэчка. Яна тут робіць вялікую вілюжыну, як-бы хочучы ўцячы ад людзей. У гэтай вілюжыне расце вунь якая трава — з падсадай дзятлоўніку, не тое, што там за рэчкай — адзін сівец. Старому ўспомнілася, як усе гады круплянцы судзіліся з панам за гэты поплаў. Ён сам колькі разоў ездзіў упаўнаважаным ад грамады па судах. Але гэтак і не адсудзілі да самага трыццаць дзевятага года. Цяпер сэрца старога радуецца: не толькі сенажаць, але і панскае поле за рэчкай і на гэты бок адышло круплянскаму калгасу. Калі Арцём пра гэта думае, добра робіцца на душы, хоць гэта і не ён зрабіў, не ён дабіўся, хоць гэта ўсё дала сялянам савецкая ўлада. Але ўсё-ж і яго часцінка тут ёсць, бо каб мо' ён тады не быў у Петраградзе ды не ўступіўся за бальшэвікоў, ды каб не сотні, тысячы такіх, як ён, дык, хто яго ведае, як яно цяпер было-б. Можа і цяпер марнелі-б пад польскімі панамі. А так от-жа і сюды, на заходнюю зямлю, прыйшоў Кастрычнік, хоць і пазней больш як на дваццаць год.

Арцём ішоў і думаў сабе пра ўсё гэта. Дайшоў да дуба, што рос непадалёк ад рэчкі, спыніўся. Хуценька назбіраў ламачча і расклаў цяпельца, акурат гэтак, як калісьці ў маладосці на начлезе. Кволы агеньчык трапятаўся чырвоным полымем, як жывы. Арцём разгарнуў паркаль, дастаў з яго зліпялы, прабіты куляй, заплямлены крывёй чырвоны сцяг і павесіў яго на галіну дуба. Стары прысеў на пяньчук, закурыў і соладка зацягнуўся дымам. Ён думаў, пра што расказаць комсамольцам. Ціхі пошум дрэў лунаў над наваколлем, ды рэчка шапатліва пляскалася аб бераг, як-бы хочучы даць знаць, што яна жывая. Аднак і пад гэты ласкавы вячэрні пошум лісця і плёскат рачных хваль чалавек нічога не мог надумацца... У галаве ўсё перамяшалася, і толькі асобныя карціны, эпізоды вымалёўваліся ў памяці. Нават, калі комсамольцы абступілі вогнішча, каторыя паселі, а каторыя палеглі ў траве, падрыхтаваўшыся слухаць Арцёма, ён і тады не ведаў яшчэ, што будзе казаць.

— Пачынайце, дзед Арцём, мы вас слухаем,— гэтак даў слова старому Вацік.

Замест таго, каб гаварыць што слушнае, Арцём зусім недарэчы сказаў:

— Пагрэйцеся, сакаляты, каля цяпельца. Я калісь вельмі любіў пасядзець увечары каля агню, ды от і вас сюды прывёў.

Вацік трывожыўся. Яму здавалася, што дзед Арцём гэтак нічога і не ўспомніць, нічога цікавага не раскажа, і тое, да чаго ён гэтак

рыхтаваўся, сарвецца. А стары тым часам яшчэ падмацаваў вацікаву трывогу.

— Не ведаю, галубы мае, што мне вам і казаць. Гэтулькі перажыта, гэтулькі перабачана, што ў галаве ўсё намітусь пайшло.

— Што гэта за сцяг вы павесілі, дзеду? — спытала дзяўчына.

— Гэта доўгая гаворка, мая ўнучка,— зірнуўшы на сцяг, сказаў дзед Арцём. У галаве яго нібы ўсё праяснілася і ён сказаў: — Дык слухайце, дзеці мае. Я вам раскажу пра аднаго асілка...

Комсамольцы раз-по-раз падкладвалі ламачча на агонь, яно патрэсквала і свяціла ў цемрадзі вечара, як паходня..

* * *

Высокі афіцэр у залатых пагонах штабс-капітана ўзлез на тумбу, якая нямаведама як апынулася пасярод Дварцовай плошчы. Ён крычаў, размахваў рукамі, нібы хацеў сарвацца з гэтае тумбы і паляцець. Добра чуў афіцэравы словы радавы, самы высокі па росту салдат. За гэты рост яго заўсёды ставілі наперадзе — ці ў паходзе, ці нават у баі. За ўсе гады службы ў імператарскім гвардзейскім палку ён быў бадай самым дысцыплінаваным. Яго ні разу не ставілі пад ружжо, ніводзін афіцэр не з'ездзіў па патыліцы за якую салдацкую правінку. А сёння штабс-капітану вунь як патрэбны былі паслухмяныя, верныя салдаты. Гвардзейскі полк па загаду стаўкі знялі з Заходняга фронта і спехам перакінулі ў сталіцу. Перад тым як пагрузіць у эшалон полк, невядома куды зніклі члены палкавога салдацкага камітэта. Мусіць, яны некаму заміналі, дык іх і прыбралі ціхенька. Ніхто не ведаў, навошта прывезлі салдат у сталіцу, і толькі, як пачаў гаварыць з тумбы штабс-капітан, можна было зразумець, чаму апынуўся гвардзейскі полк на вуліцах Петраграда.

—Салдаты, браты, таварышы! Вы прысягнулі на вернасць Часоваму ўраду. У вашых руках сіла, якая адна толькі здольна скрышыць не толькі ворагаў замежных — немцаў, але і ўнутраных супастатаў — большэвікоў. Расія ў небяспецы, на вас толькі і надзея, верныя сыны айчыны! — закаціўшы пад лоб вочы, ашалела крычаў афіцэр.— Вам давядзецца прыняць бой не на фронце, а тут, у сталіцы, дык не думайце, што вы будзеце страляць у сваіх братоў. Вашы кулі будуць забіваць супастатаў, здраднікаў-большэвікоў. Дык няхай не здрыганецца ваша рука, цэлячыся ў самае сэрца супастата.

Салдатава сэрца білася гэтак, што, здавалася, вось-вось выскачыць з грудзей. Думка нібы абпякла мозг. Ён сіліўся зразумець, што тут дзеецца. Не паспеў ён адумацца, як з бакавой вуліцы, быццам полымя, шугануў чырвоны сцяг. Ён, здаецца, ляцеў на крыллях, як вялізны вогнены птах. Людзей спачатку не відаць было, толькі чуўся бязладны тупат ног. Нямоўчныя крыкі даляталі да салдатавых вушэй:

— Салдаты! Не страляйце ў нас. Вы нашы браты па класу, па мазалю. Вас ашукваюць буржуі, тыя, хто хоча і надалей сядзець на вашым карку, хто хоча набіваць свае кішэні за кошт вашай працы. Не верце ім, салдаты. Далоў буржуазію. Няхай жыве ўлада працоўных! Уся ўлада Советам! — нямоўчна грымела над Дварцовай плошчай.

На момант афіцэрава каманда перасіліла ўсё:

— Агонь па бунтаўшчыках! Агонь па супастатах!

Салдат не ведаў, каго слухаць. Ягоныя рукі неяк аўтаматычна ўскінулі вінтоўку, і ён стрэліў. Стрэліў, праўда, не ў тых, што беглі па

плошчы, а паверх галоў. Адзінокі вінтовачны стрэл аддаўся, як выбух снарада, і на момант аглушыў салдата. Рукі механічна зноў перазарадзілі вінтоўку. Адно пальцу трэба было націснуць на спускавы кручок і ўжо страліць не паверх галоў, а ва ўпор у таго, хто са сцягам бег проста на салдата. Можа-б палец і націснуў на кручок, калі-б сусед не крыкнуў:

— Што ты робіш, дурны, у каго страляеш?

Салдат апамятаўся, нібы адразу з яго вачэй спаў туман. Ён убачыў, як чалавек у матроскай форме падбег да тумбы і на ўсю сілу выцяў яе нагой. Яна паваліліся і штабс-капітан наўзніч бразнуўся на зямлю. А той, хто нёс сцяг, пераскочыўшы цераз тумбу і цераз афіцэра, наўпрасткі бег да салдат і крычаў:

— Салдаты, браты нашы родныя, не страляйце ў сваю будучыню. Станавіцеся пад гэты чырвоны сцяг, разам будзем змагацца за зямлю, за волю народную.

Высокі салдат апусціў вінтоўку і пільна глядзеў на капітана, нібы чакаючы, што той загадае. Ён бачыў, як той, апрытомнеўшы ад удару, расшпільваў кабуру, вымаў рэвальвер і цэліўся ў спіну чалавеку, які бег са сцягам.

Салдат зноў, амаль механічна, ускінуў вінтоўку. Пачуліся два стрэлы: адзін рэвальверны, другі — вінтовачны. Высока ўзмахнуўся над галовамі тых, што беглі, сцяг і павольна ўпаў на тарцовую маставую плошчы. Гэта ад першага стрэлу, а ад другога — падламіўшы назад ногі, упаў дагары штабс-капітан. З грудзей яго цурчэла кроў. Салдатаў стрэл быў трапны. Не паспеў салдат апамятацца ад таго, што тут адбылося, як да яго падбег другі матрос і схапіў у моцныя абдымкі.

— Ты наш, брацішка! — Матрос горача дыхнуў салдату ў твар і пацалаваў, як роднага брата.— Вазьмі вунь той сцяг, што ляжыць на плошчы, і нясі яго да самай перамогі.

Салдат падбег, узяў шурпатае дрэўка сцяга. Ён не ведаў, што з ім рабіць. З момант ён стаяў у нерашучасці. Раптам з людскіх грудзей, як магутны падземны выбух, вырвалася песня:

Смело, товарищи, в ногу,
Духом окрепнем в борьбе.
В царство свободы дорогу
Грудью проложим себе!

Салдат таксама ўпершыню ў жыцці заспяваў гэтую песню. Яна клікала яго, і ён узняў высока над галавой чырвоны сцяг, пайшоў уперадзе. Салдат бачыў, як пад ударамі рабочых, матросаў і салдат падалі юнкеры і афіцэры.

Пад вечар усё ўціхамірылася. Толькі недзе на водшыбе ў завулках чуліся рэдкія стрэлы... Ля Смольнага стаялі напагатове кулямёты, пільна неслі варту байцы рэволюцыі. Калі салдат апынуўся ў калідоры Смольнага, да яго падышоў усё той-жа матрос.

— Бачу, брацішка, што на цябе можна паспадзявацца. Стань ля гэтых дзвярэй на варту.

— Слухаю! — адказаў салдат. — А каму мне сцяг перадаць? — спытаў ён.

— Няхай будзе ў цябе. Здымі з дрэўка!

— Слухаю!

Салдат згарнуў сцяг і заткнуў пад шынель на самых грудзях.

Калідор Смольнага доўгі. Вунь колькі абапал дзвярэй. А яму, салдату, загадана пільнаваць толькі адны гэтыя. Што там за імі? Праз шчылінкі салдат бачыў, што ў пакоі гарыць святло. Стомленасць, дзённая ўзрушанасць давала сябе знаць. Хацелася спаць, аж вочы мімаволі самі зліпаліся. Па доўгім калідоры ляжаць упокат рабочыя, матросы, тыя, што ўдзень ішлі на юнкераў. Каторыя з іх храпуць. Ад гэтага храпу, ад таго, што ён бачыць, як усе спяць, да яго сляпіцай чэпіцца сон. Раз-по-раз ён працірае вочы. Сюд-туд ходзіць ля дзвярэй. Яму-ж на пасту нельга і на волас заснуць. Чулае салдатава вуха ўлавіла, што і за дзвярыма нехта адмервае крокі. Значыць, і там не спяць, хоць на дворы цёмная, глухая асенняя ноч. А чаму-ж там нехта не спіць? Хіба яму больш за ўсіх трэба?

Пад самую раніцу, калі праз вокны пачало прабівацца цмянае святло асенняга світання, ціхенька рыпнулі дзверы, і на калідор выйшаў чалавек. Ён быў у цёмным з аксамітавым каўняром незашпіленым паліто, у кепцы, крышку насунутай на вочы. Адразу можна было заўважыць, што чалавек вельмі рухавы, энергічны, хоць і стомлены. Ён зірнуў на салдата, і па твары прабегла лагодная ўсмешка. Салдат не паспеў агледзецца, як чалавек працягнуў яму руку:

— Добрай раніцы, таварыш.

Салдат не ведаў, што рабіць: вартавому нельга вітацца за руку. А перад ім была працягнутая рука і ўсмешка, як зазыўны агеньчык, іскрылася ў вачах чалавека. Салдат ужо не мог стрываць. Пераклаўшы вінтоўку ў левую руку, ён узяў пад казырок:

— Здравія жадаем, таварыш!

— Стаміліся, відаць?

— Так точна!

— Вымуштравалі за вайну... Здорава вымуштравалі.

— Так точна! — амаль механічна выпаліў салдат.

— Адкуль будзеце самі? — запытаў чалавек.

— З Беларусі.

— З беднага краю,— і чалавек на момант задумаўся.— Але нічога. Перамажа рэвалюцыя, тады і ваш край пабагацее... Абавязкова пабагацее...— У словах чалавека адчувалася такая ўпэўненасць, што салдат ужо нібы бачыў свае Крупляны ў цвеце багацця.

Чалавек зірнуў на салдата і толькі мабыць цяпер заўважыў, што з пад крыса шыняля вытыркаўся ражок чырвонай матэрыі.

— А што гэта ў вас такое? — спытаў ён.

— Гэта сцяг.

— Пакажыце, пакажыце.

Салдат дастаў з-пад крыса чырвоны сцяг, разгарнуў перад вачыма чалавека. У ім віднеліся тры дзірачкі, відаць, прабітыя кулямі.

— Гэта рабочы нёс яго. Штабс-капітан стрэліў у рабочага. Ён упаў і сцяг выраніў. Потым нёс яго я.

Замілаванасць, гонар адлюстраваліся ў вачах чалавека. Салдат гэта заўважыў і адчуў нешта такое, што радніла яго з гэтым незнаёмым, але ўжо блізкім таварышам.

— Дык нясіце гэты сцяг. Далёка нясіце, па ўсім свеце. Пройдзе час і пад ім лёгка будзе жыць працоўным людзям. Нясіце, таварыш,— сказаў гэтак чалавек і падаў на развітанне салдату руку.— Прабачце, што я доўга затрымаў вас ля сваіх дзвярэй, цяпер можаце ісці адпачываць.

Салдат не ведаў ці ісці ці не ісці з паста. Гэта-ж чалавек цывільны і

ці можа ён камандаваць салдатам. Ды і хто ён за такі? Вартавы вырашыў дачакацца матроса, які яго тут паставіў.

Неўзабаве прыбег узрушаны, радасны матрос. Яшчэ здалёк ён крыкнуў салдату:

— Наша ўзяло, таварыш. Рэвалюцыя перамагла. Усіх юнкераў пазаганялі ў норы, а калі каторы высуне галаву, адсячэм. — І ўжо без пафасу спытаў:— Ну, як табе тут стаялася?

— Стаялася добра, зацішна. Але каго я вартаваў, не ведаю.

— Дзівак чалавек. У гэтым пакоі ўсю ноч працаваў Ленін.

— Ленін? Не можа быць. Няпраўду ты кажаш,— здзівіўся салдат.— Ленін-жа, мусіць, не такі. Ён-жа, відаць, як асілак. А гэты-ж звычайны чалавек. Нават са мной за руку павітаўся.

— У тым і сіла, што ён звычайны. Але вось справы незвычайныя робіць... Усім царам і буржуям па баку хоча даць, каб нам, простым людзям, добра на свеце жылося. Сёння, брацішка, рэволюцыя адбылася, а гэта-ж усё ён кіраваў.

Салдат глядзеў на матроса і не зусім разумеў яго ўзрушанасць. А матрос доўга і шчыра тлумачыў салдату, што значыць рэволюцыя, што яна дасць працоўнаму люду...

... — Дык вось як яно, дзеткі мае, было тады,— падкладаючы сушняк у агонь, які ледзь ліпеў, бо на яго ўсе забыліся,— казаў Арцём Швайка.

— А хто-ж той салдат быў? — з нецярплівасцю пыталі комсамольцы.

— Хто той салдат? — перапытаў Арцём і ўсміхнуўся ў пушыстыя сівыя вусы.— Хто той салдат, хочаце ведаць?

— Хочам! — амаль хорам адказалі юнакі і дзяўчаты.

— Тым салдатам быў я!

У вачах хлопцаў і дзяўчат Арцём Швайка нібы адразу зрабіўся другім чалавекам. Яны дапытліва на яго глядзелі, як-бы хочучы запомніць назаўсёды ягоныя рысы.

— Дык гэта, значыцца, вы з Леніным за руку віталіся?

— Так, я,— Арцём зірнуў на правую далонь сваёй старэчай, але яшчэ моцнай рукі, нібы там застаўся след таго даўняга поціску.

— А вунь і сцяг той вісіць... Гэта той самы сцяг. Бачыце, тры дзірачкі ўнізе, яны прабіты яшчэ тады, у Петраградзе... На Дварцовай плошчы...

— А вунь-жа яшчэ вышэй відаць дзіркі...

— Гэты сцяг, дзеткі, пабачыў на сваім вяку...

Арцём расказваў комсамольцам, як пад гэтым самым сцягам ён ваяваў з Пятлюрам, з Юдзенічам, з белапалякамі, як ён вярнуўся ў Крупляны пасля сканчэння грамадзянскай вайны. За пазухай прынёс гэты чырвоны сцяг у родную хату. Тут гаспадарылі белапольскія акупанты. Яны, як агню, баяліся чырвонага сцяга...

— А вунь угары яшчэ колькі прабоін,— тлумачыў далей дзед Арцём.— То ў трыццаць пятым годзе мы пад гэтым сцягам наладзілі ў Круплянах першамайскую дэманстрацыю. Паліцыя страляніну адкрыла. Мяне тады ў астрог аж на пяць год запраторылі, а сцяг ухавалі добрыя людзі.

Арцём расказваў комсамольцам, як у верасні 1939 года ён разам з круплянцамі выйшаў пад гэтым сцягам сустракаць воінаў-вызваліцеляў.

Ён тады расказваў совецкім танкістам гісторыю гэтага сцяга, і яны на прамілы бог прасілі, каб стары аддаў ім сцяг. Аднак ён сказаў танкістам:

— Няхай яшчэ пабудзе са мной. Яшчэ-ж не скончана барацьба. Я яго дваццаць год хаваў, як знак Вялікага Кастрычніка. Дык няхай ён будзе развявацца над намі і знакам свабоды. Няхай ён кліча нас на новае, шчаслівае жыццё.

* * *

Ноч ужо даўно запанавала на прасторы. Квола пабліскваў пад дубам агеньчык комсамольскага кастра. Усе, хто сядзеў ля яго, нібы забыліся, што трэба спаць. А Арцём усё гаварыў і гаварыў. Здавалася, канца не будзе яго апавяданню... Нарэшце, стары ўстаў, падышоў да дуба, зняў з галіны сцяг, і ён пайшоў па руках. Кожны хацеў патрымаць у руках свяшчэнную рэліквію Кастрычніка. Арцём акінуў позіркам комсамольцаў і сказаў, перадаючы сцяг сакратару райкома комсамола:

— Я ўжо чалавек стары і хачу перадаць вам гэты сцяг. Вазьміце яго, дзеткі мае, і нясіце з гонарам уперад, да яшчэ большага чалавечага шчасця. А цяпер дабранач, дадому пара.

Усім гуртам комсамольцы пайшлі ў напрамку круплянскай вуліцы. Арцём толькі цяпер заўважыў, што сярод тых, хто яго слухаў, была і ягоная нявестка Мар'я з унукамі.

Пасля таго вечара, хто ні заходзіў у райком, поруч з шаўковым сцягам раённай комсамольскай арганізацыі бачыў старэнькае, выцвілае чырвонае палотнішча на арэшкавым дрэўку... Яно стаіць на самым покуце, поруч з партрэтам Леніна... Пад гэтым старым, прабітым кулямі сцягам круплянскія комсамольцы выйдуць на дэманстрацыю ў гонар саракагоддзя Вялікага Кастрычніка.





Мікола ГАМОЛКА

# ЦЫТАДЭЛЬ НЕБА

## Навукова-фантастычны раман

Мал. П. Калініна.

Роб зрабіў перабежку. Ён імчаўся, як сапраўдны бягун на алімпійскіх гульнях. А што, калі ўключыць яшчэ рэактыўны маторчык? Газавы паток штурхнуў Роба ў спіну і падкінуў высока ўгару. З заміраючым сэрцам Роб ляцеў над безжыццёвай, панурай далінай. Уперадзе з-за гарызонту высунуўся аграмадны горны хрыбет. Чорныя глыбы каменняў у выглядзе пірамід, вежаў, завостраных пікаў... Страшна... Здаецца, вось-вось разаб'ецца аб першую вострую скалу.

Які вузкі круг небасхілу! Здаецца, працягні руку — і ён перад табой. Дзе-ж Поль, чаму яго нідзе не відаць? А можа, ён разбіўся аб які-небудзь горны хрыбет?

— Містэр Арноль! Містэр Арноль! Вы чуеце мяне? Я зрабіў пасадку. Перадавайце, дзе вы,— загаварыў у мікрафон Роб.

Ён апусціўся каля глыбокага яру. Далей пачыналася горная мясцовасць.

Адказу ад Поля не было. Роб падумаў: «Ну вось... А сабраліся разам паміраць...»

Раптам у навушніках нешта зашумела. Да слыху даляцеў невыразны шэпт.

— Героі «Анаконды»... Тэлеграму... Вы жывыя?..

Вочы Роба загарэліся. Гаварыла Зямля! Яна пасылала трывожнае запытанне ў змрочную глыбіню космаса, патрабавала адказу. Яшчэ некалькі слоў, незабыўных і апошніх. Гаварылі людзі, яны хваляваліся, пакутавалі ад невядомасці.

Потым далёкія галасы прапалі і ў навушніках зноў запанавала цяжкая, журботная цішыня.

Вось і ўсё! Ён, Роб, больш не пачуе людскіх галасоў! Зямля развіталася з ім.

Адчай агарнуў сэрца. Ён тут памрэ. І яго цела будзе ляжаць вечна. Калі-небудзь прыляцяць сюды людзі, даведаюцца аб вялікай загадкавай трагедыі.

---

Пачатак глядзі ў №№ 8 і 9.

— Зямля! Радзіма! Людзі! Не забудзьце мяне! — прамовіў ён.

Ці маглі яго пачуць там, на бледназеленаватым дыску, які называўся Зямлёй? Вядома, не, бо вельмі-ж была мізэрнай сіла электрамагнітных хваль яго перадатчыка.

Стомлены былі розум і цела. А Сонца палыхала агнём. Толькі чорны і цяжкі быў купал неба. Яго надвое падзяліла вялікая светлая сцяжынка Млечнага шляху. Ярка і непаўторна прыгожа свяціліся Марс і Юпітэр.

Сон закрыў вочы. Прыгрэты сонцам, Роб зусім па-зямному соладка захроп.

* * *

Абуджэнне было нечаканым і непрыемным. Усё цела скаваў холад. Расплюшчыўшы вочы, Роб нямала здзівіўся. Вакол панаваў зеленаваты змрок. Зіхацелі буйныя зоры. Краявід мясцовасці здаваўся спісаным з нейкай рамантычнай, казачнай карціны — зламаная лінія далёкага небасхілу, чорныя правалы цяснін, нагрувашчанае каменне,— і ўсё гэта асветлена пяшчотнымі промнямі скупога дзівоснага святла.

Цяпер Зямля не была нейкім прыдаткам неба, яна свяціла ярка і роўна. Усё было навокал поўна таямнічасці, трывожнай неразгаданасці.

Зямля! Ты свеціш, нібы стаўшы на ганаровую вахту перад сваімі пасланцамі, асуджанымі на смерць.

Хацелася есці. Роб знайшоў ротам эластычную гумавую трубку і некалькі хвілін смактаў. Каб пазбавіцца холаду, ён уключыў атамны награвальнік.

А цяпер — у дарогу! Трэба шукаць Сонца. Дзе яно, у якім баку? Вунь ярка палымнее нейкая прадаўгаватая зорка. Ды гэта-ж вяршыня высокай гары! Так яно і ёсць. Зорка з кожнай хвілінай памяншаецца ў памерах, а потым зусім тухне.

Напрамак вядомы. Роб на дзіва лёгка падхопліваецца з месца і, зрабіўшы разбег, уключае рэактыўны рухавік. І адразу ў фантастычным асвятленні ажыло, заварушылася наваколле. Роб да болю ў вачах углядаецца ў далячынь. Тут трэба быць пільным: ледзь не дагледзіш — і ўспамінай, як звалі. Усё далей адсоўваюцца панурыя шчыліны, цясніны, скалістыя кручы.

І вось на небасхіле зноў запалілася далёкая прадаўгаватая зорка. Роб даганяў яе! Праз некалькі хвілін на чорным аксаміце неба палалі пірамідальныя пікі і ўжо яскрава ўгадваліся пад імі абрысы гор.

Сонца... Яскравае і гарачае... Зноў яно глядзіць Робу ў твар, палае на нізкім небасхіле.

Непадалёку цясніна, крутая, стромкая. Роб наблізіўся да яе, пачаў пільна разглядаць, і ў яго моцна закружылася галава. Ён пахіснуўся і ледзь не зваліўся ў чорнае бяздонне. Добра, што побач тырчэў нейкі каменны слуп. Ён абхапіў яго рукамі і зняможана асунуўся на шэрую пустэльню.

Яго сэрца білася дробна і трывожна. З кожнай хвілінай цяжэй і цяжэй дыхаць. Нехапала паветра. Манометр паветранага балончыка паказваў ужо зусім мізэрны ціск.

Даволі падарожнічаць табе, Роб, па Месяцу, разглядваць панурыя кратэры, лётаць над імі імклівай фантастычнай птушкай. Вельмі-ж

мала ў цябе засталося часу, каб ты мог любавацца гэтай каменнай застыглай пустыняй. Трэба падумаць аб сваёй апошняй хвіліне.

У галаве мільганула лянівая, але яшчэ даволі яркая думка: «Можа дзе-небудзь непадалёку Поль? Трэба з ім развітацца».

— Містэр Поль! Капітан «Анаконды»! Ці чуеце вы мяне?

Няўжо гэта і прыходзіць смерць — без болю і пакут? Цела агортвае салодкая, млявая стома...

— Бывай, капітан! Мы сустрэнемся з табой у іншым свеце... Амін!

Роб выпраставаў ногі, і яны абсунуліся ў чорны правал цясніны. Не, так нязручна паміраць. Трэба выцягнуць ногі ў напрамку Сонца, глядзець на яго, покуль не пагасне зрок.

Роб зрабіў невялікае намаганне і адсунуўся ад жахлівага каменнага правалу. Калі ён павярнуў галаву ў бок, яму здалося, што непадалёку стаіць нейкая сіняватая імгла. Праз яе, як праз фіранку, удалечыні ззяла скарэжаная пустыня з беспарадкава раскіданых скал і каменных глыбаў.

Што за праява? Няўжо гэта зрок засцілае ліпкі, перадсмяротны туман? Не, быць не можа! Смялей паглядзі, Роб, наперад. Ты павінен усё ўбачыць, аб усім здагадацца.

У галаве праз нудны, надакучлівы звон бліснулі жывыя думкі. Вочы Роба раптам ажылі, засвяціліся надзеяй. Які ён нездагадлівы! Ды гэта-ж, мабыць, дым ад «Анаконды». Яна павінна быць тут, зусім недалёка.

Роб зрабіў намаганне і ўстаў на ногі. Над вострабокімі скаламі па-ранейшаму пераліваласЯ сіняватае мігценне. Хоць дрыжалі ногі, перасохла ў горле, няшчаснаму падарожніку вельмі моцна захацелася ўбачыць месца, дзе знайшла сваю пагібель «Анаконда». Ён падскочыў і высока ўзляцеў угару. Потым яго сілу, намаганне мускулаў замяніў газавы струмень маторчыка. Роб зноў ляцеў над Месяцам.

Вось высокі вал нейкай невялікай скалы... Падножжа яе плоскае, роўнае, быццам залітае чорнай смалой. А вунь пакручастая неглыбокая шчыліна, якая нагадвае сабой высахлае рэчышча. Ці была калі-небудзь тут вада? Мабыць, ніколі. А колькі яе там, на Зямлі!

Сэрца білася ад узбуджэння часта і гулка. Яго ўдары Роб адчуваў не толькі ля віскоў, але і ў руках і нагах. Ліпкі, гарачы пот раз'ядаў цела.

Нарэшце невялікая гара засталася ззаду. Наперадзе віднелася шырокае плоскагор'е з адзінокімі глыбамі скал.

А што вунь там? Дымок? Там — гэта не падман зроку — з чорнай шчыліны вырываўся фантан газу і тут-жа як-бы ўзрываўся, знікаў. На месцы яго заставалася ледзь прыкметная сіняватая імгла.

Роб выключыў рухавік, паволі апусціўся на порыстую глебу. Радасць ахапіла душу. Яму здавалася, што ён сустрэўся з даўно знаёмым сябрам.

«Анаконда» разламалася на дзве часткі. Адна тырчэла ў глыбокай разварочанай яміне, другая — неяк выслізнула з глебы і ляжала на паверхні.

Сумная і страшная карціна. Роб пацягнуўся рукою да галавы, як-бы намерваючыся зняць шапку. Ён забыўся, што быў у міжпланетным касцюме і не можа ўшанаваць памяць загінуўшага карабля. Тады ён падышоў да насавой часткі, што вытыркалася з глебы, стаў на калені.

Цяпер ён мог добра разгледзець ракету. З серабрыстай яна стала бруднай, чорнай. Бартавая абшыўка парвалася, пакарэжылася. Роб заўважыў, што ўбаку ледзь-ледзь уздрыгвала і пульсавала глеба. Калі ён

прыгледзеўся лепш, усё стала зразумела: праз нейкую шчыліну аднекуль вырывалася паветра. Роб абышоў ракету. У насавой частцы ў борце віднелася прабоіна. Хоць Роб быў знясілены, дыхаў ад недахопу паветра часта і няроўна, ён рашыў абавязкова прабрацца ў пасажырскую каюту. А раптам на шчасце там што-небудзь захавалася? Абнадзейваючая думка! Плечы яго распрасталіся, і ён рашуча падышоў да адтуліны.

Каюты нельга было пазнаць: усё паламана, звалена ў адну кучу. Пасярод каюты маленькай лужынкай блішчэла вада. Яна аднекуль цурчэла, вылівалася. Трэба спыніць! Хутчэй! — і вочы ліхаманкава заскакалі па баках. А вунь — што гэта? Распоратыя выбухам кіслародныя балоны? Няўжо яны ўсе знішчаны? Хаця-б крышку чыстага, свежага паветра! Толькі адзін глыток!

Роб падбег да балонных нішаў. Нішы — пустыя. Зняможана апусціліся рукі, задрыжэла, аслабела цела. Ён у адчаі асеў.

Так, зачараванае кола замкнулася. Ён зноў быў у ракеце, якая на гэты раз стане яго труной.

Моцна запацела шкло скафандра. Дыханне зрабілася частым, неглыбокім. Пагаслі, зніклі заманлівыя мары аб паратунку. Хаця-б адзін глыток паветра...

Роб заплюшчыў вочы, і яму ўспомнілася дзяцінства. Сухія шызыя стэпы. Ён з бацькам едзе па пыльнай пясчанай дарозе. Сям-там у стэпе віднеюцца гіганцкія стрэльчатыя кактусы. Неба высокае, бязвоблачнае. Прабягаюць павевы ветру. І ўсюды — у небе і на зямлі — плыве ледзь чутны звон. Гэта песня. Хто яе пяе — вецер, людзі ці сам стэп? Нельга разабраць. Душна, спякотна. Млявасць разліваецца па целе. Хочацца спаць, але ці заснеш пры такой гарачыні? Сонца пад самым купалам неба плыве, плыве... І нідзе не знайсці ад яго паратунку. Нават пад кактусамі высахлі цені. І пахне рыбай, запляснелай цінай. Роб прыўзнімае галаву, глядзіць удалеч. Як нізка апусціўся гарызонт! Ён запаланіў блакітам усю прастору, стэп адступіў ад яго, рэзка падрэзаны наўскасяк. Якое дзіва — небасхіл хвалюецца, плыве.

Ды гэта-ж — рака!

Коні ідуць шпарчэй, лёгка бяжыць паветра. Хутчэй, хутчэй да вады. Вось і круча! Няма калі любавацца ёю — сэрца замірае.

Ускінуты ўверх рукі, разгон — і вось яна, цёплая, ласкавая, пяшчотная глыбіня. Набягае ў рот вада, звініць пырскамі і струменямі. Як хораша!

Роб глыбока ўздыхнуў і адчуў, як горла сціснуў пякучы боль. Ён інстынктыўна падхапіўся на ногі, агледзеўся. Знікла прыгожае, як прывід, маленства.

Шкло скафандра зацягнула парай. Пануры, чужы свет адступаў, гойдаўся пад нагамі. Роб зрабіў некалькі крокаў, імкнучыся падысці да адтуліны, якая яшчэ ледзь-ледзь свяцілася перад яго вачыма. Нечакана ён пахіснуўся, упаў, і яго накрыла тонкая металічная сценка. У той-жа момант па ёй нешта пакацілася. Проста на шкляны скафандр зваліўся пукаты цыліндр. Роб толькі ледзь-ледзь заўважыў яго форму, але ўраз здагадаўся, што гэта. Паветраныя балоны! Калі яны коцяцца, значыць цэлыя, не парваныя.

Божа літасцівы! Няўжо гэта праўда?

Роб адчуваў, што ў яго не было сіл, ён ужо не ўсведамляў, што рабіў.

Мінула хвіліна — і скаванасці ў нагах і ва ўсім целе як не было.

Яго да жыцця вярнуў кісларод, паветра, якое так неспадзявана было знойдзена ў загінуўшай ракеце.

Роб уздыхнуў на ўсе грудзі, вылез з-пад тонкай металічнай сценкі. Ён нават добра не памятаў, як рукі схапілі адзін з паветраных балонаў, прымацавалі яго да касцюма замест скарыстанага, апусцелага.

Цяпер можна больш спакойна і пільна агледзець ракету. Ён запаліў ліхтарык і зірнуў на падлогу. Якое багацце — два, тры... сем... аж дваццаць балонаў! Гэта на восем дзён жыцця. Цэлая вечнасць!

Смерць адступіла. Робу хацелася крычаць, скакаць, спяваць.

Чуеш, Зямля! Роб яшчэ будзе глядзець на цябе, любавацца тваёй прыгажосцю!

Больш гадзіны аглядаў ён ракету. Пошукі аказаліся не дарэмнымі. Знайшлася вада, страва, запас гаручага для рэактыўных маторчыкаў. Можна цяпер спакойна жыць і нават напісаць аб усёй гэтай трагічнай гісторыі. Адно дрэнна: давядзецца ўвесь час быць у касцюме, а ён вельмі замінае ў час хадзьбы і работы.

Роб сеў на нейкую скрынку, каб падумаць аб тым, што рабіць далей. Ён выратаваўся, але што з Полем? Чаму маўчыць, не адказвае на сігналы? Можа ён цяпер недзе курчыцца ад болю, задыхаецца. У яго-ж толькі два паветраныя балоны.

Роб ад самага нараджэння не быў помслівы, злы чалавек. Ён усё дараваў у гэты час Полю: і яго пагарду, і злосць. Цяпер на Месяцы Поль — просты, звычайны чалавек. Калі ён дзе-небудзь не загінуў, яму пагражае смерць ад удушша.

Роб разважаў нядоўга. Ён зарадзіў палівам маторчык, узяў у запас некалькі балонаў і праз адтуліну выбраўся з ракеты.

Сонца зноў схавалася за небасхіл. Відаць была толькі палавіна дыска. Перад Робам раскінулася таямнічая, з незвычайным пейзажам далячынь. Нідзе ні дарогі, ні сцяжынкі. Куды, у які бок ісці, каб вярнуцца назад, не заблудзіцца. Тут неба больш знаёмае, чым мясцовасць. Поль пільна ўглядаецца ў вышыню: вунь Вялікая Мядзведзіца, Арыён і Зямля. Яна ніколі не сыйдзе з гэтага месца, будзе заўсёды вісець над галавою.

Заходзіла Сонца. Без вячэрняй зары, ружовага палыхання нябёсаў небасхіл быў чорны, як сажа.

А вось Сонца зусім знікла. Толькі ў далечыні, як дзівосныя ліхтары, палалі не прыкрытыя змрокам вяршыні невядомых гор.

Якая дзіўная зеленавата-блакітная далечыня! Робу здавалася, нібыта ён знаходзіцца на дне нейкага фантастычнага акіяна.

Але хопіць думаць! Павярнуўшыся тварам да Арыёна, Роб адштурхнуўся ад глебы і паімчаўся ў супрацьлеглы ад Сонца бок. Недзе там зрабіў пасадку Поль. Яго трэба знайсці.

Калі-б не тыя незвычайныя ўмовы, якія стварае паменшаная амаль у шэсць разоў у параўнанні з зямной сіла прыцягнення, ні аб якіх пошуках чалавека на Месяцы не магло-б быць і гутаркі. Паспрабуй прайдзі па камяністай, перасечанай глыбокімі шчылінамі мясцовасці, пералезь цераз стромкія скалы, цераз вуглаватыя калючыя ланцугі гор, што спляліся на небасхіле ў тугі вузел! Гэта звыш чалавечых сіл.

Але Роб важыў на Месяцы не больш 12 кілограмаў! Без асаблівага намагання ён мог пераскокваць рвы шырынёй 15 метраў. А ў дадатак, у яго яшчэ быў цудоўны рэактыўны маторчык. І не трэба было мець крылляў—Роб ляцеў, як птушка, лёгка мяняў напрамак, то ўзніма-

ючыся ў вышыню, то ледзь-ледзь дакранаючыся нагамі да камяністай глебы.

Час-ад-часу ён клікаў Поля ў мікрафон. Але безжыццёвая, сінявата-блакітная пустыня зацята маўчала.

— Поль, дзе вы? Адгукніцеся!

Няўжо Роб дарэмна траціць час, няўжо ён не знойдзе, не выратуе чалавека, які гіне?

Роб рашыў узняцца на крутую чорную скалу, што навісла змрочным прывідам над роўнай ззяючай далінай, і яшчэ раз паклікаць Поля ў эфіры.

Маторчык страляе белым полымем, падганяе ў спіну. Даволі! Скала недалёка, і цяпер можна спакэйна планіраваць. Лёгкі штуршок—і Роб адчуў пад нагамі апору. Унізе на многія мілі раскінулася плоская даліна, дзе-ні-дзе перасечаная глыбокімі шчылінамі і перакрэсленая вуглаватымі, панурымі ценямі.

Роб крыкнуў, і яго трывожны, поўны адчаю голас загучаў у эфіры. Пачуцце нейкага страху, адзіноты агарнула душу.

Роб заплюшчыў вочы, скрыжаваў на грудзях рукі і пачаў пільна прыслухоўвацца да навушнікаў... Што гэта за гукі ён чуе? Ці не ўявілася яму? І дзіўна—чуваць не голас, а нейкі хрып.

— Поль? Гэта вы? Адкажыце, капітан. Я вас шукаю. Чуеце, Поль? Я—Роб, Роб...

Поль адказваў вельмі ціха, блытана, і Роб здагадаўся, што капітан карабля знаходзіцца ў непрытомнасці.

Хутчэй на дапамогу! Смерць стаяла над Полем, адлічваючы апошнія хвіліны яго жыцця.

Роб адштурхнуўся ад скалы і, уключыўшы на ўсю магутнасць маторчык, паімчаўся, як страла, туды, адкуль па эфіру даносіўся глухі прадсмяротны чалавечы стогн.

Поль ляжаў нерухома, як труп. Ад нядобрага прадчування ў Роба задрыжалі рукі. Ён схіліўся над Полем і замяніў балон. Калі да рота пакутніка хлынуў струмень асвяжаючага кіслароднага пітва, ён раптам варухнуў вуснамі і пачаў ціха дыхаць.

Роб за палёгкай уздыхнуў: ён выратаваў ад смерці чалавека. Цяпер ён не адзін на гэтай дзікай, пустыннай планеце. Разам з Полем яны будуць змагацца за сваё існаванне, разам будуць глядзець на Зямлю, успамінаць яе прыгожыя, мілыя сэрцу краявіды, шкадаваць аб сваім недарэчным лёсе.

Роб азірнуўся. Чорныя жорны неба прыкметна павярнуліся. На схіле неба вісела Зямля.

Цяпер спяшацца не было куды, і Роб, прываліўшыся спіной да круглага каменя, стаў чакаць, пакуль не вернуцца да Поля страчаныя сілы.

* * *

Роб прачнуўся ад прыемнага і радаснага прадчування. Яму здалося, што яго цалуе жонка, моцна, горача абдымае і нешта шэпча, шэпча... Ён расплюшчыў вочы і тут-жа зноў заплюшчыў іх: проста ў твар яму свяціла нізкае Сонца, якое толькі вынырнула з-за чорнага небасхілу.

Поль, выцягнуўшыся на ўвесь рост, спаў моцна, спакойна.

Вакол, колькі мог ахапіць позірк, ляжала санлівая, акамянелая далячынь. На ёй выдзяляліся два колеры фарбаў—зіхатліва яркі ад

сонечных праменняў, і журботны, вугальна-аксамітны, што стваралі аграмадныя косыя цені ад уцёсаў, каменных скал і чорных сопак.

Роб не меў ніякага ўяўлення аб часе. Колькі ён спаў, Роб не ведаў. Але калі ўзышло Сонца, значыць, настала раніца. Раніца на Месяцы нічым не адрозніваецца ад заходу,—нідзе не бачна ні росаў, ні інею, ні цёплых хмарак.

Сонца свяціла без мігцення, роўна, абыякава, без той гульні святлом, праменнямі і ценямі, як гэта бывае на Зямлі.

— Містэр Поль, уставайце!—крануў Роб за плячо капітана карабля.—Добрай раніцы!

Поль нешта замармытаў, пацягнуўся і расплюшчыў вочы. Потым у здзіўленні падхапіўся на ногі, азірнуўся.

— Ой, дзе я?

— На той-жа самай дарозе,—адказаў Роб, усміхаючыся,—па якой вы ішлі ў пекла.

— Божа, літасцівы божа, ты выратаваў мяне... — зашаптаў Поль і ўскінуў угару рукі.—Ты прыслаў да мяне Сонца і майго вернага слугу Роба...

Роб глядзеў на рослую постаць капітана карабля, на яго асветлены сонцам твар і радаваўся: чалавек вяртаўся да жыцця.

— Няўжо гэта не сон?—гаварыў Поль, нібы не верачы, што некуды зніклі яго жахлівыя пакуты...—Зноў нада мной зорнае неба, пад нагамі цвёрдая глеба. Роб,—звярнуўся ён да негра.—Як ты знайшоў мяне? Адкуль з'явіўся кісларод? Я-ж задыхаўся, паміраў...

— О, містэр Поль,—не без задавальнення прамовіў Роб.—Нам пашанцавала,—і падрабязна расказаў аб усім.

Калі ён паведаміў, што ў ракеце знайшлося дваццаць паветраных балонаў, ежа і вада, Поль ажывіўся:

— Цудоўна! Мая зорка яшчэ не пагасла,—сказаў ён і тут-жа адчуў, як яго ахапіла салодкае, ліхаманкавае пачуццё радасці жыцця. Ён доўга стаяў, прыняўшы важную паставу, потым прыжмурыўся, раптам запытаў:

— Скажы, Роб, ты знайшоў толькі дваццаць балонаў. А не больш?

— Навошта, сэр, такое пытанне?—пакрыўдзіўся Роб.

Поль прамаўчаў. Але яго затоеную думку лёгка можна было прачытаць на твары. Ён не верыў. Горка і крыўдна стала на душы Роба.

— Хадзем! — сказаў ён ціха і пачаў шукаць вачыма сузор'е Арыёна.— Я вам усё пакажу...

Яны ляцелі ў глыбокім маўчанні. Сонца заставалася за спіной і з кожнай хвілінай ніжэй і ніжэй апускалася над небасхілам.

Дзіўная з'ява! Яно заходзіла ў тым-жа баку, у якім узышло. Гэта тлумачылася проста: Месяц вельмі марудна коціцца вакол сваёй восі, і падарожнікі абганялі яго рух.

Навокал цягнуліся раўніны, кальцавыя горы, конусападобныя вяршыні, — свет поўны кантрастаў, рэзка акрэсленых форм, ліній, але навек застыглы, нерухомы, на дзіва аднастайны.

Нарэшце, Сонца схавалася, і плоскае неба апусцілася і як-бы прыціснула ландшафт Месяца. Карагоды зор цясней сабраліся вакол зеленавата-блакітнага зіхатлівага шара Зямлі. Хоць яна свяцілася чужым, адлюстраваным святлом, але была вельмі прыгожай. Усім вядома, якія цудоўныя бываюць ночы, калі на бязвоблачным небе свеціць поўны Месяц. Яшчэ больш велічная, феерычная карціна ночы на самым

Месяцы. У яго небе вісіць аграмадны дыск, папярочнік якога ў чатыры разы большы за знаёмы месячны дыск на зямлі.

Нарэшце падарожнікі спыніліся.

— Вось наша «Анаконда», — з сумам прамовіў Роб і паказаў рукою на бясформенную груду металу. Але Поль менш за ўсё цікавіўся падрабязнасцямі катастрофы.

— Дзе паветраныя балоны, вада, ежа?

— Вы хіба прагаладаліся, сэр? — ветліва спытаў Роб.

Поль зласліва паціснуў плячыма, потым, грэбліва скрывіўшы рот, сказаў:

— Твае пытанні зусім не да месца. Ведай, перад табой не прастачок. Мне патрэбны паветра, ежа і вада. Куды ты іх схаваў?

Робу здалося, што яго ўзялі за каўнер і апусцілі ў халодную ваду. Па ўсім целе прабеглі непрыемныя дрыжыкі. Які нахабнік! Ён ужо забыўся, што было некалькі гадзін назад, трымае сябе як плантатар з Джорджыі. Роб цяжка ўздыхнуў і стрымана сказаў:

— Містэр Поль, вы забыліся, дзе знаходзіліся. Месяц — планета свабоды. Тут негры такія-ж людзі, як і белыя. Мы цяпер роўныя і незалежныя адзін ад аднаго...

— Што? — вочы ў Поля зрабіліся круглымі, пукатымі, твар пабляднеў, выцягнуўся. — Што гэта за штучкі, Роб! — крыкнуў ён і гнеўна затупаў нагамі. — Не выдумляй, і без гэтага маркотна на душы.

— Я не выдумляю, сэр, — Роб горда ўскінуў позірк на свайго праціўніка. — Я толькі напамінаю, што варта вам кінуць старыя звычкі і апошнія чацвёра сутак пражыць так, як гэта і належыць чалавеку.

Роб чуў, як у адказ яму Поль злосна засоп. Вядома, для яго было дзіўна ў былым пакорлівым слузе ўбачыць чалавека з характарам. Ён на хвіліну задумаўся, каб ацаніць становішча. Калі як след разважыць, выходзіць, што ў будучай барацьбе перавага можа быць на баку Роба, — ён дужы, з моцнымі вузлаватымі рукамі.

«Але гэта не страшна, — рашыў Поль. — Выйграюць, як вядома, не сілай, а хітрасцю!»

— Такім чынам, ты зрабіў рэволюцыю? — насмешліва спытаў Поль. — Значыць, у нас комунізм?

— Няма чаго смяяцца...

Поль бачыў, што Роб не на жарты раззлаваўся. Ён ступіў некалькі крокаў назад.

— Аддай маю долю паветра, вады і ежы. І можаш ісці да д'ябла, — прымірэнча сказаў ён.

— Не будзе гэтага, — адказаў Роб. — Усе запасы ежы і паветра — агульныя. Іх будзем размяркоўваць кожны дзень пароўну. — Ён прыпыніўся, быццам нешта абдумваючы, потым сказаў: — На нашым сумленні ляжыць вялікі абавязак.

— Які гэта? — з несхаванай іроніяй перапытаў Поль. — Ці не памерці ў сяброўскіх абдымках?

— Няўжо вы не лічыце неабходным расказаць людзям аб нашым сумным лёсе?

— Хм! Якім-жа чынам?

— У каюце засталося некалькі блакнотаў. Ёсць і аўтаматычныя ручкі.

— Ну, дык садзіся і пішы. Гэта мой загад, загад капітана карабля, — паспешліва падхапіў Арноль і праз хвіліну дадаў: — А што датычыць тваёй непакорлівасці, дык аб гэтым будзе асобная размова.



Стары большэвік, жыхар гарадскога пасёлка Плешчаніцы Мінскай вобласці Палікарп Фаміч Голуб з сынам Эдуардам.
Фото А. Дзітлава.



**Помнік партызанам Айчыннай вайны на возеры Нарач.**
Фото А Дзітлава,

Цяпер трэба агледзець ракету, — ён павярнуўся і, абыходзячы з усіх бакоў глыбокую катлавіну, пачаў пільна аглядаць пакарэжаныя кавалкі ракеты.

Роб стаяў ля ўздыбленага гранітнага каменя і сачыў за Полем. Што-ж, няхай пазлуе. Яму па-ранейшаму хочацца ўлады. Але тут не Поўднёвыя штаты!

На ўсякі выпадак варта быць больш пільным. Поль, вядома, ніколі не зміріцца са сваім становішчам. Ён не хоча, каб хто-небудзь пярэчыў яму.

Калі Поль наблізіўся да насавой часткі ракеты, у якой знаходзілася пасажырская каюта, Роб падышоў да яго.

— Я вам пакажу нашы запасы, — сказаў ён.

— Ці нельга без праважатых? — зласліва зірнуў на свайго кампаньёна Поль Арноль.

— На гэты раз нельга, сэр.

Першым праціснуўся праз нешырокую адтуліну Роб. Ён стаў ля ўваходу, запаліў электрычны ліхтар.

— Калі ласка!

Поль прамармытаў нейкае праклянцце, прасунуў у адтуліну галаву, зірнуў у бокі і толькі тады пераваліўся ўсім целам у каюту. Запаліўшы свой ліхтар, ён пачаў яе аглядаць.

Тым часам Роб дастаў з невялікай шафы блакнот, прымасціўся ля высокай металічнай скрынкі і пачаў запіс гісторыі падарожжа.

Калі-б у каюце было паветра, можна было-б чуць, з якім шаленствам і злосцю кідаў Поль сабе пад ногі розныя рэчы, якія трапляліся яму пад рукі. Ён агледзеў усё да драбніц, зазіраў у самыя патаемныя куткі, нечага настойліва шукаў і не знаходзіў. Нарэшце, ён са злосцю штурхнуў цяжкім чаравікам разарваны балон, той, як снарад, урэзаўся ў дальні цёмны кут і рыкашэтам закрануў скрынку, за якой сядзеў Роб.

Гэта было занадта. Роб устаў, павярнуўся да Арноля і, стрымліваючы гнеў, спытаў:

— Вам тут не падабаецца, капітан?

— Дзе мой пісталет? — выкрыкнуў той у адказ. — Я пакінуў яго ў скрынцы. Ты яго забраў?

— Навошта вам зброя? — вочы ў Роба звузіліся, у зрэнках блíснула нянавісць.

— Я шукаю рэчы, якія належаць мне. Калі ўзяў — аддай! — загрымеў Поль.

— Містэр Арноль, я вас не баюся. Калі вы будзеце лютаваць, я папрашу пакінуць каюту.

Поль не адважыўся мерацца сілаю. Ён фанабэрыста прайшоўся па каюце, потым, як-бы нешта ўспомніўшы, спыніўся перад Робам і сказаў:

— Ты хваліўся — у цябе ёсць папера. Дай блакнот і аловак.

Роб дапытліва паглядзеў яму ў твар і задаволена сказаў:

— Даўно-б так... Клянуся гонарам, работа супакойвае нервы. Да таго-ж, мы ў вялікім абавязку перад Зямлёй. Трэба спяшацца, сэр! Пішыце. Калі-небудзь вашы дзённікі будуць выдадзены мільённым тыражом...

Поль хацеў адыйсці ў бок, але нечакана спыніўся, і вочы яго заблішчэлі злосцю.

— Дарэчы, штурман, вы не адшукалі ў каюце сцяга Штатаў?

— Ён згарэў, містэр.

— Выдатна! — з нейкай робленай вясёласцю ўсклікнуў Арноль. — Я так і думаў... Цяпер усё зразумела.

— Ён прымасціўся ў дальнім кутку каюты, паставіў каля сябе ліхтар і, хітравата прыжмурыўшыся, пачаў пісаць.

Аловак па блакноту бегаў хутка, амаль машынальна. Роб з хвіліну назіраў за сваім кампаньёнам, імкнучыся адгадаць, якія думкі выкладае на паперы капітан.

Мінула больш гадзіны. Роб крыху стаміўся, бо пісаць у касмічным касцюме было нязвыклай справай. Ад доўгага сядзення здранцвелі ногі. Ён адклаў блакнот і ўстаў са скрынкі.

Праз авальную зазубраную шчыліну віднеўся чорны кавалак космаса.

Як многа ў ім зор! А кожная зорка — гэта асобны вялікі свет. «Мабыць, у многіх кутках сусвету ёсць жыццё», —падумаў Роб. Як моцна захацелася яму ў гэты час даведацца, якое яно, жыццё, можа быць там. «Няўжо і ў іншых светах існуюць здзек і несправядлівасць у адносінах паміж людзьмі? Хто прыдумаў такія ганебныя парадкі: адным жыць у раскошы і багацці, другім — гібець ад голаду, холаду і пакут!»

Многа бачыў Роб за ўсё сваё жыццё гора і бяды. Ён уставаў разам з сонцам, а клаўся, калі яго на небе ўжо не было. Ён рэдка быў сыты. Ледзь-ледзь удавалася зводзіць канцы з канцамі. Потым паявілася сям'я. Нейкі водбліск шчасця мільгнуў перад ім і адразу згас. Спачатку жыццё нібы наладжвалася, але хутка жонка захварэла на сухоты. Ужо два гады пакутуе...

Цяпер лёс разлучыў іх навек. Што будзе з жонкай, з дзецьмі? Пяцьсот долараў, атрыманых ад кампаніі Уолтэра, вядома, не малыя грошы. Можа, Рывера выздаравее і, дасць бог, падгадуе дзяцей.

Пяцьсот долараў — гэта, фактычна, плата за яго жыццё. Як танна ацанілі жыццё чалавека...

На душы ў Роба стала журботна і горка. Хоць ён у апошні час змірыўся са сваёй асуджанасцю, душа ўсё-ж балела ад прадчування блізкай смерці. Яго крыху суцешыла знаходка балонаў і ежы. Думалася, разам з Полем ён правядзе тут апошнія чацвёра сутак, забудзецца ў доўгіх размовах аб усім на свеце, і яны смела сустрэнуць свой канец.

Але вярнуўся Поль... Страшна падумаць. Гэткі падлюга! Быў сам на краі магілы, а хоча спіхнуць туды другога.

Роб доўга стаяў, ціхі, задумлівы, ля выхаду з ракеты, глядзеў на Зямлю, на зорныя далёкія светы, якія вясёлым, дружным карагодам праплывалі над яго галавой. Мары... Мары... Якія вы далёкія і недасягальныя!

Нарэшце трапяткое ўзбуджэнне душы, выкліканае думкамі, змянілася спакойнай, дзелавітай разважлівасцю.

Мёртвая нудная цішыня, пустэча неба і наваколля надакучылі.

Роб рашыў прадоўжыць работу. Павярнуўшыся да скрынкі, ён збянтэжана заміргаў вачыма: за ёю стаяў Поль! Чаго ён сюды прышоў? Цікавіцца, як Роб вядзе запіс гісторыі падарожжа? Відаць, зусім не дзеля гэтага.

Поль прыцягнуў да скрынкі невялікую шуфлядку і нешта імкнуўся з іх змайстраваць.

— Сэр, што вы робіце? — спытаў Роб са здзіўленнем.

— Трыбуну, — прамовіў абыякава Поль і, глянуўшы на Роба, дадаў: — Вы задаволілі сваю цікаўнасць?

— Мой мілы дружа, — у тон яму прамовіў Роб. — Мне здаецца, вас трэба лячыць. Вы пачалі забывацца...

— Кіньце балбатаць, штурман! — холадна і жорстка адказаў Арноль. — Пачнем судовае пасяджэнне. Вы, Роб Пітэрс, на лаве падсудных...

Роб ад нечаканасці аслупянеў. Ці не звар'яцеў гэты чалавек?

Ён спакойна падышоў да «трыбуны» і глянуў Арнолю проста ў вочы.

— Камедыю прыдумалі? Ну, ну, цікава пабачыць і паслухаць. — Роб скрыжаваў на грудзях рукі і застыг у такой паставе з пагардлівай усмешкай на вуснах.

Поль Арноль разгарнуў блакнот, кашлянуў для важнасці і загаварыў:

— Іменем Прэзідэнта Штатаў, яго вялікага і неперамножнага народа абвяшчаю абвінаваўчае судовае заключэнне па справе штурмана касмічнага карабля негра Роба Пітэрса...

Штурман Роб Пітэрс абвінавачваецца ў здрадзе Штатам, зневажанні прэзідэнта, у спробе перадачы Месяца ў рукі чырвоных. Усе гэтыя злачынныя дзеянні выявіліся ў тым, што, калі ў час аварыі касмічнага карабля «Анаконда», капітан Поль Арноль, прыняўшы рашэнне ратавацца з дапамогай касцюмных рэактыўных маторчыкаў, загадаў штурману карабля Робу Пітэрсу ахоўваць сцяг Штатаў і даставіць яго да кратэра Каперніка, апошні з яўнай здрадніцкай мэтай не выканаў гэтага



загаду, і сцяг нашай вялікай нацыі загінуў пры катастрофе ракеты; апрача таго, штурман Роб Пітэрс, карыстаючыся цяжкімі абставінамі, выкліканымі нечаканай катастрофай «Анаконды», рашыў на Месяцы завесці комуністычныя парадкі, вядзе варожую Штатам і нашай нацыі прапаганду, дыскрэдытуе людзей вышэйшага звання, — у сувязі з усім пералічаным я, Поль Арноль, ад імя Прэзідэнта і самога бога абвяшчаю: негр Роб Пітэрс абвінавачваецца па артыкулу 205 працэсуальнага кодэкса Штатаў, які патрабуе самага суровага пакарання — смерці.

Каб надаць сваёй абвінаваўчай прамове большую сілу і пераканальнасць, ён у заключэнне ўскінуў угару рукі і зашаптаў малітву.

Робу сталы і брыдка і смешна. Няўжо гэты малойчык дасюль не зразумеў, дзе ён знаходзіцца.

— Падсудны Роб Пітэрс, ці прызнаеце сябе вінаватым? — крыкнуў Арноль, раззлаваны маўчаннем штурмана.

Роб з’едліва запытаў:

— Пан суддзя і пракурор, хто можа пацвердзіць вашу вар’яцкую выдумку? Дзе сведкі?

— Сведка ўсяму — бог! — адрэзаў холадна Арноль.

— Не, не бога вы бралі сабе ў сведкі,— выгукнуў горача Роб і ўвесь задрыжаў ад узбуджэння. — Вашы сведкі — нахабнасць, шалёнае чалавеканенавісніцтва. Гэта вас трэба судзіць, паважаны капітан! Вы — нікчэмны палахлівец. Калі мы пакідалі борт карабля, вы былі п’яны. Ці маглі вы аддаць які-небудзь разумны загад? Вы ратавалі ўласную скуру...

— Хопіць! — абарваў штурмана Поль. — Суд верыць слову капітана карабля.

— Містэр Арноль, — выходзячы з цярпення, прамовіў Роб. — Мне здаецца, я вас пачынаю па-сапраўднаму ненавідзець. Пакіньце гэтую камедыю. Майце на ўвазе, я не пацярплю далейшага здзеку над сабой. Чуеце?

— Вашы пагрозы дарэмныя. Я не пакіну гэтага месца да таго часу, пакуль не давяду справу да канца.

— Як сабе хочаце, — абыякава заўважыў «падсудны». — Паглядзіце на гадзіннік — час абедаць. Ці не падсілкавацца і вам? — І, падышоўшы да «трыбуны», зняў з яе сваю скрынку.

Гэта падліло масла ў агонь. Поль Арноль разлютавана бліснуў вачыма і нагой штурхнуў негра ў спіну.

Гэта было ўжо занадта. Роб размахнуўся і ўдарыў Поля кулаком.

І тут пачалася жорсткая, бязлітасная бойка. Праціўнікі душылі адзін аднаго, адбягалі ў бакі, цяжка саплі, аддыхваліся і зноў кідаліся адзін на аднаго. Нарэшце ў ход пайшлі розныя рэчы, што трапляліся пад рукі. Незвычайныя падзеі разгарнуліся на Месяцы — сапраўдная вайна. Два чалавекі на ўсёй планеце не маглі ўжыцца разам! Гэтаму вар’яту Полю і тут захацелася ўлады. Але не на таго натрапіў.

Поўгадзінная жорсткая сутычка не дала ніякіх вынікаў. Касмічныя касцюмы, на дзіва моцныя і трывалыя, надзейна ахоўвалі сваіх уладальнікаў ад небяспечных удараў.

Зразумеўшы, што бойка дарэмная і не прынясе ніводнаму з іх перамогі, праціўнікі разышліся.

Поль Арноль нечакана прыхіліўся да сцяны, і праз некаторы час Роб Пітэрс пачуў у навушніках роўны, спакойны храп.

Роб выйшаў з ракеты, знайшоў самую цёмную шчыліну ў глебе і, зручна прымасціўшыся ў вузкім каменным ложы, заплюшчыў вочы. «Спаць, спаць», — патрабавала цела, і яго праз хвіліну агарнуў глыбокі сон.

## Раздзел дваццаць трэці

Алег Дрозд перапрабаваў усе вядомыя спосабы вярнуць ракету на разлічаную трасу і не атрымаў ніякіх вынікаў. З сумным, вінаватым выглядам ён паглядзеў на Івана Іванавіча.

Дзянісава больш не цікавілі прылады на пульце кіравання. Прыкрыўшы вочы цёмнымі акулярамі, ён чамусьці з пільнай увагай углядаўся ў шырокае акно абсерваторыі. Нешта змянілася і ў яго настроі. Скулы на твары не выступалі так падкрэслена рэзка, як некалькі секунд назад.

Павярнуўшыся да Алега, Дзянісаў сказаў:

— Сябры! Нас захапіла небывалая магнітная бура. Глядзіце, як лютуе Сонца!

Калі чорнае шкло загарадзіла экран абсерваторыі, падарожнікі ўбачылі сапраўды феерычную карціну. На небе, раскінуўшы доўгія шчупальцы асляпляльна белых пратуберанцаў, ляжала распластанае Сонца. Хлопцы спалохана замёрлі: ці не адбыўся выбух на свяціле? Гэта пагражала-б катастрофай не толькі касмічнаму караблю, але нават планетам. Адразу былі ўключаны аўтаматычныя лічыльныя апараты.

Некалькі напружаных хвілін — і атрыманы вынікі. Так, памер пратуберанцаў небывала вялікі, ён дасягае каля аднаго мільёна кіламетраў... На Сонцы адбыўся выбух, але ён не пагражальны, бо пратуберанцы ўжо больш не пашырыліся.

— Ух! — з палёгкай уздыхнуў Дзянісаў.— Бачыце, і Сонца ўмее жартаваць...

— Што-ж рабіць, Іван Іванавіч? — у роспачы спытаў Алег.

— Мацней трымацца за тапчаны. Вучыся ў Віктара.

Гэта было сказана не без іроніі.

Віктар ляжаў з прыжмуранымі вачыма. Рукі яго прыкметна дрыжалі, на ілбе выступіў пот.

— Віктар, як самаадчуванне? — ужо сур'ёзна звярнуўся начальнік экспедыцыі да штурмана.

— Нічога... Гэта пройдзе... Вельмі ціснe грудзі...

Прайшлі доўгія, пакутлівыя хвіліны. Члены экіпажа змучыліся, змарнелі. Яны нават не адважваліся перамаўляцца адзін з адным: берaглі сілы. Хто ведае, колькі часу будзе прадаўжацца шалёная магнітная бура. Трэба вытрымаць, выратаваць карабель і прывесці яго да вызначанага пункта.

Як далёка родная планета! Яна падобна адсюль на двайны дыск звычайнага Месяца. А гэта ўказвае на сур'ёзную небяспеку: карабель аддаліўся ад яе не менш як на 840 тысяч кіламетраў. Ніводнага слова і гуку не чуваць у эфіры: магнітная навальніца...

Зямля, Зямля! Ці суджана вярнуцца тваім падарожнікам?

* * *

**25 чэрвеня.** 23 гадзіны 00 хвілін.

Паскарэнне ўпала да 6 метраў у секунду. Я адчуў сябе лепш і заняў месца за пультам кіравання. Баліць галава, ныюць, быццам натруджаныя, спіна і ногі. Але ў мяне пакуль невялікі клопат: я сачу толькі за метэорамі. Яны ў гэтым кутку космаса — рэдкія госці.

Дзянісаў загадаў весці дзённік назіранняў. Я з радасцю згадзіўся. Дзённік! Ты становішся членам экіпажа. Вітаю цябе, дружа! Калі размаўляю з табой, лёгка на сэрцы. Ты абуджаеш думкі, накіроўваеш у палёт мары, ты адганяеш сум і трывогу.

Тое, што адбылося з нашым караблём, магло мець трагічны канец. Калі мы збіраліся ў падарожжа, ніхто не папярэдзіў аб грознай небяспецы. А гэта ўжо сур'ёзны пралік навукі. Таварышы вучоныя, што вы скажаце на гэта?

На наша шчасце, здарылася прыемная выпадковасць — «Вулкан» забяспечаны новым дзівосным рухавіком. Дзянісаў лічыць, што з яго дапамогай хутка пачнем прабівацца да арбіты роднай Зямлі. Цяпер мы знаходзімся ад Зямлі на адлегласці двух мільёнаў кіламетраў. На чорным, як сажа, небе яна свеціцца зусім невялікім дыскам.

Ляцім ужо болей сутак.

Хуткасць ракеты неверагодная — 40 кіламетраў у секунду. Калі мы не пачнем тармажэння, нас вынясе за межы сонечнай сістэмы, і ракета ператворыцца ў звычайны блукаючы балід. Не вельмі прывабная перспектыва!

Дзянісаў і Віктар сядзяць ля астранамічнай абсерваторыі. Яны ўвесь час сочаць за каронай Сонца. Магутнае свяціла па-ранейшаму бунтуе распаленымі газамі, захлынаецца ад дыму дзівосных вогненных вулканаў. Але вогненная ліхаманка паволі патухае. Сонца будзе жыць, свяціць, як і свяціла. Праўда, у сусвеце ёсць зоркі-сонцы, якія ўзрываюцца па-сапраўднаму і з такой сілай, што за кароткі прамежак часу набухаюць да велізарных памераў. Відаць, Сонца не належыць да такіх свяціл, яно — даволі ўстойлівая зорка.

Вельмі зручна назіраць за Юпітэрам, Марсам і Сатурнам. З Плутонам адбываюцца нейкія дзівосы, ён крыху адхіліўся ад сваёй арбіты. Што гэта? Вынік ранейшых няправільных вылічэнняў, ці на планету ўплываюць нейкія іншыя пабочныя сілы?

Адказаць на гэтыя пытанні будзе цяжка. Калі-б на ракеце быў устаноўлены магутны зямны тэлескоп, магчыма, удалося-б лепш вывучыць норавы далёкай сяброўкі Зямлі.

**26 чэрвеня.** 3 гадзіны 15 хвілін.

Працуюць атамныя рухавікі ракеты. Пачынаецца тармажэнне. Нас зноў прыкоўвае да гумавых канапак, і мы з затоеным дыханнем глядзім на паказанні вымяральных прыбораў.

Стрэлкі раскручваюцца ў адваротны бок — якая радасць! Ракета пад вялікай нагрузкай. Мы чуем, як уздрыгваюць сцены, падлога, нават святло, здаецца пацямнела ад вялікай натугі матораў.

Зямля, глядзі, мы не адважыліся пакінуць цябе. Мы перамаглі вар'яцкую сілу стыхіі і хутка паднімем парус зваротнага плавання.

Ці страшна было нам, калі нечакана трапілі ў бяду? Вядома, страшна. Мы падрыхтавалі сваё жыццё для славы Зямлі, у гэтым бачылі свой абавязак, сваё шчасце.

Зразумела, небяспека катастрофы выклікала хваляванне і нават страх. Чалавеку дадзена толькі адно жыццё. Жыццё трэба пражыць слаўна, з вялікай карысцю для самога сябе і чалавецтва.

Я часта думаў і задумваўся над мэтай жыцця, аб тым, што такое шчасце.

Шчасце! Яго не выдумалі людзі, гэта не прывід, за якім кожны гоніцца і хоча злавіць. Без шчасця жыццё шэрае, невясёлае, як нудная дажджлівая восень. Але шчасце не ловяць, а змагаюцца за яго!

Мабыць ёсць такія, што лічаць: шчасце ў пошуках асалоды, вострых уражанняў.

Гэта ўяўнае, прывіднае шчасце мешчаніна. Сапраўднае шчасце толькі ў працы! Калі-б не існавала працы — творчай, прыгожай, радаснай, якая жывіць душу чалавека, дае яму смелыя думкі, радасныя пачуцці, нязломную волю і сілу тытана,— не было-б і шчасця.

На працы трымаецца ўся зямля, на радасці шчасця — чалавек!

Яно прыходзіць ціха і зусім будзённа, без урачыстых маршаў і песень, прыходзіць і займае свой куток у сэрцы, які даўно для яго прыгатаваны. Шчасце, па-мойму, мае нават свае абрысы, вагу, колер. Мне яно не раз уяўлялася звычайнай простай сняжынкай — светлай, нячутнай. Трэба не толькі авалодаць шчасцем, але і ўмець утрымаць яго.

Ці быў я калі-небудзь шчаслівым? Па-мойму, не. Я стану такім, калі змагу перад сябрамі, перад усім светам сказаць: глядзіце, я змагаўся, пакутаваў, пазіраў у вочы смерці — і я перамог! З якім нецярпеннем чакаю я гэтай хвіліны. Ці прыдзе, ці наблізіцца яна? Вядома, прыдзе!

**26 чэрвеня.** 6 гадзін 00 хвілін.

На Зямлі пачынаецца дзень. Там над яшчэ шэрымі, змрочнымі прасторамі, ледзь-ледзь падагрэтымі зарой-заранiцай, гучыць у гэты час да болю знаёмы і мілы голас дыктара маскоўскага радыё: «Гаворыць Масква! Добрай раніцы, таварышы!»

Абуджаюцца вуліцы, плывуць людскія патокі. Нейкая цудадзейная сіла адчуваецца ў гомане натоўпу, у шуме машын і матораў, у пераклічцы гудкоў. У гэты час глыбей можна адчуць, што праца з'яўляецца ўладаром свету.

Мы балюча сумуем па Зямлі. Тут, у пустэльні космаса, нам асабліва моцна яе нехапае. Цэлымі гадзінамі мы толькі і робім, што ляжым і чакаем. А што можа быць больш надакучлівым, знясільваючым душу, чым чаканне? Адно нас выратоўвае,— чаканне наша мае сваю мэту.

Вось ужо ракета змяніла напрамак палёту, ляціць не да Арыёна, а назад, да Зямлі. Каб доўга не блукаць у космасе, вярнуцца хутчэй да родных ваколіц планеты, мы ўключылі фатонны рухавік. Спачатку яго роля ў палёце была мала прыкметнай, але праз нейкі момант скораметр і іншыя прылады на пульце кіравання паказалі: адбыўся пералом, матор пацягнуў, як кажуць, запрогся. Мы горача заапладыравалі. Наша радасць зразумелая. Ракету занесла так далёка — на 2,5 мільёны кіламетраў, што калі-б мы мелі толькі атамныя рухавікі, нам ніколі-б не ўдалося нават блізка апынуцца ля Зямлі. У лепшым выпадку, ракета зрабілася-б спадарожнікам планеты.

Такім чынам, фатонны рухавік працуе. Нам трэба разгон, галавакружальны палёт, імклівасць! Ракету магнітная бура несла з хуткасцю 40 кілометраў у секунду. І назад мы павінны вяртацца гэтак-жа шпарка.

Стрэлкі скораметра ўздрыгваюць, гойдаюцца, і вось ужо можна заўважыць, што расце, павялічваецца паскарэнне.

Прылады фатонных апаратаў паказваюць дзівосныя з'явы. Ідзе бурны распад часцінак урана... Выкідваюцца патокі пратонаў і антыпратонаў, з неверагоднай хуткасцю яны злучаюцца і ствараюць новы паток, больш імклівы і магутны, і ён выліваецца праз соплы аграмаднай асляпляльна белай ракой. На экране, запаленым спецыяльна для назірання, нельга пазнаць соплаў. Гэта вогненадыхаючыя вулканы, яны выкідваюць паток утаймаваных чалавечым розумам нябачных часцінак матэрыі.

Як цяжка і пакутна целу! Здаецца, да сэрца прывешана гіра. Яно б'ецца там замаруджана, што халадзеюць рукі, лоб, ногі. Нехапае крыві, нехапае паветра. Млосна, нудна, жудасна. Але трэба цярпець, сціснуўшы зубы, маўчаць. Мы павінны дагнаць Зямлю.

Усё зноў паўтараецца, як у фільме, пушчаным з канца. Мы нерухома ляжым на канапках, маўчым і нават ні аб чым не думаем... Вядома, уключаны ўсе рацыі і тэлевізафоны. Запісаны на плёнку голас Дзянісава пасылаецца ў эфір. Але з Зямлі не чуваць адказу. Чаму? Можа яшчэ не зусім супакоілася магнітная бура і ў яе магутным подыху губляюцца ўсе электрычныя сігналы? Мабыць не гэта з'яўляецца прычынай.

Зямля проста не ведае, дзе знаходзіцца ракета, у які бок накіраваць антэны, каб паслаць свае сігналы.

Вось чаму і трапечуць цэлымі гадзінамі сіняватыя экраны тэлеапаратаў, маўклівыя і пустынныя.

Цяпер якраз раніца на Зямлі... Ззяе сонца, гойдаюцца над азёрамі туманы, стыгнуць на травах росы...

Мы не ведаем, што цяпер у нас: дзень, ноч, світанне? Гэтыя звыклыя зямныя разуменні для нас не падыходзяць. Тут Сонца жыве як-бы само па сабе, свеціць і толькі, а Месяцаў мы бачым аж два — звычайны Месяц, вельмі сціснуты і нейкі белы, і нашу Зямлю, чыстую лёгкую, ахутаную мяккім блакітна-сінім ззяннем.

Далёкая краса наша! Мы, твае сыны, любуемся табою. З чым цябе параўнаць — з каметай, дыяментавай зоркай? Не, для цябе няма параўнанняў, бо ты створана для жыцця, для шчасця. Мы шчаслівыя ўжо тым, што нарадзіліся на тваіх прасторах, дыхалі тваім паветрам, бачылі твае бары і дубровы, слухалі матчыны песні...

**26 чэрвеня.** 12.00.

Хуткасць палёту неверагодная — 60 кілометраў у секунду. Але мы набліжаемся да Зямлі з хуткасцю, напалавіну меншай. Гэта тлумачыцца вельмі проста — Зямля-ж таксама не стаіць на месцы, імчыцца па сваёй арбіце ў касмічнай прасторы. Значыць, мы не проста ляцім да роднай планеты, а даганяем яе.

Дзянісаў увесь час сядзіць за сваім астранамічным столікам, назірае за небам, робіць разлікі. Віктар прыняў снатворныя парашкі і спіць. Хутка яму заступаць на вахту. Бядак! Далося хлопцу ў знакі паскарэнне. Яно ледзь-ледзь яго не задушыла. А ўсё таму, што на Зямлі не любіў трэніравацца. Думаў, будзе лёгкая прагулка. Атрымалася інакш...

Гадзіну назад на экране тэлевізара ўзніклі доўгія бясформенныя цені. Адны з іх нагадвалі постаці людзей, другія — нейкія дзівосныя машыны.

Мы застыглі ў радасным чаканні. Няўжо гэта Зямля? Чаму-ж з дынаміка не далятае ніводнага гуку, чаму? А вось і цені ўжо зніклі на

мазаіцы. Толькі ледзь-ледзь нешта варушыцца, як-бы на другім яе баку. Мы пільна і доўга прыглядаемся, але разгледзець нічога не ўдаецца.

Што такое? Можа гэта нейкія далёкія загадкавыя перадачы? Нам, незвычайным падарожнікам космаса, вядома, хацелася ўбачыць якое-небудзь іншае жыццё, што існуе дзе-небудзь у адным з далёкіх куткоў сусвету. Віктар загарэўся, пачаў пераконваць:

— Глядзіце, на экране квадратная галава з адным вокам... Не верыце? Далібог, чалавечая галава. Вось яна, вось...

Але я з Дзянісавым нічога не заўважаў. Віктар нават злаваўся, што мы такія блізарукія, і быў цвёрда ўпэўнены, што перахоплены перадачы з далёкага, чужога свету.

Прайшлі хвіліны. Мы чакалі разгадкі. І вось на экране тэлевізара на нас раптам утаропіўся чалавек.

Перад намі была Зямля. Віктар вінавата заміргаў вачыма і апусціў галаву. Прадказанні яго не збыліся.

Мы з цікавасцю сталі разглядаць воблік нашага зямнога сябра. Трое сутак карабель блукаў па халоднай, нязведанай пустыні, трое сутак маўчала радыё і тэлевізары.

Чалавек на экране ўсміхнуўся, і мы выразна ўбачылі яго разумныя крыху касаватыя вочы.

— Прывітанне з Пекіна! Мы прынялі вашы сігналы, але доўга не маглі знайсці ваш карабель. Ваньсуй! *

Колькі шчырасці і цеплыні было ў гэтым братэрскім прывітанні! Мілая, родная Зямля, ты прыгожая і слаўная, магутная і велічная розумам чалавека. Два мільёны кіламетраў раздзялялі нас, але мы як-бы не заўважалі гэтай бясконцай далечыні, глядзелі адзін аднаму ў твар, гаварылі, гаварылі...

Зямля нас шукала. Вочы нашы ярка і пераможна свяціліся, у сэрцах нарадзілася няўтольная прага змагання. Мы звязаліся з Масквой і, расказаўшы аб сваіх прыгодах, пачалі раіцца, як лепш увайсці ў арбіту Зямлі і наблізіцца да Месяца.

Фатонны рухавік прышлося выключыць. Калі даць яму волю, ён можа разагнаць ракету да неверагоднай хуткасці — 290 тысяч кіламетраў у секунду. Але з такой хуткасцю трэба пачакаць. Яна спатрэбіцца ў будучым, калі адважныя астранаўты накіруюцца ў шлях да бліжэйшай ад Сонца зоркі.

Бязважкасць дала нам магчымасць працаваць. Іван Іванавіч зноў зацікавіўся Плутонам. Доўга глядзеў у тэлескоп, фатаграфаваў, рабіў вылічэнні. І калі я здаваў вахту Віктару, ён раптам падышоў да нас, абняў за плечы і з глыбокім сумам сказаў:

— Вось што, саколікі, у нас траур.

— У чым справа? — спалохана перапытаў Віктар.

— Плутона няма,— задуменна адказаў Дзянісаў.

— Мы не разумеем вас! — закрычалі мы з Віктарам.— Ён сутыкнуўся з каметай?

— Не. Здарылася страшнае і непаўторнае — ён выйшаў з сваёй арбіты, адарваўся...

Мы ўсё зразумелі. Віктар падбег да тэлескопа і прыпаў да акуляра. Я не зводзіў вачэй з твару Дзянісава. Можа ён жартуе? Навіна была такой нечаканай, што не хацелася верыць.

* Ваньсуй (па кітайску) — прывітанне з пажаданнем 10 000 год жыцця.

Гэта-ж страшэнная катастрофа! Цяпер зразумела, яна — вынік выбуху на Сонцы, небывалай магнітнай буры.

А Плутон знаходзіўся ад Сонца на адлегласці 6 000 000 000 кіламетраў, дзе сіла сонечнага прыцяжэння вельмі нязначная. Адкрыты толькі ў 1930 годзе, Плутон нават у магутныя тэлескопы быў бачны з цяжкасцю, як слабая зорка без прыкметнага дыска.

Магчымасць выхаду Плутона з арбіты, адрыву ад Сонца даўно прадказвалася вучонымі. Планеты-ж, хоць марудна, але няспынна аддаляюцца ад знешняга свяціла. І, вядома, Плутон, знаходзячыся на самай крайняй граніцы сонечнай сістэмы, павінен быў адысці на такую адлегласць, дзе канчалася ўлада Сонца. Ён не дачакаўся гэтага часу. Гібель яго паскорыла ўзнікшая магнітная бура.

Вельмі шкада, што ўсё гэта здарылася. Сонечная сям'я планет збяднела.

Бывай, Плутон! Шкада, што ты пакінуў нас. Калі-б трохі раней былі вынайдзены фатонныя рухавікі, людзі-б абавязкова наведалі цябе. Былі-б загадзя ўстаноўлены аўтаматычныя радыёстанцыі, і ты не загубіўся-б у цёмнай пустыні неабсяжнага сусвету, пасылаў-бы сігналы на Зямлю, расказваючы людзям пра свой шлях у пошуках больш надзейнага прытулку.

**27 чэрвеня.** 10 гадзін 15 хвілін.

Мы ляцім! Не ляцім, а, здаецца, правальваемся ў бездань. Палёт па інерцыі — гэта своеасаблівае свабоднае падзенне, якое выклікае пачуцце бязважкасці. Лёгкасць рухаў узбуджае нас, хочацца некуды ісці, бегчы, ляцець.

Не вельмі прыемна прывыкаць да такіх незвычайных абставін. За сабой даводзіцца пільна сачыць, каб часам не страціць роўнавагі, не адарвацца ад намагнічанай падлогі. Кожны тут па-свойму перасоўваецца па каюце.

Я, прызнацца, люблю адпіхнуцца ад падлогі і ў адзін моман дасягнуць патрэбнага месца. Праўда, часам здараюцца пралікі, і я трапляю ў смешнае становішча. Іншы раз, моцна адштурхнуўшыся ад падлогі, я ўжо не магу апусціцца на яе, сутыкаюся з супрацьлеглай сценкай і адскокваю, як футбольны мяч.

Бывае і наадварот: разгону нехапае, і я павісаю ў паветры. Размахваю рукамі, дрыгаю нагамі — нічога не дапамагае. Тады на выручку прыходзяць Дзянісаў ці Віктар.

Ужо мінулі суткі, як наш карабель узяў кірунак да Зямлі. Хоць мы ляцім з небывалай хуткасцю, карціна сусвету не мяняецца. Навакол дзівосны россып сузор'яў. Калі-б крыху не павялічыўся дыск Зямлі, нельга было-б нават сказаць, што мы рухаемся. Проста перад акном абсерваторыі ляжыць зіхатлівы бераг Млечнага шляху, да якога, якбы магутнымі штормамі, сагнаны кучаравыя туманнасці і буйная галька адшліфаваных у касмічным акіяне зорак.

З Зямлёй карабель падтрымлівае пастаянную сувязь. Іван Іванавіч паведаміў у Маскву і ўсім замежным абсерваторыям аб лёсе планеты Плутон. Мы ўжо атрымлівалі паведамленні, што назіранні Дзянісава пацвердзіліся.

Асабліва цікавай была размова з Хлебнікавай і Вілі Рэндолам. Мы падрабязна расказалі аб умовах палёту ў час магнітнай буры, аб рабоце фатоннага рухавіка. Выпрабаванне пацвердзіла разлікі вучоных. Цяпер можна смела распрацоўваць трасы на Марс і Венеру, на Юпітэр і Сатурн.

Сёння ў нас свята. Аб ім мы даведаліся зусім нечакана. Калі Дзянісаў закончыў перадаваць на Зямлю вынікі сваіх астранамічных назіранняў, раптам на карабель прыйшла тэлеграма. Начальнік Маскоўскага касмадрома горача віншаваў Віктара Машука з днём яго нараджэння. Віктар быў уражаны: ён сам забыў, што гэты дзень — знамянальная ў яго жыцці дата.

Вядома, з выпадку такой урачыстасці, снеданне было асаблівае.

— Дваццаць пяць год — круглая дата,— гаварыў Іван Іванавіч з усмешкай.— Тут не абыйдзешся без выдаткаў.

Віктар расцвіў ад радасці. Яго дзень нараджэння адзначаецца ў космасе! Яму першаму з людзей выпала такое шчасце!

За сталом было ажыўлена, шумна. Дзянісаў наліў юбіляру поўную шклянку шампанскага. Я таксама хацеў выпіць, але Іван Іванавіч не дазволіў, бо мне заступаць на вахту. Ён прапанаваў мне піва. І, чокнуўшыся з усімі, сказаў, звяртаючыся да імянінніка:

— Помні, Віктар, дваццаць пяць год — гэта рубеж юнацтва і сталасці. Ты вырас, узмужнеў, загартаваўся. Зразумей: дрэва трымаецца за зямлю карэннямі, а чалавек за жыццё — праўдай. Віншую цябе, жадаю шчасця і ўдачы.

Я заўсёды захапляўся Дзянісавым, а сёння адкрыў новую рысу яго характару — бацькоўскую клапатлівасць, гонар за чалавека.

Я чакаў, што Віктар атрымае новыя тэлеграмы. І, вядома, баяўся, што адна тэлеграма будзе наташына. Трывога аказалася дарэмнай. Наташа маўчала. Яна не паяўлялася і ў студыі тэлецэнтра.

Як сумаваў я па ёй, па яе голасу і стрыманай ласкавай усмешцы.

Наташа, гэтыя словы прысвячаю табе. З глыбіні жахлівай цемрадзі, з далёкай касмічнай дарогі шлю табе прывітанне. Ты ведаеш, якая бяда навалілася на нас. Мне было вельмі цяжка. Я, здавалася, згубіў усё: сілу волі, трапятанне сэрца, агонь душы, але жыў, змагаўся, чакаў. Ведай: адзінай жыхаркай маёй душы ў гэтыя хвіліны была ты. Я глядзеў у ілюмінатары, бачыў зоры, і мне здавалася, што гэта бляск тваіх вачэй.

Добрая, мілая і далёкая дзяўчына! Я ўспамінаю нашы сустрэчы, тыя некалькі слоў, якія ты мне сказала.

Як мне хочацца пабачыць цябе, пагаварыць хоць праз экран тэлевізара!

Цяпер мне вядома цана смутку, горкага і балючага, па блізкаму, дарагому чалавеку: у душы маёй абудзіліся новыя ўяўленні аб жыцці, аб яго вялікай прыгажосці. Здаецца, я раней глядзеў на свет звужанымі, затуманенымі вачыма.

**28 чэрвеня.** 14.00.

Змяніўся з вахты. Дзянісаў загадвае легчы адпачыць. Але я не лягу. За ілюмінатарамі ракеты разгортваюцца нябачаныя краявіды.

З-за залацістага берагу Млечнага шляху;
Праплываючы міма чырвонага Марса;
Кружачыся сярод чорных правалаў неба;
Загароджваючы сабой стройныя абрысы Вялікай Мядзведзіцы;
Успыхнуўшы сярод ночы яркім блакітна-бялесым колам,
Набліжаецца да нас —
ЗЯМЛЯ!

Вечная цемрадзь космаса як-бы адступіла перад прыгажуняй-планетай. Неба ўжо не такое страшнае і нязвыклае. Хоць Зямля свеціць ад-

люстраваным святлом, нам здаецца, што ад яе ідуць, струменяцца патокі цяпла і радасці. Вось калі мы можам цвёрда сказаць: для нас наступіла раніца.

Ракета ўжо ляціць не ўслед за Зямлёй, а паварочваецца да мэты нашага падарожжа — Месяца. Віктар час-ад-часу на секунду-другую ўключае атамныя рухавікі. Нам трэба запаволіць імкліва-шалёны палёт!

Што там на Месяцы? Ці давядзецца знайсці загінуўшую «Анаконду»? Які лёс напаткаў Поля Арнола і Роба Пітэрса? Вядома, цяжка ўявіць, што яны жывыя. Небаракі! Катастрофа і да гэтага часу застаецца загадкавай.

Чатыры дні мінула, як наш карабель пакінуў Зямлю. І мы маглі загінуць, трагічна і неразумна. Колькі нечаканасцей падпільноўвала нас, колькі было небяспечных момантаў. Але пільнасць, настойлівасць і вытрымка выратоўвалі.

Ужо даволі вялікі дыск Месяца. Праўда, мы бачым толькі вузкі, прадаўгаваты серп. Зямля ўвесь час вядзе для нас перадачы. Хутка яна возьме на сябе кіраванне караблём.

**29 чэрвеня.** 3.00.

Хоць воблік Зямлі зацягнуты бялесай дымкай хмар і воблакаў, па ледзь-ледзь прыкметных абрысах мы заўважаем, што яна павернута да нас усходнім поўшар'ем. Вунь там павінна быць Масква. Я на момант уяўляю маскоўскі ракетапорт і, здаецца, выразна бачу, як у напрамку да Месяца, які вынырнуў на небасхіле, паварочваюцца аграмадныя чашы парабалічных антэн.

Я ўключыў тэлевізар і, хоць на экране нікога пакуль не бачу, ветліва ўсміхаюся і дакладваю:

— Зямля! Зямля! «Вулкан» уступіў у зону прыцяжэння Месяца. Маторы выключаны. Хуткасць падзення 2 кілометры ў секунду. Праз пяць гадзін — пасадка!

Серп Месяца расце, павялічваецца. Ніхто не спіць. Мы чакаем сустрэчы з невядомым светам. Хутчэй-бы!

**29 чэрвеня.** 7.00.

Месяц — пад намі. Яго ўжо нельга назваць Месяцам. Гэта шэрая каменная чаша, якая займае большую палавіну неба і ўжо зусім не свеціць. Выразна і ярка відаць грабяністыя выспы невялікіх гор, контуры раскіданых ланцугамі кратэраў.

Карабель паскарае падзенне. Хутка запрацуюць у насавой частцы маторы. Мы загадзя кладземся на канапкі. Роўна і дакладна працуюць кантрольныя прыборы. З заміраючым сэрцам глядзім на іх: хоць бы не падвялі!

**29 чэрвеня.** 8.00

Ракета затарможана і, зрабіўшы манеўр, ляціць паралельна паверхні Месяца. Хуткасць — 1 590 метраў у секунду, вышыня — 200 кілометраў. Мы радасна махаем рукамі, вітаем суровую планету.

Вось мора Воблакаў, вобады застыўшых кратэраў. Я пазнаю іх. Гэта — Пітаб, Вернер, Пантан, Альмануп, Палібій...

Далей мяжа святла і цемры — тэрмінатар. Хвіліна — і карабель агортвае змрок. Але мы па-ранейшаму добра бачым незвычайны для вока ландшафт, заліты чырванаватым святлом Зямлі.

Праходзіць трыццаць хвілін — і карабель ляціць над поўшар'ем, якога ніколі не бачыў чалавек.

Можа што-небудзь новае, небывалае ёсць тут? Мы прынікаем да ілюмінатараў, пільна сочым, як нячутна сунецца пад намі паласа акамянелых пейзажаў Месяца, якая нібы раскручваецца з аграмаднага рулону. Тыя-ж шырокія шчыліны, правалы, вастраканечныя ўцёсы, горы кратэраў з закругленымі вяршынямі.

— Алег, уключы дазіметрычныя апараты. Хутчэй! — загадаў раптам мне Дзянісаў.

— А што такое? — не зразумеў я ўсхваляванасці Івана Іванавіча.

— Мы-ж павінны адшукаць «Анаконду». А гэта не вельмі проста зрабіць. Бачыш, якія тут каменныя сутарэнні. Апараты нам адразу пакажуць: дзе радыёактыўнае выпраменьванне — там і шукай загінуўшую ракету.

— Праўда,— згадзіўся я і націснуў на кнопкі. Цяпер Віктар і Дзянісаў сачылі за Месяцам з акна, а я — па паказаннях апаратаў. Мінула ўсяго некалькі кароткіх хвілін — гляджу, а на шкле рэнтгенометра захісталася страла і паволі папаўзла ўгару.

— Іван Іванавіч,— закрычаў я.— Ракета недзе тут. Мы трапілі ў зону магнітнай радыёактыўнасці. 50 рэнтген у гадзіну!

Дзянісаў стаяў ля акна не зварухнуўшыся. Ён, мабыць, не губляў надзеі заўважыць не толькі месца катастрофы, але і жывых членаў экіпажа ракеты. Я разумеў яго. Ндарэчна было ўявіць, што Поль Арноль і Роб Пітэрс недзе ляжаць мёртвыя пад абломкамі свайго карабля. Як хацелася ўбачыць іх жывых, выратаваць!

Калі я зноў паглядзеў на паказанні рэнтгенометра, мяне ахапіў страх: 200 рэнтген у гадзіну? Ад разбітага атамнага рэактара «Анаконды» не можа быць такая радыёактыўнасць, ды яшчэ на вялікай плошчы...

Я хацеў крануць Дзянісава за плячо, але ён сам, як-бы адчуваючы нешта нядобрае, павярнуўся да пульта кіравання і паглядзеў на шкалу апарата.

Скулы яго ледзь прыкметна ўздрыгнулі.

— Якое адкрыццё! Але яно можа нам дорага каштаваць,— сказаў ён стрымана.— Такіх магутных залежаў уранавых і торыевых руд нідзе няма на Зямлі.

Пакуль мы прымалі меры перасцярогі супраць нябачаных праменняў, зона небяспечнай радыёактыўнасці засталася ззаду.

**28 чэрвеня.** 10.00.

Мінула 2 гадзіны 7 хвілін 38 секунд. Наш «Вулкан» зрабіў кругавы аблёт вакол серабрыстага шара, пакрыўшы адлегласць 12 177 кіламетраў. Знойдзены яшчэ тры мясціны, дзе заўважаны радыёактыўныя выпраменьванні. Мы іх старанна сфатаграфавалі і нанеслі на карты. Цяпер абавязкова будуць знойдзены рэшткі загінуўшага карабля, па якіх мы прачытаем сумную гісторыю людзей, што ступілі на новую нязведаную планету.

**29 чэрвеня.** 10 гадзін 15 хвілін.

Ура! Апошняе тармажэнне! «Вулкан» ідзе на пасадку. Мы з затоеным дыханнем сочым, як ракета паступова набліжаецца да паверхні Месяца. Іван Іванавіч вядзе рэпартаж для Зямлі, расказвае, удакладняе даныя аб ландшафце. Цікава назіраць за гарызонтам. Ён, нібы гумавы, — звужаецца, сціскае далягляд. Удалечыні і з бакоў відаць горы. Хвіліна — і іх ужо няма, яны як-бы ўраслі ў сярэдзіну планеты.

Нарэшце... О, што гэта? Ілюмінатары і шырокае акно абсерваторыі засланіў густы, непраглядны змрок. Я схапіўся за штурвал, міжвольна заплюшчыў вочы. Што рабіць? Даць поўны наперад?

Але на маё плячо раптам лягла рука Дзянісава. Я павярнуўся. Іван Іванавіч грозіў мне пальцам.

— Што гэта? — спытаў я спалохана.

У гэты момант нас штурханула, выключыліся маторы, і адразу панурая маўклівасць агарнула наваколле.

Нічога не разумеючы, я паглядзеў у вокны. За імі па-ранейшаму стаяла цемрадзь.

— Мы трапілі ў воблака пылу, — нарэшце сказаў Дзянісаў.

Неўзабаве пачалася падрыхтоўка да выхаду з ракеты.

**29 чэрвеня.** 10 гадзін 20 хвілін.

Іван Іванавіч закончыў рэпартаж. Перад намі ўспыхнуў экран тэлевізара. Рассунулася заслона, і мы ўбачылі твар прэзідэнта Акадэміі навук. Ён глядзеў на нас уважліва, з усмешкай. Потым, пакратаўшы вусы над пухлай губой, жартаўліва сказаў:

— Гэта вы, Іван Іванавіч? Дзень добры, дарагі! Якое надвор'е там у вас?

— Чакаецца град, Аляксей Гаўрылавіч, — у тон яму адказаў начальнік экспедыцыі. — З каменьчыкаў і валуноў, — дадаў ён праз момант. — У нас тут дзіравае неба...

— Калі так, беражыцеся,— і раптам сур'ёзна сказаў: — А цяпер дазвольце, дарагія таварышы, павіншаваць вас з перамогай! За вамі сочыць увесь свет. Савецкія людзі і ўся наша вялікая Радзіма спадзяюцца, што вы з чэсцю выканаеце заданне савецкага ўрада. Ад душы радуемся вашым поспехам!

Ніколі яшчэ я не бачыў такіх шчаслівых твараў, якія былі ў Дзянісава і Віктара. Праўду кажуць — сіла перажыванняў залежыць ад сілы жаданняў...

— Мы — на Месяцы! Вось яна,
Перакапаная, зрытая глыбокімі чорнымі шчылінамі;
Застаўленая ўцёсамі і вяршынямі хрыбтоў;
З праваламі кальцавых кратэраў;
З марамі і акіянамі, у якіх ніколі не было і кроплі вады;
Вузкая і цесная пад чорным скляпеннем неба;
Квітнеючая ў праменнях Зямлі і Сонца;
Невядомая, нязнаная, суровая —
ДАЛЯЧЫНЬ.

Мы спускаемся з ракеты па вузкай дзюралевай лесвіцы, мы нарэшце ступаем на глебу Месяца, ступаем асцярожна, спачатку спрабуючы яе дотыкам чаравікаў, каб нечакана не праваліцца ў багну. Нічога, глеба як глеба. Трымае нас, трымае ракету.

Дзень добры, начное свяціла, халодная і спякотная пустыня! Мы, нарэшце, прывезлі табе чалавечую ласку і любоў. Бяры, карыстайся!

Тысячы год людзі марылі зблізку паглядзець твае прасторы, пакратаць рукамі тваю глебу... І гэта здзейснена.

Іван Іванавіч Дзянісаў падымае кавалачак глебы Месяца, размінае на далоні, паказвае нам.

— Дальбог, — кажа ён з усмешкай, — тут смела можа расці пшаніца...

Позірк шукае дарог і сцежак. Іх тут няма. Мы робім першыя крокі.

Лёгкасць рухаў, незвычайная зухаватасць ахоплівае нас. Віктар падскоквае, потым мы бяжым наўздагонкі.

Стой! Хопіць! Дзянісаў уздымае руку і кліча падысці. Што такое?

Назад, у ракету! Мы не павінны губляць і хвіліны часу — за работу, за работу!

Я застаюся ўнізе. Дзянісаў і Віктар выносяць з карабля розныя скрынкі і перадаюць мне. Я іх беражліва складваю ў доўгі штабялёк. І вось Іван Іванавіч дае мне кірку, нечым нагружае і Віктара. Мы ўтраіх ідзем да высокай скалы, што стаіць непадалёку. Па выступах і вуглаватых краях узбіраемся на самую вяршыню. Дзянісаў загадвае на сярэдзіне каменнай пляцоўкі выдзяўбці дзірку.

Сыплюцца ўдары кіркі. Скала дрыжыць, разбуджаная працай.

Гатова! Я распростваюся, адыходжу ў бок.

Дзянісаў надзейна ўмацоўвае на скале высокі металічны шост з блокам і драцяным тросікам, і я ўздымаю Сцяг. Совецкая краіна і людзі ўсёй планеты бачаць на экранах сваіх тэлевізараў хвалюючую, незабыўную падзею.

Палотнішча чырвонага сцяга нерухома застывае ўгары. Мы апладыруем, са шчырым захапленнем крычым «ура».

Пасля Іван Іванавіч Дзянісаў разразае чырвоную нітку на пакрывале, што накінута на нейкую высокую скульптуру.

Хто гэта? На нас, на ландшафт застыўшага царства прыветліва і якбы крыху здзіўлена глядзіць стары чалавек у старамоднай вопратцы і капелюшы.

— Цыялкоўскі! — ускрыкваем мы ад захаплення... — Дык вось хто быў у нас камандзірам карабля!

Я прыгінаюся і чытаю надпіс, высечаны на мармуры пастамента:

«Асноўны матыў майго жыцця — зрабіць што-небудзь карыснае для людзей, не пражыць дарэмна жыцця, правесці чалавецтва хоць крыху ўперад. Вось чаму я цікавіўся тым, што не давала мне ні хлеба, ні сілы. Але я спадзяюся, што мае работы, — магчыма хутка, а магчыма і ў аддаленым будучым, — дадуць грамадству горы хлеба і бездань магутнасці».

— А цяпер, сябры, дастаньце компасы, вызначым сваё месца, — загадаў Іван Іванавіч. — Гатова?

— Гатова, — адказалі мы. — Але дзе-ж тут Поўнач?

Дзянісаў робіць шырокі жэст рукой, паказвае на яркае сузор'е Арла. Мы арыентуемся. Аказваецца, у Месяца ёсць магнітнае поле. Цудоўна! Яно нам вельмі дапаможа ў складанні карты, у пошуках «Анаконды».

Праз поўгадзіны мы зноў адпраўляемся ў дарогу. На ўсякі выпадак надзейна закрываем дзверы камеры-шлюза.

Вакол паную цішыня, вечны спакой. Крокі нашы гучаць у гэтым свеце гулка і цвёрда.

Па Месяцу ідуць пераможцы!

## Раздзел дваццаць чацвёрты

Перад вачыма Роба Пітэрса нечакана вырасла нейкае страшыдла. Калматае, вогненнае, яно кацілася проста на яго, пагражальна грукала магутнымі коламі, засцілаючы далягляд клубкамі чорнага дыму. Цела сціснулася ў тугі камяк, у горле перахапіла дыханне. Стала страшна і

жудасна. Хацелася бегчы, уцякаць. Але куды? Ззаду — чорная шчыліна, правал. Ступіш крок — і паляціш у бяздонне.

Роб зрабіў намаганне закрыць твар рукамі і перад ім ужо не страшыдла, а звычайны дачны цягнік. Вокны вагонаў адчынены, ля іх стаяць дзеці.

О, літасцівы божа! Чый гэта твар у акне будкі паравоза? Ды гэта-ж Рывера, яго жонка! Яна махае прыветліва рукой, на яе вуснах усмешка. Няўжо за час яго адсутнасці жонка стала машыністам і самастойна водзіць цягнікі?

Раптам паравоз крануўся з месца. У кожным вагоне ля адчыненага акна стаяць яго дзеці. Так, так, вунь цыбаты Боб, у другім вагоне — шчабятуха Мэры, а далей самы маленькі — Марк.

Роб хацеў крыкнуць, але нешта надавіла на грудзі, а цягнік раз'юшаным вогненным д'яблам паімчаў у далячынь.

Рывера, спыні на хвіліну цягнік! Скажы, ці паправілася ты. Родная, чуеш?

Але вогненны д'ябал ужо далёка. Толькі цяжкі гул колаў ды трымценне рэек яшчэ даносілася да слыху.

А ён стаяў ужо не ля нейкага бяздоння, а на бязлюднай ціхай станцыі, поўнай агнёў.

Божа, колькі тут рэек? Але нідзе ніводнага паравоза. Як-жа ён дагоніць жонку, дзяцей? Бегчы ўслед? Не, лепш ён крыкне моцна, на ўвесь свет. Яна пачуе яго, абавязкова пачуе! І Роб, сабраўшы сілы, закрычаў:

— Родная, ты паправіла-ася?

Закрычаў і прахапіўся. Што гэта? Дзе ён?

Над галавой — чорная глыбіня неба, засыпаная кучамі зор і засланая белымі і ружовымі туманнасцямі.

Дык ён-жа на Месяцы!

Але чаго дрыжаць сцены шчыліны? Можа і сапраўды ён апынуўся ў родным горадзе?

Роб Пітэрс зварухнуўся і хацеў устаць. У гэты момант над шчылінай вырасла нейкае страшыдла і закрыла сабой вузкае ледзяное неба. Роба ахапіла жудасць. Ён хутчэй адсунуўся ў бок, прыціснуўшыся да крутой сцяны шчыліны. У тую-ж хвіліну на месца, дзе ён спаў, зваліўся аграмадны круглы валун. Цяжка ўздрыгнула глеба.

— Ну вось, і ўся твая свабода, Роб Пітэрс, — пачуўся задаволены голас.

Ды гэта-ж Поль Арноль! Ён стаяў над краем шчыліны і быў добра бачны на фоне зорнага неба.

Мярзотнік! Ён яшчэ не паразумнеў! Хацелася выскачыць з яміны, штурхнуць яго самога ў чорную яе глыбіню, закідаць каменнем. Але гэта быў хвілінны гнеў. Праз момант Робу нават стала смешна.

— Хэлло, містэр Поль!—сказаў Пітэрс, знарок не паказваючыся з ямы.

Поль уздрыгнуў, замітусіўся над краем шчыліны.

— Клянуся Юпітэрам, гэта голас Роба, — трапяткім голасам прамовіў ён і, запаліўшы ліхтар, асвяціў наваколле.

— Вы не памыляецеся, сэр,— Роб з лоўкасцю акрабата выскачыў з яміны і стаў побач са сваім ворагам. Поль хацеў кінуцца ўцякаць, але Пітэрс схапіў яго за руку.

— Сэр, чакайце! — і, задыхаючыся ад хвалявання, прадаўжаў: —

Я ўбачыў камень вашай нянавісці. Вы прыдавілі ім сваё сумленне. Аднак з гэтым усё скончана. Ведайце, я не помслівы чалавек. Каб наперад нічога непрыемнага не здарылася, я, містэр Арноль, вымушаны буду пасяліцца ў каюце ракеты.

Поль Арноль усё зразумеў. Ён нічога не адказаў, ускінуў галаву і шпарка накіраваўся да рэштак «Анаконды».

Роб прыкусіў губу. Потым павольна, уразвалку закрочыў следам за ім.

Так і ёсць—Поль стаў на варце ля ўваходу ў каюту.

Хоча перашкодзіць яму? Што-ж, іншага і нельга было чакаць ад гэтага чалавека.

Роб Пітэрс выпрастаў сутулыя плечы і, сціснуўшы кулакі, спыніўся каля ракеты.

— Слухайце, сэр,—сказаў ён стрымана.—Ваша ўпартасць загубіць вас.

Не паспеў ён закончыць сваёй думкі, як Поль раптам наваліўся на яго. Роб упаў. Перад вачыма, закруцілася неба, пахіснулася, стала насторч панурая пустэльня з вуглаватымі вострымі скаламі. Яны душылі адзін аднаго, тузаліся, дзіка хрыпелі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пахістваючыся, як п'яны, Роб павольна ішоў да ракеты. Колькі часу ён змагаўся з Полем? Цяжка сказаць.

Навокал па-ранейшаму панавала ноч.

Па целе прабеглі халодныя дрыжыкі. Ці не захварэў ён часам? Дрыжаць і падгінаюцца ногі. Трэба аддыхацца, адпачыць. На гэты раз Поль быў асабліва разлютаваны і моцна памяў яго ў бойцы.

Але нічога! Перамога аказалася ўсё-ж на яго, Роба, баку. Няхай цяпер паляжыць, пастогне, гад.

З гэтага часу ўсё пойдзе інакш.

Роб пралез праз адтуліну ў ракету, забарыкадзіраваў уваход нейкімі скрынкамі.

А цяпер можна і ўладкавацца. Ён знайшоў абгарэлую канапку, лёг на яе і выцягнуў знясіленыя ногі.

І адразу вярнуўся спакой. У галаве з'явіліся спачатку бязладныя, а потым і больш выразныя думкі.

Хопіць! Надакучыла! Ён ужо як след навучаны гэтым мярзотнікам. Трэба, нарэшце, навучыць фанабэрыстага Поля паважаць людзей.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На чацвёртыя суткі з-за небасхілу ўзышло Сонца. Гэта былі апошнія суткі жыцця двух чалавек на Месяцы.

Роб Пітэрс з 72 гадзін пражытага часу пасля апошніх падзей зусім нямнога патраціў на адпачынак. Ён быў задаволены: перад ім ляжалі тры тоўстыя спісаныя блакноты.

Такім чынам падарожжа заканчвалася. Можна было спакойна паміраць. Калі людзі знойдуць, нарэшце, гэтыя запісы, яны даведаюцца аб пакутлівых, драматычных гадзінах іхняга жыцця.

Прамень сонца прабіўся ў каюту праз вузкую шчыліну, весела затрапятаў на асколку шкла, што ляжала на падлозе. Роб паглядзеў на яго, і думкі аб смерці адразу зніклі.

Смерць! Гэта-ж змрок, жудаснае бяздонне. І няўжо давядзецца трапіць у яе халодныя, жорсткія абдымкі? Ніколі. Ён, Роб, ляжа ля ракеты тварам уверх, будзе глядзець на Зямлю, нябачнымі ніцямі звяжацца з ёй і, калі надыйдзе апошняя хвіліна, пашле да яе сваю душу, сэрца, нязгасныя шчырыя думкі і парыванні.

Роб устаў з-за высокай скрынкі, якая служыла яму пісьмовым столікам, сабраў усе тры блакноты, звязаў іх шпагатам і паклаў на самым прыкметным месцы каюты.

— Вось і ўсё,—сказаў ён тонам чалавека, які быў рады за вынікі сваёй працы.—Цяпер можна і адпачыць.

Ён злавіў рукамі сонечны прамень, глядзеў на яго з хвіліну, потым рашуча падышоў да адтуліны і раскідаў у бакі скрынкі, дошкі, кавалкі жалеза, што загароджвалі яе.

— Арноль, вы жывы?—сказаў ён у бязлюдную ціхую прастору.— Заходзьце. Я вас чакаю.

Праз момант непадалёку ад ракеты заварушыўся доўгі цень, і ўслед за ім з'явіўся Арноль. Гэта быў ужо зусім другі чалавек—з шэрым змрочным тварам, з патухшымі вачыма.

Ён дрыжаў, як у ліхаманцы, аблізваў языком перасохлыя губы.

— Холадна?—спачувальна спытаў Роб.

Поль нічога не адказаў і, адшукаўшы месца, сеў.

Роб Пітэрс, заглушаючы трывогу, маўкліва прайшоўся па каюце і, спыніўшыся ля вялікай сонечнай плямы, што ляжала перад адтулінай, сказаў:

— Хачу паведаміць вам, Поль: я сваю работу закончыў. Гісторыя нашага падарожжа будзе вядома людзям. А цяпер падзелім рэшткі нашых прыпасаў. Іх якраз хопіць роўна на 24 гадзіны... — Ён прыпыніўся, як-бы нешта абдумваючы, потым павярнуўся тварам да свайго кампаньёна і працягваў: — Дзе ваша абвінавачвае заключэнне? Спадзяюся, яно вам больш не спатрэбіцца...

Поль Арноль, пачуўшы гэтыя словы, уздрыгнуў, нібы прачнуўшыся, потым неахвотна павярнуўся, дастаў з кішэні складзеныя паперкі і парваў іх.

Гэта было крыху нечакана для Роба: Поль, выходзіць, паразумнеў!

Канфлікт між двума жыхарамі Месяца быў ліквідаваны.

— Поль, скажыце мне што-небудзь,—звярнуўся Роб да капітана ракеты, калі яны паснедалі і запоўнілі свае балоны рэшткамі кіслароду.

Поль цяжка ўздыхнуў і панура апусціў галаву.

— Што я магу сказаць?—прамовіў ён ціхім, поўным суму голасам.— У душы пуста, у галаве—пуста, а на сэрцы—камень. Лепш давайце маўчаць, сэр.

— Я не згодзен з вамі, Поль,—энергічна махнуўшы рукой, адказаў штурман.—Маўчаць гэта значыць: аддаць сябе смерці. А я не хачу здавацца ёй, не хачу! Чуеце? Я паспрабую змагацца з ёю,—усклікнуў ён горача.

— Я ўжо змагаўся з ёю. Памятаеце?—хмура кінуў Арноль.

— Я не думаю карыстацца вашым метадам. Наколькі мне вядома, хітрасць нікога яшчэ не выручала, апрача лісіцы.

Поль узняў галаву і апаліў Роба злосным позіркам. Вусны яго заварушыліся, ён нешта хацеў сказаць, але Роб папярэдзіў:

— Не будзем зводзіць рахункі, капітан,—сказаў ён мякка.—Я рады, што мы сталі з вамі таварышамі. Дайце руку, містэр Арноль. Выйдзем з гэтай клеткі. Тут цесна і змрочна. Нам трэба бачыць усё: Сонца, Зямлю, неба і нашу пустынную планету.

Поль кіўнуў галавой. На твары яго нельга было прачытаць нічога. Роб

дапамог яму ўстаць. Яны адзін за адным пралезлі праз адтуліну ракеты і апынуліся на волі.

Свяціла Сонца. Над галавой вісеў шэры, пабляднелы дыск Зямлі.

Два чалавекі азірнуліся, разглядаючы наваколле. Ні дрэў, ні кустоў — мёртвая аднастайная пустыня. Хрыбты невысокіх гор з усіх бакоў замыкалі небасхіл. Камень, цемра і Сонца— і больш нічога.

Ды яшчэ цішыня! Яна прыгнятала, давіла на сэрца нейкім жудасным цяжарам.

Неба, чорны, маўклівы акіян! Няўжо ты не можаш запаліць вясёлку, загрукаць маладым вясновым громам?

Маўклівасць. Цішыня. Спяць камені, спіць пустыня, спіць неба...

Значыць і ўсё? А ты, Зямля? Што нам адкажаш ты?!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Роб Пітэрс першы адчуў, што яму нехапае паветра. Але ён нічога не сказаў Полю. Мацней сціснулася ў грудзях сэрца, цела скурчылася, туга перавязанае акамянелымі мускуламі. Ён стаў дыхаць не так глыбока, невялікімі глыткамі. Спачатку ўдалося ашукаць самога сябе, але хутка нешта пякучае, цяжкае падкацілася да горла, нажом упілося ў грудзі. Роб задыхаў часцей. Перасыхала ў роце, і ён не паспяваў аблізваць языком засмяглыя губы.

Ён паміраў. На яго роўнадушна і холадна пазіраў навакольны свет. Роб заплюшчыў вочы,—толькі на адну хвіліну,—а яму здалося, што ён некуды праваліўся ў бяздонне. Гэта яго напалохала, і ён зноў расплюшчыў вочы.

Азірнуўся. Побач ляжыць Поль Арноль. Ён соладка і бестурботна спіць. «Разбудзіць? Навошта?—спытаў нейкі ўнутраны голас.—Каб ён убачыў твае пакуты? Хіба не можаш памерці моўчкі, не просячы ратунку? Дык маўчы, трывай, мацуйся!»

Роб моцна сціснуў зубы, каб хутчэй пагасіць ледзь пульсуючае жыццё. Але ненадоўга яму хапіла цярплівасці. Жыццё было яшчэ моцным — яно ўспыхнула з новай сілай у яго грудзях.

Роб доўга, з не выказаным смуткам пазіраў на блакітны, нізка навіслы шар Зямлі і раптам уздыхнуў. Уздых быў глыбокі і зусім не пакутлівы. «Ну вось і добра, — мільганула шчаслівая думка ў галаве. — Мне стала лёгка, прыемна і хораша».

Дзе падзеліся тупы боль у горле, слабасць і зняменне цела? На змену прыйшла саладкаватая стома, нейкая ўціхамiраная радасць.

Як ціха навокал! Нават не звініць у галаве, бо яе пакінулі думкі. А што гэта ўгары? Нейкая чорная, журботная рака? Куды яна плыве? Яна ўліваецца ў яго душу, затапляе яе цяжкім пякучым свінцом. Дзе ты, неба, Зямля? Усё знікла, затопленае небывалым чорным шквалам...

...Не, ён не памёр яшчэ, ён бачыць над сабой круглую светлую пляму, яна хістаецца, дрыжыць, то знікае на момант, то зноў з'явіцца. Што гэта? Ён напружваецца, хоча авалодаць атупелымі нервамі. На нейкае імгненне гэта яму ўдаецца, і ён раптам чуе ціхую гаворку.

Божа! Гэта сон ці проста ўяўленне? Не, выразна чуваць чалавечыя галасы, прытым на незразумелай мове. І ён некуды плыве, едзе. О, неба! Якая прыгожая смерць!

Роб збірае рэшткі растрачаных сіл і ўсміхаецца.

Усмешка надоўга застывае на яго вуснах...



## Раздзел дваццаць пяты

На Месяцы пачаліся звычайныя працоўныя будні. Ужо трэці дзень ля кратэра Бург, які знаходзіцца на поўночным беразе мора Яснасці, ідуць работы па ўстанаўленню тэлевізійнай рэтрансляцыйнай станцыі. Закончаны мантаж лёгкай дзюралюмініевай вышкі, на якой размешчана магутная аўтаматычная антэна.

Цяпер астранаўты клапатліва завіхаюцца ля падножжа высокай каменнай сцяны, прабіваюць у ёй калідор, ствараюць у яе сутарэнні памяшканне, дзе будуць устаноўлены асноўныя прылады і апараты сонечнай энергастанцыі.

Непадалёку ўжо стаяць аграмадныя люстры, ловяць Сонца, даюць электраток для мініятурных буравых машын і адбойных малаткоў.

Вось моцна налягае на цвёрды каменны пласт высокі ў блакітным касцюме чалавек. Адвальваецца глыба, ён спрытна адскоквае ў бок і задаволена ўсміхаецца. Бялявыя валасы, смуглявы твар, гальштук у чырвоную гарошыну, — ды гэта-ж Поль Арноль, капітан загінуўшай «Анаконды»!

Дзе-ж Роб Пітэрс? Нешта яго не відаць. Можа ён загінуў?

Не, ён жывы. Дапамога прышла своечасова. Але пакуты «паветранага голаду» так знясілілі яго, што ён не можа хадзіць і ляжыць у каюце ракеты.

Поль Арноль стараецца за дваіх. Ён хоча выдзеліцца сярод савецкіх астранаўтаў, паказаць сваю вынаходлівасць, спрыт, каб заслужыць пахвалу гэтага стрыманага з праніклівымі вачыма Дзянісава, які неяк вельмі пільна прыглядаецца да яго.

Ды і перад Робам ён вінаваты. Але гэта не вельмі турбуе яго. Роб—слуга, свой чалавек, з ім ён памірыцца. Адно яго непакоіць—невядомасць будучыні. Ён хацеў-бы ведаць, як складзецца далейшы лёс, як растлумачыць сваім гаспадарам, уладарам Штатаў, прычыну катастрофы. Вядома, яго напаткала няўдача, хоць гэта было горка і крыўдна ўсведамляць. Ён не зрабіў самага простага — не выратаваў сцяга

Штатаў, перад якім там, на Зямлі, пакляўся, што даставіць яго на Месяц. Сцяг згарэў, ператварыўся ў попел...

Замест яго на высокай скале, што ўзвышаецца шэрай, масіўнай пірамідай, гарыць, горда ўзляцеўшы ў вышыню, барвовы, як сонца, сцяг. Сцяг іншай краіны, чужога народа...

Што цяпер будзе? Хіба ён вінаваты? Роб і Макс і ён сам дакажуць, што ўся справа ў нейкіх праліках канструктараў. Не можа быць, каб ударам метэора былі пашкоджаны адразу дзве антэны. Тут нейкая загадка, таямніца. Як разгадаць яе, як вырвацца з-пад удару лёсу?

Поль Арноль сеў на адвалены камень, задумаўся. Раптам ён заўважыў, што непадалёку каўзануў цень. Узняўшы галаву, ён сустрэўся позіркам з Дзянісавым. Вочы ў гэтага чалавека — здзіўляюча праніклівыя і разумныя. «Няўжо ён заўважае, — падумаў капітан «Анаконды», — што я пакутую, хвалююся? А можа яму расказаць, і ён што-небудзь параіць?»

Дзянісаў падышоў бліжэй, спытаў:

— Ну, як, пакутнік, усё думаеце?

— О, так, сэр,—ветліва кіўнуўшы галавой, адказаў Арноль.

— І адгадалі загадку?

— Не, сэр. Мне цяжка рабіць вывады...

Іван Іванавіч Дзянісаў прыжмурыўся, адкінуў у бок каменьчык, што трымаў у руках, і разважліва сказаў:

— Калі гавораць долары, праўда маўчыць. Аднак падумайце...

— А што мне думаць? Цяпер усё прапала: і Элсі, і слава, і пяць мільёнаў. Калі Уолтэр і даруе, мяне разарвуць на часткі трымальнікі акцый яго кампаніі. Як бачыце, не вельмі прыемная будучыня...

— Як кажуць, у вужакі ног, а ў Уолтэра канцоў не знойдзеш,— сказаў стрымана Іван Іванавіч Дзянісаў і адышоў у бок.

Ён не дарэмна цікавіўся Полем. Хоць экіпаж «Анаконды» быў выратаваны ад гібелі, усіх членаў—і Поля, і Роба, і Макса—чакала на радзіме вялікая непрыемнасць. Авантурыстычны план Уолтэра праваліўся, і сенатар, вядома, каб выйсці сухім з вады, пастараецца перакласці ўсю віну за няўдачу на астранаўтаў. Ужо загадзя можна меркаваць, што іх абвінавацяць ва ўсіх смяротных грахах і абавязкова ў садзеянні камуністам па захопу Месяца.

Калі прасачыць ход усіх падзей, знайсці прычыны загадкавай катастрофы, экіпажу ракеты цяжка будзе адхіліць ад сябе паток паклёпу, хлусні, пагроз. Лёс яго загадзя вырашаны.

Дзянісава здзівіла маўклівасць і незразумелая замкнёнасць Поля Арноля. Чаму ён не хоча ні з кім параіцца аб сваёй бядзе? Гэта выпадковасць, ці загадзя прадуманы разлік? Можа ён спадзяецца на нешта? А перад імі тоіцца, хавае праўду?

Цікава было-б пагаварыць з Робам Пітэрсам. Але штурман яшчэ вельмі слабы.

Сёння па плану работ Віктар быў пасланы да кратэра Эўдокса, каб там правесці разведку, вызначыць раёны залягання радыёактыўных руд. У памочнікі яму Дзянісаў даў Поля Арноля.

— Глядзі-ж, Віктар,— папярэдзіў начальнік экспедыцыі,— заданне адказнае. Будзьце асцярожнымі.

Віктар бадзёра ўсміхнуўся і, па-сяброўску ляпнуўшы Поля па плячы, сказаў:

— Я з гэтым волатам зрушу там усе горы...

Ён ускінуў на плечы рэнтгенометр, кіўнуў галавой Арнолю, і яны,

уключыўшы рэактыўныя касцюмныя маторчыкі, імкліва панесліся ў далячынь.

Чым больш прыглядаўся Арноль да Віктара Матука, тым больш выспявала ў яго думка выкарыстаць гэтага штурмана, яго нейкую незадаволенасць, для захопу ракеты. Тысяча д'яблаў! Ён вярнуўся-б назад на Зямлю не зганьбаваным няўдачнікам, а сапраўдным героем. Выдатная думка!

Але як яе здзейсніць? «Вось каб што-небудзь здарылася з Дзянісавым і Алегам Драздом,—думаў ён.—Скажам, нечакана зваліўся на іх метэор, ці прываліла-б іх каменная скала. Стой!—супыніў ён свае думкі.— А навошта чакаць? Можна-б што-небудзь прыдумаць... А тым часам падвярнуўся ўдалы момант пагаварыць з гэтым рыжаватым фанабэрыстым юнаком».

Поль Арноль кашлянуў і нечакана спытаў:

— Містэр Машук, скажыце, вы шчаслівы?

— Вядома, — адказаў той, здзіўлена паглядзеўшы на кампаньёна.

— А багаты?

— Хіба вы не чулі: мільянер!

— Колькі-ж у вас мільёнаў?—вытрашчыў вочы Поль.

— 200 мільёнаў чалавек, якія працуюць на мяне, а я на іх!

— О, містэр, гэта пахвальна! Але не нова. Здаецца, сэр,—і ён прыжмурыў вочы, як-бы намагаючыся нешта прыпомніць,—вы паўтараеце чужыя словы...

— Словы свайго суайчынніка Валерыя Чкалава — адказаў Віктар.

Поль Арноль быў азадачаны адказам Віктара Машука. Але ён не хацеў адступіцца.

— Я ведаю, вы гэта гаворыце не ад шчырага сэрца. Вы разлічвалі на эфект.

— А вы на што разлічваеце, сэр?—бліснуў злосна вачыма Віктар.— Хопіць! Усё для мяне зразумела.

— Сэр,—не сунімаўся Поль.—Я хацеў вам проста прыпомніць, што чалавек павінен браць ад жыцця ўсё, што можна, нават пры неспрыяльных умовах.

— Мы ўсё і бярэм, містэр.

— Для вашых 200 мільёнаў?—кпліва прамовіў капітан «Анаконды».—А вось мы бярэм для саміх сябе. Ведаеце вы, што ў сейфах нашых Штатаў падрыхтаваны для траіх чалавек пяць мільёнаў долараў? Вы ўяўляеце—бездань грошай! Ды вось крыху няскладна атрымліваецца, у нас нехапае трэцяга чалавека...

— А Макс Вэл? Вы пра яго забыліся? Ён-жа жывы, здаровы...

— Але павіс у космасе, не даляцеў да Месяца — ён выключаецца з разліку,—катэгарычна зазначыў Поль Арноль.

— Значыць, вы шукаеце прэтэндэнта на яго долю?

Поль Арноль ажывіўся і, зазірнуўшы ў твар Віктару, радасна сказаў:

— О, вы разумееце мяне з поўслова, містэр. Гэта пахвальна, вельмі пахвальна.

— Вядома, разумею,—ужо зусім весела прамовіў Віктар, цешачыся намаганнямі чужака. Ён памаўчаў хвіліну, потым дадаў: — На чужым гарбу хочаце ў рай прабрацца.

Поль Арноль прыкусіў губу. Аказваецца, яго старанне было дарэмным. Гэты рускі хлапец—заядлы комуніст. Які непрыступны і калючы! Голай рукой не возьмеш...

Капітан «Анаконды» засумаваў. А ён так спадзяваўся! Значыць, яго план нумар адзін праваліўся? Што-ж прыдумаць цяпер?

Віктар Машук спыніўся, паглядзеў на карту.

— Ну, містэр, — сказаў ён. — Мы тут павінны разыйсціся. Вы пойдзеце па правым баку Эўдокса, а я па левым. Бачыце па сваёй карце?

— Бачу, сэр.

— Калі што заўважыце, перадавайце па радыё. Сустрэнемся на поўднёвых адгор'ях кратэра.

Поль маўкліва кіўнуў галавой і, выбраўшы арыентыр для свайго руху, паволі накіраваўся па маршруту.

Цяпер гэтая прагулка страціла для яго ўсю цікавасць. Ён падскокваў, высока ўзлятаў у вышыню, падоўгу спыняўся на выпуклых валах, заглядаў у шырокія чорныя шчыліны. На паказанні рэнтгенометра не пазіраў. Навошта служыць комуністам? Гэта занадта. Калі Уолтэр даведаецца, будзе яшчэ адна лішняя падстава судзіць яго, як здрадніка Штатаў.

Даляцеўшы да гары з тупым пікам, ён пачаў старанна абследаваць яе. Гары фактычна не было, яна ляжала разваленай, раскіданай па ўсёй мясцовасці асобнымі вуглаватымі глыбамі, цяжкімі масіўнымі каменнямі. Выступы скал свяціліся на сонцы, адгор'і танулі ў густым непраглядным змроку ценяў.

Нечакана Арноль спыніўся і радасна ўстрапянуўся. Што гэта вунь там блішчыць? Ды так ярка, прамяніста! Божа, ці не натрапіў ён на самародак дыямента?

Сэрца моцна забілася, затрапятала. Поль, не зводзячы вачэй з дзівоснага агеньчыка, рушыў наперад. Адзін скачок, другі, і вось—адзінокая, падобная на вежу, скала.

Рукі нецярпліва пацягнуліся да яе шурпатых, шэра-чорных бакоў. Ён адбіў кавалак скалы, прагна ўпіўся ў яго вачыма. На далоні ляжаў нейкі камень з сіняватымі, чырвонымі і зялёнымі прожылкамі, свяціўся пад промнямі Сонца то як дыямент, то як сапфір, то як малахіт.

Поль засумаваў. Як яму не шанцуе! Усё-ж ён паклаў сваю знаходку ў сумку, каб паказаць яе совецкім астранаўтам.

Потым сеў, задумаўся. Што рабіць? Душа жыла нядобрымі прадчуваннямі. Ён на момант успомніў Элсі. Два дні назад, пасля прыходу ў лагер совецкіх астранаўтаў, ён паслаў ёй тэлеграму. Але нешта яна не адказвала. Забылася, знайшла другога ці ёй загадана маўчаць? Як відаць, не толькі Элсі, але і ўсе на радзіме не вельмі радаваліся іх выратаванню.

Павярнуўшыся назад, ён убачыў удалечыні высокія горы, якія вельмі нагадвалі панурыя, навальнічныя хмары. Гэта Каўказ. Ці не абследаваць яго? Можа там што-небудзь знойдзецца нечаканае?

Не доўга думаючы, ён пакінуў бераг кратэра і паімчаўся да ззяючых, асветленых сонцам хрыбтоў.

Вось круглая камяністая чаша вялікай яміны, нейкія хвалістыя горныя ланцугі, шырокая катлавіна, заціснутая скаламі. А далей... Ён нават спыніўся, каб крыху аддыхацца. Перад ім стаяла грамада высокіх гор, якія нагадвалі сабой дзівосны горад з незвычайнымі небаскробамі. «Гэта крыху падобна на галоўны горад Штатаў,—падумаў Поль.—Вунь там, здаецца, павінен праходзіць Брадвей, а крыху ўбок — Уол-стрыт. Эх, каб гэта быў сапраўды родны горад»,—уздыхнуў сумна Поль.

Доўга ён стаяў нерухома, зачараваны ўбачаным відовішчам. Потым рэзка ўзмахнуў рукамі, падскочыў угару і паляцеў да плоскай камяні-

стай скалы. Доўга ён блукаў па цяснінах, адгор'ях, узлазіў на высокія скалы, спускаўся ў халодныя змрочныя шчыліны— і ўсё дарэмна. Пад рукі траплялі вядомыя на зямлі мінералы—горныя шпаты, слюда, граніт — і толькі. Нідзе ніводнага алмаза! «Якая бедная планета, — падумаў Поль. — Нават першых сваіх жыхароў не можа нічым узнагародзіць».

Падарожжа на Каўказ не было лёгкай прагулкай. На кожным кроку яго падпільноўвалі нечаканасці. Апускаючыся на асобныя горныя пляцоўкі, ён то раптам тануў у дробным, пульхным, як попел, пыле, то ляцеў у прадонне з кавалкам адламанай пароды, якая тут-жа рассыпалася драбнюткім парашком.

Паглядзеўшы на гадзіннік, ён устрывожыўся. Аказваецца, ён аж пяць гадзін прабыў у каменных сутарэннях Каўказа. Трэба было спяшацца да кратэра Эўдокса. Там яго павінен чакаць Машук. Што ён скажа яму, чым вытлумачыць невыкананне задання?

І раптам... Што гэта? З гары зваліўся камень і ляціць уніз, у прадонне...

Поль ад нечаканасці застыг на месцы і ўпіўся вачыма ў далячынь. Ды не, гэта не камень. Ён выразна ўбачыў дзве нагі, абутыя ў чаравікі. «Хто-ж гэта? — маланкай мільганула думка.— І ён ляціць уніз галавой, не выкарыстоўвае свайго маторчыка?»

Халадок прабег па целе Поля. Ён яшчэ доўга стаяў, углядаўся ў панурыя востраверхія хрыбты гор, чакаў, што вось-вось з далёкіх іх цяснін вынырне постаць чалавека.

Нарэшце прадаўгаваты твар Поля расплыўся ад задавальнення.

Так, Поль радаваўся. Ён бачыў, як загінуў чалавек. «Вядома,—думаў ён зласліва,— гэта або Дзянісаў або Алег Дрозд. Ну вось, выконваюцца мае жаданні»...

Перабраўшыся праз грэбень невысокай гары на другі бок, Поль што было моцы паімчаўся да мора Яснасці. Там яго чакаў Віктар.

На просьбу расказаць, што ён заўважыў на сваім маршруце, Поль пачціва ўсміхнуўся і прамовіў:

— Калі ласка, містэр Машук. Вось дакладны план. Я лічу: тут цэлы скарб для ўсёй Зямлі...

— Так,— згадзіўся Віктар.— Вялікая будучыня ў Месяца. Хутка тут узнікнуць сапраўдныя гарадскія пасёлкі,— летуценна дадаў ён.

— І адзін з іх назавуць горадам Машук...

Віктар павярнуўся, дапытліва паглядзеў на свайго кампаньёна. Глядзі ты, як выслужваецца! Чаго-б гэта?

— Я, містэр Арноль, не прэтэндую на грошы, як вы ведаеце, а тым больш на славу,— сказаў ён паважна праз момант.

— О, мне падабаецца ваша незалежнасць!

Хутка размова закончылася. Вядома, Віктар не мог здагадацца, што Поль падсунуў яму падманны план радыёактыўнага ўчастка.

Задаволеныя адзін адным, яны рушылі ў зваротны шлях.

У лагеры было пустынна і маўкліва. Ракета, як магутны абеліск, узвышалася на скалістым беразе мора Яснасці. Віктара крыху здзівіла панурая цішыня. Потым супакоіўся. «Мабыць, змарыліся за дзень, адпачываюць»,— падумаў ён.

Дзянісаў быў у ракеце. Ён сядзеў ля пасцелі Роба, аб нечым з ім размаўляў.

— А-а-! Нарэшце! — усклікнуў Іван Іванавіч.— А мы з Робам пачалі ўжо хвалявацца... Пара, сябры, абедаць,— устаў ён з лёгкага плеценага крэсла.— Ды вось нешта Алег затрымліваецца...

— А дзе ён? — спытаў Віктар.

— Гадзіны тры назад папрасіўся на прагулку з кінакамерай. Хоча цэлы фільм прывезці на Зямлю.

— О, гэта пахвальна з яго боку! — усклікнуў Поль Арноль, і вочы яго хітравата заблішчэлі. — Ён такі дзелавіты, ініцыятыўны. Клянуся, містэр Дрозд далёка пойдзе. У яго — талент!

Іван Іванавіч доўгім дапытлівым позіркам паглядзеў на капітана «Анаконды», потым зусім лагодна спытаў:

— Мяне цікавіць, містэр Арноль, з якога часу вы сталі прадказальнікам лёсу?

— Калі пачуў сваю бяду,— хіхікнуў Віктар.

Поль Арноль спачатку нахмурыўся, але потым зусім бестурботна зарагатаў і сам.

— А вы гумарыст, містэр Машук, хе-хе-хе,— сказаў ён.— У маёй краіне любяць такіх людзей.

Затрымка Алега ўжо не на жарт усхвалявала ўсіх. Дзянісаў некалькі разоў падаваў сігналы па радыё, хацеў звязацца з хлопцам, запытаць, чаго ён марудзіць са зваротам, але той маўчаў.

Што за ліха? Ці не забраўся куды-небудзь далёка?

Яны больш не сталі чакаць і сабраліся ў сталовай абедаць.

* * *

Бяда прыйшла ў лагер астранаўтаў. Нават пошукі ў ваколіцах мора Яснасці не далі вынікаў. Алег Дрозд не знаходзіўся і не адгукваўся па радыё.

— Дзянісаў сядзеў пахмуры і злосны. Згодна плана, трэба было збірацца назад, у дарогу. — І вось — маеш! Знік чалавек! Дзе яго шукаць? Былі ўключаны і працавалі ўсе радыёпрыёмнікі на ўльтракароткіх і сярэдніх хвалях, ярка свяціліся люстэркі тэлеэкранаў.

Віктар устрывожана хадзіў па каюце, потым прыпыняўся, услухоўваўся ў манатоннае гудзенне дынамікаў і думаў, думаў...

Пошукам Алега замінала прысутнасць у лагеры замежных гасцей. Дзянісаў не давяраў ім. Гэтыя людзі могуць пайсці на любыя авантуры.

Роб Пітэрс паправіўся і адчуваў сябе добра. Дзянісаву і Віктару ён падабаўся: сціплы, удумлівы, разважлівы. Праўда, усё гэта магло быць паказным, знешнім. У чалавечую-ж душу не заглянеш... Адно абнадзейвала і давала падставу бачыць у асобе Роба не ворага, а сябра — тое, што ён рабочы. Дзянісаў гутарыў з Робам і ведаў, што доўгі час ён хадзіў беспрацоўным, спазнаў гора і галечу.

Але Поль Арноль! Гэты няўдалы капітан меў сілу і ўладу над Робам і мог выкарыстаць яго для выканання сваіх планаў.

А што планы ў Поля ёсць — у гэтым не было сумнення. Ён імкнуўся схаваць сваё нутро ад совецкіх людзей, прыкрываючыся маскай ветлівасці і бестурботнай весялосці. Гэта можна было зразумець, пільна прыгледзеўшыся да яго. Хоць ён імкнуўся, але не мог схаваць халоднай нянавісці, якая таілася ў вачах.

Каб параіцца між сабой, рашыць, як дзейнічаць, Іван Іванавіч папрасіў Роба і Поля выйсці з каюты ракеты. Калі яны апранулі касмічныя касцюмы і выйшлі, Дзянісаў сеў насупраць Віктара, задумліва сказаў:

— Воўк ліняе, ды нораву не мяняе.

— Вы пра каго гэта? — не зразумеў адразу Віктар.

— Хіба не здагадваешся — пра Поля Арноля! Не падабаецца мне яго ўгодлівая ўсмешка, напускная стараннасць.

— Хіцер Зміцер,— згадзіўся Віктар. — Я-ж вам гаварыў: ён мяне ўжо купляў.

— А якой ты думкі аб Робе?

— Здаецца, наш чалавек. Трэба шчыра пагутарыць з ім. Калі ён будзе на нашым баку, тады Поль не страшны.

— Правільна, так і зробім, — згадзіўся праз хвіліну Іван Іванавіч.— Пакліч Роба.

Ён вярнуўся ў каюту, распрануўся і, па запрашэнню Дзянісава, сеў на ўскрай канапкі. Нейкі момант стаяла няёмкая цішыня.

Рукі Роба, валасатыя, моцныя, ляжалі спакойна на каленях. Нельга было не пранікнуцца павагай да гэтага магутнага чалавека.

— Дарагія сябры,— нарэшце сказаў Роб вуркатлівым густым басам.— Я адчуваю сябе перад вамі вінаватым.

— У чым? — спытаў шчыра Іван Іванавіч.

— Я не ведаю, як аддзякаваць за выратаванне... Адбыўся нейкі цуд... Я ніколі не думаў, што застануся жывым.

— Таварыш Пітэрс, не хвалюйцеся. Мы рады, што выратавалі людзей. Тое, што вы жывы, з'яўляецца лепшай для нас падзякай. Вось і мы, як бачыце, трапілі ў цяжкае становішча,— прадаўжаў як-бы між іншым Дзянісаў. — І нам трэба дапамога...

— О, таварыш Дзянісаў, — горача ўсклікнуў Роб.— Разлічвайце на мяне, як на самога сябе. Я да вашых паслуг.

Іван Іванавіч Дзянісаў задаволена кіўнуў галавой. Нельга было не паверыць у шчырасць Роба. Начальнік экспедыцыі ўзяў ягоныя рукі ў свае, сціснуў іх моцна, па-сяброўску, і спытаў:

— А што вы можаце сказаць пра свайго капітана?

Роб апусціў галаву. На твары варухнуліся і застыглі скулы. На ілбе ўсхвалявана пульсавала тонкая сіняватая жылка.

— Гэта д'ябал! — выгукнуў ён раптам з несхаванай злосцю. — Не глядзіце, што ў яго хвост лісіны, затое зубы тыгрыныя! Ох, і паваяваўжа я з ім тут, пакуль вы на нас натрапілі,— сказаў ён і з палёгкай уздыхнуў.

— А што такое было? — зацікавіўся Дзянісаў.

— Вы не чыталі мае запісы? — здзівіўся Роб.— Хіба іх не заўважылі ў ракеце?

— Як не заўважылі? Вось яны, — паказаў Віктар старанна перавязаныя шпагатам блакноты.

— Прачытайце, тады вы ўсё зразумееце.

Мінула добрых поўгадзіны. Нарэшце Іван Іванавіч Дзянісаў устаў, адклаў ўбок запісы і радасна сказаў:

— Вы — малайчына! Вы — наш сябар! А ў нас кажуць: для сяброў пірагі, для ворагаў — кулакі. А цяпер, дарагія мае, давайце параімся, як адшукаць Алега.

Раіліся нядоўга, бо хутка прыйшлі да агульнай думкі.

З Масквы, з Акадэміі навук і Цэнтральнага касмадрома праз кожныя поўгадзіны пыталіся аб лёсе Алега. Адказы былі несуцяшальныя.

* * *

На пошукі Алега накіраваліся ўсе: Дзянісаў і Віктар, Роб і Поль. Было вырашана як след абследаваць увесь поўночны ўчастак мора

Яснасці, а таксама граду Каўказскіх гор. Гэтыя ўчасткі Месяца былі найбольш цікавымі для кіноаператара. Дзянісаў накіраваўся да Каўказа, Роб — да кратэра Мазон, а Віктар з Полем — на раўніну, што ляжала ля кратэраў Эўдокс і Арыстотэль.

Лёгка ляцець у беспаветранай прасторы Месяца. Уся навакольная мясцовасць аж зіхаціць ад сонечнага святла. Яе яркасць яшчэ больш падкрэсліваецца чорным, як сажа, небам.

Позірк Івана Іванавіча прагна шукае сярод панурай пустыні слядоў чалавека.

І вось Дзянісаў убачыў наперадзе рад завостраных зззяючых вяршынь. Сэрца трывожна забілася. Іван Іванавіч прадчуваў, што Алег мог трапіць у бяду толькі дзе-небудзь у горах. Ён замарудзіў палёт і стаў больш пільна разглядаць навакольную мясцовасць.

Вось доўгая шэра-бурая раўніна, роўная і чыстая, быццам заасфальтаваная. Дзянісаў апусціўся ўніз і цяжкімі чаравікамі прайшоўся па глебе. Дзіўна, не застаецца ніводнага следу. Тады ён зноў узняўся ўвышыню і накіраваўся да зубчастай лініі небасхілу. Хутка перад ім паўстала складанае спляценне горных кражаў. Перспектыва гор, што адкрыліся позірку, моцна ўразіла Дзянісава. Тут было царства дзівосных ззяючых пікаў і скал, абваленых і разбітых на дробныя кавалкі глыбаў.

Тут нішто не нагадвала аб прысутнасці чалавека, аб яго працы і дзейнасці. Усё было мёртвым, панурым.

— Алег! Алег! Адгукніся, мы шукаем цябе! — у роспачы загукаў Іван Іванавіч.

Ён доўга стаяў нерухома, чуйна прыслухоўваўся. Яго позірк снаваў па далягляду. Пустэча, нерухомасць.

Нечакана доўгі цень далёкага горнага піка, што ляжаў ля яго ног, калыхнуўся ўбок і, як некім зрэзаны, знік, адкрыўшы перад ім чорнае глыбокае бяздонне. Іван Іванавіч спалохана адступіў назад. У далечыні, на месцы горнага піка, узняўся высокі слуп пылу. Здавалася, вось-вось цясніны гор запоўняцца працяглым грамавым гулам абвалу. Але тут аб ім напомніла толькі невялікае дрыжанне глебы. Што здарылася з пікам? У яго ўрэзаўся метэор ці там неасцярожна ступіў Алег?

Пераскокваючы праз шчыліны і абрывы, лёгка і спрытна адштурхоўваючыся ад каменных глыбаў і невялікіх пляцовак, Дзянісаў накіраваўся ў глыбіню гор. З-пад ног вырываліся камяні, адкосы скал пры невялікім дотыку рассыпаліся ў дробны пыл, але Іван Іванавіч кожны раз паспяваў своечасова ўключыць маторчык, і гэта яго выратоўвала ад гібелі.

Позірк толькі на адно імгненне схапіў абрысы ўмяціны на адным з горных схілаў, а сэрца радасна затрапятала: гэта-ж след чалавека! Дзянісаў, поўны радасным прадчуваннем блізкай сустрэчы, усхвалявана закрычаў у мікрафон, патрабуючы, каб Алег неадкладна адгукнуўся. Пастаяў крыху, паслухаў. У навушніках ні гуку, ні шолаху.

— Дзе-ж ты, Алег?

Дзянісаў па вузкаму адкосу скалы перабраўся да грады невысокіх гор.

А вось і доўгі ланцуг парных ямінак. Так, гэта былі чалавечыя сляды! Іван Іванавіч нахіліўся, прыгледзеўся. Што за ліха? След быў вялізны

і нічым не нагадваў сваімі абрысамі форму чаравікаў Алега. Для большай пераканальнасці Іван Іванавіч побач выціснуў след сваёй нагі.

Два розных, мала падобных сляды! Новая здагадка — тут быў чалавек, які насіў чаравікі замежнай фірмы! У гэтым не было ніякага сумнення: поўкруглая форма абцаса, шырокія наскі з шыпамі.

Хто-ж пакінуў іх? Ды вядома — Поль Арноль! Чакай, разам з Віктарам ён абследаваў раён кратэра Эўдокса. Як-жа мог трапіць сюды?

«Значыць, ашукаў нас, — мільганула жахлівая думка. — Ён сустрэў Алега і...»

У Івана Іванавіча перахапіла дыханне.

Ён яго забіў... Пра гэта і гадаць няма чаго. Які жах!...

Іван Іванавіч прасачыў напрамак слядоў, потым пачаў абследаваць бяздонныя шчыліны і вузкія цясніны. Нідзе ніякага знаку.

Нарэшце Дзянісаў спыніўся, цяжка ўздыхнуў. Ён дрэнна бачыў: на вочы набеглі слёзы.

Пастаяўшы крыху, ён павярнуўся назад і, запусціўшы маторчык, стаў па вузкіх скалістых калідорах выбірацца на раўніну.

* * *

Віктар Машук вярнуўся ў лагер раней, чым Дзянісаў і Роб. Пакінуўшы Поля ля ракеты, ён увайшоў у каюту.

Алега не знайшлі... Алег загінуў... Цяжар смутку і жальбы прыгнятаў душу. Толькі цяпер упершыню Віктар адчуў, як моцна ён паважаў Алега. Праўда, у апошні час у іх адносінах адчувалася нейкая нацягнутасць. Але-ж гэта было непаразуменне. «Хіба можна спрачацца з-за кахання? Які я ўсё-такі дзівак! Наташа вернецца, і цяпер я буду яе моцна-моцна кахаць»...

Віктар паглядаў па баках. Вось тут учора за гэтым столікам сядзеў Алег, жартаваў, смяяўся. «Дзе-ж ты цяпер, дружа? Скажы, як і чым табе дапамагчы?»

Распрануўшыся, Віктар закурыў і паглыбіўся ў думкі.

Праз ілюмінатары лілося яркае сонечнае святло, у паветры зусім па-зямному скакалі, кружыліся пылінкі, аднатонна адлічваў хвіліны атамны гадзіннік, устаўлены ў пярэднюю сценку каюты.

«Ужо мінула 21 гадзіна. Алег! Алег! А ты помніш, колькі разам перадумалі дум, якія будавалі планы! Нам пашчасціла — нам даверылі першымі ступіць на Месяц. Нялёгка было, але выдужалі, не зламіліся. Як-жа будзем без цябе?..»

Віктар скрануўся з месца і толькі зараз убачыў, што сядзеў перад вялізным выпуклым люстрам тэлеэкрана. Ён уключыў кнопку. Успыхнуў экран, і Віктар ад нечаканасці ўздрыгнуў. Проста на яго, не мігаючы, з тугой глядзела Наташа і з адчаем клікала:

— Алег! Алег! Ты чуеш? Я шукаю цябе! Адгукніся!

Віктар быў уражаны да глыбіні душы. Наташа пакутуе! Наташа—у горы! Дык значыць яна сапраўды пакахала Алега! А ён? Што яму рабіць?

Віктар падхапіўся з месца і, упіўшыся позіркам у пакутлівы застыглы твар Наташы, нерухома стаяў некалькі хвілін, не ведаючы, што рабіць.

Яна заўважыла Віктара, і да яго слыху раптам далящеў ласкавы панылы голас:

— Добры дзень, Віктар! Чаму ты ў каюце? Чаму не шукаеш Алега?

Віктар уздыхнуў, і злосць раптам знікла.

Яму як-бы нехта шапнуў: «Ты забыўся, сябры пазнаюцца ў бядзе».

І ён адчуў сябе вінаватым не толькі перад Алегам, але і перад Наташай.

Заміргаўшы вачыма, Віктар сказаў:

— Наташа, не сумуй, не губляй надзеі! Мы знойдзем Алега! Мы вернемся разам на Зямлю.

Ён бачыў: дзяўчына, пачуўшы яго словы, устрапянулася, ажыла, і ў яе ласкавым позірку можна было прачытаць глыбокую сардэчную падзяку.

Яны стаялі нерухома, доўга глядзелі адзін на аднаго. Засмучоны твар Наташы быў, здаецца, яшчэ прыгажэйшы. Яна прышла сюды ў каюту, праз змрочную ледзяную прастору сусвету, прасіла і патрабавала знайсці, вярнуць на Зямлю Алега.

Віктар быў загіпнатызаваны яе позіркам. І калі яна сказала: «Чаго-ж ты стаіш? Ідзі! Ідзі!» — ён хуценька павярнуўся і стаў апранацца. Калі адчыніў дзверы камеры-шлюза, не ўтрываў і яшчэ раз паглядзеў на экран.

Наташа сачыла за ім. Хоць твар і пастава яе не змяніліся, але ён заўважыў, што яна ўжо не можа добра валодаць сабой: сціснутыя засмяглыя губы дрыжалі, у вачах блішчалі слёзы.

Віктар быў у адчаі. «Яна кахае Алега! Яна нават не хавае гэтага перада мной, — падумаў ён. — Я між іх — трэці лішні...»

Стала шкада самога сябе. Ён аказаўся не вартым шчырай увагі Наташы. Сам вінават! Каханне не церпіць знявагі, насмешкі, падману. Вось цяпер расплачвайся! Страціў дзяўчыну... Яе выбраннік — Алег.

І раптам міма яго волі ў галаве заварушылася думка: «Алега-ж няма і, мабыць, не будзе. Не бядуй, не хвалюйся. Усё міне, і ўсё ўпарадкуецца...»

Віктар па-сяброўску кіўнуў Наташы галавой і зачыніў за сабой дзверы. Ён, Віктар, яшчэ пакажа сябе. Яшчэ невядома, хто сярод іх трэці лішні!

Ён разумеў, што даказаць шчырасць свайго пачуцця ён можа цяпер толькі ў прысутнасці Алега. Ён прывядзе Алега з каменных сутарэнняў гэтай мёртвай планеты, паставіць яго перад тэлеэкранам і скажа:

— Глядзі, Наташа, я пакляўся і я яго знайшоў!

Тады яна павінна ўсё зразумець, вярнуць назад яму давер, павагу, ласку, пачуцце. Каханне, як і шчасце, не прыходзіць само — яго заваёўваюць!

Саскочыўшы з лесвіцы на светлакарычневую базальтавую пляцоўку, Віктар спыніўся. Дзівосны ландшафт, быццам абпалены небывалым пажарам, адкрыўся перад ім. І ён адразу адчуў сябе адзінокім, нават бездапаможным. Вялікія пачуцці і думкі, якія толькі што хвалявалі яго, здавалася, вырваліся з душы і зніклі ў гэтай бязмежнай сухой пустэльні.

Куды-ж ісці шукаць Алега?

І раптам да яго падышоў Поль і стрымана сказаў:

— Містэр Машук, глядзіце, нехта вяртаецца...

З-за каланады дзікіх змрочных скал, якія адкідвалі доўгі цень і загароджвалі заходні бок мора Яснасці, паявілася постаць чалавека. Ён спяшаўся, ляцеў, нібы яго гнала вялікая бура.

Не прайшло і хвіліны, як падарожнік спыніўся ля ракеты. Грузна, няўклюдна ён зрабіў некалькі крокаў у бок Поля, і Віктар зразумеў: гэта Дзянісаў. Вось ён, нарэшце, спыніўся, утаропіўшы ў чужаземца цяжкі, суровы погляд.

— Што вы зрабілі з Алегам! — не сказаў, а працадзіў праз зубы Іван Іванавіч. Твар яго зрабіўся чорным ад гневу і нянавісці.

Поль Арноль уздрыгнуў, потым зласліва ўсміхнуўся:

— Нічога не рабіў, — сказаў ён спакойна і, крыху памаўчаўшы, дадаў: — Ці нельга больш ветліва, сэр?

— Вы хочаце сказаць: свіныя вочы не баяцца гразі? Вы былі на Каўказе?

— Так, быў, — згадзіўся Поль.

— І падцікавалі там Алега?

Поль на нейкі момант разгубіўся. Што сказаць Дзянісаву? Калі як след разважыць, абстаноўка склалася не ў яго карысць. Спадзяванне Поля на прытупленне пільнасці ў членаў экіпажа совецкай ракеты, на тое, што ўдасца расправіцца з імі паасобку і захапіць «Вулкан», не апраўдалася. Склалася толькі адна ўдалая сітуацыя — і хоць яе ён павінен выкарыстаць.

Якім-жа чынам? Ага! Кожная бяда мае сваю выгаду, карысць. Калі падумаць, на лёсе Алега ён можа нажыць немаленькі капітал. Ён яму сам просіцца ў рукі. Бач, Дзянісаў, вёў пошукі на Каўказе і Алега не знайшоў. А ён, Поль, добра прыкмеціў высокую плоскую вяршыню, з якой Алег ляцеў у бяздонне. Дзікая, фантастычная надзея азарыла сэрца. Поль узняў на Дзянісава позірк, поўны добрадушша і шчырасці.

— Кажуць, што сабака, які брэша, трымаючы ў зубах спажыву, неразумны, — зарагатаў Поль. — Так, сэр?

Дзянісаў і Віктар здзіўлена пераглянуліся.

— Я вас штосьці не разумею, — сказаў Іван Іванавіч.

— А тут і разумець няма чаго, — ажывіўся Поль. — Я ведаю, дзе Алег. Толькі не думайце, што існуе нейкая сувязь паміж мной і яго недарэчным лёсам.

Віктара як-бы працяла электрычным токам. Значыць, Поль ведаў пра Алега і маўчаў! Гэта была такая незвычайная вестка, што ён не адразу паверыў ёй.

А Поль расказваў аб падрабязнасцях нечаканай сустрэчы ў горах.

Дзянісаў аж застагнаў ад гора. Віктар схапіў Поля за плячо, заспяшаўся:

— Хутчэй пакажыце тое месца...

— Хвілінку! — усклікнуў Поль з хітраватай усмешкай. — Вам даецца пакуль што магчымасць падумаць.

— Аб чым, сэр? — не зразумеў Віктар.

— Аб плаце, — ніколькі не збянтэжыўшыся, выгукнуў Поль. — Каб быць да канца дзелавым чалавекам, я патрабую выкуп за Алега ў суме 200 000 рублёў.

Віктар адхіснуўся ад Поля, палахліва заміргаў вачыма. Але Дзянісаў ніколькі не здзівіўся нахабству і дзікаму пачварству чужаземца. Ён сурова сціснуў губы і, зрабіўшы крок да Поля, ціха спытаў:

— Няўжо вы не ведаеце, сэр, што на свеце існуе пачуцце ўласнай годнасці і чалавечая сумленнасць?

— Гэта палітыка, містэр Дзянісаў, — стрымана адказаў Поль. — І ёю хай займаюцца тыя, у каго пустыя галовы і кішэні.

Дзянісаў кісла ўсміхнуўся. Яму было зразумела, што ніякімі сродкамі не ўдасца пераканаць чужаземца, расчуліць яго чалавечым горам.

Справа ішла аб жыцці Алега і ён, як начальнік экспедыцыі, павінен

быў прыняць хуткае і разумнае рашэнне. «Калі Поль задумаў гульню, хай пацешыцца», — падумаў зласліва ён і раптам, ажывіўшыся, сказаў:

— Будзе па-вашаму, сэр. Дамовіліся?

— Я на слова веру толькі богу. Кладзіце на стол кантракт.

— Што-ж, можна і кантракт. Вы не давяраеце?

— Зусім зразумела, містэр Дзянісаў, — важна, з адчуваннем сваёй годнасці сказаў Поль Арноль.

Калі былі закончаны ўсе фармальнасці, Поль павёў совецкіх астранаўтаў да Каўказскіх гор.

## Раздзел дваццаць шосты

Алег чуў густы, працяглы шум. Што так магло шумець — мора, рака ці цягнік, што набліжаецца да станцыі? Не, так шуміць толькі лес! Ён хацеў падняць галаву, але не змог.

Гэты пракляты нудны шум! Ён запаланіў усю прастору, і Алегу здалося, што ён плыве па ім, часамі нібы тоне ў нейкай чорнай пякельнай муці. У такія хвіліны ён намагаўся змагацца, напружваў сілы і як-бы выплываў зноў на паверхню.

Бясконца цягнуўся час. Алег заўважаў яго толькі таму, што часта змяняліся доўгія сны і гэты пакутлівы цяжкі шум.

Раптам перад ім успыхнула нейкае зарава. Яно разарвала змрок, і яго ліловыя водбліскі асвяцілі наваколле. Не, цяпер ён не мог быць роўнадушным да ўбачанага. Алег нават адчуў, што яго твар абмывае свежы лагодны вецер. Ён вярнуўся назад у свет жыцця!

Якая навокал прыгажосць! Трывожны, надакучлівы шум знік! Ён не памыліўся: гэта шумеў лес. Вось яно, царства дубоў, бяроз, асін і хвой, якія, раскінуўшы галіны, растуць дружна, вольна і весела, стварыўшы зялёныя астравы, поўныя прахалоды, цішыні і вільгаці.

Бярозы... бярозы... Якая ў іх сакавітая чысціня, які прыемны ласкавы шэпт! Над імі плывуць ціхія, як лебедзі, воблакі, дзьмуць свежыя вятры. І недзе ціха, асцярожна пагруквае гром...

Алег глядзеў і не мог наглядзецца на ззяючую зямную прыгажосць. Ад непрывычкі туманілася і рабілася цяжкай галава.

Ён выразна пачуў шапаценне лісця, прыглушанае шумам ветру. Нешта накшталт успышак маланкі асвятляла свядомасць. І перад яго вачыма некуды далёка адсунуўся лес з белымі бярозамі. Цяпер ён чуў, як бушавала навальніца. Радасны вясновы дождж стукаў па пыльнай дарозе, бег наўздагон за ім. Ён хацеў схавацца, знайсці разложыстую з раламі сасну... І ў гэты час... О, божа, — ці не сон гэта, — ён пачуў голас, які пранік у душу, як глыбокі няўтольны смутак, як невыказная трывожная радасць:

— Алег! Алег!..

І тут ён адчуў, што ляжыць на спіне і не можа зварухнуцца. А дождж шуміць, шуміць... Недзе са звонам падаюць кроплі, варушаць травы, ліству, прыбіваюць пыл. І Алег раскрыў рот, хацеў, каб хоць адна кропля астудзіла гарачыя вусны, дала сілы, каб зваліць з плеч невыносны цяжар.

А нейчы голас, поўны роспачы, чакання і смутку, прабіваўся праз шум дажджу і ўсё клікаў, трывожыў:

— Алег!.. Алег!..

Цяпер ён пачаў успамінаць, хто ведае яго імя, каму ён патрэбны. Можа, гэта бацька, маці? Ды не! Гэта гаворыць нейкая дзяўчына. Ён пазнае яе, бачыць яе твар, вочы.

— Наташа, ты?!

І ў гэты момант ён адчуў, як варухнуліся павекі. Дык ён спаў? Алег хацеў убачыць неба, Сонца. Але дзе яны? Навокал чорная панурая цішыня.

А ў навушніках чуецца той-жа ранейшы асцярожны шэпт. «Наташка, мілая, ты разбудзіла мяне. Я ведаю: я жыву! Бо інакш як можа жыць маё «я», не ўключаючы ў сябе пачуццяў, святла, радасці! Адкуль ты гаворыш? З Зямлі? Чакай, любая! Я прыду да цябе, вярнуся!»

Алег, абмацаў рукамі дол, на якім ляжаў. Гэта была каменная пляцоўка, абкружаная адвеснымі скаламі. Алег паварухнуўся. Страшэнная стома гняла ўсё цела. Аднак ён сабраў сілы і ўстаў.

Далёка-далёка ўверсе віднелася неба. Цяпер ён прыпомніў, што здарылася — сарваўся ў бяздонне. Дзе кінокамера, з якой блукаў ён па горах?

Колькі мінула часу? Дзе сябры, што з імі? Ён, мабыць, яшчэ доўга-доўга ляжаў-бы, каб не разбудзіла Наташа. Яна не спіць, не ведае спакою там, на Зямлі, сумуе, трывожыцца, чакае...

Алег уключыў маторчык, і яго лёгка падхапіла струменьлівая сіла і панесла, панесла...

Адвесныя сцены цясніны рассечаны каменнымі прыступкамі, карнізамі, гротамі. Запалены ліхтар выхоплівае з цемры застыглыя ўнізе і па баках скалы, падобныя на замкі, вежы і абеліскі. Здавалася, гэта былі збудаванні людзей нейкіх далёкіх невядомых эпох.

І вось неба раздалося ў бакі. Нарэшце! Перад вачыма — велізарны чорны хрыбет Каўказа.

Алег прыпыніўся, агледзеў цясніну, якая ледзь не стала яго магілай. Гэта была страшэнна глыбокая шчыліна, прарэзаная ў глебе на глыбіню амаль двух кіламетраў.

Алег з палёгкай ўздыхнуў: бяда і пакуты засталіся ззаду. Але цела было кволае, слабае. Ён асцярожна сеў ля вострай скалы, выпіў шакаладнае малако, якое браў у дарогу, і хутка адчуў, што цяпер можа лёгка ўстаць на ногі і нават ісці.

Свяціла сонца. Навокал усё зіхацела ад бляску горных вяршынь. Удалечыні віднелася аднастайная роўнядзь «мора», скупа расквечаная нейкімі жылкамі і плямамі самых разнастайных колераў.

Было сумна і радасна. Перад ім ляжаў неабдымны, як шчасце, свет. Хоць у ім не было ні дарог, ні палёў, ні таго высокага недасягальнага неба, што дыхае чыстым жыватворным паветрам, ён адчуваў дыханне жыцця, чуў яго прызыўныя гукі.

Алег устаў і зжахнуўся ад нечаканасці. Удалечыні на хрыбце гары ён убачыў постаці людзей.

У грудзях моцна затахкала сэрца. Не было сумнення — там Дзянісаў, Віктар і нехта з чужаземцаў...

Уздрыгнулі губы, сціснулася ў радасці сэрца. Што ні кажы, а з пакут таксама можа вырасці шчасце!

— Сябры... Таварышы! — выгукнуў Алег, і яму здалося, што ад яго голасу скалануўся ўвесь акамянелы, халодны свет.

Яго пачулі, спяшаліся на дапамогу. Алег ужо добра валодаў сабой і сам прабіраўся праз цясніны, востраверхія хрыбты, бяздонныя катлавіны насустрач сваім сябрам.

* * *

Яны ўвайшлі ў каюту ракеты. Іван Іванавіч першым прапусціў Алега і загадаў яму адразу-ж распранацца. Цяпер можна было добра разгледзець твар юнака. Ён быў бледны, схуднелы, нават не верылася, што за адны суткі можна так змізарнець. Толькі вочы Алега свяціліся па-ранейшаму горача.

— Ну, раскажы, як усё здарылася, — сказаў Дзянісаў, сядаючы побач з Алегам.

— Як кажуць, чорт панёс на гнілы мост... Вось палез на скалу за гэтым каменем і сарваўся.

Віктар Машук працягнуў руку.

— Пакажы!

Камень быў з аднаго боку аголены, як-бы складзены з асобных каляровых плітак, з другога — пакрыты нейкім аксамітным мохам. Віктар крануў гэты мох рукой і здзіўлена ўтаропіў позірк у Дзянісава.

— Іван Іванавіч... — прамармытаў ён ціха. — Што за цуд?

Дзянісаў адарваў кавалачак моху і, сеўшы за столік лабараторыі, некалькі хвілін глядзеў на яго праз мікраскоп. Потым павольна павярнуўся і глыбокадумна прамовіў:

— Жыццё скупое — і адзенне такое...

— Дык гэта расліннасць? — здзівіўся Алег.

— Яна самая, — выдыхнуў Дзянісаў і павольна закрочыў па каюце. — Нечакана-нягадана... Бачыш, якое магутнае... жыццё... Без паветра, вады, а заваявала месца.

— Як гэта растлумачыць? — звярнуўся Віктар да Дзянісава. — Мне не верыцца...

— Тлумачэнне тут простае, сябры, — сказаў ён. — Жыццё ўсемагутнае. Як бачыце, яно заваявала Месяц раней, чым розум чалавека. І гэта не дзіўна: і на Зямлі ёсць мікраарганізмы, якія не баяцца лютага холаду і пякельнай гарачыні.

Радасць ахапіла людзей. Няхай жыццё тут хілае, убогае, яно ўпрыгожвае гэты застыглы змрочны свет, чапляецца за каменні, саграваe іх сваім нясмелым, патаемным дыханнем.

Жыццё... Жыццё... У цябе — бездань магутнасці! Ты ўсюды вядзеш барацьбу — і перамагаеш! Як слаўна гэта ўсведамляць, асабліва тут, у гэтым нямым царстве гарачыні і холаду.

— Не дарэмна ты пакутаваў, Алег, — сказаў шчыра Віктар. — Я зайздрошчу табе...

Алег пільна прыгледзеўся да таварыша. Віктар трымаў сябе падкрэслена проста, быў вясёлы, задаволены. Алег успомніў пра Наташу і насцярожыўся. Ці не памірыліся яны? Магла-ж яна падумаць, што ён, Алег, загінуў і навек страчаны для яе!

Алег уздыхнуў.

Дзянісаў паспеў заўважыць клопат на яго твары і спытаў:

— Цябе што-небудзь трывожыць?

— Зямля... — прызнаўся Алег. — Яна разбудзіла мяне, шаптала нейкую казку... Што там?

— Нічога асаблівага. Бачыш, вісіць на месцы.

— І вунь там, — паказаў рукою Віктар, — самая светлая кропка. Гэта астравок твайго жадання.

— Ты кпіш з мяне, Віктар! — нахмурыўшы бровы, сказаў Алег.

— Хопіць! — папераджальна спыніў хлопцаў Дзянісаў, баючыся, што яны пачнуць сварыцца. — Усе канфлікты вырашыце пазней. Сядзіце ціха, уключаю Зямлю!

Успыхнуў шырокі экран тэлевізара. У каюту ўварваліся гукі музыкі, галасы. І вось на светлай мазаіцы люстэрка адлюстравалася лёгкая постаць дзяўчыны з туга сплеценым вянком кос на галаве.

Позіркі Алега і Наташы сустрэліся. Наташа нават адступіла крок назад, уражаная нечаканасцю. Толькі яна клікала яго, шукала ў эфіры і вось радасць — ён жывы і здаровы стаіць перад экранам.

— Алег!

— Наташа!

Наташа ўсміхалася праз слёзы. І ўсмешка яе была такая ціхая, ясная, шчаслівая, што нават Дзянісаў не вытрымаў і вінавата заморгаў павекамі.

— Ух, як горача ў каюце, — прамовіў ён, нібы ў апраўданне. — Вочы пацеюць...

Прайшлі хвіліны няёмкага маўчання. Наташа ўзняла галаву. Яна была па-ранейшаму строгая і гордая, хоць яшчэ было відаць, як усхвалявана дыхаюць яе грудзі.

— Дзякую табе, Наташа. Ты выратавала, знайшла мяне...

— І не Полю Арнолю, а вам, Наташа, давядзецца плаціць выкуп за Алега, — жартаўліва сказаў Дзянісаў.

— Што за выкуп?

Іван Іванавіч ніякавата павёў плячыма і растлумачыў:

— Дробязі, Наташа. Проста наш госць, містэр Арноль, хацеў крыху зарабіць. Ха-ха-ха!.. — засмяяўся ён і глянуў на Поля.

Той сядзеў у кутку каюты і з нахабнай развязнасцю пазіраў на Дзянісава. Ён разумеў, што гавораць аб ім, і хацеў паказаць сваю незалежнасць і нават пагарду.

— Я табе раскажу аб усім на Зямлі, — прамовіў Алег. — Згода?

— Згода, — адказала дзяўчына з лёгкім уздыхам. — Змагайся, працуй і абавязкова вярніся! Мы вас чакаем!

Люстэрка экрана мільганула і пагасла. Алег адышоў у бок і сеў за столікам, насупраць Роба.

— Таварыш Дрозд, можа ў шашкі згуляем? — звярнуўся да яго замежны сябра.

Алег жвава ўзняў вочы і калі, нарэшце, да яго дайшоў сэнс пытання, усміхнуўся, адказаў:

— З вялікай радасцю, Роб!

Якія гэта былі шчаслівыя хвіліны! Праз ледзяныя прасторы сусвету, праз чорныя бяздонныя яго нетры патокі электрамагнітных імпульсаў данеслі гарачую ўсмешку дзяўчыны, яе чысты голас, невыказаны смутак і каханне. Будзь-жа блаславенная радасць гэтай сустрэчы!

Які вялікі, неабсяжны сусвет, але ўсюды, куды ні трапіць чалавек, за ім ляціць, яго шукае спадарожнік жыцця і маладосці — святое, гордае каханне.

* * *

На другі дзень жыхары Месяца сабраліся на нараду. Па заданню Дзянісава Алег зрабіў разлікі на старт, і цяпер расказваў сябрам аб магчымасцях звароту на Зямлю.

Справа ўскладнялася. Паліва ў ракеце засталося мала. Яго хапала толькі, каб узняць ракету і двух чалавек.

Усе сядзелі строгія, задумлівыя. На ілюмінатары ляжаў кавалак чорнага неба з блакітнаватымі іскрынкамі зорак.

Іван Іванавіч заклаў рукі за спіну і хадзіў сюды-туды па каюце.

— Тут трэба галава Саламона, — сказаў нарэшце Віктар.

— На Саламона спадзявайся ды і сам кумекай,—заўважыў Дзянісаў.

Роб Пітэрс ускудлачыў чорныя валасы і, узняўшы галаву, сказаў:

— Што-ж, мы застанемся. Нам не прывыкаць з Полем. Будзем весці назіранні за прыладамі, рабіць запісы, дапамагаць вам абсталёўваць навуковы гарадок...

Поль злосна бліснуў вачыма на свайго суайчынніка.

— Ідзі да д'ябла, Роб! — сказаў ён стрымана. — Я не хачу заставацца ў гэтай пякельнай пустыні. Я ўжо ад гэтых халодных каменняў захварэў. У мяне грып.

Алег усміхнуўся.

— Прычына сур'ёзная, сябры. Мы не можам рызыкаваць будучыняй гэтай планеты. Яна павінна быць чыстай...

Роб задаволена ўсміхнуўся. Яму было прыемна, што Алег так жорстка, саркастычна насміхаўся з Поля. Няхай ведае, чаго каштуе яго сквапнасць і фанабэрыстасць.

На небасхіле заходзіла Сонца. Доўгія цені ад высокіх горных вяршынь з кожнай гадзінай усё бліжэй і бліжэй падступалі да ракеты.

Алег нейкі момант разглядаў суровы ландшафт Месяца, потым адвёў позірк ад акна і, паказаўшы на макет ракеты, што вісеў на сцяне, сказаў:

— Есць адзін выхад — зняць антэны.

— А яшчэ што? — незадаволена і насмешліва буркнуў Дзянісаў.— Можна выкінуць тэлевізары? Так?

Алег збянтэжыўся.

І вось устаў Роб, магутны і высокі. Сваёй спіной ён засланіў два ілюмінатары, і ў ракеце адразу стала цемнавата.

— Я маю прапанову, — сказаў ён хрыплаватым нізкім голасам. — Яна вельмі простая: я знайду паліва!

Усе здзіўлена паглядзелі на негра. Аб чым ён гаворыць, на што спадзяецца?

Іван Іванавіч наблізіўся да замежнага госця, прыжмурыў бровы:

— Ну, ну, гаварыце!

— Мы забыліся пра «Анаконду»! Алюмініевы і магніевы лом — выдатнае паліва, — сказаў ён і паволі сеў у крэсла.

— Гэта тое, што нам трэба! — усклікнуў Дзянісаў. — Вы малайчына, Роб!

На некалькі хвілін усталявалася цішыня. Толькі чутно было, як бег час, ды як стукалі ў грудзях сэрцы. У кутку каюты на канапцы круціўся, бы на іголках, Поль Арноль. Усе разумелі непакой капітана «Анаконды».

Роб устаў і пачаў збірацца ў дарогу. Дзянісаў разгарнуў карту,

накрэсліў маршрут і перадаў яе Робу. Той паволі згарнуў яе і паклаў у цэлулоідны планшэт. Потым павярнуўся да Арноля, сказаў:

— Містэр Поль, нам пара!

— А вы вазьміце і на маю долю, — ні то з усмешкай, ні то сур'ёзна сказаў Арноль і неахвотна падышоў да гардэробнай, дзе вісеў яго касмічны касцюм.

— Няўжо вы не ведаеце, што тут яшчэ не нарадзіліся дурні, каб служыць вам, — сказаў з несхаванай злосцю Роб. — Хутчэй варушыцеся, Поль! Вам падвярнуўся выпадак вярнуцца на Зямлю, а вы марудзіце!

Яны выйшлі з ракеты.

І вось праз гадзіну Роб і Поль, абліваючыся потам, вярталіся назад. Яны то ўздымаліся ўверх, то бегалі па глебе, спатыкаючыся аб камені. Плечы іх горбіліся пад цяжарам вялікіх паклаж.

Няўклюдныя постаці адкідвалі доўгія, пачварныя цені, і яны здаваліся ў гэты момант нейкімі страшыдламі, што павылазілі з чорных шчылін каменнай планеты.

А тым часам члены савецкай экспедыцыі вырашалі, хто павядзе ракету на Зямлю.

— Давядзецца ляцець табе, Віктар, — сказаў Іван Іванавіч Дзянісаў пасля доўгага роздуму. — У Алега тут многа спраў...

Віктар паглядзеў з-пад ілба на начальніка экспедыцыі, і твар яго непрыгожа перасмыкнуўся. Юнак зразумеў: нарэшце прыйшоў той момант, калі ён павінен паказаць сваю гордасць і знявагу да небяспекі, каб пасля атрымаць высокае права на павагу ад дзяўчыны, якую кахаў...

Апусціўшы ўніз галаву і стрымліваючы нейкае ўнутранае ліхаманкавае дрыжанне, Віктар нерашуча спытаў:

— Іван Іванавіч, я маю права на подзвіг?

— Вядома, — адказаў той, не разумеючы, да чаго хіліць штурман.

— Тады дайце магчымасць застацца мне з вамі...

Дзянісаў заклапочана сціснуў у кулак падбародак і непрыкметна зірнуў на Алега.

Алег моцна пачырванеў. Ён не разумеў Віктара і таго, дзеля чаго той ішоў на такі ўчынак. «Адступіўся? — падумаў юнак. — Не, на гэта не падобна...»

Нейкі момнт усе маўчалі. Нарэшце Дзянісаў зрабіў жэст рукой у бок Алега і сказаў:

— Калі ты сапраўдны сябра, павінен зразумець...

— Добра. Я згодзен, Віктар, — сказаў ціха Алег.

На другі дзень «Вулкан» быў падрыхтаваны да адлёту. Поль Арноль і Роб, цёпла развітаўшыся з Дзянісавым і Віктарам, пачалі ўзбірацца па капронавай лесвіцы да шлюзавай камеры ракеты.

Алег стаяў на шэрай базальтавай пляцоўцы, слухаў апошнія распараджэнні Дзянісава.

— Калі забярэце Макса з «Алмаза», зробіш кругавы аблёт Месяца і над морам Нектара выходзь на курс.

— Зразумела, Іван Іванавіч, — бадзёра прамовіў Алег і па-вайсковаму казырнуў.

— Ну, добрай дарогі! — шчыра пажадаў начальнік экспедыцыі.

У гэты час Віктар Машук падышоў да Алега і, па-мужчынску абняўшы яго, сказаў:

— Ты будзеш бачыць Наташу?

— Пастараюся.

— Перадай, калі ласка: я перад ёй вінаваты...

Позірк Віктара быў такі сур'ёзны і лагодны, што Алег адчуў, як ў душы яго раптам парвалася нейкая туга нацягненая струна. Затуманіліся вочы.

— Перадам, Віктар, абавязкова перадам! — голас яго дрыжаў, хоць ён і стараўся не паказаць свайго хвалявання.

Яны развіталіся.

Праз некалькі хвілін «Вулкан» стартаваў з Месяца.

## ЭПІЛОГ

Мінулі дні... Была пераадолена вялікая прастора і час... Алег выдатна прывёў на Зямлю свой касмічны карабель. Вядома, ён ніколі не забудзе той сустрэчы, якая была падрыхтавана ім.

Масква танула ў кветках... Гучалі аркестры... Марскім прыбоем кацілася ўрачыстае «ўра»...

Вядома, яго знайшла Наташа. Яны моцна і горача пацалаваліся.

І вось яны ўдваіх у кватэры. Не вельмі пышна абстаўлены пакоі, затое колькі ў іх святла, сонца, паветра! Вокны расчынены насцеж, як і іх маладыя сэрцы. З чацвёртага паверху адкрываецца шырокая перспектыва Ленінскіх гор. Стаіць абкружаны ружовай дымкай універсітэт, ззяе светлы мармур калон палацаў, узвышаюцца стрэльчатыя вежы, лёгка і велічна перакінуты праз раку фермы мастоў.

Пад акном — сад. Стаяць абцяжараныя пладамі яблыні. Недзе ў галлі пяе птушка. Алег застыў ля акна, зачаравана слухае яе.

— Ты ведаеш, пра што яна пяе? — задумліва пытаецца Наташа, становячыся побач.

— Пра воблакі і блакіт неба, пра навальніцы і вятры, пра лясы і ззяючыя росы, — пра ўсё тое, аб чым сумуе сэрца і што стварае прыгажосць, — адказаў Алег з нейкім замілаваннем і ўздымам.

— Ты адгадаў, мой харошы, — уздыхнула Наташа. — Я толькі хачу дадаць: пяе яна аб нашым шчасці і аб нашых сябрах.

Алег радасна ўсміхнуўся. Яны разам, адным зачараваным позіркам адшукалі на небе шэры, нібы заімшэлы, дыск Месяца і доўга глядзелі на яго. Там працавалі і жылі Дзянісаў і Віктар...

— Гэта праўда, — Алег павярнуўся і, абняўшы Наташу за плечы, доўга пазіраў у яе твар.

— Што гэта? Ты плачаш? — спытаў ён здзіўлена.

— Так, плачу...

— Чаго?

— Не хвалюйся, Алег. Гэта харошыя слёзы: з душы выходзіць боль, смутак, неспакой...

У вокны хлынуў паток свежага ветру. Шумеў сад, хісталіся цені, разбягаліся ў небе хмаркі. Перад імі ляжаў вялікі свет радасці і шчасця, які патануў у моры сонечнага святла, у зялёнай кіпені вечна маладой і вечна прыгожай прыроды.

* * *

Беглі косыя, з намыленымі чупрынамі хвалі. За імі ўдалечыні ўгадвалася блізкая Зямля. Нарэшце моцна прыпаены да акіянскай пустыні небасхіл прыўзняўся — і нават з ілюмінатара лёгка сталі бачны далёкія гмахі галоўнага горада Штатаў.

Поль Арноль апрануўся, выйшаў на палубу. Навокал чайкі. Акіянскі лайнер, нервова ўздрыгваючы прасоленымі бартамі, імкліва ляцеў па крутых гаманлівых хвалях.

Поль падышоў к мосціку, нахіліўся над поручнямі. Сіняя акіянская каламуць зірнула яму ў вочы. Закружылася галава, і ён, прыкрыўшы рукамі твар, адышоў у бок.

Цяжкае, пакутлівае пачуццё сціскала яму грудзі. Недалёка была радзіма. Нядобрую сустрэчу падрыхтавала яна яму.

Яшчэ ў шляху на лайнеры Поля сустрэлі служачыя тайнай паліцыі Штатаў і ўчынілі яму допыт. Ён ахвотна аб усім расказаў і ўсю віну зваліў на штурманаў. Вядома, Роб і Макс былі арыштаваны і ўзяты пад варту. Поля пакінулі ў спакоі, але папярэдзілі, што яму пагражае судовы працэс.

Тысяча д'яблаў! Ніколі Поль не адчуваў сябе так прыкра і няўпэўнена, як у гэтыя хвіліны. Твар яго зрабіўся чэрствы, засяроджаны, вочы глыбока запалі, нібы шукаючы пад крутым ілбом больш надзейнага ўкрыцця.

Ён міжвольна падумаў аб сваім лёсе. Чаму яму не шанцуе, чаму яго так не любяць людзі? А вось Роб, здаецца, бедны, зацкаваны, але адчувае сябе сапраўдным шчаслiўцам. У чым справа? Няўжо сумленнасць, шчырасць і прастата больш магутныя за золата?

Сустрэчны вецер налятаў тугімі патокамі, штурхаў у грудзі, блытаў на галаве валасы. У борт лайнера плёскалі хвалі і як-бы нашэптвалі: «Што будзе, што будзе?..»

На небасхіле з'явілася чорная каса зямлі. Падрэзаная акіянам, яна здавалася лёгкай і няўстойлівай. Але на ёй непарушна і моцна стаялі прамавугольныя гмахі небаскробаў. Ад напружанага позірку заслязіліся вочы.

Нечакана на плячо Поля лягла нейчая чужая, няласкавая рука. Ён павярнуўся і ўбачыў Роба.

— Гэта ты? — усклікнуў ён здзіўлена.

— Як бачыце, сэр. Не чакалі? Праўда? Вы хацелі адыграцца на нас — але не ўдалося! Увесь галоўны горад Штатаў пратэстуе супроць нашага арышту. І вось мы вызвалены...

Поль заміргаў вачыма. Якім крывым аказалася кола яго фартуны! Ламай цяпер галаву!

Поль пранізаў Роба і Макса знішчальным, поўным пагарды позіркам, павярнуўся і, ссутуліўшыся, пайшоў па палубе. Наўздагон яму данёсся гучны ўрачысты рогат.

Порт быў запруджаны народам. Не паспелі Роб Пітэрс і Макс Вэл сыйсці з трапа і павітацца з роднымі, як іх падхапілі на рукі і панеслі на шырокую партовую плошчу. Няхай сабе не вельмі ўдалы быў палёт іх да Месяца, але яны былі героямі, не зламаліся, выйшлі пераможцамі ў суровай незвычайнай барацьбе на вялікай трасе, адкрытай чалавечым геніем у цемры сусвету.

Касмічныя падарожнікі як след адсвяткавалі сваё вяртанне на зямлю. У Роба была двайная радасць: разам з ім за сталом сядзела яго жонка, зноў здаровая і бадзёрая, гатовая дзяліць з Робам усе будучыя радасці і нягоды жыцця.

Макс Вэл, вярнуўшыся на радзіму, вядома, не пайшоў шукаць высокай гары, каб адтуль сказаць сваім землякам вымучаныя ў пакутах думкі аб шчасці і радасцях зямнога жыцця. Ён ажаніўся на Рыверы і разам з ёй паехаў шукаць па Штатах звычайнага, простага шчасця.

А што сталася з Полем Арнолем? Дзе ён? Кажуць, што хоць Поль страціў Элсі, трапіў у няміласць да Уолтэра, але не пакінуў думкі разбагацець, выбраўшы для гэтага самы кароткі шлях. Яго бачылі ў чорных балахонах воіна Нябачнай Імперыі, сустракалі ў багатых дансінгах, дзе ён святкаваў свае поспехі.

І калі ўжо на бягучым рахунку ён меў даволі круглую суму, якая давала магчымасць шырока адчыніць дзверы ў высокі свет, дзе панавалі ўлада і закон, здарылася бяда.

Неяк у горадзе Атланта тайныя агенты Ку-клукс-клана заварылі такую кашу, што паставілі пад небяспеку будучае Нябачнай Імперыі. Поль Арноль спешным парадкам выехаў туды.

Ноччу, у час вялікай вулічнай сутычкі з неграмі, ён быў моцна паранены. Праз суткі Поль Арноль памёр.

Так замкнулася зачараванае кола яго пошукаў багацця і шчасця.





Вера ПАЛТАРАН

# ЗА РАКОЮ ГАРЫННЮ

**Нарыс**

Замалёўкі мастака А. Паслядовіч.

У самай глыбіні Палесся, за дрымучымі пінскімі лясамі, за ракою Гарыннюю раскінулася вялікая палеская вёска Альшаны. Каб дабрацца да яе, трэба перабраць усе вядомыя цяпер віды транспарту — ад самалёта да спадарожнай машыны. Альшанцы расказваюць, што вясной ці ўвосень, калі разгуляецца паводка, толькі верталёт мае доступ у іх далёкія, але прыгожыя мясціны.

Акрамя гэтага, альшанцы раскажуць новаму ў іх мясцінах чалавеку, што вёска іхняя слаўная яшчэ і тым, што тут у час адступлення немцаў бабка Грыбіха налавіла цэлую кішэню куль. «Ляціць яна, шалёная, сляпая, і глядзі, што ў чалавека ўцэліць. Дык я злаўчуся ды, як муху, злаўлю яе на ляту — і ў кішэню. Колькі людзей гэтак уратавала!» — расказвае і нам бабка Грыбіха, а ў самое вочы гарацъ смяшлівымі агеньчыкамі. Задаволеная сваім жартам, бабка доўга смяецца разам з тым, хто яе слухае.

Калі ў гэтым жарце шукаць тую долю праўды, якая закладзена ў кожным з жартаў, то яна, гэтая праўда, далёка не смешная. Па Альшанах бязлітасным, знішчальным шквалам пракацілася вайна. Тут фашысцкія нелюдзі палілі хаты і ўвесь чалавечы набытак за тое, што ў гэтых хатах часам грэліся партызаны. Тут, у самай вёсцы, пры адступленні фашыстаў разгарэўся бой, і на альшанскіх паплавах застаўся не адзін крывавы след вайны.

І вось мінуў час. Крылатае народнае ўяўленне ўзляцела над трагічнасцю падзей і з вышыні гэтага ўзлёту глянула на жыццё з вясёлаю, мудраю ўсмешкаю. А ўсмешка — вялікі лекар чалавечай душы.

Дададзім да гэтага, што ў Альшанах наогул любяць дасціпны жарт.

І яшчэ ў Альшанах любяць працаваць. Кожную раніцу да калгаснай канцылярыі спяшаюцца цэлыя натоўпы людзей, каб атрымаць нарад на работу. Сярод гэтага натоўпу асабліва вылучаюцца жанчыны. Ад іх белых хусцінак, белых вышываных кофтак, белых хвартухоў здаецца святам кожны працоўны дзень.

Альшанскі калгас — мільянер. На яго рахунку — без малога 4 мільёны рублёў.

Асноўныя галіны гаспадаркі, якія і далі калгасу амаль усе гэтыя 4 мільёны, — гэта ільнаводства і жывёлагадоўля. Прадыктаваны гэты напрамак развіцця тым, што на 800 з лішнім двароў калгас мае толькі 927 гектараў ворнай зямлі. Затое тут — багатыя сенажаці і выпасы. І гаспадарлівыя альшанцы прыкінулі, што на іх мурагу будуць добра даіцца кароўкі, а на полі, калі яго як след угнаіць, будзе расці добры лён.

Так яно і атрымалася. У агульным даходзе калгаса даход ад ільну склаў 2 мільёны 617 тысяч рублёў, а ад жывёлагадоўлі — 894 тысячы 53 рублі.

Альшанскі калгас — малады. Ды і совецкаму грамадзянству альшанцаў не так многа год. Да іх на дваццаць з лішнім год спазнілася затрыманае пагранічнымі слупамі чалавечае шчасце. Але сягоння, калі ўся наша краіна святкуе 40-годдзе Совецкай улады, альшанскія калгаснікі адчуваюць сябе так, нібы і яны прайшлі разам з усёй краінаю яе саракагадовы шлях. Таму яны і далі свайму калгасу слаўнае імя 40-годдзя Совецкай улады, падкрэсліўшы гэтым самым, што яны лічаць сваім кроўным не толькі саракагадовы шлях краіны, але і напрамак гэтага шляху, што яны бяруць яе магутны разгон.

І гэта сапраўды так. У альшанцаў адзін пульс жыцця з усім совецкім народам.

Кастрычніцкая рэволюцыя дала жыццю новы напрамак, скіраваўшы яго па самай светлай з дарог, яшчэ невядомых чалавецтву. Ідучы па гэтай дарозе, чалавек перабудоўвае на лепшых, вышэйшых, комуністычных пачатках сваё жыццё, і адначасова з вялікаю людскою дапамогаю перабудоўваецца на гэтых-жа пачатках і сам. У гэтым сэнсе можна сказаць, што ў нас яшчэ і сёння ідзе сваім магутным, непераможным поступам найскладанейшая з усіх рэволюцый — рэволюцыя ў душах людзей.

Барацьба новага, светлага, сапраўды комуністычнага з рэшткамі аджываючага свой век, але яшчэ ўчэпістага старога складае змест нашага сённяшняга жыцця.

Гэтая-ж барацьба, толькі можа ў больш яркіх формах, складае і змест жыцця альшанскіх калгаснікаў.

## ХТО БУДЗІЦЬ СОНЦА

— Дзы-ынь — дзы-ынь, дзы-ынь — дзы-ынь — тоненька зазваніў аб даёнку тугі, пругкі струменьчык малака.

— Дзы-ынь — дзы-ынь, — азваўся яму з другога кутка кашары такі-ж звонкі струменьчык.

Неўзабаве да іх вясёлага перазвону далучыліся яшчэ дзесяткі такіх-жа гаманлівых струменьчыкаў, і над туманнымі асеннімі прасторамі паплыла музыка новага працоўнага дня.

Разбуджанае гэтаю музыкаю працы, над Альшанамі ўстае сонца. Падахвочанае людской руплівасцю, яно адразу бярэцца за сваю штодзённую працу: здымае выбеленыя буйнымі росамі танюткія намёткі тумаyоў, збірае рассыпаныя самацветы росаў.

А тыя, хто яго разбудзіў, ужо заканчваюць свае справы. Ля куранёў у кашарах стаяць паўнюткія бітоны цёплага, духмянага сырадою. Учотчыкі схіляюцца над сваімі ўліковымі сшыткамі, каб падвесці першыя вынікі

працоўнага дня, пастухі разгароджваюць кашары і спяшаюцца хутчэй выгнаць статак на пашу.

Так пачынаецца працоўны дзень альшанскіх жывёлаводаў.

Выправіўшы кароў на пашу, дзяўчаты-даяркі дапамагаюць учотчыку падняць на воз цяжкія бітоны і спяшаюцца снедаць.

А пасля снедання мерна гудзе на калгасным двары сіласарэзка. Да яе адзін за другім пад'язджаюць вазы з зялёнай кукурузай. Возчыкі, спяшаючыся, разгружаюць вазы і тут-жа ад'язджаюць. Маладыя хлопцы паспяваюць падаваць у прагавітую пашчу машыны зялёныя, сакавітыя сцяблiны кукурузы і пацiху штурхнуць каторую-небудзь дзяўчыну-свавольніцу ці папусціць у яе доўгай кукурузінай.

А дзяўчаты, стараючыся адна перад адной, зграбаюць сшаткаваную зялёную масу ў кошыкі і ссыпаюць яе на вазы.

Калі глядзіш на гэты малюнак збоку, то табе раптам здасца, што гэтыя дарослыя людзі гуляюць у нейкую вельмі цікавую для іх гульню — настолькі лёгкі і зграбны кожны іх рух. А і латва ім быць зграбнымі ў свае два дзесяткі гадоў! Гэта якраз той узрост, калі ўсякая праца лёгкая, калі яна робіцца, здаецца, гуляючы.

Відаць, кіруючыся такімі меркаваннямі, калгасныя кіраўнікі і падбіралі вялікі, працавіты калектыў работнікаў жывёлагадоўчай фермы.

На ферме працуе каля ста чалавек — даярак, пастухоў, учотчыкаў, вартаўнікоў. Адных даярак тут 40 — сорак дзяўчат, адна за другую прыгажэйшых, адна за другую руплівейшых, адна за другую вастрэйшых на язык. Можа таму і ўнадзіліся да іх альшанскія хлопцы, якія ахвотна бяруць сабе за жонак руплівых, працавітых, вясёлых даярак.

На ферме 40 даярак — і два даяры. Так, так, не здзіўляйцеся. Такое слова ў Альшанах даўно ўвайшло ў побыт. І ўвайшло з таго часу, калі на ферму ў якасці даяркі прышоў працаваць малады хлопец Нікалай Мазоль.

Сем гадоў працаваў Нікалай пастухом. За гэтыя гады хлопец навучыўся хадзіць за жывёлаю, ведаў звычкі і нораў кожнай каровы. І вось аднойчы, калі адна з даярак не прышла на работу, Нікалаю прапанавалі:

— Можа ты, Коля, выручыш?

Жартам гэта было сказана ці ўсур'ёз, — сказаць цяжка. Калі гэта і быў жарт, то Нікалай адказаў на яго сур'ёзна: узяў і падаіў усе каровы тае даяркі, і падаіў добра. У гэтым пераканаліся ўсе.

Дзень, другі, трэці доіць хлопец кароў, і з дня ў дзень усё больш прывыкае да новай справы, і яна ўсё больш падабаецца яму. Дзяўчаты-даяркі спачатку паднялі хлопца на смех. А далей, убачыўшы, што ён не адстае ад іх, а каторых — і пераганяе, яны папрыціхалі: тут ужо не да смеху, таго і глядзі, што гэты ціхі, рахманы хлопец прысароміць іх.

І ён прысароміў многіх. За суткі Нікалай надойвае 95 — 100 літраў малака (ад дзесяці кароў), а ва ўліковых сшытках насупраць прозвішчаў некаторых дзяўчат мы бачылі лічбу 76 літраў — за той-жа час і ад стольkіх-жа кароў.

За старанную працу Нікалай атрымаў ад калгаса ў падарунак гадзіннік, у лік дадатковай аплаты яму налічана 554 літры малака. Калгас пасылаў яго на раённую нараду перадавікоў жывёлагадоўлі. Хлопец цікавіцца літаратурай па жывёлагадоўлі. Яму спадабалася брашура аб вопыце работы ўкраінскай даяркі — Героя Соцыялістычнай Працы Марыі Саўчанка, і ён думае прымяніць у сваёй практыцы што-ні-што з гэтага вопыту.

Паследаваўшы прыкладу Нікалая, пайшоў працаваць на ферму даярам і Піліп Лемяза. Збіраецца пайсці і ўсё пытаецца ў Нікалая, ці зручна

гэта, яшчэ адзін хлопец, нікалаеў сябра, прозвішча якога на жаль выпала з нашай памяці.

Добрае ці дрэннае нясе гэтае ўтаржэнне мужчын у вобласць жаночае працы?

Добрае, безумоўна. Праца на ферме — не з лёгкіх. Тры разы ў дзень трэба падаіць кароў. А калі яны на пашы, то трэба падрыхтаваць ім зялёную падкормку, папрыбіраць у стойлах, павымываць бітоны. І так — з дня ў дзень, з ранку да позняга вечара. І не дзіва, што на ферму ідуць працаваць дзяўчаты, у якіх ёсць каму ўпраўляцца з дамашняю гаспадаркаю. Мужчына менш звязаны з хатнімі справамі. Калі ён прыдзе з работы і пазней, то дзеці не палягуць спаць галодныя, іх будзе каму накарміць.

Ну, а калі заглянуць у будучыню, то праца на фермах у самы блізкі час будзе механізавана. Даіць кароў будуць механічныя рукі, якія ніколі не папухнуць ад работы. І будучай даярцы трэба будзе мець навыкі па электратэхніцы, каб умець абыходзіцца з электрычнымі даільнымі апаратамі. Гэтая праца — таксама для мужчынскіх рук.

А што-ж да этычнага боку справы — прыгожа ці не прыгожа мужчыне быць даярам, то скажам, што нічога непрыгожага ў гэтым няма. Хто ў гэтым сумняваецца, раім паглядзець на Нікалая, калі ён працуе. Яго дужыя рукі ўвіхаюцца гэтак-жа спрытна, як і ў дзяўчат. І белы халат яму да твару. І хораша глядзець, як ён лёгка, не ўгінаючыся, нясе вядро малака.

Дальбог, таварышы мужчыны, і гэтая прафесія вам да твару. А што на першым часе некаторым дзіўна глядзець на мужчыну-даяра, то ў свой час гэтак-жа дзівіліся з першай жанчыны-шафёра ці трактарысткі.

Добра, сумленна працуюць на ферме дзяўчаты. За сваю працу яны атрымоўваюць і добрую аплату. За кожныя надоеныя сто літраў малака даярцы налічваецца працадзень. У якасці дадатковай аплаты яна атрымоўвае за кожны надоены літр малака 10 капеек, а таксама ёй налічваецца пэўны працэнт за выкананне абавязацельстваў, за павышэнне тлустасці малака, за перавыкананне нормы надою. Так, напрыклад, у якасці дадатковай аплаты Скрабейка Наталі налічана 870 літраў малака, Сысе Аляксандры Міхайлаўне — 850, Красько Ганне — 685 літраў.

Усе даяркі атрымалі ў прэмію цялят.

Калі праўленне прэміруе лепшых работнікаў калгаса, то сярод іх абавязкова ёсць даяркі. У мінулым годзе пяць даярак атрымалі ў падарунак за сваю працу па кавалку прыгожага крэпдэшыну на сукенкі.

А Грыб Наталі са Струг Стэфаю прышлося добра пачырванець перад калгаснікамі. Яны таксама спяшаліся ў перадавікі, ды не зусім сумленным шляхам — падлівалі ў малако ваду, «падпарашкоўвалі», як тут кажуць. Праўленне калгаса пакарала іх за гэта — за два месяцы ім не было налічана ніякай дадатковай аплаты.

Пасля гэтага яны так ужо больш не робяць.

Пастухамі ў калгасе таксама працуюць хлопцы і маладыя мужчыны. Сярод іх, як і сярод даярак, ёсць комсамольцы. У папрок комсамольскай арганізацыі калгаса і яе сакратару Нікалаю Ярмолічу трэба сказаць, што яны слаба выкарыстоўваюць бязмерна вялікія магчымасці для росту радоў комсамола. Моладзь, што працуе ў жывёлагадоўлі, амаль уся комсамольскага ўзросту.

Сістэма аплаты працы пастухоў пабудавана так, каб зацікавіць людзей у рабоце. Пастух атрымоўвае за кожную карову 0,80 працадня ў месяц. Акрамя таго, яму налічваецца дадатковая аплата за павышэнне надояў,

за ацёл каровы, за выкананне абавязацельстваў. І атрымоўваецца, што за поўгода пастух зарабляе каля 400 працадзён.

Раней пастуха можна было беспамылкова пазнаць па яго абшарпанаму, жабрацкаму выгляду. Сённяшніх пастухоў пазнаюць па зусім іншых прыкметах — у іх і гадзіннік на руцэ, і сарочка шаўковая, і гарнітур не дзяшовы.

Сто чалавек — калектыў не маленькі. Каб усе працавалі ў поўную сілу, трэба і паставіць кожнага на сваё месца, і дапамагчы, калі спатрэбіцца, і канфлікт часам уладзіць. З усім гэтым як не трэба лепш спраўляецца брыгадзір жывёлагадоўчай фермы Міхаіл Дзмітрыевіч Шут. Энергічны, рухавы, непаседлівы, ён паспявае аб'ездзіць за дзень усе кашары, ва ўсё ўнікнуць, усё ўладзіць. Адной даярцы раптам здасца, што яе суседка надаіла сёння больш таму, што ў тае каровы лепшыя.

— От-жа дзіва! Учора ў вас абедзвюх каровы былі аднолькавыя, а за ноч раптам у яе палепшалі, — жартуе Міхаіл Дзмітрыевіч. — Ну, нічога, за гэтую ноч твае палепшаюць, от пабачыш... Толькі ты ім падкінь пабольш...

Другая просіць, каб ёй далі даіць яшчэ пару кароў.

— Дадзім, а як-жа, абы ў цябе сілы хапала. От купім у калгаснікаў — дык табе самых лепшых прывяду.

І супакоеная дзяўчына адыходзіць.

На ферме былі канфлікты і больш складаныя. Гэта было тады, калі ёю загадваў Сцяпан Васільевіч Мазоль. У тыя канфлікты прышлося ўмяшацца праўленню калгаса. Цяпер загадчыкам фермы назначаны намеснік старшыні калгаса комуніст Іван Сцяпанавіч Скрабейка.

Міхаіл Шут працуе на ферме дзевяць гадоў. За сумленную працу яго паважаюць не толькі ў брыгадзе, але і ва ўсім калгасе. У мінулым годзе праўленне калгаса прэміравала 12 лепшых калгаснікаў пуцёўкамі ў дом адпачынку. Аднаму з першых далі пуцёўку Міхаілу Дзмітрыевічу. Вярнуўся ён з таго дома адпачынку змучаны, худы.

— Чаго гэта ты, Міхалка, схуднеў так, не кармілі цябе там, ці што, — жартавалі калгаснікі.

— Карміць то яно кармілі, і нядрэнна... Але вельмі ўжо нудна без работы цэлы дзень сядзець. Хоць-бы ферма была там якая ці каб было да чаго рукі прыкласці. А то дзень — за сорак гадзін табе сцягнецца...

... Многа яшчэ трэба папрацаваць альшанскім жывёлаводам, каб зрабіць сваю ферму ўзорнай. І найпершае, што тут патрэбна, гэта электрычнае святло.

— Што, можа вам па вожыку ў штаны пакласці, каб хутчэй паварочваліся, — ні то жартам, ні то крыху са злосцю падахвочвае сваіх манцёраў старшыня калгаса Іван Антонавіч Дзячэнка. — Бачыце, як усюды святло патрэбна.

Але ў манцёраў справы ідуць не так хутка, як хацелася-б старшыні. То патрэбнага матэрыялу няма, то яшчэ чаго.

— Бяда з гэтымі матэрыяламі, — ужо скардзіцца Іван Антонавіч. — У нас цяпер хутаранцы перасяляюцца ў калгас. Людзі будуюцца, а тут часам цвіка не дастанеш у гэтым Сельгасснабе... От дзе парадку няма!

... Многа яшчэ трэба зрабіць і ўсім альшанскім калгаснікам, каб вывесці свой калгас у перадавыя не толькі ў раёне, але і ў вобласці. Калгас вялікі, і планы, задумы яго вялікія. Але, паглядзеўшы, як тут працуюць людзі, цвёрда верыш: усё па плячу працавітым альшанцам!

## НА НОВЫЯ ПАДВАЛІНЫ

Альшанскі калгас налічвае звыш васьмісот двароў. Двары гэтыя раздзяляе не толькі садок, гародзік або, скажам, вуліца,— часам двор каго-небудзь са шматлікіх Ярмолічаў, Шутоў ці Сысаў знаходзіцца кіламетраў за 5—7 ад калгаснай сядзібы. Жыве сабе чалавек на водшыбе — напалову калгаснік, напалову аднаасобнік. Кругом яго селішча, як вокам акінуць, калгасныя палі, сенажаці, пашы. І дзе тут душа вытрымае, каб не ўкасіць сваім кароўкам лішні бярэмак сянца дзе-небудзь на ўзмежку ці на ўскрайку калгаснай сенажаці, не прынесці з поля вязку-другую саломы, не напасвіць карову ў гэткай выгодзе. Ды і бульба побач. Накапаюць, насыплюць яе ўвосень вялізныя варахі. Хто яе мерае ў іх або важыць. А ў дзядзькі-хутараніна свіччо, ды і не адно... І гадуецца часам у дзядзькавага кабанчыка сальца пальцаў на пяць, тлусцее на калгаснай бульбе....

А калі на справу паглядзець з другога боку, то і таму дзядзьку-хутараніну не вельмі ўжо вялікі рай хадзіць кожны дзень на работу за пяць-сем кіламетраў, пасылаць дзіця ў школу за такую далячынь, часам у дождж, у непагадзь... Ды і зноў-жа, з людзьмі весялей: і навіну якую хутчэй пачуеш, і кіно паглядзіш...

І бунтуюць, змагаюцца ў дзядзькавай душы гэтыя дзве праўды, дзве жыццёвыя пазіцыі. Каторая з іх адолее? У першай — глыбейшыя карэнні: яна складвалася вякамі, гэтая суровая, бязлітасная праўда дробнага прыватнага ўласніка: працуй, ірві жылы, грабі пад сябе ўсё, што можаш, у гэтым — тваё збавенне. Другая праўда — яшчэ маладая. Ёй — якіх-небудзь няпоўных паўтара дзесяткі год. Але яна запаланіла сялянскую душу сваёй глыбокай чалавечнасцю, навучыла бачыць у чалавеку не воўка, а працаўніка, таварыша па працы. І чалавека пацягнула да людзей, да калектыву.

**Міхаіл Шут, загадчык жывёлагадоўчай фермы.**



Гэтае імкненне не засталося незаўважаным для нашага ўрада. Ён прышоў на дапамогу калгасніку-хутаранцу. Самае цяжкае для перасяленца — перавезці і паставіць хату на новым селішчы. І гэтую цяжкасць калгас поўнасцю ўзяў на сябе.

Але ён не ўзяў, ды і не можа ўзяць на сябе другую цяжкасць— цяжкасць ростані чалавека са звыклым, наседжаным месцам, і на гэтай глебе часта ўзнікаюць канфлікты. Надумаўся, напрыклад, чалавек перабрацца з хутара ў калгас. У вызначаны дзень да яго прыходзяць калгасныя цесляры, каб разабраць хату. У апошнюю хвіліну чалавек глянуў на гэтую хату, садок, на гуменца, і такім мілым здалося яму сваё селішча, што ён рашуча гаворыць старшыні калгаса:

## ПАРАСКА ІВАНАЎНА

Па калгасным двары, спяшаючыся і час-ад-часу выціраючы ражком белае хусткі слёзы, ішла жанчына. Параўняўшыся з намі, яна на момант падняла вочы. І з гэтых да болю сініх вачэй на нас глянуў такі вялікі чалавечы боль, такая пякучая крыўда, што мы міжволі спыталіся:

— Чаго-ж гэта вы так плачаце? Пакрыўдзіў хто?

Ад спачування на душы ў жанчыны стала яшчэ гарчэй, і яна, не могучы прамовіць слова, толькі махнула рукой. Адышоўшыся, яна знямоджана апусцілася на бервяно і пачала ўглядацца ў канец калгаснага двара.

Праз момант твар жанчыны як сонцам асвяціла. З вачэй яшчэ цяклі слёзы, але яны ўжо смяяліся. І, не могучы стрымаць сваёй радасці, яна загаварыла ні то сама з сабою, ні то з тым, да каго адносіліся яе словы:

— А сыночак мой, а каласочак мой залаценькі... А які-ж ты ў мяне маладзец...

Мы паглядзелі туды, куды глядзела жанчына. З-за калгасных канюшань, хутка паганяючы каня і час-ад-часу аглядаючыся, ехаў хлапчук год пятнаццаці. Жанчына крыкнула ўму ўслед:

— Паганяй, сынок, хутчэй, а то ўгледзіць, дык адбярэ...

Развязаўшы хустку і выціраючы ёю твар, жанчына загаварыла ўжо да нас, нібы прадаўжаючы перапыненую размову:

— Пакрыўдзіў, кажаце? Ужо каторы год ён мяне крыўдзіць, гэты наш брыгадзір. Ды каб-жа толькі мяне! Вось недабярэ па яго ласцы калгас не адзін дзесятак тысяч рублёў за лён, то хіба гэта будзе толькі мая крыўда?.. А пра сенняшняе, калі вам цікава ведаць, дык гэта ён мне зноў не даваў каня. На полі лён стаіць каторы дзень, сухенечкі... Яго-б пазвозіць адтуль, пакуль дождж не нахапіўся, хутчэй абмалаціць ды на сцелішча... Дык дзе там, каня не дапросішся... І баліць, і рвецца маё сэрца, як падумаю, што чалавек над нашаю такою шчыраю працаю глуміцца... Але-ж усёроўна не будзе па яго!.. Пабягу-ж, а то загаварылася, а жанкі мае недзе ўжо даўно робяць.. Прабачайце...,— і жанчына подбегам кінулася у тым кірунку, у якім нядаўна паехаў хлапчук.

— Пачакайце трошачкі, вы-ж не сказалі, як вас завуць?

— А Параска я... Параска Шут...— на бягу кінула яна і хутка знікла з вачэй.

Дык вось яна якая, гэтая Параска Шут,— Апанаска, як яе тут завуць, — пра якую з такой павагай гавораць альшанцы. І не толькі ў Альшанах у пашане імя гэтае цудоўнай жанчыны. Яе ведае ўся Брэсчына. Адну з лепшых ільнаводак вобласці, Параску Іванаўну наперабой запрашалі ў свае калгасы брэсцкія ільнаводы, каб павучыцца ў яе вырошчваць і апрацоўваць лён. І не таілася жанчына, а шчыра выкладала ўсё, да чаго дайшла сама сваім дапытлівым розумам, сваёй неспакойнаю душою. Праца парасчыных рук упрыгожвае павільён нашай рэспублікі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. Ільнаводы ўсёй краіны любаваліся яе ільном і з цікавасцю слухалі беларускую ільнаводку, якая раскрывала перад імі свае «сакрэты».

Толькі адзін «сакрэт» не раскрыла перад людзьмі Параска Іванаўна — гэта тое, як ёй часам бывае нялёгка. І не праца ёй цяжкая,— яе вялікія, дужыя, як у мужчыны, рукі ў жорсткіх мазалях не баяцца працы і, здаецца, ніколі не ведаюць стомы.

— Жаночкі, то вы-ж не баўцеся. Падаіце кароў, павячэрайце ды падбяжыце на ток, памалоцім яшчэ трошкі... Трэба-ж лянок да ладу прывесці,— і яна апошняй пойдзе з поля і першай прыдзе ўвечары на ток.

Хоць не дае звеннявая спакою сваім жанкам, але яны любяць яе за справядлівасць, за бясконцую прагавітасць да работы. З ёю хоць ужо не пасядзіш, не папрастарэкуеш, дык затое, калі прыдзе час атрымоўваць заробленае, — чырванець перад людзьмі не будзеш.

Не любіць Параску Іванаўну толькі брыгадзір паляводчай брыгады Нікалай Мазоль. Гэтая яго нават не нелюбоў, а нейкая страшэнная нянавісць, не толькі прыносіць жанчыне шмат гора, але і наносіць вялікую шкоду агульнай справе.

— Я сказаў табе, Параска, што ты ў мяне ў падмётках хадзіць будзеш, дык так яно і будзе, — сказаў ён Парасцы Іванаўне і кожны дзень не праміне выпадку, каб не давесці жанчыну да слёз. То ўчастак ёй адвядзе меншы, чым у другіх, то каня не дасць лён звозіць, то забярэ ў яе ўсіх людзей са звяна, і яна «адна-аднюсенька, як аднаасобніца якая», ідзе слаць лён.

Але ў Парасні Іванаўны і на меншым участку лён вырасце лепшы, і яна збярэ яго больш, чым другія з вялікага, і добрыя людзі цішком запрагуць яе сыну каня, каб дапамог мацеры звозіць лён. А замест адабраных з яе звяна жанок яна павядзе на свой участак старэнькіх бабулек, якіх другія звеннявыя стараюцца абмінаць, «бо якая там ужо іх тая праца!». Прывядзе і будзе паціху, ласкава вучыць: «А вы, дзяннaчка, вось гэтак... вось гэтак», а сама — за трох паспявае...

І дзяннaчка ад таго ласкавага слова, ад спагады робіць цэлы дзень, колькі яе сіл хапае. І ёй добра працаваць побач з гэтай утрапёнай жанчынаю.

Самае радаснае для чалавека — бачыць плён сваёй працы, адчуваць, што гэтая твая праца патрэбна не толькі табе, а і ўсім людзям, усяму калгасу. Мабыць таму Параска Іванаўна, набраўшы пучок ільну, панесла яго спачатку не дадому, а ў калгасную канцылярыю. І ён доўга стаяў там на покуце — высокі, сцяблісты, жоўты, як воск, і чысты, як сэрца гэтай жанчыны, і, здавалася, свяціўся, выхваляючыся руплівасцю чалавечых рук. Людзі цешыліся яе працаю, а Парасцы Іванаўне большай радасці і не трэба.

— Дык скажыце-ж вы мне, чаму гэты чалавек нават сам сабе вораг? — зноў звяртаецца да свайго, набалелага, Параска Іванаўна. — Ну ты — брыгадзір, а я — твая звеннявая. Дык калі ў мяне добры лянок вырасце, то гэта-ж усёй нашай брыгадзе і табе — слава. Чаму ты гэтага разумець не хочаш?

І ў адказ на гэтае пытанне ў памяці ўсплываюць словы:

— Я сказаў табе, Параска, што будзеш хадзіць у мяне ў падмётках....

Так сутыкнуліся ў жыцці дзве розныя пазіцыі: адна — грамадская пазіцыя чалавека, які душою хварэе за кожнае каліўца калгаснага дабра, а другая — вузка асабістая, індывідуалістычная пазіцыя чалавека, які не ўмее прымаць пад увагу інтарэсы агульнай справы. Маленькае, дробязнае самалюбства становіцца папярок вялікай дзяржаўнай справе.

Вырашэнне гэтага канфлікта ляжыць на сумленні праўлення калгаса. А пакуль ён не вырашыцца, Параска Іванаўна будзе працаваць з неспакойнай душою і ўсё будзе прасіць:

— Дайце вы мне волечку рукі разгарнуць, то я не тое, што свой калгас, — увесь раён абраблю.

Дайце-ж ёй гэтую волечку, таварышы! Для карысці справы.

## ДРУГІ МАЗОЛЬ

Наша знаёмства з ім было не зусім звычайным. Шукаючы непаседлівага Міхаіла Шута, мы заглянулі ў дзяжурны пакоік калгасных пажарнікаў. Дзень быў выхадны, і да тых, хто знаходзіўся на дзяжурстве, заглянулі іх дружбакі. Калі ўсе навіны былі пераказаны, хлопцы дасталі са стала шашкі.



Ганна Красько, даярка.

— Ну, каго пасадзіць? — прапанаваў адзін з іх, відаць, мясцовы чэмпіён па шашках.

— Глядзі, каб сам не сеў, — тут-жа азваўся другі, і яны ўзяліся расстаўляць шашкі.

— Гэ-эй, вы, аб-болтусы, а н-ну, д-дайце месца! — ледзь варочаючы языком, гукнуў ад парога пажылы сярэдняга росту мужчына з мутнымі, амаль невідушчымі ад «унутранага перагрэву» вачамі.

Няцвёрда перастаўляючы ногі, ён падышоў да стала, сеў на лаўку і пацягнуў да сябе разлінаваны на чорныя і белыя квадраты кардон.

— А н-ну, г...нюкі, хто са мною асмеліцца?.. От глядзіце, я пайшоў! — і ён пасунуў сваю шашку далёка за лінію шашачнага поля.

— Гэтак, брат, у нас не ходзяць, — азваўся хлопец, што сядзеў насупраць яго, і паставіў шашку на яе ранейшае месца, — Ты-ж за лінію поля не хадзі.

— А п-пляваць я хацеў на тваю лінію... К-куды хачу, туды і пайду... І ты мне не ўкажаш... Я сем гадоў загадчыкам фермы быў, а ты хто такі?..

Брыдка лаючыся, былы загадчык фермы з цяжкасцю адарваў ад лаўкі сваё непаслухмянае цела і, заграбаючы нагамі, пайшоў далей дзівіць людзей.

Можа сам па сабе гэты эпізод і не меў-бы вялікага значэння, каб ён не праліваў святла на натуру пэўнага тыпу людзей — так званых былых загадчыкаў.

У свой час такі чалавек быў нядрэнным работнікам, і яму даручалі немалую справу. Праз некаторы час, палічыўшы сябе па гэтай прычыне

немалым чалавекам, ён пачынае зазнавацца, самавольнічаць, не лічыцца ні з чыёю думкаю. Гэта робіць яго ва ўласных вачах яшчэ большым, і ён, упіваючыся ўласнай веліччу, пачынае пераступаць граніцы свайго сумлення гэтак-жа лёгка, як вышэй герой пераступіў граніцы шашачнага поля.

Агледзяцца людзі, што чалавек гэты — ужо не той, якому яны некалі паверылі, скажуць яму: «Не хочаш як след загадваць, станавіся побач з намі, папрацуй. Можа, паразумнееш»...

Але працаваць загадчык ужо адвык, мазаля баіцца. Да таго-ж недзе ў самай глыбіні яго душы жыве, цепліцца надзея: «А можа яшчэ адновяць»...

А тым часам ходзіць ён без справы па калгасу, выследжвае, падпільноўвае... І няма ў яго большай радасці, як убачыць чыю-небудзь памылку, няўдачу. Тут ужо ён сябе пакажа. У яго не забаліць душа, што такая памылка прынесла шкоду агульнай справе. Ён будзе злараднічаць: «Ага, дык-жа і вы не святыя.. А за што-ж вы мяне скінулі?». І няўцям чалавеку, што часам людзі памыляюцца з чыстым сумленнем, а ён у сваіх паводзінах сумлення ў разлік не браў.

Нешта падобнае здарылася і з былым загадчыкам жывёлагадоўчай фермы Сцяпанам Мазалём. Працаваў ён на ферме не адзін год і за гэты час «вопыт» яго вырас у вельмі своеасаблівым кірунку: ён навучыўся самаўпраўнічаць. Прыпісваць каму-ні-каму з даярак малако, а каб звесці канцы з канцамі — спісваць гэтае малако на кармленне цялят. Ды і надоі з яго блаславення раслі часам не зусім звычайным шляхам: што ад каровы, а што і з калодзежа...

Разабралася праўленне калгаса ва ўсіх гэтых справах і вызваліла Сцяпана Мазаля ад абавязкаў загадчыка фермы, прапанаваўшы яму любую палявую работу.

Разумную параду далі чалавеку. Яму-б закасаць рукавы ды сумленнаю працаю вярнуць людскую павагу да сябе. Дык дзе вы бачылі! Гонар перашкаджае. І ходзіць па калгасу здаровы, у самай сіле чалавек без аніякай справы, у чаканні якой-небудзь загадчыцкай пасады. Абыякавы да тых вялікіх спраў, якія непрыкметна робяць людзі з дня ў дзень, ён прыслухоўваецца толькі да свайго балючага самалюбства, якое, як свежы мазоль, пячэ яго душу. Бывае, што хто-небудзь з кіраўнікоў і пашкадуе такога «мазаля», перакіне яго з аднаго праваленага ўчастка работы на другі, яшчэ не правалены. Дарэмна гэта робіцца. Сама лепш такія «мазалі» лечацца працаю.

* * *

У глыбіннай палескай вёсцы Альшаны кіпіць, віруе жывою крыніцаю жыццё. Плынь яго — не ідэальна простая, яна часта нагадвае плынь рэчкі Гарыні: выбіраючы зручнейшы шлях, яна робіць свае павароты, штодзённа, непрыкметна пракладаючы новае рэчышча і імкнучыся ўсё ўперад, і ўперад.

Калі прыгледзецца да гэтай плыні, то ў яе нясуць свае воды не толькі светлыя ручайкі. Часам да яе прабіваецца і векавая твань. Але зліўшыся з магутнымі, чыстымі водамі, гэтая твань паволі асядае на дно, і каламутная хваля чысцее.

Так і ў жыцці альшанцаў. Магутная плынь новага жыцця змывае на сваім шляху ўсё старое, што засталося ад праклятай мінуўшчыны. У калгасе выраслі новыя людзі, бязмежна адданыя агульнанароднай справе пабудовы комунізма, сапраўдныя калектывісты, для якіх праца на карысць калектыву з'яўляецца не толькі высокім абавязкам, але і кроўнаю справаю сэрца. Гэта — ільнаводка Параска Шут, жывёлавод Міхаіл Шут, брыгадзір калгасных цесляроў Іосіф Сыса і многія, многія другія. Кожны адыходзячы дзень нясе ў агульную скарбніцу сённяшніх вялікіх народных спраў крупінку здавалася-б малой, непрыкметнай, але вельмі патрэбнай для дзяржавы, для ўсяго совецкага народа працы альшанскіх калгаснікаў.

Альшаны,
Давыд-Гарадоцкі раён.



**П. ГОЛУБ,**
**член КПСС з 1917 г.**

# ЗА ШЧАСЦЕ НАРОДА

Мястэчка Плешчаніцы і цяпер не вельмі шумнае, а да рэвалюцыі ў нас была самая сапраўдная глухамань.

Аднак весткі аб рэвалюцыйных падзеях у краіне даляталі і ў Плешчаніцы. Знаходзіліся людзі, якія рабілі сваю справу і ў нашым глухім мястэчку.

У 1910 годзе мы, батракі графа Тышкевіча, не выйшлі ўвечары на работу, забаставалі. Хопіць з нас і доўгага дня: ад світання да заходу спіны гнулі.

Забастоўка працягвалася некалькі сутак. Мяне нехта выдаў, як арганізатара, і я трапіў да прыстава. Спатканне з гэтым ліхадзеем скончылася тым, што з мяне ўзялі падпіску аб нявыездзе з мястэчка. А гэта — страшней, чым кандалы на рукі. Кожны тыдзень я цяпер павінен быў у прыстава адзначацца, што жыў-здароў і нікуды не ўцёк...

Але пабываць у яго мне прышлося толькі два разы. На трэцюю нядзелю я ўжо быў далёка ад родных Плешчаніц. Апынуўся я ў Піцеры, як тады Ленінград называўся. Арганізаваў уцёкі я не адзін. Дапамаглі вопытныя людзі, бальшэвікі, таварышы Новікаў і Ілдукіс. Трапіў я неўзабаве ў Кранштацкую крэпасць на будаўніцтва ўмацаванняў — фартоў.

Няма ў мяне слоў, каб перадаць, як цяжка было нам, будаўнікам, на Кранштацкім востраве. Уладарнічаў над намі генерал Маслаў. Прымушаў працаваць стольki, колькі хацеў. І плаціў таксама, як хацеў. А хацення вялікага на гэта генерал не меў...

І гэта, не забудзьце, адбывалася не пры цары-гароху. Дзевяцьсот пяты год у рабочага класа быў ужо за плячамі. У мяне, непісьменнага хлопца, і то сякія-такія думкі ўзнікалі. А на будоўлі і пісьменных-жа хапала! Словам, у 1912 годзе рабочыя ў Кранштаце забаставалі. Вядома, на забастоўку ўрад адказаў жорсткімі мерамі. Многіх арыштавалі, а многіх занеслі ў спісы «нядобранадзейных». Я вельмі добра разумеў, які лёс чакаў гэтых людзей. І не доўга раздумваў, калі група рабочых прапанавала мне ўкрасці гэтыя спісы.

У памяшканні, якое займалі карнікі — жандарскія афіцэры, я арганізаваў узрыў бомбы, і ў час панікі знайшоў усе спісы «нядобранадзейных» і знішчыў іх. Забастоўка ўспыхнула з новай сілай. На востраў прыбылі казакі. Пачаліся масавыя арышты. Мне з групай таварышаў удалося ўцячы з Кранштата.

Так я трапіў у Смаленск, на лесапільны завод. А адтуль на наступны год мяне ўзялі ў армію. У 1914 годзе пачалася вайна з немцамі.

У 1916 годзе мяне раніла, і я быў накіраваны ў лазарэт у мястэчка Хвоева. Неўзабаве мяне паставілі кашаварам. І вось аднойчы, нібыта для праверкі, падышоў да мяне афіцэр Міхайлаў. Быў ён загадчыкам гаспадаркі Усерасійскага Земскага Саюза, у падначаленні якога знаходзіліся лазарэты. Але, на маё здзіўленне, загаварыў са мной гэты афіцэр не аб прадуктах і порцыях, а аб тым, ці праўда, быццам я маю воўчы білет. Я, вядома, не прызнаўся: ведаў, што ў афіцэрскай форме можа аказацца жандар.

Мяне хутка перавялі ў другі лазарэт — у Нясвіжы. І там я зноў сустрэўся з Міхайлавым. Ён зноў пачаў асцярожна распытваць аб маім мінулым. Я выкручваўся, як мог, але на наступны дзень пашкадаваў аб гэтым. Адзін з таварышаў, якому я расказаў аб размове з афіцэрам, весела сказаў мне:

— Эх, галава! Ён-жа наш чалавек!..

Менш чым праз год я зноў спаткаў гэтага чалавека, але ўжо ведаў, хто ён. Гэта быў Міхаіл Васільевіч Фрунзе.

Да таго часу (вясной 1917 года) мяне выбралі старшынёй Камітэта салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў 35-й брыгады Першага сібірскага корпуса 10-й арміі. А ў Мінску стаў нелегальна фармавацца Першы мінскі рэвалюцыйны полк Петраградскага Совета. У падвале будынка духоўнай семінарыі пад выглядам стварэння рэзервавай воінскай часці, якая нібыта рыхтавала папаўненне арміі Керанскага, кавалася грозная рэвалюцыйная сіла. Салдацкія камітэты рабілі ўсё для таго, каб у гэтую «рэзервавую» часць трапілі лепшыя людзі, верныя справе рабочага класа. Як старшыня камітэта сваёй брыгады (якая размяшчалася ў раёне мястэчка Парфіянава, цяперашняя Маладзечанская вобласць), я часта бываў у штабе рэвалюцыйнага палка і блізка пазнаёміўся з таварышамі Фрунзе і Мясніковым. У маі таго-ж 1917 года мне прапанавалі ў радзе суседніх з Плешчаніцамі валасцей арганізаваць Камітэты салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Прапанову гэтую мне зрабілі таварышы Фрунзе і Мяснікоў. Я сказаў, што пабойваюся такога адказнага даручэння.

Праз некалькі дзён я ў суправаджэнні семярых таварышаў накіраваўся арганізоўваць валасныя камітэты. Вярхом на конях, у салдацкіх шынялях, з зарослымі барадамі, з вінтоўкамі за плячамі, прабіраліся мы па гразкіх прасёлачных дарогах з адной воласці ў другую. І вось адзін за другім узнікае адзінаццаць валасных камітэтаў...

Вярнуліся мы ў Мінск і даведаліся, што нас чакае новае заданне. Да таго часу камандаванне Керанскага ўвяло ў войскі жаночыя «батальёны смерці». Такім злавесным іменем былі названы атрады, якія складаліся выключна з жанчын — жонак і дачок афіцэраў, фабрыкантаў, памешчыкаў. Яны мелі заданне: узняць у наступленне палкі, якія не жадалі працягваць вайну з немцамі. Нам прадстаяла ліквідаваць гэтыя батальёны контррэвалюцыйнай прапаганды. Мы спрабавалі ўгаварыць жанчын спыніць свае заклікі да кро-

вапраліцця. Аднак яны не згаджаліся. Тады мы вымушаны былі ад слоў перайсці да справы. Пад пагрозай нашых штыкоў «батальёны смерці» распаліся.

Ледзь дабраўся я да Мінска, як атрымаў новае даручэнне. Настаў час дзяліць памешчыцкія землі паміж сялянамі.

Са мной, як і ў першы раз, — сямёра. І зноў мы ездзілі па тых-жа адзінаццаці валасцях.

Не ўсюды, вядома, усё ішло гладка. Прышлося з казакамі ў бой уступаць і манеўраваць — хавацца ў сялян. Але так ці інакш — пачэснае даручэнне было выканана.

А справа ішла к восені 1917 года. У войсках мы разгарнулі ўзмоцненую агітацыю за тое, каб салдаты не ішлі ў бой, павярнулі штыкі супраць Часовага ўрада. Пачалі нелегальна арганізоўваць чырвонагвардзейскія дружыны.

1-га кастрычніка мяне прынялі ў партыю. Неўзабаве я стварыў баявую дружыну з салдат 35-й брыгады. Нас было 200 чалавек. Мы атрымалі кароткі загад: рухацца ў Петраград. Дабірацца любым спосабам — з захаваннем тайны загаду. Месца збору — Пуцілаўскі завод. Больш мы нічога не ведалі, але разумелі, што справа прадстаіць сур'ёзная.

Вось прыклад рэвалюцыйнай дысцыпліны: усе 200 чалавек прыбылі на Пуцілаўскі завод своечасова. Дабіраліся хто на дахах вагонаў, хто на паравозных тэндарах, хто, прабраўшыся ў цяплушкі, з салдатамі Керанскага.

У ноч на 25 кастрычніка мая дружына, разам з тысячамі другіх людзей, ішла на штурм Зімняга. Гэта быў цяжкі, крывавы бой. Нямала ў тую ноч палегла юнкераў, абаронцаў Зімняга, але і мы многіх не далічыліся.

Я добра памятую тую гістарычную ноч. Маракі-балтыйцы, рабочыя, піцерскія кабеты-санітаркі, — усе нястрымна ірваліся ўперад.

Крыкі смяротна параненых і выбухі гранат, словы каманды і звон разбітых шыбаў — усё зліваласся ў адзін суцэльны гул. Потым — шырокія ступені лесвіц, засланых дыванамі, нейкія статуі, пазалочаныя крываногія крэслы, аксамітныя драпіроўкі, — і сярод усяго гэтага штыкавы бой з юнкерамі. А потым раптам, як электрычны разрад — перамога!

Мой удзел у падзеях гістарычнай ночы закончыўся тым, што я адканваіраваў арыштаваных міністраў Часовага ўрада ў Петрапаўлаўскую крэпасць.

А цераз суткі ў ліку другіх камандзіраў чырвонагвардзейскіх дружын я быў выкліканы ў Смольны да Леніна. Уладзімір Ільіч не адразу пачаў прамову. Радасны, усхваляваны, ён хутка хадзіў па пакоі, нешта абдумваючы. Потым ён сказаў нам некалькі простых слоў аб значэнні перавароту, які адбыўся, аб вялізнай адказнасці, якая легла на нашы плечы, аб тым, што нам прыдзецца нямала папрацаваць, а магчыма, і паваяваць... Прачытаў дэкрэт аб пераходзе ў краіне ўлады ў рукі Советаў і заклікаў нас быць арганізатарамі Савецкай улады на месцах.

Так я атрымаў падпісаны Леніным мандат рэвалюцыйнага штаба на права арганізацыі Советаў усё ў тых-жа маіх адзінаццаці валасцях.

І вось я зноў у Плешчаніцах...

Працаваў я на розных пасадах, імкнуўся рабіць усё, што мог, для росквіту нашай савецкай Радзімы. Узрост мой ужо немалады. Але я, як і раней, лічу сябе салдатам рэвалюцыі, імкнуся несці верную службу сваёй Айчыне.

Плешчаніцы,
Мінская вобласць.

С. ЛЕВІНА,
старшы навуковы супрацоўнік
музея Вялікай Айчыннай вайны.

# СЯМ'Я ПАТРЫЁТАЎ

У Мінску па вуліцы 3-я лінія ў доме № 26 у даваенны час жыла сям'я сціплых працаўнікоў — Пятро і Альбіна Хадасевічы. Альбіна працавала прыбіральшчыцай у Доме друку, Пятро — намеснікам начальніка пажарнай аховы. Як толькі пачалася вайна і ў горад уварваліся фашысты, савецкія патрыёты сталі на шлях падпольнай барацьбы з ворагам.

На кватэры ў Хадасевічаў, у падвале, падпольшчыкі ўстанавілі радыёпрыёмнік і прымалі зводкі Соўінформбюро, размножвалі іх і потым распаўсюджвалі сярод насельніцтва.

Аднойчы кастрычніцкім вечарам 1941 года адзін з актыўных змагароў-падпольшчыкаў Вячэслаў Нікіфараў (яго называлі ў той час Вацік) у размове з сябрамі падаў думку:

— Трэба пераправіць палонных да партызан!

— Вельмі слушная прапанова, — заўважыла Альбіна Адольфаўна.

Яна расказала, што ўжо даўно наведваецца да ваеннапалонных, якія пакутуюць у вайсковых казармах на Лагойскім тракце. Ваеннапалонныя галадалі, мерзлі ад холаду. Рызыкуючы жыццём, Альбіна Хадасевіч і яе сястра Франя Навакоўская перадавалі ім за дрот і хлеб, і бульбу, і сёе-тое з вопраткі...

Цяпер паўставала новая задача — пераправіць палонных з лагера да партызан. Як гэта зрабіць, калі вакол — калючы дрот, а на вышках — варожая варта?

Падпольшчыкі доўга думалі, як выратаваць савецкіх воінаў, што трапілі ў палон. Нарэшце ім гэта ўдалося. Праз жанчын яны звязваюцца з лагернікамі, даюць ім адрас, куды прыйсці ў выпадку ўцёку. Неўзабаве група ваеннапалонных, вяртаючыся з работы, забіла варту і прыйшла ў надзейнае месца. Тут іх чакалі свае людзі, якія далі ім цывільную вопратку і назаўтра правялі ў партызанскі атрад.

У канцы мая 1942 года ў Мінску пачала выходзіць падпольная газета «Звязда». Першы нумар яе быў аддрукаваны на кватэры ў Воранавых, па Рымарнай вуліцы ў доме № 9.

— Наша «Зорачка», — так любоўна называлі савецкія людзі сваю падпольную газету. Яе чыталі, перадаючы з рук у рукі; з далёкіх вёсак ішлі хадакі, каб прачытаць вестку з Вялікай зямлі.

Сярод тых, хто распаўсюджваў «Звязду», была і сям'я Хадасевічаў. Ідучы ў горад, да знаёмых, на рынак, Пятро заўсёды браў з

сабою, старанна прыхаваўшы, пачак газет. Вельмі смела і ўдала распаўсюджвала лістоўкі і газеты Альбіна Адольфаўна, заносячы іх у самыя небяспечныя месцы. І іх дзеці, піонеры Косця і Паўлік, набраўшы за пазуху лістовак, ішлі да хлебазавода «Аўтамат» і там непрыкметна раздавалі іх рабочым, якія выходзілі з прахадной.

Пасля з'яўлення кожнага чарговага нумара «Звязды» гестапаўцы ўзмацнялі аблавы ў горадзе, збіваючыся з ног у пошуках друкарні і падпольшчыкаў. Але падпольшчыкі былі няўлоўныя.

Кожны раз друкарня мяняла сваё месца, вызначаліся ўсё новыя і новыя яўкі.

Чацвёрты нумар «Звязды», які быў набраны на Выдавецкай вуліцы, было вырашана надрукаваць на кватэры Хадасевічаў. З якой радасцю прынялі яны гэтае рашэнне! Газету друкавалі і бацька, і матка, ім дапамагалі сыны Косця і Паўлік. Паперу прынеслі з Дому друку Франя Навакоўская і яе дачка Ядзя.

Свежыя, яшчэ з пахам фарбы газеты забіралі падпольшчыкі і неслі ва ўмоўленыя месцы. У першыя-ж дні «Звязду» чыталі не толькі многія мінчане, але і вясковыя людзі, партызаны ў глыбокіх лясах...

У пачатку кастрычніка 1942 года гестапаўцы натрапілі на след падпольшчыкаў. Ноччу акружылі дом Хадасевічаў і схапілі ўсю сям'ю. На адну машыну забралі Пятра з Альбінай, а на другую сыноў. У апошні раз бацькі бачылі сваіх дзяцей.



**Сям'я Хадасевічаў** (1941 год).

У гэтую-ж ноч былі арыштаваны Франя Навакоўская і яе дачка Ядзя.

Падпольшчыкаў-патрыётаў бязлітасна, па-зверску катавалі, але яны нікога не выдалі з сваіх сяброў па зброі. Яны бязмежна верылі ў хуткую перамогу над чужынцамі. На сценках глечыка, у якім сваякі перадавалі вязням ежу, комсамолка Ядзя Навакоўская напісала: «Пакуль мы яшчэ ўсе жывыя. Нам дажыць-бы да Кастрычніцкіх свят. А там, магчыма, і застанемся жывыя, бо хутка-ж нашы прыдуць!»

У канцы лістапада 1942 года адважныя патрыёты-падпольшчыкі геранчна загінулі ў фашысцкіх засценках. Памяць аб іх заўсёды будзе жыць у людскіх сэрцах.

І. ЗАЗЕКА

# ЛЯСНЫЯ ПЕСНІ

Гэтыя песні нарадзіліся ў суровыя гады партызанскай вайны.

Беларускі народ у перыяд фашысцкай акупацыі змагаўся з ворагам не толькі са зброяй у руках, але і мужным паэтычным словам. З часоў вайны захавалася багатая пісьмовая і вусная творчасць, якая застанецца ў вяках, як помнік мужнасці, стойкасці і гераізму народа.

Душэўная ўзрушанасць, выкліканая пачуццём адказнасці за лёс айчыны, прыгажосць і веліч подзвігу народа, які ўзняўся на барацьбу з фашысцкімі грабежнікамі, прымусілі многіх партызан узяцца за пяро. Нават людзі, якія раней не займаліся мастацкай творчасцю, адчувалі патрэбу перадаць у паэтычнай форме пачуцці, якія напаўнялі іх сэрцы, падзяліцца сваімі думамі, перажываннямі.

Душой і арганізатарамі мастацкай творчасці партызан былі падпольныя партыйныя арганізацыі. Партыя вырошчвала з асяроддзя партызан і падпольшчыкаў аўтараў, групавала іх вакол партыйных і партызанскіх газет, ідэйна і творча выхоўвала іх. Мастацкае слова партызан было вострай і дзейнай зброяй у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На старонках партызанскіх газет і часопісаў упершыню са сваімі вершамі, нарысамі, апавяданнямі, песнямі, частушкамі выступілі сотні пачынаючых аўтараў. Сярод іх можна назваць імёны: В. Сабліна, Л. Амбаха, Ф. Золенка, А. Міхайлава, П. Ліпілы, В. Скарахода, Е. Мрамарава, П. Казлоўскага, Е. Казлоўскай, Е. Аўсянкіна, Л. Ляснога (Крайнік), І. Сцяпанава, А. Пятровіча, Ф. Чылінгірава, Н. Ягорава, Н. Усава, А. Казанскага, М. Воўка, П. Лабанава, І. Прадвеснага (Куляшова), В. Пакраса, О. Сіманавай, А. Крыштальнага, Л. Кукушка, Р. Гусева, Г. Фядотава, Н. Хаценка, Н. Дзюбенка, П. Паўлоўскага і іншых.

Імёны многіх аўтараў нам яшчэ невядомы: людзі вымушаны былі ва ўмовах падполля хаваць свае сапраўдныя прозвішчы. Нямала маладых паэтаў не ўбачылі дня перамогі, загінулі ў бітвах з ворагам.

Большасць партызанскіх аўтараў — моладзь, якая знаходзілася ў партызанах або была звязана з імі. Героі партызанскай паэзіі —

перадавыя людзі нашай эпохі, камуністы, камсамольцы і беспартыйныя, адданыя справе камуністычнай партыі.

Партызанскія аўтары заўсёды былі побач са сваімі героямі, хадзілі разам з імі на засады, мініравалі дарогі, масты і грамілі гарнізоны ворага. Рэальныя факты жыцця і барацьбы народных мсціўцаў самі па сабе былі настолькі важнымі і хвалюючымі, што аўтарам не было патрэбы ў вымыслах. Герояў можна было сустрэць у кожным партызанскім падраздзяленні. Разведчыкі, дыверсанты, кулямётчыкі, аўтаматчыкі станавіліся героямі твораў народных мсціўцаў.

Многія творы партызанскіх аўтараў пайшлі ў народ, сталі песнямі. Гэтыя творы без прозвішча аўтара шырока бытавалі сярод партызан і ўсяго насельніцтва Беларусі. Форма многіх з іх не дасканалая, паэтычныя прыёмы не вызначаюцца арыгінальнасцю, не заўсёды вытрыман рытм, часта сустракаецца немілагучная рыфма. Але настолькі блізкім, патрэбным для народа было тое, аб чым расказвалася ў песнях і вершах, што яны карысталіся ў тыя гады вялікай папулярнасцю. Таму нават да мастацкі недасканалых твораў партызан нельга адносіцца абыякава. Іх творы — паэтычныя дзённікі ваенных год, якія ствараліся па гарачых слядах баявых падзей.

Кіраўнікі падпольных камуністычных арганізацый, камандаванне партызанскімі падраздзяленнямі надавалі выключна вялікае значэнне распаўсюджванню і папулярызацыі партызанскай паэзіі. У складанай баявой абстаноўцы вялікім тыражом выдаваліся зборнікі вершаў і песень партызанскіх аўтараў. Так, напрыклад, выданы былі зборнікі вершаў і песень паэтаў А. Астрэйкі «Слуцкі пояс», В. Сабліна «Мсціўцы», Л. Амбаха «Неўміручы савецкі народ», «Лілія» і «Лебядзіная песня», А. Міхайлава «Паэзія вайны», Ф. Золенка «Марш бясстрашных», В. Скарахода «Вершы байца», зборнікі вершаў Л. Ляснога, В. Кулікава, Е. Аўсянкіна, А. Садова, М. Шляхцёнка, І. Пракапчука і іншых. Акрамя гэтага, друкаваныя альманахі выдаваліся друкарнямі газет «Савецкі патрыёт», «Патрыёт Радзімы», «Сялянская газета», «Народны мсціўца», «За Савецкую Беларусь» і іншымі.

Найбольш распаўсюджанымі жанрамі партызанскага фальклору з'яўляюцца песні, паходныя маршы, сатырычныя і лірычныя частушкі.

Партызанскія песні паказваюць, якая моцная была патрэба мас у творчым выражэнні сваіх пачуццяў. Многія арыгінальныя партызанскія песні, выкарыстоўваючы простую, папулярную мелодыю, дасягалі вельмі вялікай выразнасці.

Так былі створаны партызанскія песні «Катюша», «Партизанская коробушка», «Синий платочек», «Орлёнок», «Мой костёр в тумане светит», «Крутится, вертится шар голубой», «Позарастали стежки-дорожки» і іншыя. Такія перапробленыя песні часам засвойваліся хутчэй, чым новыя.

Асабліва шырокай папулярнасцю карысталіся ў партызанскім асяроддзі песні і маршы А. Астрэйкі, В. Сабліна, Л. Амбаха, Е. Казлоўскай, П. Ліпілы і іншых. Многія песні партызанскіх аўтараў фальклярызаваліся. Гэта — «Партызанская паходная», «Мы барацьбіты за народнае шчасце», «Па знаёмых шляхах», «Дзе лясы шумяць зялёныя», «Песня клічаўскіх партызан», «Песня адважных», «Бабуля», «Развітанне», «Да маці».

Ніжэй друкуецца некалькі партызанскіх вершаў і песень.

# МЫ ІДЗЁМ!

Узнімайся, народ! У змаганні — твой лёс.
Пакажы ўсяму свету вялікую моц.
Дружна выйдзі на бойку, каб спала ярмо,
Знікла хмара — часіна рабунку і слёз.
Каб ізноў вольным сокалам жыў чалавек,
Каб звінеў па-над нівамі песнямі дзень.
Беларусь! Сёння поруч са мною ідзе
З вызваленнем к табе і грузін і узбек.
Паглядзі-ж па-арлінаму смела кругом.
І на помсту выходзь, беларускі народ!
Чуеш, шырыцца гул. Глянь — барвовіцца ўсход.
Гэта мы, гэта мы на падмогу ідзём.

26 жніўня 1942 г.

# ЛЯЦЯЦЬ ПАД АДКОС ЭШАЛОНЫ

Партызан! Жыццё
нязносным.
Зрабі немцам-
акупантам.
Кожны дзень кідай
ў адкосы
Цягнікі з нямецкай
бандай.
Рві шляхі гранатнай
звязкай,
Хай за ўзрывам грымне
ўзрыў,
Каб ад помсты партызанскай
Люты вораг воўкам
выў.

29 лістапада 1942 г.

**Партызан Ю. Н.**

**Падпольная газета «Віцебскі рабочы».**

# ДЗЕ ТЫ, ЗНАЁМАЯ ВЁСКА?

Шаулічы, Шаулічы, знаёмая вёска,
Ці даўно ты садамі цвіла?
Ці даўно вечарамі гармошка
Сабірала на танцы дзяўчат?
Раскажы, дзе падзеліся хаты

І куды тваe людзі пайшлі?
Падпалілі іх лютыя каты,
І людзей папалілі жывых.
Напіліся крыві чалавечай
І зямлю напаілі слязой.
Гэта тыгры, што людцаў бязвечаць,
Па краіне гайсаюць маёй.
Дзе ў вас сэрца, фашысцкія гады?
Як не стыгне паганая кроў,
Каб дзіця вырываці з рук маткі
І паліць на вачах у бацькоў?
Да расплаты, браты-беларусы,
За пагібшых бацькоў і дзяцей,
За загінуўшых жонак і матак
Падымайцеся, братцы, хутчэй!

Сакавік, 1944 г.

**І. З.**

**Падпольная газета «Свіслацкая праўда».**

## БАЕЦ ДАРАГІ...

Баец дарагі, мы чакаем,
Прыдзі, прынясі ты нам волю,
А будзе сустрэча такая,
Якой мы не зналі ніколі.
Дзяўчына, як брата сястрыца,
Спаткае цябе на дарозе,
Напоіць вадзіцай з крыніцы
У хаце на родным парозе.
Слязінку прароніць бабуля
І скажа: «Збавіцель, сыночак...»
Абніме, да сэрца прытуліць,
Загляне ў твар і у вочы.
Баец дарагі, цвёрдым крокам
Ідзі ты у бітву без страху.
Хай сцяг палымнее высока.
Шчаслівага, дружа наш, шляху!

Снежань, 1943 г.

**Я. АЗОЎСКІ.**

**Падпольная газета «За Радзіму».**



Мікола ХВЕДАРОВІЧ

# НАШ ШЧЫРЫ СЯБАР

## З УСПАМІНАЎ АБ ПЛАТОНУ ГАЛАВАЧУ

Маладая беларуская літаратура за сорак год існавання Савецкай улады вырасла ў магутны атрад перадавых літаратур нашага Савецкага Саюза і нават выйшла на міжнародную арэну. Мы з гонарам гаворым сёння аб вялікіх культурных здабытках нашага народа. Але вельмі рэдка мы ўспамінаем нашых папярэднікаў, пісьменнікаў, якія ў свой час заклалі першыя цагліны ў падмурак нашай літаратуры, пракладвалі першыя магістралі як у прозе, так і ў паэзіі.

Кажучы аб гэтым, нельга не спыніцца на выдатнай літаратурнай моладзі трыццатых гадоў, якой не суджана было падзяліць сённяшні трыумф нашай літаратуры. Гэта была моладзь, якая прышла ў літаратуру па свежых дарогах Кастрычніка, пракладзеных гісторыяй у светлае, новае заўтра. Гэта былі камсамольцы-энтузіясты, якія ўзнялі высока над сабою чырвоны сцяг барацьбы, абвясцілі бязлітасную вайну старому свету.

Адным з выдатнейшых прадстаўнікоў гэтага пакалення з'яўляецца старэйшы камсамолец, вядомы пісьменнік Платон Галавач, якога добра ведае наша грамадскасць, як актыўнага дзеяча, аднаго з першых кіраўнікоў камсамола Беларусі.

«Платоша», так звала яго беларуская камсамолія, так звалі яго мы ўсе ў далёкія дні нашых сустрэч, у штодзённай кіпучай нашай рабоце.

Гэта быў 1923 год. Невялічкае памяшканне на вуліцы Карла Маркса. Гэта сталовая партшколы Беларусі. Я — слухач палітасветных курсаў — прыехаў сюды з нізавой камсамольскай работы са Случчыны. Мінск у той час не быў падобен на сённяшні малады, прыгожы Мінск. Па галоўнай Савецкай вуліцы горада хадзіла конка, і чуваць быў жудасны скрыгат яе калёс, гучныя крыкі канагонаў. Вуліцы былі ў глыбокіх ямінах і калдобінах, усюды, асабліва па вуліцы Карла Маркса, стаялі яшчэ сцены муроў, разбураных белапольскімі акупантамі. На скрыжаваннях вуліц стаялі рамізнікі, і ўсе глядзелі, як на дзіва, калі па вуліцы з грукатам праязджала машына — шарабан якой-небудзь замежнай маркі.

Вось у гэтай сталоўцы партшколы і адбылося маё першае знаёмства з Платонам Галавачом. У сяброўскай гутарцы я даведаўся, што не так даўно ён прыехаў на вучобу з Барысава, з нізавой камсамольскай работы. Я рад быў, што ў Мінску сустрэў свайго амаль што земляка. Ён таксама, як і я, пакінуў на Барысаўшчыне сваіх сяброў-камсамольцаў, абяцаючы ім вярнуцца назад, у сваю ячэйку, пасля сканчэння партшколы з тым, каб перадаць ім свае веды і маладую кіпучую энергію.

Мой новы сябар прыцягваў да сябе нейкай адметнай шчырай прыхільнасцю і ласкавасцю ў размове, і, як мне здавалася, сваёю дабратою. Расказваючы пра свае Гарбацэвічы, ён успамінаў пра сакратара ячэйкі Валодзю, расказваў пра суботнікі, якія наладжвалі камсамольцы, пра тое, як яны агульнымі сіламі адрамантавалі памяшканне пад клуб, хваліўся, што ў іх ячэйцы цяпер ужо ёсць тры камсамолкі і што з уцягненнем дзяўчат у шэрагі камсамола ў іх цяпер справа наладжваецца. Такія пытанні, як уцягненне дзяўчат у камсамол, здаюцца нам сёння самі сабой зразумелымі. Але ў той час гэта было вельмі сур'ёзным пытаннем. Беларускі камсамол налічваў у сваіх радах не так многа дзяўчат. Расказваў Платон і пра тое, што ў іх вёсцы збіраюцца адчыніць хату-чытальню, і меркаваў вярнуцца ў Гарбацэвічы ізбачом.

— Ці бачыў ты нашу партшкольскую газету, — запытаўся ён у мяне, калі мы выходзілі са сталоўкі.

Я адказаў, што хацеў-бы пабачыць. Мы падняліся на другі паверх, у чытальню партшколы.

— Вось паглядзі, што мы тут намудрылі, — сарамліва заўважыў ён, паказваючы на шырокі разгорнуты ліст паперы на стале. Для мяне гэта было зусім нова, бо аб насценнай газеце мы на вёсцы



**Платон Галавач** (1935 г.).

яшчэ нічога не ведалі. Чытаючы заметкі, я заўважыў пад адной подпіс: «Платон Галавач». Гэта была заметка аб партшкольскім побыце, напісаная жывой, народнай мовай.

У той час, вядома, ні я, ні Платон Галавач нават і не марылі стаць пісьменнікамі, але кожны з нас насіў у сэрцы нейкую затоеную прыхільнасць да гэтай справы. Я падумаў, што калі вярнуся ў вёску, дык абавязкова наладжу выпуск такой газеты ў сваёй ячэйцы, і зайздросціў майму сябру, што ён так выразна і зразумела ўмее выкладаць свае думкі. Тут і запала мне ў душу іскра надзеі на спробу сваіх сіл у гэтай справе. Вярнуўшыся ў сваю вёску Цароўцы, я першы раз напісаў заметку ў газету «Совецкая Беларусь» пра дрэнную работу фельчарскага пункта і другія непарадкі. Гэтая заметка была змешчана ў газеце.

Не доўгім, на гэты раз, было маё знаёмства з Галавачом. У кастрычніку месяцы курсы скончылі

сваю работу, і я быў накіраваны сакратаром валасной ячэйкі ў глухую далёкую вёску на Случчыне.

У 1924 годзе адбываўся першы Усебеларускі з'езд рабселькораў. На гэты з'езд я прыехаў у ліку слуцкай дэлегацыі. І вялікая была мая радасць, калі на гэтым з'ездзе я зноў сустрэў свайго старога сябра Платона Галавача. Ураҗанне маё было надзвычайнае. У 1923 годзе, пры сустрэчы ў партшкольскай сталоўцы, мой сябар выглядаў вясковым сарамлівым хлапчуком: белагаловы, нізка падстрыжаны, з малюсенькімі сінімі, як іголкі, вочкамі, твар увесь у вяснушках. Апрануты ён быў у просты картовы гарнітурчык, з рукавоў якога відны былі моцныя, жылістыя, працавітыя рукі.

Зусім інакшы выгляд быў у яго цяпер. Відаць было, што гэта ўжо гарадскі хлапец, сапраўдны студэнт.

— Ну як там жывеце? — пытаўся ён. — Я ўжо, як бачыш, адвыкаю ад вясковага жыцця. А часам зробіцца на сэрцы гэтак сумна. Цягне на вёску, да сваіх людзей, ой як цягне! Ага, я і забыў. Чытаў тваю заметку ў газеце. Хлёстка, брат, ты іх працягнуў. Гэта-ж там, на Мікалаеўшчыне, цэлае кулацкае засілле. Здорава ты гэтага прахвоста фельчара Фальковіча прабраў. Малайчына!

Я засаромеўся ад гэтай гаворкі, але ў душы адчуў нейкую радасць ад таго, што нават і тут, у Мінску, ведаюць пра мяне, што мая малюсенькая заметачка прачытана многімі людзьмі. Платон Раманавіч звярнуў маю ўвагу на аднаго з членаў прэзідыума і сказаў:

— Гэта-ж Янка Купала, ці чуў ты пра такога пісьменніка?

Я адказаў, што не толькі чуў, а нават чытаў і ведаю напамяць яго вершы. Таксама я чытаў вершы Міхася Чарота.

— Дык вунь-жа, побач з Янкам Купалам, сядзіць і Чарот, заўваж, вунь той малады, кучаравы. Мяркую я, Мікола, пасля сканчэння партшколы працаваць у газеце. Цягне мяне гэтая работа. Скажу табе па сакрэту, спрабую свае сілы і ў літаратуры. Не ведаю, што з гэтага выйдзе. Чуў, вунь «маладняковцы» што вытвараюць, — і ён паказаў мне некалькі маленькіх кніжачак выдання «Маладняк». Запомнілася мне, што некаторыя з іх былі з каляровымі вокладкамі. Запомніліся таксама імёны Кандрата Крапівы, Язэпа Пушчы, Андрэя Александровіча, Міхася Чарота.

У адзін з вечароў у часе з'езда быў паказаны спектакль у беларускім тэатры. Ішла п'еса «Кастусь Каліноўскі». Мы ўжо, як добрыя знаёмыя, трымаліся адзін аднаго. Я першы раз быў у тэатры і ад велізарнага ўражання быў як непрытомны. Мой сусед таксама ўсё нешта ўздыхаў, парываўся з месца, і штосьці ціха шапталі яго вусны. Відаць, і яго ўскаланула майстэрская ігра акцёраў, а вобраз адважнага барацьбіта заваладаў яго чулым юнацкім сэрцам. І калі ў перапынку я звярнуўся да яго з запытаннем: «А ці не паспрабаваць і нам паставіць гэтую п'есу дома, на вёсцы», — Платон Раманавіч махнуў безнадзейна рукой і сказаў:

— Цяжка будзе вам сыграць гэтую п'есу, нічога не выйдзе, брат, гэта-ж колькі трэба людзей. Нам трэба прасцейшыя п'есы ставіць, нашы, комсамольскія, ці хаця-б такія, як «Мікітаў лапаць», а такія нам не па сіле. А калі ўжо сур'ёзна думаеш брацца за гэтую справу, дык рэкамендую табе выкарыстаць матэрыялы са зборнікаў «Комсамольскія вячоркі».

Прышоўшы ў гасцініцу, я не мог заснуць ад уражанняў пасля спектакля. У вушах стаяў грукат барабанаў на пляцу перад вісельняй... Гарачыя перадсмяротныя



У кавальскім цэху Мінскага трактарнага завода.
Фото А. Дзітлава.



**Група маладых беларусаў удзельнікаў Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве ля сцен Крэмля.**
Фото А. Дзітлава.



**Актыў комсамольскай ячэйкі ў Гарбацэвічах. (Платон Галавач стаіць уверсе трэці справа.)**

словы Кастуся Каліноўскага смалілі маё сэрца агнём пякучай помсты...

Неспадзявана ўсё здараецца ў жыцці. Нават і не марыў я ў той час, што праз год буду студэнтам мінскага рабфака і што зноў сустрэнуся з маім добрым сябрам Платонам Галавачом.

У пачатку навучальнага 1926 года адбыўся сход рабфакаўскай комсамольскай арганізацыі, на які былі запрошаны работнікі ЦК комсамола. У невялічкай актавай зале было весела, усюды былі чутны песні і жарты. Раптам у залу ўвайшлі госці, прадстаўнікі ЦК ЛКСМБ. Сярод іх быў і Платон Галавач. Падышоўшы да мяне, ён ветліва пацiснуў маю руку.

— Здарова, рабфакавец, — усміхнуўшыся, сказаў ён. — Вось дык здарова, не чакаў я сёння цябе сустрэць тутака. Чаго-ж не заходзіш да мяне ў ЦК? Прыходзь, не сумнявайся. Раскажаш нам пра навіны рабфакаўскага жыцця.

Тут-жа ён пазнаёміў мяне са сваімі сябрамі-цэкістамі Ратнерам і Бараннікавым, адрэкамендаваўшы ім мяне, як пачынаючага пісьменніка, даўняга свайго сябра.

Пачаўся сход. Пасля абмеркавання пытання вучобы выступіў Платон Галавач. Прамова яго была выслухана з вялікай увагай. Было чаго паслухаць. Платон Галавач гаварыў без таннага непатрэбнага пафасу аб нашым жыцці, аб тым, што мы, рабфакаўцы, з'яўляемся рабочай праслойкай сярод студэнцтва, што партыя ўскладае на нас вялікія надзеі. Заклікаючы да ўдзелу ў грамадскай рабоце, ён упамянуў і аб рабоце нашага літгуртка, аб нашым удзеле ў насценгазеце, адзначыўшы яе баявую накіраванасць.

Развітваючыся са мною пасля сходу, ён пахваліў мой верш «Рабфакаўскі», змешчаны ў насценгазеце «Голас рабфакаўца».

Гэтая сяброўская сустрэча падбадзёрыла мяне, і я пачаў часцей друкавацца ў нашай рабфакаўскай газеце і нават змясціў свае вершы ў часопісу «Малады араты» і ў газеце «Чырвоная змена». Але калі я быў запрошаны, як пачынаючы паэт, на нараду ў рэдакцыю

«Чырвоная змена», я зразумеў, што мяне ўжо ведаюць і напэўна многія прачыталі надрукаваныя мною вершы.

Рэдакцыя газеты «Чырвоная змена» ў той час была на Комсамольскай вуліцы, побач з комсамольскім клубам «КІМ», там, дзе зараз пабудавана пяціпавярховая сярэдняя школа. Рэдактарамі газеты былі Галавач і Курцік.

У невялічкім, досыць няўтульным пакоі сабралася шмат моладзі. Многіх я ўжо добра ведаў. Ілары Барашка, у той час рэдактар часопіса «Малады араты», пазнаёміў мяне з А. Звонакам, П. Глебкам, М. Гольдбергам, С. Шушкевічам, М. Залётным і другімі. І вось адчыняюцца дзверы, і заходзіць Платон Галавач. Мы паціскаем адзін аднаму рукі. Углядаюся ў знаёмыя абрысы твару і даюся дзіву, як вырас гэты юнак. Яшчэ нядаўна пры першых сустрэчах ён здаваўся мне хоць і разумным хлопцам, але трошкі па-вясковаму непаваротлівым. А як ён вырас за апошні час! Усё тая-ж ільняная бель валасоў, добразычлівая, падзіцячаму мяккая ўсмешка на твары. На ім — чыстая матроская блуза з сінімі кантамі на шырачэзным матроскім каўняры. Выгляд марака быў вельмі да твару такому плячыстаму юнаку, якім быў Платон Галавач.

— Свінтус ты вялікі, — сказаў ён мне пры гэтай сустрэчы. — Абяцаў-жа заглянуць у ЦК. А мы цябе чакалі. Чаго-ж не прышоў? Ах басяк, басяк!

Я пачаў апраўдвацца, што неяк няёмка было адрываць яго ад работы, потым пачаў спасылацца на сваю грамадскую нагрузку. Адчуўшы ў сваіх словах няпраўду, я збянтэжыўся, засаромеўся і замоўк. Ён-жа акінуў мяне сваім калючым, прыжмураным позіркам і, засмяяўшыся, працягваў размову:

— Усё гэта дробязі. Скажы праўду, за дзяўчатамі ўлягаеш?.. Неяк, будучы ў нашым клубе «КІМ», я заўважыў, як ты круціўся каля адной прыгажуні. Не саромся, тут нічога неэтычнага няма. Абы гэта было па-комсамольску, са сваімі дзяўчатамі. З нэпманкамі нам не па дарозе.

У той час у клубе «КІМ» збіралася ўся комсамольская братва Мінска. У добра асветленых, утульных пакоях працавалі гурткі. Дзяўчаты ў чырвоных касынках, прыгожа і проста апранутыя, шукалі тут сабе не кавалераў, багатых мужоў, а задушэўных сяброў, добрых і сумленных спадарожнікаў па шляху ў новае заўтра. Усюды звінелі словы папулярнай комсамольскай песні «Комсамольская мяцёлка»:

Комсамольская мяцёлка
Вымятае ўсё смяццё.
Комсамольцам, комсамолкай
Трэба быць усё жыццё.

І цяпер, у час нарады, у пакой рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» ўрывалася гэтая баявая і няўмудрая песня:

Запішуся і я актывістам,
Стану я комсамольцам сваяк.
А пасля з паравозістым
свістам
Я паеду вучыцца ў рабфак.
А комсамольская мяцёлка
Вымятае ўсё смяццё...

І сапраўды, акінуўшы вокам удзельнікаў нарады, можна было ўпэўнена сказаць, што сярод прысутных смецця не было. Сабралася моладзь, якая прайшла суровую школу грамадзянскай вайны, школу вялікай грамадска-палітычнай работы на вёсцы. Гэтая моладзь імкнулася да ведаў, дамагалася ўнесці сваю «малую кроплю» ў агульную скарбніцу нашай маладой беларускай культуры. Вялікая шчырасць і непахісная вера ў светлае заўтра абудзіла яе здольнасці, дала ім магчымасць праявіцца ва ўсіх галінах культуры. І няхай таленты гэтых юнакоў

яшчэ не былі дасканалымі, але ў іх творах біўся жывы пульс сапраўднай паэзіі, паэзіі новай эпохі.

На нарадзе абмяркоўвалася пытанне стварэння пры «Чырвонай змене» маладзёжнай групы пісьменнікаў і нават меркавалася выдаваць зборнікі. Аб гэтым паведаміў загадчык выдавецтва «Чырвоная змена» Валодзя Вержбаловіч, зараз дырэктар друкарні імя Сталіна.

Як цяпер памятаю, амаль даслоўна, выступленне Платона Раманавіча на гэтай нарадзе. Лёгкім рухам рукі ён прыгладзіў непаслухмяную бялявую чупрыну і, аглянуўшы нас, сказаў:

— Як сакратар ЦК комсамола, я сачу за ўсім, што напісана ў нашай літаратуры. Пачэсным абавязкам лічу і свой удзел у гэтай справе. Моладзь чакае добрых кніжак пра сваю працу і жыццё. Не бачу сярод нас маладога таленавітага пісьменніка Васіля Каваля, па-мойму, вельмі здольнага празаіка. У наступны раз нам трэба запрасіць яго на наша паседжанне. Няма тут і Валерыя Маракова, Максіма Лужаніна, Бобрыка. Выхаванне нашага маладзёжнага літаратурнага актыву — адна з першачарговых задач нашай рэдакцыі. Чаму не запрасілі на нашу нараду Зіну Бандарыну? У нас жанчын пакуль што нямнога сярод пісьменнікаў, яе прысутнасць на нашай групе пажадана.

Далей Платон Раманавіч спыніўся на аналізе змешчаных у літаратурнай старонцы вершаў М. Залётнага, С. Шушкевіча і другіх аўтараў. Асабліва жорстка крытыкаваў ён вершы Залётнага, якія пачыналіся радкамі:

Невядомых шукаю казак
У халодным начы маўчанні...

Перасцерагаючы нас ад зазнайства і багемы, Платон Раманавіч напомніў, што мы, комсамольцы, — новая плынь і ў жыцці, і ў літаратуры. Мы павінны прынесці ў нашу літаратуру адметны погляд на жыццё, паказаць велізарныя зрухі ў жыцці і побыце нашага пакалення, якое на сваіх штандарах напісала лозунг барацьбы за комунізм. Сурова крытыкаваў ён на гэтай нарадзе некаторыя вершы В. Маракова, не адмаўляючы, аднак, яго выразных здольнасцей.

Нарада скончылася. Але яшчэ доўга працягваліся размовы аб літаратуры. Успамінаецца мне і тое, як пасля нарады мы хадзілі глядзець фільм «Трыпольская трагедыя» — аб падпольнай барацьбе комсамола і трагічнай гібелі комсамольцаў ад рук раз'юшаных белых бандытаў. Платон Раманавіч зрабіў прысутным горкую, але праўдзівую заўвагу:

— А пра слуцкіх комсамольцаў, якія расстраляны белапалякамі сярод белага дня, яшчэ нічога не напісана.

Я глыбока задумаўся над гэтым і, прышоўшы дамоў, напісаў у сваім рабочым сшытку: «Алесь Камінскі». У выніку гэтай сустрэчы і маёй працы ў 1927 годзе з'явілася невялічкая паэма пра аднаго з слуцкіх комсамольцаў Алеся Камінскага. Вядома, што ў той час з маім невялікім літаратурным вопытам я не мог напісаць дасканалай паэмы, але, перачытваючы цяпер радкі з гэтай паэмы, я ўспамінаю пра Платона Галавача, і мне здаецца, што радкі гэтыя гучаць і сёння неяк па-асабліваму свежа і рамантычна.

Платон Раманавіч у гэты час ужо быў пісьменнікам, які надрукаваў з поўдзесятка апавяданняў на самыя надзённыя і актуальныя тэмы. Барацьба комсамола з папоўскімі забабонамі, змаганне за моладзь, якую комсамол імкнуўся адарваць ад царквы і ўцягнуць у свае шэрагі — гэта было адной з галоўных задач комсамола ў той час. І Платон Раманавіч не абмінаў гэтыя тэмы ў сваіх творах. Так былі напісаны яго апавяданні

«Яўленая», «Памылілася» і інш., а ў 1927 годзе выйшаў першы зборнік яго апавяданняў «Дробязі жыцця».

Памятаю, што рэдакцыя газеты «Чырвоная змена» ў той час наладзіла абмеркаванне гэтага зборніка. Даклад аб змешчаных у зборніку апавяданнях зрабіў сакратар рэдакцыі Змітрок Паваротны. Потым выступілі работнікі рэдакцыі Шура Сучкова, Ваня Гарбуз, Міша Гольдберг, рэдактар газеты Курцік. Рэзка крытыкавалі мы творчасць Платона Раманавіча і за слабасці стылю, за невыразнасць фабулы, за расцягнутасць сюжэта і многаслоўе яго герояў. Аднак усе адзначалі актуальнасць і разнастайнасць тэматыкі, глыбокае веданне аўтарам жыцця і яго маляванне вобразамі сучаснікаў.

У 1928 годзе кіраўніцтва літаратурна - мастацкай арганізацыі «Маладняк» прышло да поўнага бязладдзя. Старэйшая група пісьменнікаў адышла ад «Маладняка» і стварыла дзве літаратурныя арганізацыі «Полымя» і «Узвышша», пакінуўшы шматлікую літаратурную моладзь, як кажуць, «без руля і без вятрыл». Праўда, часопіс «Маладняк» працягваў яшчэ выходзіць, але ні рэдкалегіі, ні рэдактара ў ім не было. Усе справы вырашаліся стыхійна. Тады з партыйнага і камсамольскага актыву пісьменнікаў стварылася ініцыятыўная група, якая склікала з'езд для выбару кіраўніцтва. У ініцыятыўную групу ўвайшоў і Платон Галавач, як пісьменнік і сакратар ЦК ЛКСМБ. Фактычна, ён і кіраваў гэтай групай. Неўзабаве быў склікан з'езд, на які з'явіліся Р. Мурашка, П. Галавач, П. Трус, В. Маракоў, А. Маркоўка, П. Броўка, А. Звонак, І. Барашка, А. Кучар, А. Куляшоў, М. Лынькоў і многія іншыя маладыя пісьменнікі. Гэта быў актыў, якому суджана было закласці новую БЕЛАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў). Адным з актыўных кіраўнікоў яе стаў Платон Галавач, уваходзячы таксама і ў склад радкалегіі часопіса «Маладняк».

У гэты час я асабліва зблізіўся з Платонам Раманавічам, сустракаючыся часта ў ЦК КПБ, дзе я ў той час працаваў сакратаром рэдакцыі часопіса «Большэвік Беларусі». Платон Галавач у гэты час выдае новую кнігу апавяданняў «Хочацца жыць». Вялікую работу вядзе ён па згуртаванню і выхаванню літаратурнай моладзі, бо ні «Полымя», ні «Узвышша» гэтай справай не займаліся. Масавай арганізацыяй стала БЕЛАПП. Ва ўсіх абласных і прамысловых цэнтрах былі створаны яе філіялы, адбыўся славуты заклік рабочых у літаратуру.

З гэтага часу я памятаю Платона Раманавіча ўжо не партшкольцам і не сакратаром ЦК ЛКСМБ, а пісьменнікам прафесіяналам, які аддае ўсе сілы і малады запал развіццю беларускай літаратуры. Дзякуючы энергіі і працы новага кіраўніцтва, БЕЛАПП стала папулярнай літаратурнай арганізацыяй, заваяваўшай аўтарытэт сярод шырокіх мас рабочай і сялянскай моладзі. І як радасна было нам, калі некаторыя старэйшыя пісьменнікі пачалі пакідаць свае «класічныя лавы» і пераходзіць да нас. Першымі да нас прышлі А. Александровіч, М. Чарот, а праз некаторы час у шэрагі БЕЛАПП уліліся многія іншыя пісьменнікі. Вырасла таленавітая моладзь. Такім чынам, работы хапала, і гэтай рабоце цалкам сябе аддаваў Платон Раманавіч. Я далёкі ад такой думкі, што літаратурная арганізацыя БЕЛАПП была ідэальнай па сваіх ідэйна-мастацкіх пазіцыях. Размахваў-жа крытычнай дубінай у гэтай арганізацыі Л. Бэндэ, не быў-жа знойдзены кантакт з карыфеямі нашай літаратуры Янкам Купалам і Яку-



**Платон Галавач — сакратар ЦК ЛКСМБ у форме, падараванай яму экіпажам крэйсера «Парыжская Камуна», пачэсным матросам якога ён быў выбраны.**

бам Коласам. Папутнікамі лічыліся і такія выдатныя пісьменнікі, як Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Змітрок Бядуля. Такая акалічнасць мела месца таму, што не было яшчэ кансалідацыі літаратурных сіл вакол ленінскіх палажэнняў аб літаратуры, сярод часткі літаратараў панавала мяшчанская групаўшчына.

У гэты цяжкі для літаратурнай моладзі момант, калі трэба было выбраць, «з кім-жа ісці», імя Платона Галавача мела нейкую прыцягальную сілу. Маючы мяккі і добры характар, будучы заўжды простым і добразычлівым, ён заўсёды быў у кругу моладзі і да апошніх год свайго жыцця лічыў сябе комсамольцам. Многія цяпер ужо вядомыя пісьменнікі і нават вучоныя памятаюць той час, калі Платон Раманавіч, будучы намеснікам наркома асветы, выслухоўваў іх скаргі і многім дапамагаў і матэрыяльна, і шчырай парадай. Пры сяброўскай увазе Галавача рос і развіваўся талент тады яшчэ зусім маладога паэта Аркадзя Куляшова. Адчуванне «локця» было ў кожнага, хто меў справу з Платонам Ґаманавічам. У хвіліну расчаравання і цяжкой страты кожны з пісьменнікаў звяртаўся да Галавача. Не адмовіць Платон ў сяброўскай парадзе і падтрымцы — такая склалася думка ў той час амаль у кожнага пісьменніка. Такім бескарыслівым, добрым і сяброўскім чалавекам застаўся ён у нашай памяці і па сённяшні дзень.

У 1930 годзе Платон Галавач камандыруецца ЦК КПБ у вёску для дапамогі мясцовай беднаце ў арганізацыі калгасаў. Ён аддае ўсяго сябе гэтай вялікай партыйнай справе. Ноччу ў калгаснай хаце ён запісвае і сістэматызуе занатаваныя ўражанні, спіць трывожна па гадзіне ў суткі. Цэлымі днямі праводзіць растлумачальную работу сярод беднякоў і серадпякоў, разбірае скаргі, дае парады, дапамагае збіраць інвентар і жывёлу. Зблізіўшыся і зліўшыся з вясковым жыццём, ён піша «Спалох на загонах» — праўдзівую аповесць аб калектывізацыі беларускай вёскі. У аповесці разгорнута паказана класавая барацьба ў вёсцы і здзяйсненне адвечнай мары бяднейшага сялянства, якое пры дапамозе партыі выбрала сабе простую і светлую дарогу да сацыялізма. Фактычна, імя таленавітага пісьменніка замацавалася за Платонам Галавачом пасля апублікавання гэтага папулярнага і актуальнага твора, які вытрымаў поўдзесятка выданняў. Сіла аповесці — у яе праўдзівасці, у яе комуністычнай накіраванасці, бо нічога так не любіць народ, як жыццёвую, няхай сабе і горкую праўду без фальшы і лакіроўкі.

Платон Галавач і сам лічыў,

што з усяго ім напісанага «варта таго, каб хоць у некаторай ступені называцца творам мастацкай літаратуры», гэта «Спалох на загонах».

Мне часта даводзілася быць разам з Платонам Раманавічам у калгасах. Прыемна было бачыць, што пісьменнік прыязджае сюды не толькі паглядзець, вышукаць сабе тэму, ці які-небудзь факт для літаратурнага твора. Ён прыязджаў дапамагчы калгасу разабрацца ў новай, складанай рабоце і хваравў за кожную дробязную няўдачу. Аднойчы мы паехалі ў калгас на Аршаншчыне. Вечарам вырашылі ўстаць заўтра рана і пайсці на калгасны двор, паглядзець падрыхтаванасць калгасных брыгад да выезду ў поле. Мы прышлі к патрэбнаму часу, калі калгаснікі запрагалі коней. Хамуты ў большасці былі без супоняў, гужы — вераўчаныя. Усё неяк не ладзілася. Многа было мітусні, і гоман стаяў на ўвесь двор. Платон Раманавіч аж пачырванеў ад непрыемных перажыванняў. Падышоўшы да старшыні калгаса, ён нейкім нервовым голасам сказаў:

— Шкада, што бацька ваш ездзіў на сырамятных гужах і мабыць ні разу не «вучыў» вас па мяккаму месцу вераўчанымі гужамі, а то ведалі-б, што гэта за смак. Відаць, што ў мінулым вы — дрэнны гаспадар у сябе дома, а зараз спрабуеце кіраваць добрымі і дбалымі людзьмі, і ад гэтага кіраўніцтва яны атрымліваюць шмат непрыемнасцей.

У гэтым-жа калгасе сабралася вечарам моладзь. У вясковай хаце было столькі народу, што недзе было яблыку ўпасці. Ля дзвярэй у мыцельніку прымасціўся вясковы аркестр з адной скрыпкі, барабана, на якім была нацягнута бараняя шкура толькі на адзін бок, і з трубы, падобнай на пастуховую трубу, з белай цынкавай бляхі. Платон Галавач чытаў моладзі сваё апавяданне. Гэта было апавяданне «Пра Сяргея Агейчыка, каменданта маршрутнага поезда № 32». Уважліва слухала моладзь. Звонкі малады голас аўтара гучаў над галовамі і ледзь чутна адгукаўся дзесьці ля дзвярэй. Мне давялося чытаць свае «Баявыя песні». Як толькі скончылася літаратурная частка, вясковая моладзь абкружыла Платона Раманавіча. Я зайздросціў яму, наглядаючы, як любіць яго вясковая моладзь, адчуваючы ў гэтым чалавеку нейкую сваю родную і вельмі блізкую натуру. Да раніцы давялося мне чакаць Платона Раманавіча, бо вясковая моладзь уцягнула яго і заваражыла ў сваіх гульнях і гутарках.

Назаўтра мы былі прыняты сакратаром Аршанскага райкома партыі, і Платон Раманавіч проста і адкрыта расказваў яму пра вяраўчаныя гужы і хамуты без супоняў і пра тое, што брыгадзір адной з брыгад крыўдзіць удаву, у якой трое дзяцей і муж у мінулым годзе загінуў у лесе, трапіўшы пад спілаваную бярэзіну. Расказаў ён таксама і пра аднаго прайдзісвета-конюха, які ўмудрыўся абмяняць з цыганом добрага маладога калгаснага каня на старую клячу, але аднолькавай масці, і што нібыта брыгадзір на гэтым абмене «пагрэў рукі», бо цыган даў прыдачы аж 800 рублёў. Усе гэтыя весткі ён умудрыўся выведаць у вясковай моладзі, з якой ён так добра і карысна правёў час. І мне было сорамна за сябе, за сваю непатрэбную задуменасць: гэта-ж яна перашкодзіла мне так непасрэдна і проста зліцца з добрымі і працавітымі людзьмі, пасвойму простымі і адкрытымі.

У 1934 годзе мы з Платонам Раманавічам, будучы дэлегатамі першага Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў, жылі разам у адным нумары гасцініцы ў Маскве. Застаўшыся «сам-на-сам», Платон

Раманавіч выказаў незадаволенасць кіраўнікамі нашай літаратурнай арганізацыі. З горыччу ў сэрцы ён гаварыў:

— Няма ў нас шчырай размовы аб літаратуры. Групаўшчына, абывацельшчына і беспрынцыповасць у ацэнцы твораў даводзяць да таго, што дрэнныя, антымастацкія творы часам узносяцца, як узор літаратурнай творчасці. І наадварот, «разносяцца» добраякасныя мастацкія творы тады, калі пісьменнік не мае зарукі па групавому прынцыпу. Вось, напрыклад, творы Змітрака Бядулі не часта атрымліваюць патрэбную і заслужаную ацэнку, не было ніводнай ацэнкі без якіх-небудзь папрокаў і крымінальных абвінавачванняў.

Я адказаў, што пра Бядулю многа пісаў А. Кучар і Л. Бэндэ. І Кучар, і Бэндэ нагаварылі ў друку столькі пра яго, што ён ужо і сам не ведае, хто ён і што ён. І не дзіва, што Бядуля пачаў і сам сумнявацца ў сваёй творчасці і прасіў аргкамітэт Саюза пісьменнікаў паслаць яго працаваць на завод, каб там, як кажа ён сам, пераварыцца ў рабочым катле.

Платон усміхнуўся і сказаў:

— Больш будзе карысці, калі сама крытыка пападзе ў гэты рабочы кацёл, яна ў нас, сапраўды, недавараная. Справа ў тым, — дадаў ён, — што нашы літаратурныя аўтарытэты не хочуць займацца вырошчваннем маладых пісьменнікаў. Іх слова павінна быць чыстым, праўдзівым і аб'ектыўным. Мы слухалі выступленне Аляксея Максімавіча. Аж завідкі бяруць, якія шчаслівыя рускія пісьменнікі, маючы такога гіганта і чулага бацьку. Аўтарытэт яго — і ў майстэрстве, і ў вялікім жыццёвым вопыце. Як шкада, што Аляксей Максімавіч не можа больш шырока сказаць пра нашу беларускую літаратуру. Культуры малавата ў нашых беларускіх пісьменнікаў. Вось параюся з таварышам Шчарбаковым і на два гады махну ў Маскву, на вучобу.

Усё жыццё Платон Раманавіч марыў аб вучобе, і гэта зусім зразумела, бо пісьменніку патрэбны глыбокія веды і высокая культура, якой так не хапае кожнаму з нас, гэтак сама, як не хапала і Галавачу. У 1933 годзе аб гэтым ён піша ў сваім пісьме да рускага пісьменніка Уладзіміра Лідзіна:

«Мы заўсёды вельмі многа гаворым аб неабходнасці вучыцца. Я гэтую неабходнасць адчуваю асабліва зараз моцна. Я скончыў двухкласную царкоўна - прыходскую школу на вёсцы і ў 1926 — партшколу. Вось і ўся мая вучоба. Вядома, я многа працаваў над сабою, і запас ведаў у мяне, мусіць, не меншы, як у тых студэнтаў, якія скончылі БДУ. Можа быць, гэты запас ведаў большы, як у іх. Але-ж я пішу, я прэтэндую на большае, ніж студэнт, які будзе выкладчыкам літаратуры... Вельмі цвёрда я вырашыў паехаць на год, на два хаця-б у Маскву, каб там папрацаваць, альбо, яшчэ лепш, павучыцца. У сувязі з гэтым я думаю пісаць прэзідыуму Усесаюзнага аргкамітэта заяву аб тым, каб мне гэтую паездку дазволілі...»

У пачатку 1934 года Платон Раманавіч едзе ў Дом творчасці ССП СССР «Галіцына» пад Масквой, дзе працуе над раманам «Праз гады». У гэтым творы Платон Галавач выяўляе сябе як стыліста і мастака.

І сапраўды, чытаючы жоўтыя ад даўнасці старонкі рамана, адчуваеш, як аўтар трымаўся моцна за жыццё: сама кампазіцыя рамана, увесь ход падзей грунтуюцца на гістарычнай праўдзе. Самы моцны вобраз у гэтым рамане — гэта вобраз дробнага ўласніка селяніна Тарэнта. Сапраўды, у гэтым вобразе раскрыта душа чалавека-ўласніка, які так моцна звя-

заны з сваім кавалкам зямлі, з прыродай, што нават падчас імкнецца адухатварыць яе.

Прыблізна ў гэтыя-ж гады Галавач рэдагуе часопіс «Полымя рэволюцыі». Працуючы разам з ім, я наглядаў, з якой увагай адносіўся ён да літаратурнай моладзі. Успамінаецца, як цярпліва і шчыра ён дапамагаў Ул. Хадыку пазбаўляцца ў сваіх вершах архаічнасці і невыразнасці, якія тады так моцна завалодалі паэтам. А колькі карысных парад даваў ён Барысу Мікулічу, Янку Скрыгану!

Простую і выразную ацэнку твора, шчырую параду, а часам нават і простa дапамогу — вось што знаходзілі маладыя пісьменнікі пры сустрэчы з Платонам Галавачом. На гэта ён не шкадаваў ні часу, ні энергіі і мог за таварыскай гутаркай праводзіць шмат гадзін.

Прыкладам таго, як рэзка крытыкаваў ён сваіх сяброў-пісьменнікаў можа быць вытрымка з яго выступлення на пленуме СП БССР у 1936 годзе:

«Фармалізма, як школы, у нас няма, няма фармалізма, як плыні, але фармалістычных выкрутасаў вельмі багата. «Пяшчотныя вочы газэлі» ў адкатчыцы ў адным з твораў Мікуліча хіба-ж не сведчаць аб безгустоўнасці, мяшчанскай таннай маляўнічасці і вычурнасці».

З такой-жа прастатой і сілай абараняў Галавач маладых пісьменнікаў ад незаслужаных нападкаў тагачаснай крытыкі:

«Я зусім прадумана хачу кінуць абвінавачванне і крытыкам і самім пісьменнікам, — кажа ён, — чым вытлумачыць тое, што яны не заўважылі і не сказалі аніводнага слова пра нашых сапраўдных навелістаў Барыса Мікуліча, Янку Скрыгана. За апошні час Скрыган напісаў некалькі навел, якія з'яўляюцца лепшым узорам беларускай навелы».

Не баяўся крытыкі і сам Галавач. Наадварот, ён быў удзячны кожнай трапнай заўвазе, калі ў гэтым адчуваў шчыры намер дапамагчы яму пазбавіцца ад недахопаў, якіх яшчэ так многа заўсёды бывае ў нашай творчасці. Неяк, зайшоўшы да мяне і будучы ў добрым настроі, ён хваліў вялікі крытычны артыкул пра яго творчасць, надрукаваны ў «ЛІМе». У гэтым артыкуле было нават зашмат спрэчнага, але прынцыповага і адкрытага. У гэтым-жа нумары была змешчана эпіграма А. Александровіча на новы яго раман «Праз гады»:

Хто ў Эўропу,
Хто куды,
Я-ж галопам
Праз гады.

Прачытаўшы гэтую эпіграму, Платон Раманавіч з уласцівай яму сціпласцю ўсміхнуўся і сказаў:

— Емка напісана. Я празаік, вершаў не пішу, але і сам такія вершы складаць умею. Вось паслухай:

Ад «Напора»
Праз гады
Ні туды
І ні сюды.

Я не чакаў такога трапнага экспромта і, вядома, запомніў яго аж да сённяшняга дня.

Прайшлі доўгія дзесяткі гадоў. Забываецца і трагічны выпадак гібелі Платона Галавача, вядомага пісьменніка-комуніста, аднаго з выдатных кіраўнікоў Ленінскага Комсамола Беларусі. Але яго творчасць і яго справы ў выхаванні нашай моладзі не забыліся. У пераклічцы з комсамольскім пакаленнем 30-х гадоў мы не можам не ўспомніць нашага лепшага таварыша, чулага сябра, сапраўднага комуніста.

Янка СКРЫГАН

# СЛОВА ДА МАЛОДШЫХ

Кожны з нас памятае прачытаную ў юнацтве першую кнігу. Можа гэта была нават не першая, але нейкая адна з першых, яна ўразіла наша ўяўленне так, што асталася ў памяці аж да гэтага часу. Асабіста я памятаю, як, затаіўшы дыханне, забраўшыся глыбей недзе ў куток, прачытаў «Хан і яго сын» Максіма Горкага. Як і кожны чалавек, пасля гэтага я чытаў многа добрых і цікавых кніг, але ні адна не можа ісці ў параўнанне з першай па сіле свае ўражлівасці.

Часта я думаю над гэтым: чаму-ж так бывае? Канешне, першую ролю тут іграе, мабыць, дзіцячая ўспрыймальнасць, фантазія, ступень духоўнай арганізацыі ў той час, калі чалавек толькі фармуецца. Не апошнюю ролю іграе і тое, што змест кніжкі, мабыць, адпавядаў пэўнаму настрою. Але ў мяне няма ні кропелькі сумнявання, што нават дзіцячы свет можа горача ўспрыймаць толькі тое, што закранае агульначалавечыя пачуцці і выклікае хваляванні. Ступень гэтых чалавечых хваляванняў вызначае нашы адносіны да літаратурнай з'явы.

Чаму мы адну кнігу можам чытаць па некалькі разоў, а другая забываецца адразу, як толькі яе загорнеш, і ніколі не ўспомніцца? А некаторыя нават не чытаеш да канца, кідаеш або ў пачатку, або пасярэдзіне. Якая-ж таму прычына? Адказ, мне здаецца, можа быць вельмі просты: па-першае, мы будзем з хваляваннем чытаць тую кнігу, якая будзе кранаць нашу свядомасць і нашу душу. Гэта значыць, што зместам кнігі павінна быць дзейнасць чалавека, яго лёс, намаганні, парыванні, думы і мыслі, пачуцці, барацьба. Па-другое, мы можам адчуць дзейнасць і пачуцці чалавека толькі тады, калі пісьменнік здолее паказаць іх нам жыццёва праўдзіва, так, каб мы іх адчувалі, верылі ім, каб учынкі і пачуцці людзей адклікаліся ў нас. Гэтая другая старана літаратурнай з'явы дасягаецца тым, што прынята называць майстэрствам. Пра сякія-такія элементы гэтага майстэрства мы паспрабуем пагаварыць.

Але перад гэтым хацелася-б выказаць яшчэ адну думку. Часамі можна пачуць такую гаворку: што, бачыце, няма малых і вялікіх тэм,

што ўсе тэмы аднолькава важныя, што справа толькі ў тым, як гэтая тэма будзе літаратурна выканана, і што, маўляў, сапраўдны мастак з любой тэмы зробіць добрую кнігу. З гэтым сцвярджэннем я пагадзіцца не магу. Малая, малаважная тэма так і астанецца малаважнай, якімі-б літаратурнымі аздобамі яе не ўпрыгожвалі. Вельмі дасканала зробленая «дрындушка» так і астанецца толькі «дрындушкай», яна кране нашу ўвагу толькі вонкавым эфектам, але эмоцый, душы не запоўніць. Такія рэчы, калі форма пачынае пераважаць над зместам, вядуць да фармалізма, да спусташэння душы. Богам літаратурнага майстэрства некалі сімвалісты лічылі Андрэя Белага, але яго прозы, разбітай на актавы і песні, народ не ведае і не памятае.

Гісторыя рускай, беларускай і многіх другіх літаратур пакінула вельмі многа імён пісьменнікаў, якія называюцца класікамі. І калі мы прыгледзімся, дык уся галерэя гэтых магутных імён складае гонар нацый таму, што ў сваіх творах яны падымалі глыбокія сацыяльныя пытанні — няхай сабе гэта раманісты або апавядальнікі, празаікі або паэты, як Пушкін, Некрасаў, Талстой, Тургенеў, Чэхаў — у рускай, Купала, Колас, Бядуля, Чорны — у беларускай літаратуры.

Каштоўнасць літаратурнай з'явы вызначае ў першую чаргу тэма.

Тут мне хочацца прыгадаць адзін асабісты, прыватны выпадак, у некаторай ступені звязаны з выказанай думкай. Калі ў газетах былі надрукаваны тэзісы даклада таварыша Хрушчова аб перабудове кіраўніцтва прамысловасцю і будаўніцтвам, каля кіёскаў стаялі цэлыя чэргі, каб купіць газету. Я сам чытаў гэтыя тэзісы цікавей за многія раманы. І вось тады я паспрабаваў перанесці сакрэт такога хвалявання на мастацкія творы. Яшчэ раз я пераканаўся, што для таго, каб мастацкі твор хваляваў чытача, трэба, каб у ім ляжалі глыбокія народныя інтарэсы. Тады ён будзе глыбока ідэйным і глыбока партыйным.

---

Звычайна ў вызначэнні жанра літаратуры мы карыстаемся тэрмінамі: проза, паэзія, драматургія. Але апавяданне сярод празаічных твораў мае сваю спецыфіку. У першую чаргу гэтая спецыфіка дыктуецца памерам. А адсюль будуць выцякаць і другія патрабаванні да апавядання: у ім трэба вельмі эканомна карыстацца выяўленчымі сродкамі.

Апавяданне, нягледзячы на свае памеры, — гэта цалкам закончаная рэч. Яно павінна даць або эпізод, або характар, або настрой, або падзею, а найбольш — усё гэта разам. У рамане для развіцця сюжэта, дзеі, характару можна карыстацца цэлымі старонкамі або нават раздзеламі. Раманіст можа паступова і ўсебакова разгортваць сваю творчую тканіну; у яго вялікае поле і для перспектывы, і для развіцця падзей, і для аналізу, і для абгрунтавання, і, галоўнае, для стварэння характараў. У апавяданні-ж нічога гэтага зрабіць нельга, бо ў яго зусім іншыя габарыты. Пісьменніку-апавядальніку трэба даваць толькі самае галоўнае, самае характэрнае. Такім чынам, у апавяданні большае значэнне набываюць такія кампаненты, як пейзаж, дэталь, параўнанне, дыялаг, мова. Для яго па-інакшаму адбіраецца жыццёвы матэрыял.

Асабіста я лічу, што для апавядання вельмі важна зрабіць добры пачатак. Гэта, як ключ у музыцы: ад яго пойдзе ўсё гучанне.

Нельга, каб пачатак у апавяданні быў вялы, доўгі, загрувасджаны

ўсякай непатрэбшчынай. Нават апісальнасць у пачатку апавядання не вельмі ўспрыймаецца, бо ўсялякая апісальнасць добра тады, калі чытач ужо ведае, што апісваецца і навошта яно апісваецца.

Вось, скажам, пачатак апавядання:

«Тамань — самый скверный городишко из всех приморских городов России. Я там чуть-чуть не умер с голода, да ещё вдобавок меня хотели утопить».

Вы адчуваеце, што пачатак адразу захапіў вашу ўвагу, што ён тут-жа ўводзіць вас у пэўную дзею і вам ужо цяжка адарвацца ад апавядання. Пачаткам вам адразу даецца настрой. Так пачынаецца «Тамань» Лермантава.

А вось другі пачатак:

«Заря только разыгрывалась. Ядрёная, знобкая, она предвещала погожий, ясный день, что выпадают в конце отходящего лета словно подарок всему живому и помнятся до зимы. В той стороне, где она пылала, было огненно-красно, как в кузнице. Сдавалось — где-то далеко-далеко работали проснувшиеся ковали, и вскоре там должно было выковаться солнце — багряное, жаркое и словно бы живое, только что вышедшее из раскалённого горнила».

Як бачым, выпіска вялікая, а яснасці ў ёй няма. Нам цяжка разабрацца ў сваіх уяўленнях, мы не ведаем, да чаго тут нам прыглядзецца і прызвычаіцца, як настроіцца і што слухаць. Рысунак вельмі супярэчлівы, у ім няма цэнтру і не разлічана перспектыва. Вельмі многа розных разуменняў і рэчаў, нагруваджаных адно на адно, перамешаных нібы знарок, каб не адразу можна было здагадацца, пра што ідзе гаворка.

Выпіска гэтая ўзята з апавядання Дм. Осіна «В лесу». Паспрабуем крыху разабрацца ў ёй, каб зразумець, чаго-ж тут нехапае.

Першае — мы ўжо сказалі: няма яснасці ўяўлення, бо намешана многа надуманых і няўзгодненых між сабою элементаў, якія не канцэнтруюць, а разбіваюць нашу ўвагу. Калі гаворка ідзе пра золак, то кожны з нас мае сваё ўяўленне аб ім: не раз мы бачылі і адчувалі раніцу. Але калі яе рысуе мастак, то ён павінен аднавіць наша ўяўленне, а гэта значыць, знайсці нешта самае характэрнае для раніцы, або такое, што нагадвае характэрнасць. Дм. Осін для гэтага скарыстаў параўнанне. Ён кажа: «В той стороне, где она (заря) пылала, было огненно-красно, как в кузнице». Функцыя параўнання заключаецца ў тым, каб яно павялічыла наша ўяўленне. У дадзеным выпадку выйшла наадварот: яно паменшыла яго, бо вялікае (заря) параўнана з малым (кузницей). Які-ж гэта ўсход сонца, калі ён, замест таго, каб разліцца на поўнеба, раптам змяшчаецца ў памерах кузні? Калі-б сказаць наадварот, што ў кузні палаў жар, і гэты жар быў вялікі, як сонца, то тады мы адчулі-б сілу параўнання. А тут змяшчэнне планаў і перспектыў. Гэта ўсёроўна, як сказаць: бег вялікі сабака, ростам з добрую мыш.

Але пісьменнік на гэтым не скончыў, ён зніжае наша ўяўленне і далей. Ён кажа: «Сдавалось — где-то далеко-далеко работали проснувшиеся ковали, и вскоре там должно было выковаться солнце — багряное, жаркое и словно бы живое, только что **вышедшее из раскалённого горнила»**. Зноў несуразмернасці. Кавалёў мы ўяўляем: гэта звычайныя людзі. І сонца ўяўляем. І кавалі і сонца — «далеко-далеко». Ну і ці вялікае ўявіцца нам сонца ў руках і пад малаткамі кавалёў? Дробязь: маленькі, распечаны камячок. Мы можам уявіць і «раскалённое горнило», але каб у ім змясцілася і выйшла адтуль «багряное, жаркое и словно бы живое» адкаванае сонца — не можам уявіць. Лепш кажучы, уявім.

але гэтае сонца ў руках кавалёў будзе падобна на дзіцячую цацку.

Вось як помсціць неахайна зробленае параўнанне. Яно не дало нам вобраза, мы не адчулі яго. Велічы ўсходу сонца, яго прыгажосці і чароўнасці пісьменнік нам не перадаў.

Другое, ад чаго цяжка ўспрыняць карціну, гэта тое, што адразу нашай увазе прапануецца вельмі многа прадметаў у іх руху. Тут у нас ёсць назоўнікі — знобкая **заря,** ясный **день,** отходящее **лето, подарок** живому, проснувшиеся **ковали,** багряное **солнце,** раскалённое **горнило:** усё гэта мае свае прыкметы і азначэнні — ядрёная, знобкая, погожий, огненно-красный, багряное, жаркое, живое, отходящее, вышедшее, раскалённое; усё гэта мае пэўны рух, дзею — разыгрывалась, предвещала, пылала, работали і г. д. Сапраўды, ва ўсім гэтым цяжка сабраць увагу.

Ясна, што мастак зрабіў накіды, але не адпрацаваў іх. Можа, варта сказаць і пра другую неахайнасць. Вось фраза: «Заря... предвещала... ясный **день,** что **выпадают** в конце отходящего лета». Калі выпадаюць, то, мабыць, **дні,** а не **дзень.**

Гэтае апавяданне можа даць яшчэ размову. Пра характэрнасць і дыялаг.

Адразу скажам, што апавяданне ідзе пра паляванне. Але мы доўга не можам здагадацца пра гэта. Па сутнасці, у ім пачатак цягнецца на некалькі старонак, і горш за ўсё тое, што ён не падводзіць, а адводзіць ад тэмы. Перад тым, як чытач дабярэцца да палявання, між двух сяброў, што едуць у машыне, ідзе бясконцая гаворка на заводскія тэмы — пра пакоўкі, пра брак, пра план, прычым у такой роблена інтэлігенцкай форме, што адразу відаць іх наўмыснасць.

«— Утро проспишь... Викентий Сергеевич!..

— Да ну тебя, дай подремать.

— Гляди-ка заря какая! Как у нас, в кузнечно-прессовочном... когда болванки из нагрева выдаются.

— Ещё что?

— Не чувствуете вы, технологи, красоты. Ни в природе, ни на производстве.

Синицкий приоткрыл узенькие, мохнатые щёлочки.

— Ты бы лучше о браке побеспокоился. Опять заготовки с такими допусками выдаёте, что прямо злость берёт!

— Брак браку рознь, — рассудительно возразил Гладышев, привычным движением сбрасывая скорость. — И к красоте никакого отношения не имеет.

— А по-моему, красота — в точности. — Синицкому уже расхотелось спать. Говорившееся переборолo дремоту, забрало его за живое.

Глядя на дорогу, Гладышев хмуро вздохнул.

— Кроме точности ещё план есть! И в первую очередь о нём беспокоиться приходится.

— Как знаешь! Только предупреждаю: больше я от тебя таких заготовок принимать не буду.

— Бу-у-дешь, — Гладышев часто казался просто непереносимым. — Как нечего станет строгальщикам ды росточникам делать, так и с завышенными допусками заготовки пойдут!

Грубый, самовластный, он — под стать характеру — был кряжист, высок и держался непререкаемо...»

Ці льга з гэтага даволі вялікага ўрыўка зразумець, хто гэта гаворыць? Не. Па складу фразы, па манеры будаваць сказ можна было-б падумаць, што гэта размова рабочых («... заготовки с такими допусками выдаёте, **что прямо злость берёт».** «А по-моему, **кра-**

**сота — в точности».)** Але фраза «Гляди-ка: заря какая! Как у нас в кузнечно-прессовочном... когда болванки из нагрева выдаются», фраза з такім наіўным і ўзнёслым захапленнем, з такім наўмысным параўнаннем можа належаць толькі падкрэсленаму інтэлігенту. Іменна падкрэсленаму, бо параўнанне зроблена аўтарам знарок, для каларыту. І нарэшце, па тым, што гаворка ідзе пра планы, што «больше я от тебя таких заготовок принимать не буду», можна здагадвацца, што гэта нейкія камандзіры на вытворчасці.

Дыялаг, як правіла, павінен раскрываць нешта галоўнае, памагаць будаваць характар, перадаваць нешта характэрнае, выяўляць індывідуальнае. У дадзеным-жа выпадку дыялаг нам нічога не памог. Мы не ведаем, хто гаворыць, навошта гаворыць. Ён не вырысаваў нам ні характараў, ні прафесій, не выклікаў у нас настрою, не перадаў падзеі. Ён не нёс на сабе ніякай нагрузкі. Можна здагадацца, што аўтар гэтым дыялагам хацеў падкрэсліць вытворчы каларыт, але-ж ён, нажаль, ніякага дачынення да апавядання не мае. Ён лішні, і чытач лёгка ўздыхае, калі нарэшце пападае ў самое апавяданне, і толькі дзівіцца: навошта аўтар так доўга трымаў яго ў гэтых надуманых размовах, калі пасля пойдзе сапраўды цудоўнае апавяданне, поўнае лясных пахаў, глыбокага дыхання, тонкіх рысункаў, чалавечых пачуццяў.

Лішняе, пабочнае вельмі шкодзіць апавяданню. У ім павінна быць толькі тое, што памагае галоўнаму, што або дапаўняе, або стварае настрой, або падкрэслівае яго. Дыялаг тым больш павінен быць функцыянальна нагружаны. Возьмем, скажам, маленькі прыклад. Дапусцім, у гестапа дапытваюць партызана. Следчы пытаецца:

— Ты будзеш адказваць, нягоднік?

— Не.

— Паспрабуем прымусіць.

— Дарэмна будзеце старацца, гады.

Навошта спатрэбіўся гэты дыялаг? Каб падкрэсліць характар, каб паказаць упартасць і мужнасць партызана. Возьмем другі варыянт гэтай размовы:

— Ты будзеш адказваць, нягоднік?

— Не, пане следчы.

— Паспрабуем прымусіць.

— Я нічога не магу сказаць, пане следчы.

Як бачым, гэты варыянт дае зусім іншы псіхалагічны малюнак. Ён ужо не перадае непрымірымасці і ўпартасці. Дыялагам вы стварылі зусім іншы характар, хоць і тут і там згоды на паказанні няма.

Дыялаг з апавядання «В лесу» не даў нам ніякай характэрнасці. Ён не даў і характараў. У жыцці мы звычайна бачым, што ў кожнага чалавека ёсць свая манера гаварыць — шпарка або павольна, гулліва або ўдумліва, пры гэтым бывае свая пастава галавы, свой выраз твару, свая паўза, нешта тое, што ўласціва толькі гэтаму чалавеку. Такія рыскі даюць большую індывідуалізацыю характара, а індывідуалізаваны характар уяўляецца і запамінаецца лепш.

Наогул, кожная фраза ў літаратурным творы, тым больш у апавяданні, павінна быць на сваім месцы, гучаць праўдзіва, яна павінна быць ужыта з адчуваннем меры. Не вельмі хапае праўдзівасці і адчування меры ў вуснах дарослых людзей, інжынераў вытворчасці, начальнікаў, калі яны адзін аднаму гавораць:

«— Гляди-ка: заря какая! Как у нас в кузнечно-прессовочном... **когда болванки из нагрева выдаются».**

Фальшывасць гэтай фразы

яўная. Яна ідзе не ад жыцця, а ад літаратурнага смакавання, гучыць наіўна, наўмысна.

Наўмысна, без адчування меры, гучаць і такія фразы: «Не чувствуете вы, технологи, красоты», «Ты бы лучше о браке побеспокоился», «Кроме точности, ещё план есть», калі сябры адзін аднаго папікаюць і гавораць адзін аднаму рэчы, якія ім проста не ўласцівы тут, у гэтых абставінах. Адразу чуваць, што замест іх гаворыць аўтар, якому вельмі хочацца даць вытворчы каларыт нават там, дзе ён не патрэбен.

Нельга не сказаць, што наогул фраза павінна быць пісьменная, эканомная і ясная. Фраза патрабуе работы над сабою. У ёй трэба дамагацца прастаты, натуральнасці яе гучання, яснасці думкі. А вось такая фраза: «Грубый (Гладышев), самовластный, он — под стать характеру — был кряжист, высок и держался непререкаемо», — не толькі неахайная, а і непісьменная. Сапраўды як-жа гэта Гладышаў, «грубый, самовластный», які любіць «держаться непререкаемо», быў «под стать своему характеру», гэта значыць самому сабе? Бо і грубасць, і самаўладнасць, і іншыя якасці — гэта-ж і ёсць характар. Калі пазбавіць гэтую фразу ад завітушак яе пабудовы, дык прыдзецца так і сказаць: «Грубый, самовластный, Гладышев был под стать самому себе». Другое: «пад стать» — гэта ёсць форма параўнання. Калі можна з характарам параўноўваць такія рэчы, як «грубость», «самовластность», прывычку «держаться непререкаемо», то як можна параўноўваць з характарам тое, што Гладышаў быў «кряжист и высок»? Хіба характар бывае «кряжист и высок»? Бязглуздзіца. Вось як злосна помсціцца ў мове неахайнасць.

---

Часта мне ўспамінаюцца тыя маладыя гады, калі я рабіў свае першыя літаратурныя крокі. Сам у сябе я часта пытаюся: чаму так лёгка тады пісалася? Ці то фантазіі было больш, ці галава была яснейшая, ці наогул гэта ўласціва маладосці, якой, як кажуць, усякае мора па калена? Як толькі ў галаве выспявала якая тэма, варта было сесці за стол, пакласці перад сабою паперу, і апавяданне было гатова. Памятаю, напрыклад, што «Таісу» я напісаў за дзве ночы, ці, лепш кажучы, за два вечары. Гэта было ў Полацку. Удзень я працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына», пад вечар дазваляў сабе пагуляць — праехаць на лодцы на Экімань, пахадзіць па вуліцах або паглядзець, як танцуюць у садзіку каля станцыі, — і ўжо зусім позна варочаўся ў свой невялікі пакойчык на Гогалеўскай вуліцы, каб сесці за стол. Пазней, у Мінску, у 1928 годзе, калі спатрэбілася тэрмінова запоўніць прозай нумар часопіса — за пяць ці шэсць вечароў я напісаў «Затоку ў бурах». Нават не вечароў, а начэй, бо звечара рыхтаваўся да заняткаў ва ўніверсітэце. Так што пісаць садзіўся гадзін з адзінаццаці і працаваў да чатырох-пяці ночы. Памятаю, як лёгка ўздыхнулася, калі паставіў апошнюю кропку. Гэта было гадзін у шэсць раніцы. Падняўся, пацягнуўся, паспеў заўважыць, што пакой быў сіні ад дыму, і тут-жа, толькі прыткнуўшыся да падушкі, заснуў, памятаючы, аднак, што трэба будзе не спазніцца на лекцыі.

Чаму-ж цяпер куды даўжэй і цяжэй пішацца кожная рэч? Адказам на гэта будзе, мабыць, тое, што калі спатрэбілася летась даць кніжку ранейшых твораў, то я стаў перад сумным фактам: многае з таго, што раней пісалася, прышлося абмінуць, у кніжку не ўключыць. Вачыма сённяшняга дня я

ўбачыў, што многае пісалася дрэнна. Вырасла літаратура, вырасла пісьменніцкае майстэрства і, канешне, выраслі патрабаванні да сябе. Раней мне не думалася, што ў літаратуры ёсць свае законы, што ёсць творчыя сакрэты Льва Талстога, Тургенева, Чэхава, што гэтыя сакрэты раскрываюцца працай, вучобай.

Праўда, у той час маіх літаратурных пачынанняў было многа прычын, якія шкодзілі правільнай літаратурнай вучобе. Існавала безліч усялякіх «ізмаў» — футурызм, імажынізм, экспрэсіянізм, акмеізм, — і чаго толькі не было! — і яны збівалі з тропу. Адны «ізмы» абвяшчалі вайну аўтарытэтам, традыцыям, другія разбуралі форму, трэція толькі форме і пакланяліся. Былі лефаўцы, пролеткультаўцы, перавальцы, напастоўцы. У такіх абставінах было цяжка набываць свой голас.

Літаратура мужнела разам з мужнасцю дзяржавы. А ўсялякая сталасць, гэта ёсць і мудрасць.

Ці магу я сказаць, што цяпер мною закончана літаратурная школа? Не, не магу, бо гэтага не можа і быць. Літаратурная школа — штодзённая ўпартая праца. Кожны новы твор пачынаеш з адчуваннем таго, што ты проста — невук. Пісьменніцкая школа — гэта кожны твор і прычым той-жа самы першы клас.

---

Доўга я прыглядаўся да адной з'явы, якая выскачыла на целе нашай рэчаіснасці, як балячка. Разам з умацаваннем калгасаў, з ростам свядомасці чалавека, з росквітам матэрыяльнага і культурнага аблічча яго, сям-там паявіліся аматары лёгкага хлеба. Яны нарадзіліся, мабыць, яшчэ тады, калі былі цяжкасці ў калгасах, і для ліквідацыі іх партыя і ўрад прынялі цэлы рад пастаноў. У свой час такія адзінкі нават выходзілі з калгасаў, стараліся прыстасавацца дзе-небудзь пад горадам, знайсці які лёгкі занятак, накшталт «купіць-прадаць». Або, нават не выходзячы з калгаса, заняліся вось такім «пабочным промыслам». Разбэсціўшыся і адвыкшы ад сумленнай работы, яны пачалі пасля зайздросціць багаццю калгаснікаў і, каб апраўдаць сваё марнатраўства, спекуляваць нядаўнімі цяжкасцямі: старшыня дрэнны, пакрыўдзілі ўчасткам, не спагадваюць, не заўважаюць.

І от доўга я шукаў формы, у якой мог-бы паказаць і раскрыць такі тып. Для гэтага трэба была, перш за ўсё, сюжэтная канва з праўдзівым рысункам і, па-другое, праўдзівае грамадскае вырашэнне тэмы. Памог мне ў гэтым маленькі жыццёвы выпадак. Па дарозе з Паставаў у Маладзечна кантралёр аўтобуса вельмі-ж настойліва прычапіўся да бабкі з пустым кошыкам за тое, што ў яе не было білета. Яна клялася, бажылася, што ў яе няма чым плаціць, мы ўсе спачувалі жанчыне і былі вельмі здзіўлены, калі пасля бабка дастала з-за пазухі пук грошай. Такім чынам тэма мая адразу знайшла вырашэнне ў апавяданні «Кантралёр». Канешне, там не запіс з натуры, але гэты выпадак даў мне вельмі добры ключ, адразу ў мастацкай форме сфармуляваў мае назіранні. «Кантралёр» пісаўся два разы. Не адразу мне ўдалося знайсці патрэбныя павароты.

Доўга і цяжка пісаўся «Паваротак ля сасны». Перада мною стаяла задача даць супярэчлівы характар. Для гэтага ў мяне быў вельмі добры прататып. Але яго вобраз быў значна шырэйшы за той, які мне трэба было даць ў «Паваротку». Ён проста не ўмяшчаўся ў рамкі апавядання. Тут якраз і далі сябе знаць законы спецыфікі апавядання. Трэба было

выбіраць самае неабходнае, самае галоўнае. Я пісаў «Паваротак» тры разы. Не папраўляў, не перапісваў, а пісаў кожны раз занава, увесь час дамагаючыся таго, што мне было патрэбна. У першым варыянце Майбарада быў шырэй за замысел, у яго многа было тых рыс, якія пасля не вязаліся з паваротам яго натуры ў канцы апавядання. Душэўныя зрухі, калі ён даваў бабульцы жменю грошай, не рабілі эфекта, яны здаваліся занадта натуральнымі. Другі варыянт, наадварот, зрабіў Майбараду занадта драпежным, яго ўчынак здаваўся неверагодным, не ўласцівым натуры. Толькі трэці варыянт больш-менш супакоіў мяне.

Не адразу ўсё складна выйшла і ў «Наталі». Апавяданне пісалася два разы. Першы варыянт меў толькі рамантычную інтрыгу, і апавяданне мне здалося вельмі «разумным», гладкім, самазаспакоеным. Трэба было шукаць нейкага канфлікту. Па прыродзе самой тэмы ён павінен быў быць толькі ў Наталі. Казімір, як пачатак актыўны, не мог быць носьбітам канфлікту. Прыйшлося Наталю пісаць новую, залажыўшы канфлікт унутры яе характару. А такі паварот прымусіў ламаць усю канструкцыю, даваць новае гучанне замыслу. Манеру апавядальнасці прышлося перавесці ў псіхалагічны план.

Я нават не ведаю ці ўдалася мне «Наталя».

---

Якую ролю іграе ў літаратурнай рабоце мова? Найпершую. Бо гэта яна з'яўляецца спосабам перадачы нашых думак, адчуванняў, паняццяў, спосабам сувязі людзей між сабою. З яе, з гэтай самай мовы, будуецца і літаратурны твор. І чым глыбей пісьменнік ведае мову, чым багацейшая ў яго лексіка, чым лепш адчувае ён кожнае адценне таго або другога слова, чым лепш адчувае дыханне фразы — тым лепш ён можа перадаць свае мыслі і адчуванні.

Літаратуры фальклорнай у нас крышку дабавілася. Нядаўна выйшла з друку кніжка «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі». Яе варта прачытаць хоць-бы дзеля таго, каб упэўніцца, як мы не заўсёды ўмеем карыстацца здабыткамі народнай культуры. Часамі пры перакладах, не вельмі турбуючы сябе пошукамі, мы нават устойлівыя народныя спалучэнні і параўнанні передаем літаральна, гэтым пазбаўляючы фразу яе гістарычнага і народнага каларыту. Сустрэўшыся, напрыклад, з фразай: «За ним нужен глаз да глаз», мы так часамі і перакладаем: «За ім трэба вока ды вока», не задумаўшыся, што ў беларускай мове такой устойлівай фразы няма, што для таго, каб яна гучала натуральна, трэба сказаць: «За ім трэба глядзець ды глядзець»; што «Белый как лунь» трэба перакласці не толькі заменай літар: «Белы як лунь», а і сутнасцю — «Белы як голуб»; што «Добро пожаловать» не будзе выглядаць традыцыйным народным запрашэннем, калі яго напісаць: «Дабро пажалаваць», бо фраза выкажа натуральную гасціннасць, калі яе скажуць па-гаспадарску — «Заходзьце, калі ласка», або «Запрашаем у госці», або яшчэ як, але толькі так, як запрашае ад душы народ на сваёй мове.

Прыказак і прымавак таксама перакладаць нельга, іх, адпаведных, трэба шукаць у мове, на якую робіцца пераклад.

Прыслухоўванне да народнай фразы прымусіла-б часамі падумаць, што не заўсёды з падставаю мы аддаляем літаратурную мову ад народнай. Вядомая рэч, што літаратурная мова не можа быць атоесамлена з народнай, яна

падпарадкуецца граматычным, лексічным і іншым нормам. Але што вымушае, напрыклад, самае звычайнае, народнае і ўсюды пашыранае слова «памагаць» замяняць толькі на «дапамагаць»? Проста — інерцыя, нежаданне прыслухацца, што гэта не зусім тое самае слова і што народ карыстаецца ім не без разбору. Імення «памагаць» гаворыць народ у большасці тых выпадкаў, дзе літаратура карыстаецца толькі «дапамагаць». «Памажы забудавацца», «Памажы падняць мяшок», «Пачакай, я табе памагу», «Пазаў бог, каб ты памог», «Памажы запрэгчы», «Як мог, так і памог» — вось натуральнае гучанне гэтага слова. А «дапамога», «дапамагаць» мае найбольш той сэнс, які перадаецца рускімі словамі «воспомоществование» або «содействие»: «Пры дапамозе Чырвонай Арміі», «Пры дапамозе новай тэхнікі», «Я маю дапамогу ад дзяржавы», «Ні на якую дапамогу ты не спадзявайся», «Не забудаваўся-б, але сын прыслаў дапамогу». Розніца адчуваецца вельмі добра і народная мова гэтых слоў не блытае. То ці можна-ж лічыць заслугай літаратурнай мовы, што яна забывае на сваю першакрыніцу, штучна робячы перагрузку слоў?

Адчуванне мовы трэба не толькі пісьменнікам, а і той вялікай арміі літаратурных супрацоўнікаў, якія працуюць у рэдакцыях газет, часопісаў, у Дзяржаўным выдавецтве ў якасці рэдактараў, загадчыкаў аддзеламі, карэктараў, літработнікаў. Трэба, каб яны чулі і фразу і слова не толькі ў межах службовага абавязку і службовай практыкі, бо іх праўкі і навыкі становяцца нарэшце літаратурнай нормай. Гэта-ж факт, што літработнік, які правіў маё апавяданне «Як спявалі песню», лічыў, што ён вельмі добра ведае мову, калі правіў фразу «Стасечка, родненькая, памагай» (спяваць песню) на «Стасечка, родненькая, дапамагай»; «начакаўшы хвілінку» — на «пачакаўшы хвілінку», у апошнім выпадку нават мяняючы сэнс слова, бо «начакаць» — гэта выбраць хвілінку, а пачакаць — гэта проста пачакаць. Тут адно з двух: або чалавек вельмі абмежавана ведае мову, або кіраваўся меркаваннямі густу. Часта папраўляюцца, напрыклад, і такія словы: «неўзаметку» — на «непрыкметна», «скоранька» — на «хуценька» або «хутка», «ачуняў» — на «папраўіўся» або «выздаравеў» і г. д., словам, на самыя прывычныя, добра завучаныя, калі можна так сказаць, карэнныя, не клапоцячыся, што пасля такой праўкі мова не пераліваецца сваім багаццем, а блекне. А багацце мовы трэба берагчы, бо гэта духоўнае багацце народа.

---

Вось некалькі думак і заўваг, якімі мне хацелася падзяліцца з маладымі таварышамі па прафесіі. Праўда, трэба памятаць, што тут няма ніякіх гатовых рэцэптаў ці цвёрдых правіл. Гэта асабістыя меркаванні і адчуванні, а ў кожнага можа быць свой почырк, свая манера і свае шляхі. Галоўнае, што праца пісьменніка патрабуе бесперапыннай вучобы і гэтая вучоба іменна ў вывучэнні жыцця і ў творчасці.



*Давайце пагаворым...*

# „ЧАМУ ЯНЫ РАЗЫШЛІСЯ?“

## МАЦАВАЦЬ МАЛАДЫЯ СЕМ'І—СПРАВА ЎСЁЙ ГРАМАДСКАСЦІ

З пісьма Надзеі Клімовіч вынікае, што прычын для таго, каб разысціся, у Дзіны з Міхаілам было больш, чым трэба. І ў гэтым вінаваты не толькі яны самі, але і іх таварышы, сябры, камсамольская арганізацыя.

Уся бяда ў тым, што Дзіна і Міхаіл — людзі нявопытныя ў жыцці, многага яны не разумелі, не ведалі, у многім памыляліся, не задумваліся глыбока над жыццёвымі з'явамі, над сваімі ўчынкамі. Ім патрэбна была дапамога, добрая сяброўская парада. Атрымоўвалася-ж наадварот. На кожным кроку яны сустракалі людзей, якія падбухторвалі іх на сваркі, прымушалі недаверліва адносіцца адно да другога.

Праўда, нельга думаць, што Дзіна ні ў чым не вінавата. Яе віна заключаецца хаця-б у тым, што яна не хацела разумець Міхаіла. Яна ўвесь час была ў акружэнні хлопцаў: то займалася спортам, вучылася слалому, то ішла на рэпетыцыі ў танцавальны гурток. Пад уплывам плётак, якія распаўсюджваліся пляткаркамі, Міхаіл не раз патрабаваў, каб Дзіна спыніла ўсе гэтыя заняткі, але яна ў адказ толькі прыходзіла ў здзіўленне і злавалася.

Вядома, Дзіне не было патрэбы змяняць свае адносіны да любімых заняткаў. Але-ж дзіўна, чаму яна ўвесь свой вольны час праводзіла без Міхаіла, чаму ён стаяў у баку ад спраў жонкі, чаму Дзіна ні разу не прапанавала мужу паехаць разам з ёй на лыжную прагулку, чаму яна не спрабавала ўцягнуць яго ў свае заняткі. Магчыма, што ён не змог-бы палюбіць усё тое, чым так захаплялася Дзіна. Але ўсёроўна ў такім выпадку трэба было, каб Дзіна жыла з Міхаілам адным жыццём, раілася з ім, пыталася яго парады, расказвала аб поспехах, дзялілася радасцямі і няўдачамі.

Міхаіл таксама павінен быць бліжэй да жыцця жонкі, цікавіцца яе інтарэсамі, паважаць яе захапленне спортам, дапамагаць, наколькі гэта ў яго сілах, у спорце і вучобе. Тады-б і Дзіна не стаяла ў баку і, у сваю чаргу, дапамагала-б Міхаілу ў яго росце, развіцці.

Але ў іх гэтага не было. Кожны жыў сам па сабе, амаль не цікавячыся жыццём і ўнутраным светам другога. Дзіна добра ведала, што Міхаілу не падабаюцца яе прагулкі з Валерыем, але нічога не зрабіла, каб ён не раўнаваў і не падазраваў яе ні ў чым... Міхаіл бачыў, што Дзіна захапляецца спортам, мастацкай самадзейнасцю, вучыцца ў вячэрняй школе, але не толькі не цікавіўся яе справамі, не толькі не садзейнічаў яе поспехам, але, наадварот, перашкаджаў ёй.

Далей. Чаму ўвесь час у пісьме ідзе гутарка пра заняткі Дзіны? А пра Міхаіла — ні слова. Што яму перашкаджала быць разам з Дзінай на спартыўных трэніроўках або ў гуртках мастацкай самадзейнасці? Няўжо ён быў такі абмежаваны? Відаць, і ў яго былі нейкія інтарэсы, нейкія мэты ў жыцці. Але Дзіна аб іх не ведала. Ёй было сумна з мужам. Міхаіл гэтага не разумеў і злаваў на жонку, абвінавачваў яе ў нявернасці, хоць на справе ніякай нявернасці тут не было.

Нельга лічыць, што Дзіна і Міхаіл, пажаніўшыся, дапусцілі памылку. Не, памылкі тут не было. Яны сапраўды кахалі адзін аднаго, хоць і не маглі заглянуць адно другому глыбока ў душу.

А гэтым і карысталіся розныя пляткаркі і плеткары.

Савецкія людзі па сваёй прыродзе такія, што не пакінуць у бядзе таварыша, утрымаюць ад памылак, падкажуць, як лепш зрабіць. Але ў гэтым выпадку акружаючыя Дзіну з Міхаілам людзі — Тамара, Віктар, Надзя і іншыя — не толькі не захацелі дапамагчы ім, маладым, разабрацца ў іх узаемаадносінах, але, наадварот, пачалі выдумляць пра іх плёткі і, такім чынам, садзейнічалі не ўмацаванню, а разбурэнню маладой сям'і.

Вялікая віна тут кладзецца на камсамольскую арганізацыю, якая не дапамагла маладым людзям правільна разабрацца ў іх жыцці, адрозніць праўду ад няпраўды.

Камсамольская арганізацыя павінна таксама весці барацьбу супраць усякіх паклёпнікаў, плеткароў і пляткарак, супраць адсталых поглядаў на ўзаемаадносіны паміж мужчынам і жанчынай, паміж хлопцам і дзяўчынай.

Мая парада Дзіне і Міхаілу такая: некалькі часу пажыць паасобку, усё асэнсаваць, разабрацца ва ўсім, узняцца вышэй усялякіх дробных, мяшчанскіх плётак, яшчэ раз праверыць сваё каханне (а ў тым, што яны кахаюць, сумнявацца не прыходзіцца), а потым пачаць шчаслівае сумеснае жыццё.

**П. НЕСЦЯРОВІЧ.**

**г. п. Беразіно**
**Мінскай вобласці.**

# БЕЗ УЗАЕМНАГА ДАВЕР'Я НЯМА СЯМ'І

Паважаная тав. Клімовіч! Ваша пісьмо «Чаму яны разышліся?» мяне вельмі ўзрушыла. І наколькі я зразумеў яго, на пытанні кахання, сям'і, маралі і побыту Вы глядзіце вельмі спрошчана. Вы абураецеся, што сям'я Дзіны і Міхаіла распалася, людзі пакутуюць, а ім ніхто на дапамогу не прыходзіць. Мне здаецца, што яны сапраўднай сям'і яшчэ не паспелі стварыць і вельмі правільна зрабілі, што разышліся. Бо з пісьма вашага відаць, што яны не кахалі адно аднаго. А тое, што вы прымаеце за каханне, зусім ім не з'яўляецца. Міша выпадкова сустрэў Дзіну, і з першага погляду яна яму спадабалася, таму што «Дзіна прыгожая, яна добра танцуе, спявае і ў кампаніі з ёю ніколі не бывае сумна». Але ён глыбока не падумаў аб тым, як яна адносіцца да жыцця і тых цяжкасцяў, якія ў ім сустракаюцца. Дзіна нават не падумала аб тым, што ў яе і ў Міхаіла розныя погляды на жыццё, розныя інтарэсы, розныя густы і што нельга любіць чалавека, не падзяляючы яго поглядаў і перакананняў.

І яны ўступілі ў шлюб, не ведаючы, ці дрэнна ведаючы, а значыць, і не кахаючы па-сапраўднаму адно другога, будучы па сутнасці чужымі і далёкімі. «Так у іх і павялося: яны мірыліся, кляліся ў каханні, абяцалі адно другому больш не сварыцца. Пасля адной такой сваркі настала прымірэнне, а за ім — ЗАГС і вяселле. Мы ўсе былі рады за гэтую маладую пару. Але ніхто з нас не падумаў аб тым, што каханне не цэрпіць самазадаволення і заспакоенасці, што яно немажліва без імкнення да няспыннага росту чалавека, яго ўдасканалення, без той душэўнай шырыні і шчодрасці, якая выказваецца ў настойлівым жаданні зрабіць усе самыя дарагія, самыя запаветныя пачуцці і перажыванні здабыткам любага чалавека». У дружбе і каханні паміж юнаком і дзяўчынай, вядома, вялікую ролю адыгрывае знешняя прывабнасць. Але акрамя гэтага неабходна духоўная блізкасць юнака і дзяўчыны, агульнасць светапогляду, культурных патрабаванняў, густаў і, галоўнае, чысціня іх маральнага складу. Сапраўднае каханне служыць крыніцай росту і духоўнага ўзбагачэння чалавека, дапамагае яму пераадолець усе слабасці. Калі чалавек кахае, ён стараецца быць лепшым. Ён сочыць не толькі за сваім знешнім выглядам, але і за сваімі ўчынкамі, крытычна іх ацэньвае, становіцца да сябе больш патрабавальным, стараецца зрабіць як мага больш добрага для любага чалавека, быць да яго больш уважлівым.

У Міхаіла, і тым больш у Дзіны, нічога падобнага не было. Значыць, жывучы разам, яны ніколі шчаслівымі не будуць, таму што шчасце сумеснага жыцця заключаецца ва ўзаемнай любві, у разуменні адзін аднаго, у давер'і аднаго да другога.

**Г. ЛЕВАНЮК,**
**Інструктар Брэскага абкома**
**ЛКСМБ.**

## ЯНЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ РАЗАМ

Я таксама падзяляю хваляванні Надзі Клімовіч за распад сям'і яе лепшай сяброўкі і жадаю ў бліжэйшы час Дзіне і Мішы стаць на шлях прымірэння. Мне здаецца, што Дзіне трэба больш чула адносіцца да Міхаіла, бо ён кахае яе ад душы. Не абавязкова Дзіне, стаўшы жонкай Мішы, удваіх з інструктарам фізкультуры Валерыем «кожны выхадны, а часта і ў буднія дні ездзіць за горад на трэніроўкі». Тое-ж самае і з падрыхтоўкай цірольскага вальса ў танцавальным гуртку.

Займацца спортам, безумоўна, карысна. Але калі Дзіна да гэтага мае вялікія здольнасці і ахвоту, няхай навучае і свайго мужа, а ўдваіх з Мішам і заняткі будуць цікавейшымі.

Хачу параіць Дзіне і Мішы наперакор усім пляткаркам наладзіць добрую, дружную сям'ю, узнавіць узаемную павагу, разам ісці насустрач усім цяжкасцям і радасцям жыцця.

**А. РАМАНОВІЧ.**

**в. Лявонавічы**
**Казлоўшчынскага раёна.**

## ЗА СЯМ'Ю ТРЭБА ЗМАГАЦЦА

Мне здаецца, што Міхаіл больш вінаваты, чым Дзіна. Калі Міхаіл, кахаючы сваю жонку, прыслухоўваецца да розных плётак і верыць ім больш, чым сваёй жонцы, то, вядома, ёй з ім цяжка жыць. Ды і Дзіне трэба зрабіць папрок. Раз яна ўбачыла, што муж раўнуе, чаму-б і сапраўды не паспрабаваць уцягнуць яго ў спорт, зацікавіць хаця-б і слаломам. Самае найлепшае, калі ў сям'і адзіныя інтарэсы, адна і тая-ж мэта. А калі пачнуць умешвацца такія людзі, як Тамара, у сям'і ладу не будзе. Даўно вядома прыказка людзей: «Слухай, а свой розум май». І лепш за ўсё будзе, калі Дзіна і Міхаіл самі прыдуць да згоды, — гэта мая асабістая ім парада.

Што датычыцца Тамары, то я не знаходжу слоў, каб выказаць сваё абурэнне. І як такі чалавек можа працаваць настаўнікам?! Настаўнік павінен умацоўваць дружбу, а не разбураць яе.

**А. ЖЫДОВІЧ.**

**г. Мінск.**

## МОЦНА КАХАЦЬ—ЗНАЧЫЦЬ ВЕРЫЦЬ АДЗІН ДРУГОМУ

У пісьме Надзі Клімовіч, змешчаным у сёмым нумары часопіса «Маладосць», узнімаецца даволі хвалюючае пытанне аб узаемаадносінах паміж мужам і жонкай, аб вернасці.

Пісьмо гэтае выклікае роздум аб каханні, аб абавязку перад сям'ёй мужа і жонкі, аб сямейным шчасці; ад гэтага ў многім залежыць шчасце чалавека наогул.

У сувязі з гэтым хочацца выказаць свае меркаванні.

З пісьма яўна вынікае, што Міхаіл моцна кахае Дзіну. І мне здаецца, што рэўнасць Міхаіла ідзе ад моцнага кахання і ад таго, што ён яшчэ не разабраўся ў характары, а значыць — і паводзінах Дзіны, бо розныя пляткаркі атручвалі яго сямейнае шчасце. На самай

справе, каму прыемна чуць благое аб блізкім, каханым чалавеку?

Вельмі цікава, што-б рабіла Дзіна, каб яны з Міхаілам памяняліся ролямі, хоць я і не хачу яе папракаць у нявернасці.

Мне здаецца, Дзіне патрэбна было пайсці на пэўныя ўступкі Міхаілу, а іменна, улічваючы яго рэўнасць, разам займацца спортам, разам праводзіць вольны ад работы час. Тады не было-б і прычыны для розных плётак.

Хочацца ад шчырага сэрца параіць Міхаілу і Дзіне: глыбей загляніца ў свае пачуцці, разбярыцеся ў сваіх узаемаадносінах, і вы знойдзеце шлях да прымірэння, калі вы сапраўды кахаеце адно другога. Не трэба спяшацца з канчатковымі вывадамі аб сваіх пачуццях, а значыць не спяшацца хутчэй заводзіць новае сяброўства, новую сям'ю. Многія маладыя людзі ў такіх выпадках потым усё жыццё горка раскайваюцца.

Міхаіл, Дзіна! Вы-ж кахаеце адзін аднаго. А таму цаніце сваё каханне, даражыце ім, загартоўвайце яго, каб пранесці праз усё жыццё шчырасць і вернасць адзін аднаму.

**І. РАБКОЎ.**

**Абчугская сярэдняя школа**
**Крупскага раёна.**



Натхнёныя Вялікім Кастрычнікам

## ВАКАЛЬНЫ ЦЫКЛ АБ ЛЕНІНЕ

З маладым кампазітарам Яўгенам Дзягцярыкам чытачы «Маладосці» пазнаёміліся на старонках часопіса яшчэ ў ліпені 1953 года. З таго часу былы лётчык закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, напісаў кантату «Радзіма» на тэкст Я. Коласа, цыкл рамансаў для голасу з фартэпіяна на словы А. Міцкевіча, вакальны цыкл «Ля акна», рад фартэпіянных прэлюдаў і іншыя творы. Нядаўна кампазітар закончыў цыкл маналогаў для барытона і сімфанічнага аркестра, які з'яўляецца своеасаблівай Ленініянай.



Адкрываецца цыкл вакальным маналогам «Прыдзі туды» на тэкст С. Смірнова, у якім гаворыцца аб вялікім гонары быць ленінцам, паслядоўнікам тых ідэй, за якія аддалі сваё жыццё лепшыя людзі нашай Радзімы, партыі.

У радасны, сонечны дзень, у час паўнаводдзя на вялікай рускай рацэ Волзе нарадзіўся ў Сімбірску В. І. Ленін. Гэты веснавы дзень быў нараджэннем вясны новага жыцця для ўсяго чалавецтва, — такі **змест** і ідэйная сутнасць другога маналога аб Леніне кампазітара Я. Дзягцярыка. Аўтар тэкста — С. Шчыпачоў.

У аснову наступнага маналога аўтар цыкла паклаў вядомы верш А. Безыменскага «Партбілет». Упэўнена гучыць у маналогу асноўная ідэя твора аб вернасці ленінскай партыі, аб невычарпальнасці яе радоў.

Пяць начэй і пяць дзён уся Масква, уся краіна праводзілі ў апошні шлях Ільіча. Жалобна-гераічна гучыць музыка ў чацвёртым маналогу, які напісаны на тэкст В. Інбер.

Заканчваецца вакальны цыкл Я. Дзягцярыка велічна-ўрачыстым маналогам на тэксты з твораў В. Маякоўскага «Ленін з намі» і «Владзімір Ільіч Ленін». Упэўнена гучаць у ім словы Маякоўскага аб нашай вернасці сцягу Леніна.

Вакальны цыкл «Ленін з намі» маладога беларускага кампазітара Я. Дзягцярыка—першая спроба ў беларускай музыцы шматбакова ўвасобіць вобраз стваральніка нашай партыі і дзяржавы В. І. Леніна.

## НОВАЯ ОПЕРА

1938—1939 год. Так званыя «ўсходнія крэсы» панскай Польшчы. Мільёны беларускіх сялян стогнуць пад ярмом асаднікаў, памешчыкаў, кулакоў. Барацьбой народа кіруюць комуністы — палякі і беларусы, што засталіся на волі.



У гэтыя дні малады беларускі селянін - рэвалюцыянер Мікола пакахаў дзяўчыну Марыну. Марына ведае аб дзейнасці Міколы і дапамагае яму распаўсюджваць лістоўкі, збіраць пад выглядам вячорак падпольныя рэвалюцыйныя сходы сялян.

Але Марыну любіць не толькі Мікола, — заможны селянін Сцяпан таксама дамагаецца яе рукі. Пад уплывам рэўнасці Сцяпан выдае Міколу і па парадзе памешчыка Гадлеўскага распаўсюджвае чуткі, быццам Міколу выдаў паляк Лагоўскі. Комуніст Лагоўскі,

адзін з тых польскіх патрыётаў, якія змагаліся супраць існуючага ладу, за шчасце ўсіх народаў, што жывуць у краіне, здолеў растлумачыць сялянам сэнс гэтай правакацыі. Каб адпомсціць Гадлеўскаму, сяляне падпальваюць яго маёнтак.

Пасля пажару дачка Гадлеўскага — разбэшчаная Юзэфа—застаецца без пасагу. Ад яе адмаўляюцца багатыя жаніхі. Бацька аддае яе за Сцяпана, каб тым самым выратаваць сям'ю ад сораму, бо дзяўчына цяжарная ад свайго каханка — пана Мільчыка.

У тыя-ж дні па шляху, што ідзе праз вёскі, паліцыя павінна весці Міколу з адной турмы ў другую. Аб гэтым даведаўся Лагоўскі, і пад яго кіраўніцтвам сяляне вызваляюць Міколу і дапамагаюць яму ўцячы ў Совецкі Саюз. Сцяпан, каб адпомсціць Лагоўскаму і Марыне выдае абодвух паліцыі, як арганізатараў вызвалення Міколы.

Сядзяць у турме і чакаюць смяротнага пакарання Лагоўскі і Марына, а тым часам пад ударамі гітлераўскіх войск развальваецца на часткі праданая сваімі кіраўнікамі польская дзяржава. Чырвоная Армія спяшаецца, каб выратаваць з няволі сваіх братоў з заходніх вобласцей Беларусі.

Уцякаюць з Польшчы, пакінуўшы свайго прыслужніка Сцяпана, пан Гадлеўскі з Юзэфай і яе новым каханкам Бронэкам, а Мікола ўступае з совецкімі воінамі ў родную вёску. Тут ён даведваецца аб лёсе Марыны і Лагоўскага. Хутчэй у турму! Але выратаваць давялося толькі Марыну: паляк-комуніст Лагоўскі быў забіты адным з тых польскіх афіцэраў, якія дапамагалі фашысцкай Германіі знішчыць Польшчу.

Мы расказалі кароткі змест новай оперы, якую гэтымі днямі закончыў заслужаны дзеяч мастацтву БССР кампазітар А. Туранкоў. Умоўная назва твора «Усход сонца».

# ПЯТАЯ СІМФОНІЯ Г. ПУКСТА

Жанр сімфоніі — адзін з найбольш складаных у музыцы. Тлумачыцца гэта адсутнасцю ў сімфоніях літаратурнага тэкста, які-б дапамог зразумець вобразы ў іх развіцці, наяўнасцю ў такіх творах вялікай колькасці тэм, асобных, закончаных па музыцы, але звязаных паміж сабой па ідэі, частак. Але разам з тым, сімфонія дае неабмежаваныя магчымасці для таго, каб у абагуленым, філасофскім плане вырашыць многія жыццёвыя пытанні, выявіць сродкамі музыкі адносіны кампазітара да рэчаіснасці.



Сваю пятую сімфонію заслужаны дзеяч мастацтваў БССР кампазітар Г. Пукст прысвяціў саракавой гадавіне нашай соцыялістычнай дзяржавы. Ідэйная задума твора — паказаць сённяшні дзень нашай краіны, усё багацце стваральнай працы совецкіх людзей, іх барацьбу за мір ва ўсім свеце.

У пятай сімфоніі па сутнасці адзін асноўны вядучы вобраз—гераічная, валявая, імклівая тэма першай часткі твора. Гэтай тэмай-вобразам кампазітар быццам акрэслівае гераічную сутнасць нашага жыцця, паказвае героіку працы і барацьбы совецкіх людзей. Асновай для гэтай тэмы аўтар выкарыстаў напеўкі беларускай народнай песні «Ой, зарадзілі сільна, буйна».

Усе астатнія тэмы-вобразы новай сімфоніі Г. Пукста вынікаюць з асноўнай. Тут і больш лірычная другая тэма з першай часткі сімфоніі, і цудоўны музычны пейзаж, чым па сутнасці з'яўляецца другая частка твора, і яснасць, мілагучнасць трэцяй часткі, так званага «скерца» («жарт»). У апошняй частцы пятай сімфоніі, яе фінале, зноў гучыць асноўная тэма твора, але тут яна набывае новыя

якасці, большую прасветленасць, жыццесцвярджальнасць, як сімвал урачыстасці перадавых ідэалаў сучаснасці, сімвал нашага неперажнага руху наперад.

Пятая сімфонія Г. Пуксты — сведчанне новых граняў у таленце кампазітара.

## „ЯСНЫЯ ДАРОГІ“

Кантата для сімфанічнага аркестра, змешанага чатырохгалоснага хору і саліста «Ясныя дарогі» — першы буйны вакальна-сімфанічны твор маладога беларускага кампазітара Юрыя Семянякі. Кантата напісана на тэксты П. Труса, Я. Коласа, М. Танка.

Нягледзячы на тое, што твор яшчэ зусім нядаўна напісаны, ён ужо трывала ўвайшоў у рэпертуар Беларускай дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы пад кіраўніцтвам народнага артыста Саюза ССР Р. Шырмы і сімфанічнага аркестра Беларускай дзяржаўнай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармоніі.

Малады кампазітар звярнуў на сябе ўвагу яшчэ тады, калі ён напісаў песню «Ой, шумяць лясы зялёныя». Песня вельмі хутка стала папулярнай не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Прайшло пяць год, і Ю. Семяняка закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Тэмай яго дыпломнай работы была кантата «Ясныя дарогі», прысвечаная Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У кантаце вельмі яркая мелодыка, яна быццам памужнела, страціўшы характэрную ў мінулым для некаторых мелодый Ю. Семянякі саладжавасць.

У «Ясных дарогах» вабіць да сябе і добрае валоданне сродкамі харавога гучання, адчуванне формы твора, уменне цікава выкарыстаць магчымасці сімфанічнага аркестра.

Ідэя твора — паказаць станаўленне беларускай дзяржаўнасці, вернасць справе партыі, непарушную дружбу народаў Савецкага Саюза — знайшла сваё мастацкае ўвасабленне ў музыцы маладога аўтара.

### Мастацтва замежных сяброў

## СЯБРЫ З КІТАЯ

«Ансамбль моладзі Кітайскай Народнай Рэспублікі» быў сфарміраваны яго мастацкім кіраўніком — вядомым кітайскім драматургам Ма Ян-сянам — спецыяльна для ўдзелу ў VI Сусветным фестывалі ў Маскве. Ён з'яўляецца сінтэтычным калектывам, дзе танец і акрабатыка, пантаміма і спевы, аркестровае выкананне і сцэна з класічнай кітайскай оперы з'яўляюцца роўназначнымі ў творчай дзейнасці маладых артыстаў, у пабудове ўсёй праграмы.

Нягледзячы на маладосць удзельнікаў ансамбля, на іх невялікі творчы стаж, ёсць усе падставы гаварыць аб гэтым калектыве як аб ансамблі майстроў мастацтва, што ўзялі з мастацкай спадчыны свайго вялікага народа ўсё лепшае і папоўнілі гэта подыхам сучаснасці. Як аб нейкай феерычнай казцы, трэба гаварыць аб выкананні «Танца паўліна» жаночай групай ансамбля. Не ведаеш нават, чаму раней здзіўляцца: музычнасці рухаў выканаўцаў, іх незвычайнай пластычнасці і адчуванню ансамбля, ці раскошы адценняў фарбаў шаўкоў, з якіх пашыты касцюмы дзяўчат.

«Танец з каляровымі барабанчыкамі», як і першы танец, таксама адзначаны на Сусветным фестывалі конкурсу залатым медалем. У яго выкананні перш за ўсё здзіўляе вірту-



ознасць рытмікі танцораў, нейкае высокае адчуванне долей секунды, на працягу якіх робяцца ўдары па барабанах, падскокі і павароты ў паветры. Вось дзе можна гаварыць аб нейкім «чараўніцтве»! Гэтая-ж думка міжволі ўзнікае, калі бачыш выкананне артыстамі ансамбля пантамімічных сцэн з класічных старажытных кітайскіх опер ці музычных драм. Усе гэтыя здзіўляючыя па незвычайнасці і характву рухі працягваюцца адзін за адным з незвычайнай хуткасцю, прычым без ніякай, здаецца, фізічнай цяжкасці.

Многа часу ўжо не бачылі жыхары нашай беларускай сталіцы такога натхнёнага мастацтва руху і музыкі.

## АЛІС РЫБЕЙРУ

Многа шчырых і ўсхваляваных слоў можна сказаць аб чароўным уражанні, якое пакідае ў слухачоў спяванне выдатнай бразільскай артысткі Аліс Рыбейру. У яе — надзвычайна прыгожы, мы-б сказалі «цёплы», голас, выключнае майстэрства інтэрпрэтацыі, уменне з простай па мелодыі песні зрабіць сапраўды драматычны маналог або жанравую сцэну. Вось чаму цудоўная спявачка знаходзіць такую колькасць прыхільнікаў свайго таленту ўсюды, дзе ёй прыходзіцца выступаць з канцэртамі. Але ёсць яшчэ адзін «сакрэт» яе папулярнасці ў слухачоў: тэматыка песень, якія артыстка выконвае.

Аб чым-жа спявае А. Рыбейру? Аб тым, што блізка і зразумела ўсім простым людзям свету: аб працы людзей, аб шчырым каханні, рэўнасці і шчасці прымірэння, красе маладосці, мудрай старасці і г. д. І нягледзячы на тое, што песні выконваюцца на незнаёмай нам іспанскай мове, што іх аўтары жывуць у Бразіліі ці Перу, Чылі ці Аргенціне — песні Аліс Рыбейру падружылі нас з кампазітарамі Абрадорсам, Турына, Гуаставіна, Каба, Брага, Авале, Сікейра і іншымі нашымі сябрамі.

Вось адзін з узораў паэтычных песень, што выконвае Аліс Рыбейру. Аўтар песні — кампазітар Энрыке. «Тамба-тажа» — гэта расліна, якая ў індыйцаў Лацінскай Амерыкі лічыцца сімвалам вечнага кахання. Песня апавядае аб маладым індыйцу, які ніколі не пакідаў сваёй жонкі — так моцна ён яе кахаў. Але маладая жанчына памерла. Тады ён жывым закапаў сябе побач з ёю, і на іх магілах вырасла тамба-тажа. З гэтага часу кожная закаханая дзяўчына саджае перад сваёй хатай гэтую расліну, як сцвярджэнне вернасці каханаму.

Не меншую цікавасць, чым гэтая песня, выклікаюць «Абалуайя» ці «Маракату», у аснову якіх пакладзена народнае негрыцянскае мастацтва, бразільскія песні «Маленькі домік», «Мой лімон», «Танец жабы» і многа, многа іншых твораў у выкананні А. Рыбейру — ганаровага госця VI Сусветнага фестывалю ў Маскве.

## „КАЛУМБІЯ“

Іх усяго дванаццаць юнакоў і дзяўчат, якія здолелі, нягледзячы на ўсе перашкоды, што ім рабілі ўлады далёкай краіны Калумбіі ў Поўднёвай



Амерыцы, прыехаць на VI Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Маскве. Іх канцэрты ў Мінску — гэта толькі другі паказ свайго мастацтва за межамі Калумбіі і адзін з нямногіх паказаў наогул, бо калектыў пад кіраўніцтвам Дэлья Сапато вельмі малады і па сутнасці з'яўляецца

піонерам у справе фарміравання прафесійнага калумбійскага мастацтва.

У артыстаў ансамбля «Калумбія» ўсе касцюмы, музычныя інструменты зроблены ўласнымі рукамі. Спяваюць яны на негрыцянскай і іспанскай мовах. Асновай іх творчасці — і музычнай, і танцавальнай — з'яўляецца багацейшы нацыянальны фальклор, у якім з вялікай глыбінёй і натхнёнасцю паказана цяжкае жыццё народа, яго аптымізм, вераванні, уменне жартаваць і весяліцца.

Зразумела, што ў творчасці нашых сяброў з далёкай паўкаланіяльнай краіны многае для нас незвычайна, але як не захапіцца грацыёзнасцю рухаў танцораў, цудоўнай рытмічнасцю выканаўцаў на нацыянальных інструментах, маляўнічасцю жанравых сцэн!

З вялікай праграмы, што была выканана ансамблем «Калумбія» на творчай сустрэчы з насельніцтвам Мінска, асаблівае ўражанне пакінулі «Танец старадаўніх індыйцаў», «Танец атлантычнага ўзбярэжжа» і «Хота». Не меншую цікавасць выклікаюць і музычныя нумары. Дарэчы, усе своеасаблівыя мелодыі і тэксты да іх з'яўляюцца імправізацыямі выканаўцаў і сведчаць аб вялікай таленавітасці народа Калумбіі, у якога банкіры з ЗША адабралі нацыянальныя багацці, але не здолелі заняволіць душу народа і яго мастацтва.

# „ЧАРДАШ“

Ансамбль «Чардаш» — адзін з найбольш маладых у народнай Венгрыі. Калектыў існуе з лютага гэтага года. Сваю назву венгерскі народны калектыў атрымаў у гонар самага папулярнага венгерскага нацыянальнага танца «Чардаш», бясконцым багаццем мелодый якога прасякнута ўся музыка Венгрыі як прафесійная, так і фальклорная.

Вось чаму ў час гастроляў ансамбля «Чардаш» у Мінску мы бачылі не толькі цудоўныя нацыянальныя танцы, але чулі таксама ў выдатным выкананні спявачкі Эвы К'юрці песню «Жураўлі», якая па сутнасці з'яўляецца ўзорам вакальнага чардаша, чулі іншыя мелодыі такога-ж жанра ў выкананні цудоўнага венгерскага народнага аркестра з шасці скрыпак, двух кантрабасаў, аднаго кларнета і цымбал пад кіраўніцтвам темпераментнага дырыжора Іожэфа Печы.

Але, безумоўна, стыхія «Чардаша» — у танцы. Вось чаму, як-бы нас ні хвалявала майстэрства аркестра ў выкананні другой рапсодыі Ліста, музычнасць кларнетыста Іожэфа Фаціоль, які выдатна сыграў венгерскую дойну (песню-думу), пранікнёнасць спеваў К'юрці і Шандора Пушкаш, усё-ж самае незабыўнае — гэта палымяныя венгерскія танцы ў



выкананні ансамбля. Тут і «Калатасегскія танцы» — своеасаблівая танцавальная народная сюіта з асобных жанравых сцэнак; і мужны «Танец пастухоў», дзе многа і сілы і гумару; і грацыёзны жаночы танец з бутэлькамі, якія дзяўчаты трымаюць на галаве, і іншае. Аб чардашах ужо і гаварыць не прыходзіцца: якія толькі не былі выкананы! Тут і павольны, і шпаркі, і лірычны, і са шпорамі, і г. д.

Выдатна танцавалі ўсю гэтую праграму салісты Марыя Шыпош і Імрэ Фабіян, Балаж Бароні і Лайош Даміян, Этэлька Бертэ і мастацкі кіраўнік «Чардаша» Ласло Шашдзі — увесь таленавіты калектыў венгерскага народнага ансамбля.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# МАЛАДОСЦЬ ЗАВАЕЎВАЕ АРЭНУ

Цыркавая арэна не церпіць той старасці, што вызначаецца душэўнай вяласцю і абыякавасцю. І ў пяцьдзесят год спрытнасць, імклівасць, тэмперамент артыста павінны быць юнымі, інакш глядач не прыме яго выступлення. Даўно мінуў той час, калі цыркавы артыст знарок падкрэсліваў цяжкасць свайго нумару: звычайна перад асноўным трукам грымела музыка, артыст рабіў некалькі спробаў, вытрымліваў паўзу і нарэшце пад гром апладысментаў паказваў свой каронны-нумар.

Цяпер так робяць толькі клоўны, каб пасмяшыць публіку. Артысты-ж іншых жанраў: гімнасты, акрабаты, жанглёры праводзяць свае выступленні ў імклівым тэмпе. Глядач бачыць цэлы каскад прыгожых, віртуозных практыкаванняў, якія не выклікаюць пачуцця страху за лёс артыста, а эстэтычную задаволенасць. Гледзячы на гэты захапляючы спрыт, кожны з прысутных адчувае сябе нібы памаладзеўшым, здольным вось гэтак-жа скакаць, займацца на турніку, падкідваць палачкі і мячы, вальтыжыраваць на конях.

Гэтыя новыя традыцыі абумоўлены незвычайна ўзросшым культурным узроўнем як цыркавых артыстаў, так і публікі. І калі дваццаць год назад у нас сустракалі іншаземных артыстаў, як носбітаў непаўторных, у сваім родзе адзінкавых нумароў, дык зараз савецкі цырк так далёка пайшоў наперад, што кожнае выступленне савецкіх артыстаў за мяжой робіцца трыумфальным.

Яно і зразумела. У Савецкім Саюзе назаўсёды адмовіліся ад прыватнай, пазбаўленай методыкі, падрыхтоўкі артыстаў. У нас створаны спецыяльныя вучылішчы, дзе будучы артыст праходзіць усебаковую падрыхтоўку.

У апошняй праграме, якая была пастаўлена ў мінскім цырку, выступала нямала таленавітай моладзі. Выступленні асобных з іх варта адзначыць цёплым словам.

Гэта перш за ўсё адносіцца да групы акрабатаў-прыгуноў Фядосавых. Зусім нядаўна, калі кіраўнік групы Фядосаў захварэў, здавалася, цікавы нумар, які так добра прымаўся гледачамі, распадзецца. Але артысты, — а большасць з іх «зялёная» моладзь, якая нядаўна кончыла цыркавыя вучылішчы, — не разгубіліся. Адзін са старэйшых удзельнікаў Юры Сцяпанаў узначаліў групу. Прышлося нямала папрацаваць, каб стварыць новую праграму, захаваўшы старыя фядосаўскія традыцыі — незвычайную тэмпераментнасць, частую змену нумароў, якія чаргуюцца з калейдаскапічнай хуткасцю.

... На арэну выбягаюць восем загарэлых дужых артыстаў. Сальто, рознастайныя скачкі з пераваротамі ў самых рознастайных становішчах цела, прыгожыя акрабатычныя практыкаванні—усё гэта нагадвае феерверк спрытнасці, мужнасці і дасканаласці.

Цяжка сказаць, хто з васьмі найбольш таленавіты. Запамінаецца Барыс Пціцын, які робіць двайное сальта. Варта адзначыць Васіля Грыўцова і сёлетняга выпускніка маскоўскага цыркавога вучылішча Уладзіслава Бірукова. Удзел у групе Ніны Кусакінай—Фядосавай надае ўсяму нумару своеасаблівую прыгажосць і лёгкасць. Можа варта было-б падумаць, каб папоўніць групу за лік яшчэ адной жанчыны.

Для Юрыя Бірукова Мінск назаўсёды застанецца памятным горадам. Тут ён упершыню пачаў сваё жыццё цыркавога артыста. Пасля заканчэння дзесяцігодкі Юрыя Бірукова, як вельмі здольнага юнака, прынялі на трэці курс цыркавога вучылішча. Давялося многа папрацаваць, каб засвоіць шэраг спецыяльных дысцыплін, развіць свае здольнасці, падрыхтаваць дыпломную работу. Але вось усё засталося ззаду. На афішы, побач з імёнамі старэйшых майстроў цырка, новае імя жанглёра Юрыя Бірукова.



**Група акрабатаў-прыгуноў Фядосавых.**



**Юры Бірукоў — малады таленавіты жанглёр.**
Фото С. Чырэшкіна.

Мяркуючы па тым як праходзіць першае выступленне дэбютанта, няцяжка прадрачы яго будучыню. Безумоўна, перад намі малады, таленавіты юнак. Ён ужо зараз даволі лёгка жангліруе шасцю кольцамі, папарна чатырма палачкамі, паспяхова працуе з вазай. Апошні нумар наогул новы ў совецкім цырку. Ён вядомы быў толькі кітайскім артыстам. Выступленне Юрыя Бірукова вызначаецца артыстычнай лёгкасцю, спрытнасцю, хуткасцю і весялосцю. Але гэта толькі пачатак творчага шляху. Малады артыст дамагаецца таго, каб доўга і лёгка навучыцца жангліраваць васьмю кольцамі, двума вазамі, каб кожны рух быў дасканалы і прыгожы.

З моладзі ў новай праграме прыцягваюць увагу Марыца Якуцкая, якая выконвае акрабатычны эцюд, маладыя клоуны з групы Калядзіна. Але можна без памылкі сказаць, што ўся праграма вызначаецца сваім маладым задорам. І канатаходца Якуцкая, і акрабат з батудам Якаўлеў, і сатырыкі Андрэевы, і Шварцман, і Цішын, якія выконваюць арыгінальны нумар, — усе яны паказваюць высокі клас у сваім жанры.

Добрым гумарам вызначаецца клаунада. Дывановы клоун Яўген Бірукоў не часта з'яўляецца на арэне, але кожны яго выхад выклікае вясёлы, здаровы смех. Без знарокавай наігранасці, лішніх слоў Я. Бірукоў умела вядзе размову з гледачамі, трапнымі жартамі падтрымлівае весялосць жывасць усёй залы.

Як і заўсёды, высокую тэхніку дрэсіроўкі паказаў старэйшы дрэсіроўшчык краіны М. М. Зола.

**А. ПУШКАРСКІ.**

# Так яны жывуць

## Дружба караецца турмой

Перад судом горада Галахасі ў штаце Фларыда (на поўдні ЗША) на лаўцы падсудных — тры студэнты. Двое з іх—Джоні Херндан і Леанард Спід—навучаюцца ў Галахаскім універсітэце («для чорных»), а Джо Спагна — у Сент-Пітэрбергскім універсітэце таго-ж штата («Толькі для белых»). Неграў і белага чакае турэмнае зняволенне да 4 месяцаў ці штраф у 500 долараў (альбо тое і другое разам).

Можа, яны абрабавалі ці забілі каго-небудзь?

Не. Гэтыя трое сяброў проста рашылі разам правесці свой час і селі ў аўтобус. Але шафёру дадзена права «рассаджваць» пасажыраў, куды ён захоча.

На распараджэнне шафёра беламу і неграм сесці на пэўнай адлегласці, усе трое адказалі маўчаннем. Тады шафёр прыпыніў аўтобус і здаў студэнтаў паліцыі, якая іх і арыштавала.

Амерыканскія плантатары, патомкі рабаўладальнікаў, робяць усё, каб не даць белым і неграм аб'еднацца ў іх барацьбе за чалавечыя правы.

## За родную мову—смерць

Гэта адбылося вечарам у Н'ю-Йорку.

Каля дзвярэй бара на тратуары ляжаў чалавек, а некалькі галаварэзаў таптаді і білі яго ботамі. Галава і твар яго ператварыліся ў крывавае месіва. Ён быў мёртвы.

Крокаў за пяць нейкі малады чалавек, таксама ўвесь акрываўлены, адштурхнуў аднаго з бандытаў і кінуўся наўцёкі.

Палісмэн на рагу глядзеў у другі бок. Прахожыя пераходзілі на супрацьлеглы тратуар.

Што гэта? Звычайная п'яная бойка, якія можна нярэдка бачыць у гэтым горадзе? Хто гэты малады чалавек, якога, ужо мёртвага, б'юць бандыты?

Імя яго — Бернабе Нун'ес. А таго, што ўцякае, завуць Вільфрэдо. Яны браты. Па паходжанню пуэртарыканцы. Сёння ў іх быў шчаслівы дзень: Бернабе, які толькі што дэмабілізаваўся, раніцай знайшоў работу. Жонка з Каліфорніі паведаміла, што яна нарадзіла сына, а з маленькага гарадка ў Пуэрта-Рыка прыйшла вестка ад старэнькага бацькі: ён здароў і запрашае сына прыехаць у госці. Браты рашылі адзначыць усё гэта і зайшлі ў бар, каб выпіць па куфлю піва. Яны сядзелі за столікам і ціхенька размаўлялі — было аб чым. Гаварылі на іспанскай мове, бо гэта родная мова пуэртарыканцаў.

У другім канцы зала сядзела група маладых дзяцюкоў. Пачуўшы іспанскую мову, яны загадалі ім змоўкнуць. Браты пацішылі голас. Але гэта не дапамагло: п'яныя расісты накінуліся на іх, выгналі з бара і хацелі забіць абодвух. Забілі-ж толькі аднаго.

Гэта здарылася ў краіне, якая выхваляецца сваімі «дэмакратычнымі» свабодамі.

**Д. С.**

# Сяброўскія шаржы

Антось ВІДЭЛЬКА,
Міхась ДРОЦІК.

Малюнкі **В. ГРАМЫКІ.**





**Рыгор БАРАДУЛІН,**
**лаўрэат Усесаюзнага**
**фестывальнага конкурсу**

Пра цалінны край
Не першы
Напісаў Рыгорка вершы.
Ды ў дакор сваім сабратам
Першы стаў лаўрэатам.
Што-ж, вітаем, браце.
Ну,
Рэж і далей цаліну!

**Яўген ВАСІЛЁНАК**

Ці ў п'есе, ці ў аповесці
Старонкі разгарні:
Зялёныя,
чырвоныя
і жоўтыя агні.
Пісьменнік,
як чыгуначнік,
Саставы ўдаль вядзе.
Ад стукату,
ад грукату
аж галава гудзе.

**Мікола ГАМОЛКА**

Абмацаў ён зямлю як след:
«Не падыходзячая глеба!»
І вось празаікам паэт
Ляціць да «Цытадэлі неба».
Але вышынь
Не дасягнуў адразу:
У ракеце не хапае газу.





**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ**

Ён ля паходнага кастра
Пачаў тачыць лязо пяра.
А зараз дымны кабінет
Замкнуў увесь паэтаў свет.
Кастры... Далёкія агні...
Сцяпане, вокны расчыні!



**Еўдакія ЛОСЬ**

Гады маўчала—ні радка.
І раптам хлынула рака.
Вада ў рацэ—такой бяды.
Бяда, што ў вершах шмат вады.




**Ніл ГІЛЕВІЧ**
**Па матывах верша «На шашы»**

Шашой ішоў ён спакваля,
Тырчэў з кішэні зборнік вершаў.
Не аказалася рубля—
І аж да Гайны тупаў пешшу.
Шафёру, што не меў сумлення,
Зірнуў з дакорам ён услед:
«Сябры! Я знаю наша
пакаленне...»
У вершы выгукнуў паэт.




**Іван МЕЛЕЖ**

Сышоўшы з «Мінскага напрамку»
І новы беручы разгон,
Імпэтна ціснe кнопку ён
Каля драматургічнай брамкі:
«Адкрыйся прада мной, Сезам!
А не... дык адчыню я сам.»

# У ДЗЯРЖАЎНЫМ ВЫДАВЕЦТВЕ БССР

## па рэдакцыі мастацкай літаратуры

***выйшаў зборнік вершаў***

## Максіма Танка

# СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ

**(Тыраж 4000 экз. Цана 3 руб. 40 кап.)**

«След бліскавіцы» — так назваў сваю кнігу вершаў вядомы беларускі паэт Максім Танк. У зборніку сабраны лепшыя вершы, напісаныя паэтам за апошнія гады. Кніжка складаецца з двух раздзелаў: «Пчаліны звон» і «З далёкіх дарог». З першых-жа твораў перад чытачом паўстае лірычны герой паэта — звычайны савецкі чалавек.

Тэматыка вершаў Максіма Танка вельмі разнастайная. Чытача хвалююць і ўспаміны паэта аб героях вайны («Гэта было ў сорак першым»), і добрыя пажаданні будучым пакаленням, што паляцяць на далёкія планеты («Шчасліва ўдалячынь ляцець»), і заява ў горсовет ад імя птушак і дрэў і іх сяброў, каб вярнуць зноў хараство нашаму парку («Заява ў горсовет»), і расказ аб тым, як пасляшае ў калгас на адкрыццё калгаснага клуба кіномеханік Сымон («Кіномеханік Сымон»). Але самае лепшае ў зборніку — гэта інтымная лірыка. Разам з паэтам мы перажываем радасць сустрэчы, асалоду першага пацалунка («Яблынька»), горыч і смутак расстання («Хто кажа...»), захапленне прыгажосцю каханай («Нашто ты косы заплятаеш»). Чытачу таксама цяжка «ўратавацца ад Мар'іных вачэй, што гараць за сонца гарачэй». Вялікае і шчырае каханне праходзіць усе выпрабаванні і дапамагае лірычнаму герою жыць, працаваць, змагацца.

Паэтычна і ўсхвалявана апісаны ў зборніку розныя мясціны, дзе бываў паэт (вершы «Айгерым», «На Каўказе», «У Судэтах» і інш.).

Рад вершаў прысвечан тэме дружбы паміж народамі, барацьбе за мір. Каб народы свету не ведалі жудасных войн, трэба змагацца:

«Калі-ж мы кулакі апусцім —
Мільёны
жоўтых,
чорных,
белых, —
Спадуць апошнія кайданы,
Гром страсяне сусветам цэлым»

*(«Тост за дружбу»)*

У канцы 1956 года Максім Танк быў у падарожжы вакол Еўропы. Другі раздзел зборніка — «З далёкіх дарог» — расказвае аб уражаннях, пачуццях, роздумах паэта ў час падарожжа.

«І зноў я ў дарозе... Нібыта яшчэ раз
Я пераканацца хачу, як мне дораг
Пакінуты край, дзе зацепліўся верас
У засень наднарачанскага бору»

*(«Перад дарогай»)*

Уражанні паэта вылучаюцца свежасцю, арыгінальнасцю. Вершы чытаюцца з вялікай цікавасцю. Напісаныя яснай мовай, сваімі мастацкімі якасцямі яны працягваюць лепшыя традыцыі беларускай паэзіі.

**Зборнік вершаў Максіма Танка „СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ" можна набыць ва ўсіх магазінах Белкнігагандлю, спажывецкай кааперацыі і кіёсках Саюздруку або выпісаць праз аддзел „Кніга — поштай".**

**Заказы накіроўвайце па адрасу: Мінск, праспект імя Сталіна, 19, аддзел „Кніга — поштай" пры Цэнтральным кніжным магазіне.**

Упраўленне кніжнага гандлю
Міністэрства культуры БССР

Дзяржаўнае выдавецтва БССР
Мінск 1957

АТ 08903. Падпісана да друку 27.IX.1957 г.
Тыраж 20 000. Зак. № 683. Бясплатна.

Друкарня імя Сталіна. Мінск.

## ЗМЕСТ



**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!».**

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 02967 Здадзена ў набор 27.VIII.57 г. Падпісана да друку 28.IX.57 г Заказ 616.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 16 500 экз. Цана 4 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

